# УВОДЗІНЫ

Колькі ж гадоў я ўжо ня п’ю? Гэта значыць, не ўжываю аніякіх сьпіртаваных рэчываў? Ні гарэлкі, ні віна, ні піва. Ані «Тройного» адэкалѐну, ані ласьѐну «Огуречный», ані славутай настойкі глогу («боярышника») ад Брынцалава.

Ня п’ю, бо я – алкаголік[1]. Цікава, што гэтае прызнаньне я напісаў во толькі што, калі можна так сказаць, вельмі лѐгка – без эмоцыяў, лішняй сарамлівасьці, бяз жартаў і самабічаваньня. Толькі канстатацыя факту. Але, не зважаючы на гэтае прызнаньне, я абсалютна непітушчы чалавек.

У тыя ж часы актыўнага п’янства алкаголікам я сябе не лічыў. І сказаныя ў мой бок фразы накшталт «Эй ты, алкаш!», «Алкаголік ты!»…» і да т. п. адназначна прыраўноўваліся да абразы. Я шчыра лічыў, што сказаны яны незаслужана. Як лічаць, дарэчы, і цяпер сотні тысяч хворых на алкагалізм людзей, але яны працягваюць падымаць чарку атруты да тае хвіліны, пакуль яна ня стане заломлівай.

У тыя ж часы бестурботнага жыцьця, прасякнутага віном і півам, насычанага шматлікімі п’янымі прыгодамі, надзвычайнымі здарэньнямі – часта трагічнымі і страшнымі, мне ніколі не прыходзіла да галавы думка: «Можа ня трэба так жыць? Бо віной жа ўсіх маіх няшчасьцяў і неадменных хвароб заўжды, так ці інакш, быў ѐн, алкаголь».

Недзе напрыканцы мінулага тысячагодзьдзя, у другой палове 90-х гадоў, я нечакана злавіў сябе на думцы: маѐ жыцьцѐ нагадвае існаваньне чалавека на вайне. Выхад з чарговага запою – гэта як выхад жывым зь цяжкога бою.

І ранаў на маім целе было нямала. Яшчэ ў войску мне па п’янцы зламалі нос. Пакуль вучыўся ў асьпірантуры – зламалі сківіцу. Двойчы ў мяне былі пераломы ключыцы. Прытым ня помню: ці той самай, ці не. Аднаго разу на

[1] Клясычны правапіс патрабуе пісаць “алькаголік”. Але мае калегі-алкаголікі засьмяюць мяне, калі я так напішу.

добрым падпітку я пераблытаў пад’езды і трапіў не ў сваю кватэру, а ў іншую, разьмешчаную дакладна так, як і мая, але праз пад’езд. А ў той кватэры было вясельле, і хлопцы, таксама добра падпітыя, чамусьці не праявілі гасьціннасьці, моцна аддубасілі мяне. Адзін удар ботам прышоўся па голені левай нагі, і парваліся зьвязкі. Паўтара месяца прахадзіў з гіпсам. А разрыў зьвязак горш за пералом.

П’янага, мяне выкідвалі на поўным ходзе зь цягніка, аднаго разу я ледзь не ўтапіўся ў рацэ Сьвіслач – праламаўся тонкі веснавы лёд. А ў роднай Рэчыцы, пасьля сьвяткаваньня дня народзін сябра на Дняпры ў прыватным кацеры, я зваліўся з трапу і праляцеў у нейкім сантымэтры ад адзінотнага штыра, які амаль незаўважна тырчэў з вады.

У мяне часта надараліся гэтак званыя «фінгалы» – пад адным вокам і пад двума; былі папераломваныя рэбры і палец правае рукі; быў нават вывіх вялікага пальца нагі...

Усе гэтыя беды маюць адзіную запраўдную прычыну – п’янства.

Вайна ёсьць вайна. У бойцы з «зялёным зьмеем» паляглі шмат якія мае сябры й знаёмыя, і пра некаторых зь іх я буду гаварыць у гэтай кнізе. Адны памерлі ад хвароб: ад спыненьня сэрца, ад інфарктаў, ад цырозу й раку печані, ад астмы й раку страўніка... Іншых Госпад забраў да сабе празь няшчасныя выпадкі: трапіў пад машыну, аўтобус, цягнік; утапіўся, згарэў у пажары, зарэзалі ў п’янай бойцы, упаў галовой аб асфальт, папхнуў сын і даўся галавой аб радыятар і г. д. і г. д.

Вялікая Айчынная вайна доўжылася чатыры гады. А змаганьне з алкаголем у мірны час шмат для каго цягнецца куды даўжэй. Асабіста я «ваяваў» гадкоў так з трыццаць. Яшчэ ў часы піцьця да мяне прыйшла неяк пранізьлівая думка: «Я кожны дзень хаджу па лязе брытвы». І, заўважце, раблю гэта дабравольна! Нездарма ж кажуць, што п’янства – дабравольнае самагубства.

Чаму ж людзі п’юць? Чаму піў я? «Смага запраўднага алкаголіка – гэта эквівалент духоўнай смагі», – піша У. Шынкароў. І яшчэ пацьверджаньне

гэтага тэзісу зь іншага боку – у акафісьце славутай іконе Божай маці «Неўпіваная чаша», што памагае ад п’янства, кожны ікас мае такія радкі: «Радуяся, Владычице Неупиваемая Чаша, духовную жажду нашу утоляющая…» Тут духоўная нястача наталяецца дзякуючы нябѐснай заступніцы Найсьвяцейшай Багародзіцы.

Значыць, п'янства – гэта шуканьне духоўнасьці, шуканьне іншага духоўнага стану, бо існы не здавальняе нас. Цяга да алкаголю ня мае нічога супольнага, скажам, з фізычным адчуваньнем голаду. Затое працэс прыняцьця «дозы» – фізычны паводле свае прыроды – прыводзіць да вялікіх духоўных зьменаў, да зьмяненьня стану сьведамасьці. Чаму людзі імкнуцца да тых зьменаў? Чаму шмат якія вялікія людзі мелі вялікую схільнасьць да п’янства? Ёсьць безьліч прыкладаў, як горка пілі найлепшыя зь людзей – таленавітыя паэты, геніяльныя мастакі, віртуозныя выканаўцы. Кожны выпівоха вам дасьць вычарапальнае абгрунтаваньне свайго п’янства, спасылаючыся на далѐка не цьвярозае жыцьцѐ Сяргея Ясеніна, Аляксандра Блока, Эдгара По, Джэка Лондана, Скота Фітцджэральда і шмат, шмат якіх іншых знакамітых людзей. А аўтарытэт – вялікая сіла. Значыцца, і мне можна...

У асяродзьдзі літаратараў, у прыватнасьці студэнтаў літаратурнага інстытуту, што ў Маскве, ужываньне алкаголю заўсѐды насіла масавы характар і ўплывала на людзей нават бяз жаднае схільнасьці да алкаголю. Сьмяротнасьць у гэтым асяродзьдзі сягала страшных лічбаў і натуральна задаць пытаньне: «Чаму тыя таленавітыя літаратары зышлі з дыстанцыі, так і не пасьпеўшы напісаць нечага значнага?» Так, яны загінулі ад алкаголю. Але й грош цана такому таленту, які так і застаўся нераскрытым дзеля гібельнай жарсьці.

Гэты прыклад датычыць, скажам так, выбраных людзей. А што ж мы маем сярод іншых слаѐў насельніцтва? Вось афіцыйная лічба што да ўжываньня алкагольных напояў у Беларусі: аб’ѐм чыстага алкаголю перасягнуў трынаццаць літраў на душу насельніцтва. А вось лічба, прынятая на міжнародным роўні: пры ужываньні насельніцтвам краіны чыстага алкаголю больш за восем літраў на душу насельніцтва ідзе працэс дэградацыі нацыі.

Азначаную сытуацыю можна схарактарызаваць адным словам – жах! Трэба біць ува ўсе званы. Трэба ратаваць народ! А што мы бачым у запраўднасьці? Бачым адкрытае ці невідочнае падтрыманьне антычалавечай праграмы спойваньня людзей. Найбольшы грэх узяла на сябе тэлевізія. Там ідзе масавая рэкляма ўсялякіх гатункаў піва – найпершага сябра алкаголіка. У выніку – пачынаюць піць піва школьнікі, зусім яшчэ дзеці. Дзяўчынкі сѐмага – восьмага клясаў бавяць час не з марозівам, а з здаравеннымі паўтаралітровымі бутэлькамі шасьціградуснага піва. Вось адна з цэнтральных перадач на БТ: ток-шоў «Выбар», абмяркоўваецца праблема п’янства й алкагалізму. Сьвятары й лекары прапануюць зьвярнуць увагу на алкагалізм як на невылечную хваробу і спрабуюць высьветліць, як дапамагаць такім людзям. Але іх цынічна перабівае дэпутат ПП, цяпер яшчэ й старшыня тэлерадыѐкампаніі РБ Г. Давыдзька: «Ніякай праблемы няма, трэба піць культурна, што, прыкладам, раблю я. Піць гэта добра». Бурныя аплядысмэнты, шоў закрываецца.

Я даўно задумаў напісаць кнігу пра алкаголь. Пра плюсы і пра мінусы. Пра той час, як добра пілося і як не хацелася жыць ад безвыходнасьці запояў. І пра тое, як жыць цьвяроза. У мяне ж гэта выйшла! І тут мне лучыла кніга пад трапнай назвай «Сіняя кніга алкаголіка». Гэта была анталѐгія, зборнік твораў розных аўтараў на тэму алкаголю, пра тое, што й мяне даўно хвалявала. Цікава, што людзі, пра якіх пісалі аўтары, жылі ў Піцеры, Растове, Маскве, але як падобнае іх жыцьцѐ да жыцьця нашых, менскіх п’янтосаў і як блізка іх багема да менскай багемы. І я назваў сваю будучую кнігу: «Сіняя кніга беларускага алкаголіка».

Прыметнік «сіняя» ў мяне мае два галоўныя абгрунтаваньні. Першае сягае часоў даўных – сярэдзіны 70-х. У Інстытуце фізыкі ў той час з’ імной працаваў адзін асьпірант. Ён любіў выпіць, што мы й рабілі часам супольна. Пазьней гэты асьпірант кінуў тэарэтычную фізыку, паступіў у Тэатар-студыю пры МХАТ і стаў артыстам. Дык вось, ѐн мне аднаго разу расказаў замалѐўку з жыцьця народу, дзе была фраза: «Усе людзі п’юць як коні, а бацька ад водкі па-

сі-неў!» Было вельмі сьмешна, анэкдот забыўся, а фраза засталася, бо пітушчыя людзі ад гарэлкі запраўды часта дапіваюцца да таго, што робяцца сінімі.

Другое абгрунтаваньне прыйшло праз рух Ананімных Алкаголікаў. Галоўная кніга, сваеасаблівая Біблія АА называецца «Вялікая кніга», альбо «Сіняя кніга» (ад колеру першага амэрыканскага выданьня). Лягічна было зрабіць і першую беларускую кнігу пра алкаголь таксама сіняй.

Усе дзейныя асобы першае часткі кнігі – гэта ведамыя й малаведамыя беларускія літаратары, мастакі, музыкі й тэхнічная інтэлігенцыя, тыя, што складалі кола майго таварышаваньня, уваходзілі ў «мой карас». Апісаныя падзеі рэальна адбываліся і, хай даруе мне Бог, калі я ў нечым памыліўся, рэстаўруючы тыя незабыўныя хвіліны нашых сустрэч. Але мне здаецца, што, калі б яны жылі, то даравалі б мне тыя суб’ектыўныя моманты майго бачаньня на карысьць Вышэйшага Сэнсу, які, думаю, мусіць быць. Часам мне здаецца, што яны, мае далѐкія сябры, недзе побач і нават падштурхоўваюць мяне да напісаньня асобных радкоў.

Вось жа, што выйшла з маѐй «сіняй кнігі» цяпер судзіць чытачу.

Кніга цалкам дакумэнтальная, усе падзеі адбываліся ў апошняй чвэрці XX ст., а таксама першым дзесяцігодзьдзі XXI-га. Амаль усе дзейныя асобы даюцца пад сваімі рэальнымі прозьвішчамі, апрача паасобных людзей, якія пажадалі захаваць ананімнасьць.

## ЧАСТКА I. IN VINO VERITAS.
## ПРЭЛЮДЫЯ ДА ПАДАРОЖЖА Ў СЯМІДЗЯСАТЫЯ

«…и пьяницы с глазами кроликов
In vino veritas – кричат»
*Александр Блок*

«Так наливай студент студентке,
Студентки тоже пьют вино»
(*З студэнцкай песьні)*

Рымляне казалі: in vino veritas – праўда ў віне. Але за мінулыя два тысячагодзьдзі стаўленьне да крылатае лацінскае фразы істотна памянялася. Сярод сучасных праблем ці не галоўнай стала праблема праблем XX ст.: «Піць ці ня піць?» У краінах постсавецкага абшару гэтая фраза была ня проста цытатай з славутага суб’ектыўнага ідэалістага Дж. Бэрклі і не перафразай шэксьпіраўскага «быць ці ня быць», а шчырай заменай апошняй, бо «быць» для шмат каго значыць «ня піць», а «піць» стала сынонімам дабравольнага самагубства.

Так што выбар пачатку XXI ст. вельмі сур’ёзны: ці я – за часовыя радасьці гарэлкавага раю і запраўды «in vino veritas», ці ўсё ж мой выбар – цьвярозае жыцьцё?

Гэтыя пытаньні стаялі і ў часы майго юнацтва – у 70-я гады XX ст., і ў 80-я, і пазьней… Мала таго, яны ня зьніклі і ў пэрыяд дзікай прыватызацыі 90-х, стаялі твар у твар перад беларускімі дэмакратамі і нацыяналістамі ў першы пэрыяд пабудовы маладой Рэспублікі Беларусь. Стаялі перад камуністамі Чыкіна і Калякіна…

Яны ўсё больш трывожаць беларускае грамадзтва першай дэкады XXI ст..

Але адказу няма і няма…

**Улан**

У 1978 г. на экранах у Менску зьявіўся фільм зь нічым не прыкметным назовам «Улан». Дый назва кінастудыі – «Кіргізфільм», якая стварала гэтую стужку, не выклікала вялікага энтузіязму, каб на злом галавы кінуцца на прагляд фільма. Трэба сказаць, што ў тыя выдатныя, поўныя рамантыкі гады савецкага застою, культура кіно займала далѐка не апошняе месца ў жыцьці грамадзтва. Кожны новы фільм, а такіх стваралася нямала на кожнай з кінастудый вялізнай краіны пад назвай СССР, абмяркоўваўся на сямейных вячэрах, у студэнцкіх інтэрнатах і на танцпляцоўках, у курылцы любога прадпрыемства ці завода. Гэта менавіта ў тыя часы таннага партвэйну за 1 руб. 37 кап. і яшчэ больш таннага пламбіру за 20 кап. я пазнаѐміўся з выдатнымі шэдэўрамі Арсеня Таркоўскага «Андрэй Рублѐў», «Люстэрка», «Салярыс», «Сталкер». Апошні, дарэчы, гаворачы сучаснай мовай, стаў нават фільмам культавым і вытрымаў – у мяне, прынамсі – не адзін прагляд. Траплялiся й замежныя, такія, як «8 з ½» Феліні альбо славуты – «Мужчына і жанчына».




фільма.

Усім савецкім людзям тае эпохі добра было ведама, што найлепшыя кінастудыі – «Масфільм» і «Ленфільм», а вось «Адэская кінастудыя» і пагатоў «Кіргізфільм» – не каціраваліся. Таму на вытворчасьць апошніх зьвярталі мала ўвагі. Ня трапіў і я на «Ўлана». Але ці то нейкія рэклямна-інфармацыйныя зьвесткі пра гэтую карціну пратачыліся, ці нехта расказаў пра запатрабаваны савецкай рэчаіснасьцю алкагольны зьмест карціны, але ў адзін цудоўны ліпеньскі дзень мэтай майго падарожжа ў раѐн бульвару Шаўчэнкі, стала наведваньне кінатэатру «Кіеў», дзе «круцілі» стужку пад назвай «Улан». «Чаму на пэрыфэрыю?» – запытаеце вы. Бо ў цэнтры «Ўлан» ужо зь месяц як прайшоў, і далейшы шлях кінастужкі звычайна перамяшчаўся на гарадзкія мікрараѐны.

На 1979 г. праблема надмернага ўжываньня сьпіртавых напояў, ці проста п’янства, стала займаць мяне надта востра. Хоць да запраўднага разуменьня ўсёй згубнасьці алкаголю было яшчэ далёка. У бестурботнай, савецка-кэдэбісцкай атмасфэры тых гадоў таксама пранізьліва стаяла пытаньне аб «спосабах і мерах пераадоленьня п’янства і алкагалізму». Ствараліся антыалкагольныя кінафільмы, пісаліся антыалкагольныя артыкулы і кнігі. На ўсю моц працавалі ЛПП (лекава-працоўныя прафілякторыі).

…Каля кінатэатру я нечакана сустрэў Анціпава. Ён таксама прышоў паглядзець гэты фільм. Анціпаў – мастак і, як большасьць мастакоў, быў «мастаком» і выпіць. Пачыналі «глынаць» мы недзе ў тыя самыя гады, так што стаж быў дастатковы, каб задумацца…

«Улан» на нас абодвух паўплываў так моцна, што мы нават «не абмылі» сустрэчы і самотна разышліся па сваіх справах.

Уся горкая праўда была ў тым, што гэты фільм быў пра нас – людзей, жыцьцё якіх так ці йнакш засяроджваецца вакол адной праблемы – алкагольнай. Мне было ўжо трохі за трыццаць, студэнцкія гады засталіся ў прыгожых успамінах, першае каханьне перадало эстафэту будням жанатага чалавека, а рамантыка навукі была прынесена ў ахвяру вытворчым справаздачам.

У эпахальным кіно «Ўлан» «п'янствавалі водку» ў далёкай Кіргізіі, але надзіва знаёмым спосабам і нават, больш таго, – з такімі самымі вынікамі, як у нас – у выглядзе цяжкага ранішняга абсцынэнтнага сындрому, трэмару ў пальцах і паходу «на кавёр» да начальства на працы. Усё там было, як у людзей…

Думаю, трэба патлумачыць само слова «улан». Першае: «улан» – гэта нейкі асаблівы, моцны вецер у стэпах Кіргізіі. Другое: Уланам назваў галоўны герой фільму свайго першага нямаўлятку-хлопчыка, дагэтуль у яго нараджаліся толькі дзяўчынкі. І, нарэшце, трэцяе: «Улан» – зборная назва цэнтру жыцьця маленькага гораду, альбо раёну вялікага, гэта назва адметнага тыпу кавярняў, якія абавязкова былі ў кожным горадзе неабсяжнай краіны СССР і мелі свае

местачковыя назвы – «Сіненькі», «Голубой Дунай», «На ступенях», «Тэлевізар», «Пад парусамі», «Парус», «Мутнае вока», «Рыгалаўка», «Помойка»… Апошняя назва дагэтуль устойліва трымаецца за адной з кавярняў у самым цэнтры гораду Менску.

Вось тады мне і прыйшла думка зрабіць нешта накшталт «ідэалягічнай пляцформы» пад наша, нічым не апраўданае, незразумелае і часам бяссэнсавае п'янства.

І я напісаў трактат «Уводзіны ва ўланалогію».

Як навуковец-фізык я прытарнаваў да выкладаньня тэорыі ўланізму навуковы падыход і пабудаваў яго «аксіяматычным парадкам». Вось тэкст 1979 г. Ён застаўся няскончаным, але асноўныя ідэі могуць быць узятыя як кіроўныя ўсякім алкаголікам.

**Уводзіны ва ўланалогію**

*Што такое ўланізм і шляхі яго зразуменьня*

*In vino veritas!*

***Пралог***




Гісторыя ўланізму налічвае ўжо некалькі тысячагодзьдзяў, аднак як якасна новая зьява ѐн быў сфармуляваны толькі ў XX стагодзьдзі. Зьдзіўляе поўная адсутнасьць навуковага падыходу да гэтай зусім не адзінкавай зьявы ў грамадзкім жыцьці чалавецтва ўсѐй Зямлі. Уланізм – зьява масавая, і, такім чынам, як кожная зьява задавальняе ўсім патрабаваньням

прыродных зьяў: неадзінкавасьць, паўтаральнасьць, прадказальнасьць і т.д. – несумнеўна падлягае вывучэньню. Першым парасткам, стымулам для стварэньня навукі аб уланізме быў фільм «Улан» (1978 г. стварэньня). У гэтым фільме, можа быць падсьвядома, аўтары зірнулі на праблему прыхільнасьці да сьпіртавых напояў, а канкрэтней – да хімічнага злучэньня $C_2H_5OH$ з адметнага ад агульнапрынятага пункту погляду, калі можна так сказаць – ва ўпор. І вось, нарэшце, зьявілася гэтая пісьмовая праца, якая, магчыма, пакладзе пачатак новай навуцы – *уланалогіі*.

***Азначэньні***

Дык што ж такое – уланізм? Зыходзячы з эпіграфа, вы ўжо можаце выказаць здагадку, што Ўлан – чалавек, які лічыць, што «ісьціна ў віне». Так, гэта праўда. Але калі вы паспрабуеце ўтоесьніць уланізм з алкагалізмам, вы памыліцеся. Алкагалізм – гэта хвароба. Уланізм – гэта зьява. Улан можа стаць алкаголікам, гэта дакладна, але, як гавораць фізыкі, гэта толькі лімітавая прыватнасьць, некаторы лімітавы пераход.

Дык якія ж прыкметы вылучаюць Улана з мноства звычайных людзей?

Па-першае, Улан павінен мець вышэйшую адукацыю. Выключэньне складаюць людзі, якія спрабавалі скончыць ВНУ, маюць пэўныя здольнасьці да навук, асабліва да ўланізму.

Па-другое, Улан любіць выпіць.

Па-трэцяе, Улан жыцьцярадасны. Ён са сьмехам распавядае, як яго выперлі з працы альбо як ѐн садзіўся на белага каня.

Па-чацвѐртае, У Улана бываюць і змрочныя пэрыяды, асабліва з раніцы – так званы абсцынентны сындром, або сындром пахмельля.

Па-пятае, Улан таленавіты і вынаходлівы. Ён павінен валодаць, як гаварыў адзін з найбуйнейшых філѐзафаў сучаснасьці Вячаслаў Іванавіч Петрушкевіч[1], «сілай удару і жарснасьцю таленту».

[1] Пра найвялікшага філѐзафа сучаснасьці В.І. Петрушкевіча (у менскіх элітных колах проста – Філѐзафа) гл. ніжэй у разьдзеле «Тэлевізар» і «Бэрмудзкі трохкутнік».

### *Дванаццаць запаведзяў Улана.*

1. Не забівай.
2. Не крадзі.
3. Выпі.
4. З раніцы ня выпіў – лічы, што дзень прапаў.
5. З раніцы выпіў – дзень вольны.
6. Трэба піць шмат, але часта.
7. Неасьцярожнае пахмельле можа прывесьці да моцнага запою.
8. Са штопара выходзь павольна – можаш сесьці на каня.
9. Уступіўшы на шлях уланізму, ніколі не шкадуй аб страчанай жонцы і працы.
10. Наладжваючы сямейныя скандалы, імкніся біць ня жонку, а посуд.
11. Ніколі не гавары, што завязаў назаўжды.
12. Ваўка ногі кормяць, а грыфа крылы.

Да асноўных законаў (запаведзяў) уланізму прымыкае мноства дадатковых правіл і жыцьцѐвых ісцін, прыкладам, такія:

- Піўка для рыўка.
- Пі піва пеннае, будзе морда здаравенная…
- Півам душу не падманеш.
- Сѐньня рыбны дзень, хвасты абсякаюцца.
- Калі п'янка мяшае працы, то кінь яе. (Каго кінуць – працу альбо п'янку – кожны  чалавек вырашае для сябе ў індывідуальным парадку).
- Каханьне прыходзіць і сыходзіць, а выпіць хочацца заўжды…

Некаторыя са сфармуляваных законаў зьдзіўляюць сваѐй амаль матэматычнай дакладнасьцю. Прыкладам, пяты: «З раніцы выпіў – дзень вольны», – непарушны, як пастулат Эўкліда аб паралельных прамых.

А вось адмысловая мова, зразумелая толькі жыхарам гэтай асаблівай краіны пітушчых людзей, дзе на чале кута – алкаголь і ўсѐ зьвязанае зь ім:

- Ну што, чарнілку возьмем?
- Я чарніла ня п'ю, толькі гарэлку.
- Сьпірт трэба разводзіць 50 на 50.
- «Нітхінол» значна лепш за «Бло»[1].
- Дэнатурат – той жа сьпірт, толькі аддае пратэктарам…
- Я дэнатурат ня п'ю.
- Пасьля чорнага "Вермута" ў прыбіральню за мной лепш не заходзіць…
- Маладзіца, у Вас "Вермут" ѐсьць? – Ёсьць. - У-а-у-а (яго ванітуе).
- «Сонцадар»[2] – 20 градусаў і кошт ўсяго 1 руб. 42 кап., але ад яго шмат хлопцаў палегла.
- «Дыхлафос» – добрая рэч, на куфаль піва тры пшыкі – і ты гатовы[3].
- Я клей БФ піў у нас на заводзе. Трэба ў бочцы з клеем памешваць зьмесьціва палкай датуль, пакуль на яе не наматаецца ўся хімія, а сьпірт застаецца ў вадкім выглядзе. Яго трэба працадзіць – і пі!
- Самы добры напой – настойка «Півоні», павее смачна, цукеркамі, вып'еш і закусваць ня трэба.
- Калі ты не спрабаваў настойку «Струковага перцу», то ты жыцьця ня ведаеш!
- – Дайце мне, калі ласка, пяць флакуш «Аралії»[4]… Чаму так шмат? Дык лекар прапісаў, у мяне паніжаны жыцьцѐвы тонус, а аралія з сямейства жэньшэневых.
- – «Трайніка» выпілі? Ласьѐн «Сьвежасьць» значна лепш за любы адэкалѐн – 60 кап. усяго варта. Ласьѐн «Агурочны»? Таксама добрая рэч…

І гэтак далей…

* * *

[1] «Нітхінол» і «Бло» – назвы шклоачышчальнікаў, якія ўжываліся ўнутр самымі «сапраўднымі» п'яніцамі ў 80-я гады. Прадавалі ў гаспадарчых магазынах у шкляных ѐмістасьцях невялікага об'ѐму (200-300 г.)

[2] Віно, якое было непрацяглы час у продажы ў 70-я гады. Зьнятае з вытворчасьці з-за нізкае якасьці.

[3] Гэты рэцэпт практыкаваўся ў гады гарбачоўскага «паўсухога» закону (1986 – 1989 гг.)

[4] «Півоня», «Стручковы перац» «Аралія», а таксама «Глог» («Баярышнік»), «Календула» – настоі на сьпірце розных траў і іншых расьлін. Прадаваліся ў аптэках, каштавалі вельмі танна – у раѐне 20 кап. (25-30 млтр.) ці трохі больш – спачатку выдаваліся без рэцэпту, але ў цяжкія гады гарбачоўскай барацьбы з п'янствам прадаўцы сталі патрабаваць рэцэпт.

Пералік ідыяматычных выразаў і іншых выказваньняў такога кшталту можна працягваць бясконца. Больш за тое, кожны грамадзянін, што меў шчасьце нарадзіцца яшчэ да развалу Савецкага Саюзу, скончыць нейкую вышэйшую навучальную ўстанову і ўступіць на шлях уланізму – можа працягнуць гэты сьпіс і прыгадаць свае аналягічныя выказваньні й «крылатыя» выразы. Аднак для звычайных грамадзян, для тых, хто яшчэ не ўступіў на шлях алкагольнай залежнасьці і не пачаў жыць паводле жорсткай схемы, пабудаванай на падпарадкаваньні свайго жыцьця аднаму гаспадару – Алкаголю, для іх гэтыя выказваньні, як і апісваныя ніжэй выпадкі з жыцьця, будуць пустым гукам, яны ня здолеюць у прынцыпе зразумець усіх нюансаў і якасьці тых незабыўных хвілін і няпростага жыцьця савецкіх п’яніц апошняй чвэрці XX стагодзьдзя.

Таму гэтыя радкі напісаныя перадусім для жыхароў той няведамай краіны, што існавала побач з жыцьцѐм, напоўненым сацыялістычнымі спаборніцтвамі, чэргамі па сталічную кілбасу і разьездамі ад прадпрыемства альбо інстытуту на «рубку веток» ці на капаньне бульбы.

Я засяроджуся ніжэй на ўспамінах пра тыя падзеі, што адбываліся ў пэўныя часы ў пэўных месцах гораду Менску, – там, дзе мне даводзілася бываць і дзе праходзіла немалая частка майго жыцьця, жыцьця тых людзей, пра якіх я вяду свой аповед.

# МЕСЦЫ І ЛЮДЗІ

## МЕСЦЫ

За савецкім часам выпіць у Менску можна было далѐка не заўсѐды і не ўсюды, дзе хочаш. Канечне, у адрозьненьне ад цяперашняй эпохі «сацыялістычнага капіталізму», калі выпіваюць на кожным рагу і нікому да вас справы няма – у 70-х – 80-х гадах мінулага стагодзьдзя гэты працэс старанна рэгуляваўся савецкай міліцыяй і ня менш актыўна дапаўняўся жорсткай судовай сыстэмай, праз якую ў ЛПП разам з адпетымі п’янюгамі адпраўлялі шмат якіх добрых і таленавітых людзей.

Але, тым ня менш, Савецкі Саюз меў разгалінаваную сыстэму спойваньня людзей у выглядзе шматлікіх піўніцаў, закусвальняў, шашлычняў, а яшчэ «рюмочных», проста ларкоў ды шапікаў. Кожны горад, места і нават вѐска мелі сваѐ месца для пітушчых грамадзян.

Менск – горад майго юнацтва і сталасьці, горад, у якім я жыву ўжо больш за сорак гадоў. Тут я па-запраўднаму навучыўся піць піва, віно і гарэлку. А таксама ласьѐн «Огуречный», «Свежесть», адэкалон «Тройной», настойку глогу, араліі, наготкаў, півоні…

Зь дзяцінства, маючы цягу да памеркаваньня з новымі людзьмі, натуральную схільнасьць да вывучэньня новага, да пазнаньня законаў прыроды і грамадзтва – я, зразумела, а можа й не зусім зразумела чаму, як мага рэалізоўваў гэтыя свае якасьці ў вандроўках па шматлікіх хлебных («злачных») мясьцінах гораду-героя Менску, а таксама па тых гарадох, куды мяне закідваў лѐс.

### Пра менскія і ня менскія піўныя

Іншым разам я ўспамінаю аднаго з герояў кнігі Джэрома К. Джэрома «Трое ў чайцы ня лічачы сабакі» – Гарыса, які мог бы стаць ведамым чалавекам даволі адметным спосабам. Я прытачу ўрывак з гэтага твора, які вельмі важны для разуменьня маіх успамінаў.

*Я часто спрашиваю себя: если, допустим, Гаррис начнет новую жизнь, станет достойным и знаменитым человеком, попадет в премьер-министры и умрет, прибьют ли на трактирах, которые он почтил своим посещением, доски с надписью: "В этом доме Гаррис выпил стакан пива"; "Здесь Гаррис выпил две рюмки холодного шотландского летом 88 года"; "Отсюда Гарриса вытолкали в декабре 1886 года"?*

*Нет, таких досок было бы слишком много. Прославились бы скорее те трактиры, в которые Гаррис ни разу не заходил. "Единственный кабачок в южной части Лондона, где Гаррис не выпил ни одной рюмки". Публика валом валила бы в это заведение, чтобы посмотреть, что в нем такого особенного.*

Я мог бы паспрачацца з Гарысам наконт колькасьці наведаных піўніцаў і іншых піцьцѐвых устаноў. Дзе я толькі ні пабываў у Менску ў тыя застойныя брэжнеўскія часы! Апынуўшыся ў малазнаѐмым раѐне гораду, я неабмыльна знаходзіў сьцежку да піўнога бару, альбо «чарачні», я ведаў нюансы нутранага жыцьця шмат якіх піўніцаў, імѐны і прозьвішчы іх сталых кліентаў, забулдыг і прадаўніц. Я прастойваў гадзінамі ў гэтым таямніча-заманлівым сьвеце куфляў, шклянак, рыбіных хвастоў і цыгарэтнага дыму.

Мне падабаўся Аляксандар Блок, асабліва такія радкі:

*Я пригвождѐн к трактирной стойке,*
*Я пьян давно, мне всѐ равно –*

*Вон счастие мое на тройке*
*В сребристый дым унесено.*

Мяне цешыла тое, што Блок, як і я, бадзяўся па барах, якія тады прыгожа называліся «тракцірамі», альбо корчмамі. Пасля некаторай дозы піва на мяне находзіў лірычны настрой, і я пачынаў думаць і ўсім казаць, што маѐ шчасьце таксама ў «сребристый дым унесено».

Я не застаў карчмы часоў Блока, але пра піўніцы застойнага пэрыяду, які тады прыгожа зваўся эпоха «развитого социализма», магу расказаць нямала.




*У савецкія часы ў Менску, фактычна, быў толькі адзін гатунак піва – «Жыгулѐўскае»*

Піўніцы савецкага часу – гэта асаблівы артыкул, больш за тое, – статус савецкага жыцьця. З грунту, яны ўтваралі вельмі цікавую, паўнакроўную і цалкам адметную сфэру жыцьця савецкага чалавека. Не для кожнага, але для шмат якіх пасьвячоных у своеасаблівую рамантыку нутранага жыцьця піўнога бару, буфэту, сталоўкі ці проста піўнога ларка, а іншым разам і піўной бочкі, – для іх гэтае месца станавілася цэнтрам жыцьця – і ня толькі іх асабістага, яно пераўтваралася ў родны дом для сталых наведнікаў, якія з дня ў дзень цягнуліся з сваіх кватэр да свайго другога «дому», каб з зьнібеньнем сэрца зноў і зноў

назіраць за струменьчыкам жоўценькай вадкасьці, што сьцякае з краніка піўной бочкі, а пазьней, – ѐмкасьці альбо бойлера.

Ведама, першае заданьне піўніцаў 70-х – 80-х гадоў – гэта апахмел савецкага грамадзяніна. Гэтае заданьне разьвязвалася праз ранішнюю запраўку бочак, ѐмкасьцяў і бойлераў. «Ідзеце ў «Ясень», там ужо заправілі», – кідалі вам знаѐмыя мінакі, і ўсѐ было ясна. Такая кодавая фраза задавала праграму дзеяньня для сталых бывальцаў «Бэрмудзкага трохкутніка», але была кітайскай граматай, скажам, для балерыны опэрнага тэатру, якая таксама праходзіла ў гэты ранішні час паўз кінатэатар «Победа». Іншай крыніцай апахмелу – звычайна



пасьля першага куфля піва – быў найбліжэйшы ад піўніцы гастраном, яе «альма матэр», дзе можна было набыць пляшку віна і тут жа за стойкай ці за сталом «прыняць на грудзі» шклянку вэрмуту. А працэс «прыняцьця» быў далѐка ня просты і не бяскрыўдны, бо праходзіў ува ўмовах «ваенных» – трэба было зрабіць усѐ так незаўважна, каб не патрапіць у лапы міліцыянтаў, якія безупынна прачэсвалі вуліцы, падваротні і, зразумела, піўныя бары.

Аднак у тых жа піўніцах разьвязваліся самыя розныя справы – ад таго, дзе ўзяць грошай на чарговую пляшку віна, да зьмеркаваньня сур'ѐзных працоўных пытаньняў ці навуковых праблем. У піўніцах можна было пазнаѐміцца з самымі рознымі людзьмі, там утвараліся нават цэлыя кампаніі з зусім не знаѐмых паміж сабой грамадзян, і ня толькі тутэйшых, зь Беларусі, але й іншых краѐў.

Піўніцы Менску 70 – 90-х гадоў XX ст. – гэта неадымны элемэнт архітэктуры Менску, ягоных старых і новых забудоў, цэнтар культурнага і ня вельмі культурнага жыцьця, гэта ягоны твар. Прынамсі, гэта маѐ жыцьцѐ.

Пасьля адкрыцця чароўнай краіны Алкаголія і ўступленьня на пэўную стадыю алкаголевай залежнасьці, раніца вельмі часта пачыналася з наведваньня піўнога бару, піўнога ларка, проста піўніцы альбо яшчэ прасьцей і архаічней – буфэту, дзе ѐсьць піва…

Пачынаў я свой шлях у жыцьцѐ пасьля сканчэньня БДУ напачатку 70-х гадоў і, мабыць, з гэтых гадоў пачалося вывучэньне геаграфіі г. Менску паводле ягоных піўніцаў.

Піва і сам працэс піцьця яго цудоўна апеты паэтам Яўгенам Яўтушэнкам у славутай паэме «Паўночная надбаўка». Тут гучаць няўлоўныя – для цяперашніх дылетантаў піўной рамантыкі – адцэньні савецкіх часоў, асаблівасьці «савецкага піва…»:

*«Беру себе кружечку, братцы,*
*и – гадом я буду – оно!»*
*«Холодное?» –*
*глубокомысленно*
*вопрос, как сухой наждачок".*
*«Холеное...»*
*«А не прокислое?»*
*«Ни боже мой – свежачок!»*
*«А очередь!»*
*«Никакошенькой!»,*
*и вдруг пробасил борода,*
*рассказчика враз укокошивший:*
*«Какое же пиво тогда!*
*Без очереди трудящихся*
*какой же у пива вкус!*
*А вот постоишь три часика*
*и столько мотаешь на ус...*

(Е. Евтушенко. Северная надбавка)

Вось пералік найпапулярнейшых піўніцаў Менску 70–80-х.

1. ПНУ. Комплекс «Фабрыка-кухня».

   Тут я некалі частаваў таранкай запраўднага генэрала.

2. «Прохлада». Вуліца Няміга. Улюбѐнае месца паэта Віктара Стрыжака і будучага рэжысэра праваслаўнага тэатру «Віфліемская зорка» Я. Глебава.

3. Піўны бар «Пад Пабедай». Тут Бурдынаў прайшоў «праз шкло». (Пасьля высьвятленьня адносінаў вываліўся праз шкляную сьценку бара).

4. Піўны бар «Ясень». Піўніца на плошчы Свабоды. Улюбѐнае месца мастака Антона Кавальчука.

5. «Пянькі». Піўны бар на вуліцы Валгаградзкай. Любімае месца празаіка Міколы Капыловіча.

6. Піўніца на Карла Лібкнехта. З ѐй зьвязаная песьня: «На Карла Лібкнехта адкрылася піўная, там сабіралася кампанія блатная…»

7. Піўніца на вуліцы Прыгожай. Адметнасьць: заўсѐды п'яная зэчка Верка блукала паміж столікаў і сьпявала блатныя песьні.

8. Піўніца «Голубой Дунай» у Серабранцы.

9. Піўніца на вул. Караля. І побач кафэ «Зодчие» (вул. Берсана).

10. Піўніца на Харкаўскай, празваная народам «Мутны глаз».

І шмат іншых. Пра некаторыя зь іх я раскажу ніжэй больш дэталѐва.

## *ПНУ*

Тыя, хто вучыўся ў Белдзяржунівэрсытэце на зломе 70–80-х і трохі пазьней, неабмыльна перакладуць абрэвіятуру ПНУ. Так, гэта – «піўніца насупраць унівэрсытэту». Левае крыло грандыѐзнага комплексу грамадзкага харчаваньня «Фабрыка-кухня» ў Менску побач з Домам кіно (цяпер Чырвоны Касьцѐл) займаў піўны бар, які зь лѐгкай рукі студэнтаў унівэру атрымаў усім любую назву – ПНУ (не «пэ-нэ-у», а – «пну»!).

Адкрывалася піўніца а 8-й раніцы і, як толькі дзьверы адчыняліся, вялізны натоўп народу ўрываўся ў залу і імкліва запаўняў прастору каля прылаўка, дзе звычайна красавалася каралева залу – піўная бочка. На той час пра нейкія там «бойлеры», «ѐмкасьці» і іншыя тэхналягічныя вынаходніцтвы ніхто нічога ня ведаў. Разьліванае піва прывозілася ў спэцыяльных бярозавых бочках па 200 літраў, закаркаваных вялізным драўляным коркам, які ня так і проста было выцягнуць.




Звычайна раніцай да прылаўка грузчыкі падкочвалі новую бочку, усталѐўвалі яе так, каб буфэтніцы было зручна працаваць, і самі адыходзілі. Бо адкаркоўваць бочку давяралі толькі найзаядлейшым пітукам, старажылам піўніцы, якія добра ведалі гэтую кваліфікаваную работу. Трэба было ня толькі адшпунтаваць бочку, але й прымацаваць да дзіркі спэцыяльны піўны агрэгат, які складаўся з помпы, даўгой ручкі для пампаваньня і краніка. Народны ўмелец піўніцы браў гэты агрэгат абедзьвюма рукамі, падымаў на дастатковую для дакладнага руху вышыню і прыцэльным, хуткім рухам апускаў на тое месца бочкі, дзе піўны корак. Корак выціскаўся ў сярэдзіну, а ягонае месца ўжо займаў ствол агрэгату з кранікам.




Першы бакал з бочкі напаўняўся суцэльнай шумой, і яго ніхто ня піў. Народ цярпліва назіраў за паважнымі дзеяньнямі майстра адкрываньня і за завіханьнем каля бочкі прадаўніцы. Гаварыць ці даваць нейкія парады ў гэты час не дазвалялася – мала што магло выйсьці! Ці пад руку

скажаш, ці няўдала апусьціцца помпа і піва ня пойдзе. А калі «буксы гарць» і стаяць няма ўжо жаднай моцы, то застацца бязь піва тое самае, што згубіць месячную зарплату альбо засьпець сваю жонку ў абдымках у суседа… Стрэс, значыцца, будзе вялікі. П’яніцы – народ прымхлівы, раніцай пасьля ўчарашняга яны становяцца, як дзеці – безабаронныя такія, даверлівыя, няшчасныя.

І вось, нарэшце, першы чалавек – шчасьлівы! – бярэ паўнавартасны куфаль з апалай шумой і адыходзіць, з крана вясёла цурчыць струмок піўной вадкасьці ў новы куфаль, і за ім ужо цягнецца новая дрыжучая рука – «працэс пайшоў», «лёд тронулся», чаканы апахмел становіцца рэальнасьцю.

Калі й вы ўрэшце становіцеся ўласьнікам піўнога бакалу, то да гэтага часу вы ўжо ведаеце патрэбную інфармацыю пра сёньняшні напой. А менавіта тое, што за піва прывезьлі ў гэтай бочцы. У Менску тае пары сваё піва, што варылася на адзіным сталічным піўзаводзе па вуліцы М. Горкага (цяпер завод «Аліварыя»), дастаўлялася найчасьцей у бутэльках. А разьліванае прывозілі з двух іншых гарадоў – з Полацку ды Слуцку. Полацкае лічылася нядрэнным півам, а Слуцкае – так сабе, але яго ўсё роўна пілі – іншага ў бліжэйшых межах і ў бліжэйшы час было не дастаць…

…Адзін за адным шчасьлівыя пітукі хто з куфлем, а хто й з двума адыходзяць да стоек. Праз хвілін трыццаць тэмпэратура жарсьцяў вакол піва сьціхала. Найхварэйшыя пачынаюць вяртацца да жыцьця, дзелавыя зьбягаюць на працу і толькі запраўдныя п’яніцы ды сталыя наведнікі застаюцца ў піўніцы.

У часы гарабачоўскага паўсухога закону, у 1986–1987 гадох, піва ў Менску становіцца вялікім дэфіцытам. Як, між іншым, і ў іншых гарадох Савецкага Саюзу. Сталася так, што за куфлем піва трэба было добра пабегаць. Асабліва цяжкім днём стала нядзеля. У нядзелю зусім не прадаваліся сьпіртавыя напоі і апахмяліцца можна было толькі півам. Ня цяжка сабе ўявіць, якія страшэнныя чэргі ствараліся ў тых рэдкіх мясьцінах гораду, дзе яно яшчэ прадавалася, дарма што выходны дзень. Як на злосьць, на гэтыя гады прыйшоўся і росквіт майго алкагалізму. Доктару Бобу, аднаму з герояў кананічнай кнігі «Ананімныя алкаголікі», які таксама займаўся п’янствам у

неспрыяльныя часы – пэрыяд амэрыканскага сухога закону 30-х гадоў XX ст., было лягчэй, бо ѐн меў доступ да мэдычнага сьпірту.

Мне ж, каб знайсьці куфаль піва, даводзілася аббегаць ці не палову гораду. Асабліва цяжкім днѐм была нядзеля і я добра помню, як за тым ранішнім арыенцірам, на той момант – апошнім сэнсам жыцьця, мусіў ехаць з Серабранкі ў цэнтар Менску і там адстояўшы дзьве гадзіны ў ПНУ, абдымаць як найвялікшую каштоўнасць два шумлівыя куфлі, якія мне ўсѐ ж дасталіся, бо піва магло й скончыцца.

## *«Прохлада»*

Так зваўся піўны бар на вуліцы Няміга, насупраць Сьвята-Пятра-Паўлаўскага сабору. Улюбѐнае месца паэта Віктара Стрыжака. Аднаго разу тут я пазнаѐміўся за куфлем піва з будучым доктарам эканамічных навук, а тады маладым асьпірантам А. Громавым, а потым – з другім ня менш цікавым чалавекам – будучым рэжысэрам праваслаўнага тэатру «Віфліемская зорка» Е. Глебавым.

Стрыжак чамусьці празваў «Прохладу» «Прастудай», і я зь ім на гэты конт ніколі не спрачаўся – паэту лепш відаць. Аднак і я, як чалавек практычны, навучыў Віктара адной рэчы – потым ѐн часта цягнуў народ у «Прастуду», так яму спадабалася.



«Прохлада». Падрыхтоўка галавы скумбрыі для ўжываньня.

А справа была так. У павільѐн у якасьці закускі нееяк завезьлі вэнджаную скумбрыю. Піва каштавала 22 капейкі, рыбіна – у залежнасьці ад памераў – 15–25 капеек. У той час, калі лічыцца кожная капейка, калі бязь піва сьвет можа ў любую хвіліну для вас патухнуць – усе вашы намаганьні будуць накіраваны на тое, каб дастаць куфаль піва – і толькі піва. Для вас тая марская рыбіна будзе недасягальнай, недаступнай, і таму – непатрэбнай. Але, калі вы ўсѐ ж трохі апахмяліліся і нават узьбіліся яшчэ на адзін бакальчык, то тут няблага было б і рыбку пасмактаць.

Няблага... Але ж грошай у актыўнага пітука, зазвычай, лішніх няма. Так што з рыбкай, відаць, давядзецца пацярпець… І тут я прапанаваў Віктару просты плян здавальненьня сваіх эстэтычных запатрабаваньняў. Рэч у тым, што тая скумбрыя прадавалася разам з галовамі, і кожны купляньнік мусіў сам адрэзаць рыбную галаву, што й рабілася на спэцыяльным стале побач з буфэтнай стойкай, дзе для адсячэньня галоў на дошчачцы ляжаў вялізны кухонны нож. Галовы складваліся побач і паступова ўтваралі горку, якая прыгожа блішчэла жаўцізной плаўнікоў. Гэта былі ўжо нікому не патрэбныя адходы. Таму кожнаму, хто пажадае паласавацца скумбрыяй, трэба было толькі

падысьці і выбраць сабе прыстойныя, мясістыя рыбныя галовы. Мы так і зрабілі.

Якія смачныя былі тыя галовы! Мне здаецца, што смачней, чым асноўная частка рыбіны. І пад піўко! З тых часоў, як мы адкрылі танны спосаб ласавацца вэнджанай рыбай, Віця Стрыжак аблюбаваў «Прастуду» і хадзіў туды нават тады, калі рыбы не завозілі.

## *Піўны бар «Пад Пабедай»*

Эх, і ладная ж была піўнічка! На яе месцы цяпер няма нічога. Гэта месца перад кінатэатрам «Перамога», што на вуліцы Камсамольскай, на яго тэрыторыі адразу за кратамі, па суседстве з знакамітай 42-й школай. Там, трохі ўглыб, быў яшчэ летні зал кінатэатру. Піўны бар-кавярня «Пад Пабедай» быў тыповам і станавіў сабой прастакутны аднапавярховы будынак з суцэльнага шкла. У народзе такія бары завуць «стекляшками». Гэта быў цывілізаваны бар, цэны на піва ў ім выстаўляліся з сярэдняй савецкай нацэнкай, і ў другой палове 70-х – 80-х складалі 35 кап. за куфаль. Праўда, адміністрацыя «Перамогі» пэрыядычна ініцыявала культурную рэарганізацыю кавярні, і цэны падымаліся да 45 кап., але, можа, плаціць і было за што, бо для наведнікаў заміж звычайных стоек ставілі даволі прыстойныя столікі з крэсламі, а для піва – піўныя комплексы.

У гэтай піўніцы было два плюсы: першае – вельмі зручнае месца для сустрэч, бо ў самым цэнтры гораду, і другое – пасьля выпіваньня першых абавязковых бакалаў можна было й адпачыць пад агромністымі клѐнамі, што атачалі будыніну кінатэатру, летні зал і піўбар. Пад дрэвамі стаялі драўляныя лаўкі, а ў самым цэнтры – даўно непрацоўны фантан, па кругу якога цягнуўся дэкартыўны вал-абгарода. Можна было выйсьці з куфлем, паставіць яго на бераг фантану і смачна закурыць цыгарэту.

Бар адкрываўся а 9-й гадзіне, і недзе пад дзесяць апісаная тэрыторыя запаўнялася народам, які купкаваўся па сваіх кампаніях і нетаропка гаманіў пра самыя розныя сусьветныя і нутраныя праблемы.

Мяне часта займала тая дваістая сытуацыя, якая складвалася вакол жыцьця піўніцы «Пад Пабедай» дый іншых выдатных месцах гораду. Дваістасьць была ў тым, што, з аднаго боку, мы жылі тады ў жорсткай савецкай сыстэме, дзе ў трохі зьмененай форме ўладарыў сталінскі закон – «крок улева, крок управа – расстрэл», а з другога боку – тыя піўніцы былі выспачкамі свабоды, толькі там уладарыла сяброўская атмасфэра, дзе можна было сказаць усё што заўгодна, пасьмяяцца з палітбюро і Леаніда Ільіча – і не атрымаць за гэта ні сутак, ні звальненьня з даўно абрыдлай працы.

Вось, прыкладам, выпадак, які добра мне запомніўся, дарма што мінула ад тае пары не менш як 30 гадоў.

…10 гадзін 30 хвілін раніцы. Каля піўнога бару кінатэатру «Перамога» віруе мноства народу. На гэты час хто стаіць у чарзе па піва, а хто ўжо п’е за стойкай бару, большая ж частка высыпала на двор і разьмеркавалася па тэрыторыі ўздоўж басэйну ды ў цяньку клёнаў – хто з куфлем, хто з шклянкай, а хто й проста з цыгарэцінай. З бару выскоквае здаравенны мужык з разьюшанай мордай, імкліва рухаецца ў бок найвялікшай кампаніі і на ўсё горла гучна крычыць:

– Кто меня послал громко н…на…ахуй!? Кто меня послал громко нахуй?!

Умомант сьціхаюць усе гамоны, мужыкі ўзіраюцца адзін у аднога. «У чым рэч?», – думае кожны, «няўжо нехта не пабаяўся паслаць такога амбала і сам зьнік?» А дзяціна працягвае «Кто послал меня…» Напружаньне расьце, хуткай хадой дзяціна абыходзіць некалькі груповак, і не знайшоўшы таго «хто яго паслаў на…», разварочваецца і… пачынае рагатаць. За ім сьмяюцца і ягоныя сябры, што назіралі «шуканьні». А потым сьмяюцца ўсе пры тым бытныя.

Выявілася, што гэта акторы Купалаўскага тэатру прыйшлі папіць піва і надумалі пажартаваць такім спосабам, выступілі, значыцца, у стылі арыгінальнага жанру.

***«Ясень»***

Найзнакаміцейшая піўніца ў зоне «Бэрмудзкага трохкутніка», выкананая ў форме тыпавога павільѐна савецкіх часоў. На гэтым месцы цяпер піўны рэстаран. Трохі ніжэй, з тыльнага боку павільѐну ў бок Сьвіслачы – раѐн Верхняга гораду. Пасьля наведваньня «Ясеню» можна было прайсьціся па гэтым гістарычным месцы Менску, праўда, ніхто так проста не праходжваўся, кожны паход меў на мэце неўпрыкмет расьпіць купленае чарніла і ўжо потым – пагаварыць пра высокія матэрыі. Праўда, міліцыя прасочвала і гэты раѐн, але дасьведчаныя старажылы ведалі пару глухіх завулкаў, куды нага мянта не ступала.

Кожная піўніца мае свой твар. І ня так архітэктурны, як чалавечы – найбольш каларытныя асобы, што стала наведвалі гэтую ўстанову. У піўніцы на вуліцы Прыгожая, прыкладам, мясцовай славутасьцю была Верка, якая хадзіла ад століка да століка і пяяла блатныя песьні. Славутасьцю маглі быць ня толькі наведнікі, але й іншыя людзі – буфэтніца ці хто з рабочых. У ПНУ, прыкладам, адной з такіх асоб была прадстаўніца пэрсаналу – пратаньніца, якую звалі «Мой генэрал». Гэтую мянушку даў жанчыне Чыма – сам генэралаў сын і «вечны» студэнт фізычнага факультэту БДУ.

У «Ясені» такіх знакамітых людзей было некалькі. Да нашай кампаніі ўланаў блізка прымыкаў чамусьці Парамэла – злодзей-рэцыдывісты, які меў чатыры ходкі, але вельмі любіў мастака Дона Антоніѐ і набліжаных да яго паэтаў. У «Ясень» раніцай заўсѐды заходзіў Гітлер – так звалі інтэлігентнага мужчыну сярэдніх гадоў, як дзьве кроплі вады падобнага да запраўднага фюрэра Шыкльгрубэра, які паставіў некалі на вушы ўсю Эўропу.

Сталымі наведнікамі была вельмі прыстойна апранутая парачка – мужчына й жанчына, што ніколі не разлучаліся, як міжсобку, так і зь піўніцай. Мужчына насіў дарагое паліто зялѐнага колеру з кучаравым каракулевым каўняром, жанчына была ўся ў пярсьцѐнках і мела ярка падмаляваныя губы.

Ну й ведама – Дон Антоніѐ! Чалавек, які заўсѐды зьбіраў каля сябе натоўп «прагных»: мастакоў і чаляднікаў, паэтаў і графаманаў, злодзеяў і сьвятых. Мне таксама здаралася бавіць час у ягонай кампаніі і, мушу зазначыць, гэта было цікава, як бы мне ні даводзілі мае сучасныя сябры ананімныя алкаголікі, якія лічаць непатрэбнымі ўсякія ўспаміны пра мінулыя паходы, мінулыя шклянкі і куфлі…

Пасьля першага заходу ў «Ясень» народ выходзіў пакурыць на двор і разьмяркоўваўся вакол неблагога для сядзеньня бардуру, які цягнуўся паралельна павільѐну. Пасьля другога заходу большасьць наведнікаў перасоўвалася далей ад піўнічкі – да лавачак, якія мясьціліся вакол фантану ў скверыку на плошчы Свабоды. Цяпер там гэтага нічога няма, але затое ѐсць гарадзкая ратуша, пабудаваная значна пазьней.

Менавіта ў «Ясені» я, неяк змарыўшыся пад вечар, ціха заснуў на тым самым бардуры, і калі прачнуўся, то ня ўбачыў каля сябе ні сяброўсабутэльнікаў, ні свайго саквояжу, у якім цягаў рабочыя паперы з геніяльнымі разьлікамі ў галіне тэарэтычнай фізыкі, на падставе якіх меркаваў у недалѐкай будучыні напісаць кандыдацкую дысэртацыю. І на наступны дзень я павесіў на сьцяне павільѐну абвестку: «Калі хто знайшоў у «Ясені» альбо каля «Ясеню» саквояж чорнага колеру, то просьба вярнуць яго – ці хоць паперы, якія ў ім ляжалі, адміністрацыі бару за добрую ўзнагароду».

Ніхто не захацеў атрымаць «добрай узнагароды», разьлікі паводзін вэктарных мэзонаў пры высокіх энэргіях былі навекі згубленыя.

*Можа таму й славуты цяперашні адронны каляйдэр ніяк ня можа ўвайсьці ў рабочую форму – усѐ ламаецца, можа й па маѐй віне мы ня скора атрымаем адказ на адвечнае пытаньне: «Ці хутка канец сьвету?».*




*Тут стаяў «Ясень»*

## ***«Тэлевізар»***

Шмат выдатных людзей прайшло праз гэты… гэтую…. Запраўды, што? Кавярню? Установу? Забягалаўку? Месца адпачынку? Месца разбураных сем’яў і небарак, што завязалі з працай. Месца абмытых ганарараў і прапітых авансаў…

Я буду гаварыць тут пра ведамую ў 70–80 гады кавярню – кафэ «Молодежное». Але ў асяродзьдзі наведнікаў гэтая назва трывала адступіла сваѐ месца найменьню больш адпаведнаму вонкаваму выгляду – шкляным, да самай столі, сьценам, празь якія добра відаць, што робіцца ўсярэдзіне. Адным словам, «тэлевізар», дый усѐ. Так і зьявілася народная назва кавярні «Молодежное» – «Тэлевізар».

Мясьціўся «Тэлевізар» на рагу праспэкту Леніна і вуліцы Багдана Хмяльніцкага, побач з гонарам таго часу кінатэатрам «Кастрычнік». Трохі далей па праспэкце ад успомненых мной аб’ектаў у бок плошчы Якуба Коласа знаходзіліся «Сыры». Так звалася невялікая прадуктовая крамка, дзе прадаваліся розныя кілбасы, сыры, хлеб і, галоўнае – алкаголевыя напоі. З гэтых напояў найбольшым попытам у тыя незабыўныя, брэжнеўскія

сямідзясятыя карысталіся танныя віны, ведамыя пад назовам «чарніла», незалежна ад маркі. Найпапулярнейшыя былі, безумоўна, партвэйн «Агдам» за 1 руб. 42 кап. і «Вэрмут» за 1 руб. 22 кап. Назва «чарніла» гэтак прыжылася, што калі якому п'янтосу даводзілася піць сухое віно (прыкладам, да адкрыцьця крамы ў 11 гадзін), то гаварылі «сухое чарніла».




*Гэта ня проста наклейка. Гэта сымболь эпохі 70-х.*

«Тэлевізар» быў у Менску, бадай што, адзіным месцам, дзе можна было каўтнуць нейкі глыток свабоды, уцячы хоць на імгненьне ад камуна-савецкай рэчаіснасьці, ад палітінфармацыяў і суботнікаў, ад стукачоў, прадажных начальнікаў і ляклівых калег. Там, як у лазьні, усе былі роўныя, і чалавек ацэньваўся не паводле яго службовага становішча, а паводле інтэлекту, па яго розуму, ну й, зразумела... паводле наяўнасьці «пянѐндзаў».

У атачэньні «Тэлевізару» былі свае аўтарытэты, свае традыцыі і нават свае фірменныя анэкдоты.

Вось характэрны прыклад народнай творчасьці:

«Выцьвярэзьнік. Ноч. Раптам да дзяжуркі далятае лямант: «Идея! Идея!... Идея!..» – так, прынамсі, чуецца малодшаму сяржанту.

– Что, у нас и ученые отдыхают, и новые идеи у них рождаются? – зьвяртаецца сяржант да калегі-прапара.

– Да нет. Просто опять белорусского письменьника привезли. Он ведь кричит не «Идея, идея…», а – «I, дзе я? I, дзе я? I, дзе я?»

# ЛЮДЗІ

Шмат зь якімі цікавымі людзьмі мне пашчасьціла пазнаѐміцца ў шчымліва-радасныя гадзіны «тэлевізарнага» пабыту. Большую частку гэтых людзей Госпад даўно ўжо паклікаў да сябе, як бы ні цытавалася папулярная фраза Высоцкага «Мы успеем в гости к Богу», як бы ні думаў кожны з нас, што быццам бы менавіта мне туды яшчэ ня зараз…

Гэтых ужо няма:

Паэт-клясык
Сьцяпан Гаўрусёў (жыў 57 г.)

Пісьменьнік
Міхась Стральцоў (жыў 50 г.)

Паэт
Мікола Федзюковіч (жыў 54 г.)

Журналіст
Сяргей Аладзьеў (жыў 62 г.)

Празаік
Мікола Капыловіч (жыў 63 г.)

Журналіст
Уладзімір Аляхновіч (жыў каля 60?)

Мастак
Антон Кавальчук (Дон Антоніѐ)
(жыў каля 55 г.)

Паэт
Лѐнька Шугалей (65-70 г.)

Паэт
Яўген Крупенька (жыў 54 г.)

Інжынэр
Гарык Дзеравянка (жыў каля 50 г.)

Інжынэр
Валодзя Адамчык (жыў 47 г.)

Празаік
Іван Шальманаў (жыў 57 г.)

Празаік
Алесь Шлег (жыў 52 г.)

Я маю зусім мінімальныя зьвесткі пра Лѐньку Шугалея, нехта гаварыў што нібыта ѐн памер, але не зьдзіўлюся калі будзе і жывым і некранутым. Для мяне гэта так і ѐсьць, таму што нябожчыкам я яго не бычыў, а пры апошняй нашай сустрэчы ѐн быў, як Ленін – «жывей усіх жывых».

Пра іншых зусім няма зьвестак, але што гэта за людзі былі! Вось некаторыя:

Кінарэжысэр
Галя Мацьвеева

Навуковец-філѐляг
Сьцяпан Місько

Савецкі выведнік
Іван Скапараў

## «Тэлевізарны» аддзел кадраў

У «Тэлевізары» ня толькі пілі. Тут разьвязваліся самыя розныя праблемы – ад таго, што збрахаць жонцы, калі позна вяртаесься дадому, ды яшчэ й нападпітку, да таго, дзе знайсьці працу. Можна было нават уладкавацца на працу проста ў кавярні. Пра такі выпадак я тут і раскажу.

У гэтай гісторыі цяжар сюжэту зьмяшчаецца зь пісьменьнікаў на сьлесара-сантэхніка Аркадзія. Ня ведаю якім спосабам, але ў нашую багемную тусоўку інтэлектуалаў зь пэўнага часу ўліўся чалавек з самага што ні на ѐсьць рабочага асяродзьдзя – сантэхнік Аркадзі. Гэта быў вельмі дабрадушны чалавек, «на халяву» ніколі ня піў, а гэта вельмі цанілася лепшай часткай асяродзьдзя кавярні, дзе шмат якія жабракі-пісьменьнікі часьцяком паводзілі сябе зусім несамавіта і «садзіцца на хвост» лічылі калі не за правіла добрага тону, то за праяву знакамітай славянскай таварыскасьці.

Неяк пасьля піўка й куляньня па колькі шклянак таннага віна, за нашым сталом паўстала наступная дыскусія: «Як можна пражыць на жабрацкую зарплату ці асьпіранцкую стыпэндыю?» (Апошняе пытаньне, зразумела, выходзіла ад мяне – тагачаснага асьпіранта Інстытуту фізыкі).

І тут у размову ўлучыўся Аркадзі:

– Трэба жыць на некалькі зарплат. Я, прыкладам, працую сантэхнікам у трох арганізацыях і яшчэ маю час чарку кульнуць!

– Але ж як уладкавацца на простую рабочую пасаду, такую як сантэхнік, калі я працую м. н. с. -ам у Акадэміі навук? – пытаюся, – мне ж ніхто не дазволіць.

– Трэба дастаць даведку зь любой арганізацыі, што яны ня супраць, – кажа, і дадае. – За бутэльку можна дастаць гатовыя бланкі з адной канторы. Запоўніш – і ўсѐ.

На тым і пагадзіліся. Аркадзі стрымаў слова, прынѐс даведкі. Адразу ж, у «Тэлевізары», пачалі запаўняць. У савецкія часы такога тыпу дакумэнты трэба было, каб падпісалі аж тры падстававыя асобы прадпрыемства: дырэктар ці загаднік, старшыня прафкаму і, ведама, сакратар парткаму. Бытныя там паэты дружна падтрымалі ідэю і падпісаліся за начальства. Вось якая даведка выйшла:

МИНИСТЕРСТВО ПРОМЫШЛЕННОГО СТРОИТЕЛЬСТВА БССР

Минский филиал треста «Оргтехстрой»
по малой МЕХАНИЗАЦИИ

Р-с 440118 в облконторе Стройбанка.
№ 685

г. МИНСК, Калининградский пер., 19,
Тел. 664 62
«2» сентября 1976

СПРАВКА

Дана настоящая КУЛОНУ АНТОНУ ВЛАДИМИРОВИЧУ в том, что он действительно работает в Минском филиале треста. "Оргтехстрой" по малой механизации на должности техника с окладом 80руб. в месяц. Администрация не возражает против работы КУЛОНА А. В. по совместительству в свободное от основной работы время.

Заведующий /ФЕДЮКОВИЧ Н.Н./

Председатель месткома /КРУПЕНЬКО Е.П./

Секретарь парткома /СТРЕЛЬЦОВ М.Л./

Найсамавіцейшым з выгляду паэтам за нашым сталом быў, безумоўна, Мікола Федзюковіч, таму ѐн і падпісаўся як загаднік таямнічага філіялу трэсту «Оргтехстрой». Міхась Стральцоў як найвядомейшы і ўсімі прызнаны паэт «цягнуў» на сакратара парткаму. Ну, а дзіцячаму паэту Яўгену Крупеньку засталася пасада старшыні прафкаму.

Даведка гэтая дагэтуль засталася ў мяне як рэліквія, толькі за даўнасьцю часу калі-нікалі ўзьнікае здуменьне: а ў якім жа парадку мусілі друкавацца прозьвішчы «начальства» – пасьля подпісаў ці наадварот? І дзе бралі друкавальную машынку? У кавярню яе дакладна ніхто не прыносіў, а ў Доме друку, што месьціўся побач, ніхто з падпісантаў не працаваў.

## Акно ў Парыж



Гадоў мо’ зь дзесяць таму йшоў праз тэлік фільм пад назовам «Акно ў Парыж». Там героі, залазячы ў звычайны савецкі каналізацыйны люк, таямнічым спосабам пераносяцца праз 2 тысячы км і вылазяць у самым цэнтры сталіцы Сьвету – Парыжы. Адчыняюць той задрыпаны каналізацыйны люк і… бачаць нашыя простыя савецкія людзі не завешаныя бялізнай вуліцы і не забруджаны сьмецьцем двор пад’езду, а сама што ні на ѐсьць запраўдны горад Парыж з Эйфэлевай вежай, Елісейскімі палямі й Манмартрам. Вось гэта «Акно»! Эх! Застаецца толькі зайздросьціць тым героям.

Разам з сваімі героямі аўтару аднаго разу давялося таксама прадзірацца праз каналізацыйны люк насустрач новаму жыцьцю.

Справа была так. Недалёка ад знакамітай кавярні «Молодежное», зусім побач з кінатэатрам «Кастрычнік», знаходзіўся інтэрнат мэдычнага інстытуту. Дарэчы, там ён і цяпер стаіць. Вакол будынкі політэхнічнага інстытуту – цяперашняга БНТУ – і адзін такі астравок мэдыцыны… Але рэч ня ў тым, што інтэрнат быў мэдычнага інстытуту, мог ён быць хатай і політэхнічнага і нават Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Альбо кулінарнага тэхнікуму. Фішка ў тым, што ў гэтым будынку працаваў ужо ведамы чытачу сьлесар-сантэхнік Аркадзі. І калі йшло буйнае баляваньне, прапіваліся нечыя, можа, і не малыя грошы, то сьцен «Тэлевізару» было ўжо й замала, дый пра бясьпеку пры добрай выпіўцы трэба думаць – кавярня стала прасочвалася нарадам міліцыі. Таму Аркадзі часта запрашаў да сябе – у бойлерную – усю пісьменьніцкую брацію. Запрашаў і мяне, бо пасьля майго няўдалага ўладкаваньня на працу сантэхнікам мы з Аркадзіем зрабіліся сябрамі на векі вякоў.

Вось і тады ў скляповым памяшканьні інтэрнату мэдінстытуту, у бойлернай, сярод разводных газавых ключоў першага, другога і трэцяга памераў, шрубовак, гаек, пракладак, шрубак, цьвікоў і безьлічы рознага мэтала-плястмасавага масіву сантэхнічнага абсталяваньня – на розных прадметах, падабенствах крэслаў, разьмясьцілася цёплая кампанія савецкай творчай інтэлігенцыі. Быў паэт Мікола Федзюковіч, яго нязьменны апанэнт і таксама паэт Яўген Крупенька, пісьменьнік Міхась Стральцоў, мастак Дон Антоніё, Лёнька Шугалей ды я – будучы навуковец і пісьменьнік, а тады асьпірант Інстытуту фізыкі – Антон Кулон. Ну й таксама гаспадар бытоўкі – сантэхнік Аркадзі.

…Дзень быў вельмі ўраджайны, нехта з паэтаў атрымаў ганарар, таму чарніла лілося ракою. Ганцы спраўна абнаўлялі сантэхнічны стол, завалены шрубкамі, цьвікамі ды ключамі, кількай з хлебнымі скарынкамі ды цыгарэтнымі бычкамі. Былі абмеркаваныя ўсе сусьветныя праблемы, жонкі, як выявілася, зноў на «тры С» – сварацца сквапныя сьцервы! – начальнікі – дурні і

кар'ерысты, а галоўны камуністы Савецкага Саюзу генсэк Леанід Ільіч Брэжнеў – цудоўны чалавек, бо сам п'е і нам дае выпіць. І чарговы тост быў прапанаваны за Брэжнева. Але высьветлілася, што на гэты момант нашы шэрагі пачалі радзець – некуды прапала колькі чалавек з паэтычнага асяродку і, што найгорай, сам гаспадар Аркадзі. Паэтаў мы зараз знайшлі – яны, змарыўшыся ад нечаканага падарунку Музы, адпачывалі ў куце на завешаным гардзінамі тапчанчыку. Пахропваў Мікола, праз абвялыя вусны на няголеным твары нешта ціха мармытаў ягоны вечны апанэнт Яўген.

А Аркадзія не было. Прапаў. Сама пікантнае, як кажуць у такой сытуацыі, было ня тое, што ѐн зьнік, прапаў – дык няхай сабе й прапаў. Ня той бяды. А трагедыя была ў тым, што разам з Аркадзіем прапалі й ключы ад уваходных дзьвярэй, і мы не маглі выйсьці вонкі. Мы апынуліся ў пастцы! І як толькі гэта высьветлілася, усім чамусьці спатрэбілася зараз жа выйсьці. Аднекуль узяліся тэрміновыя справы, некага жонка чакала, некаму трэба было на дзелавую сустрэчу. Хоць якая ўжо там магла быць дзелавая сустрэча…

Шуканьне ключоў і запаснага выхаду нічога не далі.

Пачалі дасьледаваць бойлерную нават у той частцы, дзе яна звужаецца, дарма што там можна было прасоўвацца толькі наўгомыжкі, на чатырох лапах. Менавіта там Лѐнька Шугалей як найменшы і таму найхутчэйшы натрапіў на той заломлівы каналізацыйны люк.

– Сюды йдзіце, я знайшоў люк, празь яго мы й вылезем! – крычыць Лѐня.

– А дзе ж мы вылезем? – пытаюся, – можа, ѐн выходзіць у суседні пакой, да дзяўчат, а мы ў такім, ня вельмі парадным выглядзе, ці, яшчэ горш, – у прыбіральню?

– У двор выходзіць, – упэўнена кажа Антонаў ад'ютант Лѐнька.

– А можа, у Парыж? – засьмяяўся я, успамінаючы знакаміты фільм «Акно ў Парыж».

Раскатурхалі паэтаў, папаўзьлі. Люк доўга не паддаваўся, але Антон Кавальчук як фізычна наймацнейшы, чалавек што год адбыў на фізычных работах у Інданэзіі – так ѐн называў ЛПП – узяў справу выхаду на свабоду ў

свае рукі. Ён увабраў галаву ў плечы, упѐрся каркам у накрыўку і... яна ссунулася.



– За мной, мальцы! – крыкнуў Дон Антоніѐ і адважна палез уверх. За ім рушылі і астатнія.

– Ну што, Эйфэлева вежа там відаць? – у папярэдняй танальнасьці крычу я, падпаўзаючы.

– Відаць, відаць, за дваццаць крокаў, – чуецца незнаѐмым голас з вуліцы.

Вылажу і бачу неверагоднае. Мы апынуліся не ў двары інтэрнату, а на самай сярэдзіне пешай часткі праспэкту Леніна недалѐка ад «Сыроў». Было, мабыць, блізу шасьці гадзінаў вечара, праспэкт увесь быў поўны людзей, што вярталіся з працы, толькі што выйшлі на дзяжурства нарады міліцыі. І ня дзіва, што выпаўзаньне зь люку п’янай кампаніі ўмомант было заўважана ня толькі народам, але й нарадам, які выйшаў з варанка, прыпаркаванага за дваццаць мэтраў ад люку.

Неўзабаве ўсіх «запакавалі» ў машыну і павезьлі ў аддзел міліцыі на пратаколы…

Толькі ў кіно можна вылезьці зь люку ў Парыж. *У СССР зь люку вылазяць толькі ў мянтоўку…*

**Пачастунак Кандрата**

Неяк у гулкую, пранізьлівую ад перапою летнюю раніцу, пасьля ўжыцьцяўленьня ў журнале патрэбнай адзнакі пад назовам «станьне да працы» («явка на работу»), і ня бачачы сэнсу ў сваім далейшым існаваньні ў сьценах Акадэміі навук ці акадэмічнай бібліятэкі, я накіраваўся да кватэры Гарыка Дзеравянкі – добра, што яна была зусім побач з Інстытутам фізыкі, фактычна, насупраць, у тым самым доме, дзе тады разьмяшчаўся Тэатральна-мастацкі інстытут, які цяпер завецца Акадэміяй мастацтваў.

Пасьля ўчорашняга перабору настрой быў жудасны, галава трашчала, вочы не хацелі глядзець на Божы сьвет і ўсѐ гаварыла за тое, што трэба тэрмінова апахмяліцца. Было дзевяць гадзін раніцы. А гэта сьведчыла, што да «граматнага» апахмелу яшчэ дзьве гадзіны. Водпуск лікѐра-водкавых вырабаў пачынаўся тады (у 1980 годзе) аб 11-й гадзіне раніцы.

У Гарыка ўжо сядзелі Сяргей Аладзьеў і два архітэктары – Жэня, ѐн жа Кандрат, і Саня пад мянушкай Укроп. Маўчалі.

– Усе хочуць апахмяліцца? – раптам спытаў, зразумела, не чакаючы адказу на рытарычнае пытаньне, архітэктар Кандрат і працягнуў сваю тронную прамову, – магу прынесьці сьпірту, толькі трэба зьберці два рублі.

Два рублі – гэта невялікія грошы для кампаніі зь пяці чалавек, якія яшчэ – дзеля раньніх часоў – не патраціліся. У гэты час і Сяргей традыцыйна меў «дамашні рубель», і іншыя ўдзельнікі сьвяткаваньня новага Божага дня не аставаліся. У мяне, прыкладам, магло быць і больш за рубель. Хіба што беспрацоўны Гарык быў голы – але ѐн быў гаспадар кватэры.



Адным словам, нашкрэблі патрэбныя два рублікі.

Кандрат даволі хутка прынѐс у бутэльцы ѐмкасьцю 0.8 літра абяцаны сьпірт. Пачалі піць. Прынесьлі, як «паложана», слоік вады, каб разбаўляць, адкаркавалі. Па пакоі разьнѐсься нейкі своеасаблівы пах, і мы адзін за адным ўтаропіліся ў твар архітэктара.

– Гэта сьпірт з кандытарскай фабрыкі «Камунарка», ѐн з цукеркамі – таму і пах такі, – кажа, – піце сьмела.

Прыступілі. Глынуў і я, й адразу зразумеў, што не пайшло. Пабег у прыбіральню. Потым яшчэ нехта рвануў туды… але ўсѐ ж п’ем патрохі. Паступова стала сьвятлець у вачах. Прыйшло чаканае ап’яненьне і жыць – зусім як у камуністычным лѐзунгу савецкіх часоў – «стала лепей, жыць стала весялей». Нейкі дзіўны сьпірт, ну ніколі ня піў такога. Мэдычны пах, смак –

відавочна ня сама вытанчаны – дзікая сумесь нейкага грыба-люмінафора з конскім гноем… Але неўзабаве прывыклі і пакрысе рэалізавалі ўсю бутэльку.

І тут архітэктар Жэня – ѐн жа Кандрат – раскалоўся:

– Ну што, аматары аптэкі! Пайшла настойка «Араліі»?

– Ты што нас, лекамі паіў? А дзе ж упакоўкі, бутэлечкі?

– А то б вы пілі з флакуш. Ды й марудны працэс быў бы. Адна флакушка 50 мілілітраў. Літр – 20 бутэлечак.

– А колькі ж яна каштуе?

– Ды як раз 20 капеек. На два рублі ўзяў, пераліў у двары і прынѐс вам. Ды вы ня думайце, вы пілі настой зь лекавай расьліны араліі. Яна аднаго сямейства з славутым жэньшэнем. А ѐн, як ведама, толькі падаўжае жыцьцѐ. Так што не крыўдуйце.

Але крыўды ніхто ня меў, *медыцына ѐсьць медыцына, нічога шкоднага яна яўна не прынясе.*

*А вось пахмяліць можа*.

## ДЫРЭКТАР «ТЭЛЕВІЗАРА»
## (ПАЭТ СЬЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ)

*Я вырас пад гарматнымі ствaламі,*
*Я мераў час секундай, а не днѐм...*
*(Сьцяпан Гаўрусѐў)*

Самы сівы й самы галоўны ў «Тэлевізары» – гэта Сьцяпан Гаўрусѐў. Месца Сьцяпана Захаравіча за самым першым столікам у куце, каля ўваходу ў кавярню. Адтуль вельмі зручна назіраць за жыцьцѐм «Тэлевізара», добра бачныя ня толькі бліжэйшыя столікі, але й наведнікі, што атабарваліся на дальнім пляне. Сьцяпан Гаўрусѐў быў яшчэ не стары, але зусім сьсівелы мужчына, апрануты ў белую кашулю, якую аздабляў адмысловы гальштук. Гэта быў ведамы паэт, які «вырас пад гарматнымі ствaламі». Гэтыя радкі, напісаныя паэтам, ведалі ўсе наведнікі кавярні, большасьць зь іх было маладзейшага веку і таму вельмі паважліва ставіліся да Захаравіча. Ужо колькі гадоў як ѐн пры загадкавых абставінах адышоў у лепшы сьвет. У кавярні курыць было забаронена, але Сьцяпану дазвалялася – ѐн лічыўся як бы «народным дырэктарам» «Тэлевізару». Месца Сьцяпана Захаравіча, безумоўна, найутульнейшае і разам з тым недатыкальнае, бо негалосна мела бронь за Дырэктарам.

Сьцяпан Захаравіч бавіў у «Тэлевізары» ўвесь сьветлавы дзень, а ўзімку – і бальшыню цѐмнай часткі сутак. У «Сыры» бегалі маладзейшыя ганцы, курыць выходзіць таксама не было патрэбы – таму ѐн заўсѐды быў на сваім месцы. Пачак з-пад «Беламору» не зьнікаў з стала, бо Сьцяпан як запраўдны вэтэран курыў толькі папяросы. Выходзіў ѐн хіба тады, калі кавярня зачынялася, альбо

па ганарар у Дом літаратара ці Дом «печалі», – як ахрысьцілі Дом друку журналістыя.

## Паэт Сьцяпан Гаўрусёў частуе празаіка Івана Шамякіна

От і гэтым разам у суправаджэньні належнай сьвіты з дастаткова давераных асоб, у склад якіх трапіў і я, Сьцяпан Захаравіч накіроўваўся ў Дом літаратара. У Доме літаратара быў дзень палучкі. У гэтым знакамітым Доме на Фрунзэ 5 некаторым пісьменьнікам мусілі выдаць ганарар. На гэты раз сярод шчасьлівых значыўся й знакаміты беларускі паэт Гаўрусёў. Для ўдзелу ў працэсе атрыманьня ганарару і, зразумела, удзелу ў будучым «банкеце», звычайна запрашалася некалькі набліжаных да клясыка паэтаў, а тут быў запрошаны і аўтар гэтых радкоў.

Чаму я засяроджваюся на такіх дэталях? Сьцяпан Захаравіч вельмі не любіў халяўнікаў, як той казаў, «хвастоў» – так зваліся ў Саюзе аматары выпіць за чужы кошт. Праблема «хвастоў» у асяродзьдзі інтэлігентных п'яніц была вельмі актуальная, бо ня кожны мог у твар кінуць нядаўняму сябру-сабутэльніку фразу накшталт «пакінь нашу кампанію» ці проста «адвалі!» Быў, праўда, і больш культурны ідыяматычны зварот, які ўплываў неабмыльна: «Сёньня рыбны дзень. Хвасты абрубаюцца». Пачуўшы такі вырак, прэтэндэнт на дармавую выпіўку ціхенька «абрубаўся», безгрунтоўнасьць памкненьняў «сесьці на хвост» станавілася відавочнай і чалавек адыходзіў з кампаніі да новай ці проста зьнікаў. Словазлучэньне «рыбны дзень» у цяперашні час таксама зьнікла з ужытку. У часы ж «развитого социализма» яно было ведама кожнаму й абазначала дзень тыдня (звычайна гэта быў чацвер), калі сталоўкі і рэстараны працавалі паводле асаблівага графіку – усе стравы былі толькі на аснове рыбы, мяса не давалі. Быў такі асаблівы «посны дзень», абавязковы для ўсяго насельніцтва – відаць, наўмысна чацьвер, каб ня так, як у хрысьціянаў – серада й пятніца.

Вось такім парадкам Сьцяпан Захаравіч і «адшываў» найстабільнейшых наведнікаў – заўсѐднікаў «Тэлевізару», якія зазвычай ніколі за душой капейкі ня мелі, а выпіць хацелі заўсѐды.

Але вернемся да нашай цѐплай кампаніі, што накіроўвалася ў касу Дому літаратара ў адзін з шараговых дзѐн 1979 году. Чарга была, але ня вельмі вялікая, відавочна, што ганарары далі далѐка ня ўсім пісьменьнікам. Атрымалі грошы. Накіраваліся да тутэйшай кавярні, што на першым паверсе. Народу вакол віруе шмат. Раптам бачым: насустрач нашай цѐплай камандзе хутка прастуе ведамы, «рэжымны» пісьменьнік – Іван Шамякін. Нас ѐн ня ведае, а зь Сьцяпанам Захаравічам здароўкаецца за руку.

– Іван, пойдзем вып’ем па келіху! – адразу ў лоб кажа Гаўрусѐў.

– У мяне грошай няма, Сьцѐпа. – адказвае звыкла Шамякін. Клясык прывык, што п’яніцы-пісьменьнікі заўсѐды ў дзень палучкі пазычаюць у яго грошы. А як даваць свае «кроўныя» ѐн не любіў, то заўсѐды ўдаваў, што грошай з сабой ня браў. Але гэтым разам выйшла неспадзяванка.

– Дык у мяне ѐсьць, Іван! – шчасьліва паведаміў Сьцяпан, дастаючы з пакамечаных нагавіц жменю чырвонцаў. – Запрашаю ўсіх!

Ня помню, што яшчэ збрахаў Іван Шамякін, але піць гарэлку з намі не пайшоў.

## Восьмы канцэрт Сэн-Санса

Аднаго разу Сьцяпан Захаравіч перабраў. Пілі спачатку ў сваім родным «Тэлевізары», а потым працягнулі «баляваньне» ў Доме літаратара. Чарка за чаркай, і грошы ѐсьць, і выпіўка – праблем ніякіх няма. Як кажуць «масьць пайшла». У такіх выпадках часта бывае, што нехта не зусім правільна разьлічыць свае фізычныя мажлівасьці і здае пазыцыі на карысьць законаў фізыкі, найпапулярнейшы зь якіх у такіх выпадках – закон прыцягненьня. Інакш кажучы – чалавек «адрубаўся». На гэты раз такі незайздросны лѐс напаткаў паэта-клясыка – Сьцяпана Гаўрусѐва.

Наш клясык замарыўся так, што заснуў за сталом у кавярні літаратараў, на першым паверсе Дому літаратара. А тут надышоў ужо й вечар. У тыя далёкія гады галоўны будынак пісьменьнікаў пасьля працоўнага дня не заставаўся пустым. Наадварот, там рабілася гаманліва, тлум людзей запаўняў калідоры, фае, залі, кавярні і рэстаран. Дом літаратара па вечарох звычайна прымаў пачэсных гасьцей, там праводзіліся розныя вечарыны, сьвяткаваліся юбілеі, ладзіліся сустрэчы з знакамітымі людзьмі.

Вось і гэтым разам канцэртная заля рыхтавалася да прыёму артыстаў. Завычай на такія вечарыны запрашаліся ведамыя кампазытары, музыкі, сьпевакі, танцоры. А ў Сьцяпана Захаравіча адключка. Зрабіўся, як кажуць, напад'ёмны. У кавярню паступова падыходзяць новыя, цьвярозыя наведнікі – зь ліку ўдзельнікаў вечаровай імпрэзы. А ў Сьцяпана Захаравіча адключка. Сьпіць за сталом. Што рабіць? Афіцыянты бегаюць, лямантуюць, а Сьцяпан – ні зьмесца. Галаву паклаў на талерку й сапе… Прыбег нават адміністратар. Крычаць у роспачы: «Забірайце свайго паэта хутчэй! Людзі ж ідуць». А ён усё сьпіць…

Тузалі яго, тузалі – «нуль эмоцыяў», сьпіць. Думаем, трэба некуды занесьці паэта. Узялі пад рукі, ногі валакуцца, цягнем. Неяк прыстроіць амаль нежывога Сьцяпана можна было толькі на другім паверсе, дзе былі асобныя службовыя пакоі і была мажлівасьць угаварыць якога гаспадара даць часовы прытулак небараку. У тых пакоях месьціўся адміністрацыйны сэктар беларускіх літаратараў, сядзелі розныя функцыянэры ад літаратуры, сакратары, рэдактары й іншае начальства, патрэбнае для жыцьця нашай прыгожай пісьменнасьці.

Прыцягнулі нарэшце абвялае цела паэта наверх і бяз стуку пхнулі найбліжэйшыя з дзьвярэй. Не ставала ўжо сілаў для нейкіх этыкетаў накшталт «дазвольце зайсьці». Працэс транспартаваньня чалавека, які ня хоча сам вам у гэтым памагчы, зьняможлівы занятак, забірае ўсю энэргію і моц, што яшчэ магла захавацца ў вашым перанасычаным алкаголем арганізме.

Тое, што адкрылася нашым вачам, было вельмі маляўнічым. Супраць акна ў позе твора мастака-дынамістага застыў чалавек з скрыпкай у адной руцэ,

з смычком у другой руцэ і з «матыльком» на музычнай шыі. Гэта быў артыст-жыдок, які рэпэтаваў – рыхтаваўся да выступу на канцэрце. Перад нашым зьяўленьнем ѐн якраз распачаў граць восьмы канцэрт Сэн-Санса, увайшоў ужо ў экстаз і таму літаральна скамянеў ад нечаканага відовішча: няпрошаных гасьцей ды яшчэ ў такім маляўнічым выглядзе.

Рэпэтыцыя была безнадзейна папсаваная. А як толькі Сьцяпана ўладкавалі ў крэсьле афіцыйных прыѐмаў, што апынулася ў пакоі, сьвіта паэта імгненна зьнікла, і артыст апынуўся «сам- насам» з «вырубленым» клясыкам беларускай паэзіі. Мне здаецца, што музыкант ѐсьць музыкант, нягледзячы на свае заслугі перад музычным сьветам, бо праблема выпіўкі й адпаведных паводзін з п’яніцамі ў іх выкладаецца ці ня з самай кансы. І наш жыдок таму пацьверджаньне – ѐн бойка скончыў сваю віртуозную п’есу і завершыў толькі што перарваны канцэрт перад немым і лагодным слухачом Сьцяпанам Захаравічам, а празь якую гадзіну ўжо раскланьваўся і перад аматарамі музыкі ды, ведама ж, паэзіі ў канцэртнай залі Дому літаратара.

# ЦІХІ АМЭРЫКАНЕЦ
# (ЖУРНАЛІСТ СЯРГЕЙ АЛАДЗЬЕЎ)

*Чым рыжэй, тым даражэй.*
*(Жартаўлівае пра сябе)*
*Сяргей Аладзьеў*

Шмат якіх людзей я ведаў у тыя савецкія часы. З шмат якімі пазнаѐміўся пазьней, пасьля развалу СССР. Але Сяргей Аладзьеў быў, пэўна што, сама ўнікальны і таямнічы чалавек ня толькі на «Бэрмудах» альбо ў кавярні «Молодежное», але й на «Пянькох», і ў «Прастудзе», і наагул, у кожным кутку Менску. Дый па-за яго межамі. У «Тэлевізар» ці пазьней у «Ясень» Сяргей зьяўляўся раніцай штодня, як на працу, у яго не было ў гэтым сэньсе ні спазьненьняў, ні прагулаў за шмат гадоў. Хоць трэба адзначыць – жыў ѐн ня блізка. Нават не ў самым Менску, а ў Самахвалавічах, што недзе за пятнаццаць км ад сталіцы па Слуцкай шашы.



*1979 год. Вольныя журналісты Сяргей Аладзьеў (справа) і Алесь Мацьвееў.*

Сяргей быў невялікага росту, але зь вялікай, разумнай галавой, якая вылучалася адметным шырокім ілбом. Уладальнікаў такіх ілбоў я чамусьці прозваў сам сабе *Homo sapiens*’амі. Пад ілбом «чалавека разумнага» Аладзьева сядзелі вельмі жывыя, блакітныя вочы, дзе сьвяцілася ўсьмешка і нейкая адметная разумнасьць. Ну й валасы на той разумнай галаве былі сьветлыя, можа, іх і можна было назваць рыжымі, але я б так не сказаў, ну, хіба што – рыжаватыя. Росту Сяргей быў невялікага, насіў адпаведна абутак трыццаць дзявятага-саракавога памеру і зьверху накідваў скураную куртку-плашч.

Праз жыцьцѐ такія «лабастыя» хлопцы, як Сяргей, мне трапляліся толькі раз ці два. Ягоны лоб нагадваў мне ведамага актора кіно – ужо нябожчыка – Дваржэцкага, а калі канкрэтней – вобраз белага генэрала з культавага фільму «Бег». А яшчэ я часта ўспамінаю Сяргея, калі выпадкова бачу галоўнага героя з бясконцасэрыйнага фільму «Кулагін і К».

Разумны лоб дазволіў Сяргею скончыць факультэт журналістыкі БДУ з чырвоным дыплѐмам. Але далейшая кар’ера журналістага раптам не пайшла. Савецкая сыстэма ў масавым парадку штампавала людзей пэўнага гатунку – бяздумных, дысцыплінаваных, пакорлівых… Ніякае іншадумства не дапускалася. Тое і ў журналістыцы. Можа, у сфэры газэтнікаў і наагул СМІ правільная ідэйная арыентацыя грала яшчэ большую ролю, чым дзе. Таму творчых людзей там не любілі і ніяк не заахвочвалі. І многія ламаліся, кідалі журналісцкае рамяство, ішлі ў іншыя сфэры жыцьця.

Сяргей быў з тых, хто не пагнаўся за кар’ерай, і калі яго «папрасілі» з апошняй працы ў «Чыгуначніку Беларусі», то ѐн наагул стаў «вольным мастаком».

* * *

Ціхі Амэрыканец – так называў Сяргея Аладзьева Саша Чарнышэвіч і, можа, меў пэўную рацыю, хоць Аладзьеў ня быў аніякім амэрыканцам, а пагатоў «ціхім». Але гэтая «мяно», натхнѐнае творам ведамага заморскага

клясыка, пасавала загадкаваму стылю жыцьця майго сябра Сяргея і мела за сабой падставу.

Першае: Сяргей Аладзьеў хоць і быў паводле базавай адукацыі журналістым, але ў жадных газэтах, часопісах, на радыѐ і пагатоў на тэлевізіі не працаваў. Ён наагул нідзе не працаваў. Але кожны Божы дзень меў папяровы рубель, які называўся «дамашні рубель», пускаў яго «ў справу» – г. зн. скідваўся зь некім «на дваіх», «на траіх» і г. д., і такім чынам цяжкі працэс апахмелу ў яго заўсѐды неяк разьвязваўся. Паводле характару Сяргей быў чалавекам прыемным, ніколі не накідваў свае кампаніі і, разам з тым, ня лез, як кажуць, па слова ў кішэню, дык ня дзіва, што амаль заўсѐды «дамашняга рубля» было досыць, каб плаўна ўліцца ў якую кампанію і працягваць «балявацць» ужо бяз грошай.

Дык вось, гэтае двухсэнсоўнае беспрацоўе Сяргея – з аднаго боку, даходаў ѐн ня меў гадамі, з іншага боку, загадкавая жонка штодзень надзяляла яго рублѐм – выклікала часам пытаньні ў пэўных сяброў нашага кола і нават скразную падазронасьць: «А ці ня служыць наш Сярога ў ведамым доме супраць «Часоў»?», г. зн. у КДБ.

Гісторыя не данесла нам праўды пра такую мажлівасьць у жыцьці С.Аладзьева. Можа, ѐн і ня меў жаднага дачыненьня да спэцслужбаў, а проста абраў сабе імідж беспрацоўнага журналістага, а можа… Ня ведаю. Хутчэй не, бо за гэтулькі гадоў знаѐмства нешта няўхільна прасачылася б, дый апошні год жыцьця, лежачы ўжо на сьмяротным ложку, ѐн нічога вартага на карысьць гіпотэзы КДБ не сказаў.

* * *

Неяк, седзячы за півам у кавярні «Молодежное», я запытаў у Міхася Стральцова, ці пісаў ѐн свае таленавітыя вершы альбо геніяльныя навэлы будучы нападпітку? На гэта Міхась адказаў: «Не, ніколі». Ён нават дадаў, што і славуты Сяргей Ясенін, і інтэлігент Аляксандар Блок пісалі толькі на

цьвярозую галаву. Наагул, для стварэньня запраўдных шэдэўраў мастацтва трэба было мець зусім цьвярозую галаву і, ведама ж, – натхненьне.

Аднак за столікам пачуліся й галасы нязгоды. Некаторыя пачалі даводзіць, што якраз пад кайфам лягчэй прасунацца ў нейкія там «тонкія сусьветы», дзе й зьмяшчаюцца галоўныя геніяльныя творы, застаецца толькі браць іх і заносіць у нашу рэчаіснасьць. Дый Творца мае асаблівую сфэру свайго ўладараньня, што ляжыць якраз на памежжы тых пачуцьцѐвых вышыняў, якія дасягаюцца толькі праз алкагольнае ці наркатычнае ап’яненьне.

Я прапанаваў увесьці парадыгму двух разгледжаных варыянтаў творчага працэсу як двух існых мажлівых шляхоў творчасьці, а які зь іх слушнейшы – вызначае сам чалавек.

Тут у гаворку ўступіў Сяргей Аладзьеў. Ён запытаў:

– А да якога выпадку аднесьці жыцьцѐ пісьменьніка Міколы Лупсякова, які ўвесь час піў і ўвесь час ствараў?

Я нічога ня ведаў пра такога пісьменьніка і папрасіў расказаць пра яго падрабязьней. Сяргей ведаў, здаецца, усѐ і пра ўсіх.

…Мікола Лупсякоў – пісьменьнік ваеннага пакаленьня. Ён ваяваў, быў цяжка паранены, меў шэраг узнагарод. Хутка й трывала ѐн увайшоў у літаратуру, яго паважалі і цанілі Янка Брыль і Васіль Быкаў, у яго магло быць усѐ… Але толькі што – магло. Ці то з прычыны сваѐй кантузіі, ці то проста так наканаваў Госпад, але Лупсякоў не пайшоў шляхам такой блізкай і даступнай кар’еры. Ён абраў сабе іншы – пакутніцкі – шлях вольнага мастака. Гэта цяпер праз аднаго – незалежны пісьменьнік, г. зн. не прывязаны сваѐй пісьменьніцкай працай да пэўнай дзяржаўнай структуры, які не атрымоўвае за сваю працу грошай ад дзяржавы. У савецкія часы як толькі ты абвесьціш сябе «вольным мастаком», то адразу трапіш у катэгорыю «туняядзец» і будзеш адказваць перад законам. Але ў выпадку Лупсякова такая схема не спрацоўвала. Можа, тут ролю адыгрывала яго ваеннае мінулае – да вэтэранаў у Беларусі заўсѐды ставіліся паважліва. А можа, і траўма галавы, якая дасталася ад вайны, давала нейкую мэдычную абарону ад татальнай сыстэмы савецкага сачэньня і ад махавіка

карнага мэханізму. Такі быў беларускі варыянт хэмінгуэеўскага страчанага пакаленьня.

«Ён начаваў на вакзале, у кацельнях, на цеплатрасах, у грамадзкіх прыбіральнях, – расказваў Сяргей, – на гарышчах, у пад’ездах, хадзіў у страшэнных лахманох, непаголены, нямыты, сьмярдзючы…

І перадусім пісаў добрыя апавяданьні.

У жахлівым адзеньні, абуты толькі ў галёшы, прывязаныя да ступнёў вяровачкамі, ён прыходзіў на радыё, што на вуліцы Чырвонай і яго прапускала міліцыя да рэдакцыі мастацкай літаратуры, бо яго ведалі, і ведалі, што прапусьціць трэба. Рэдактар грошай не пазычаў. Ён змушаў Лупсякова зарабляць грошы. «Табе трэба дзясятка? – казаў ён. – Вось табе асадка і папера – пішы апавяданьне». Рэдактар заказваў тэму, адводзіў «згубленае пакаленьне» ў суседні пакой і садзіў за стол.

Праз колькі гадзін апавяданьне было гатовае.

Рэдактар выдаваў грошы, і Мікола Лупсякоў адразу йшоў у краму, якую й цяпер называюць «Пад шпілем», браў тры бутэлькі віна і адразу ж пачынаў іх піць. Піць ён любіў пад Домам радыё, пад ёлачкамі. Міліцыя не чапала.

Неяк у міліцэйскую зводку трапіў пратакол з такім прыкладна тэкстам: «12 лютага 1972 г. у раёне Сьляпянка побач з прыпынкам грамадзкага транспарту знойдзены труп мужчыны нявызначанага веку з шматлікімі раненьнямі твару й тулава. Пры грамадзяніне дакумэнтаў не знайшлося». Экспэртыза выявіла, што гэта быў пісьменьнік Мікола Лупсякоў. Ён не дажыў месяца да 53-х гадоў».

Сяргей Аладзьеў скончыў свой аповед і замаўчаў. Маўчалі за сталом і іншыя слухачы. Пасьля гэтай сумнай гісторыі чамусьці не хацелася працягваць дыскусіі. Пытаньне аб ролі алкаголю ў творчым працэсе засталося адкрытым.

## Падарожжа ў Моладава

Аднаго разу Коля В. запрасіў мяне і Сяргея Аладзьева ў госьці на сваю бацькаўшчыну, у вѐску Моладава, што ў самым цэнтры Берасьцейскага Палесься – у Янаўскім (Іванаўскім) раѐне Берасьцейскай вобласьці. Апроч гасьцяваньня ў Моладаве, мэтай падарожжа было наведваньне вѐскі Дастоева – радзімы дзеда знакамітага рускага пісьменьніка Фѐдара Міхайлавіча Дастаеўскага. Ад Моладава да Дастоева было ўсяго чатыры кілямэтры – то грэх не наведаць.

Даехалі да райцэнтру без прыгод – на рэйсавым аўтобусе. Гарадок нічога сабе – утульны, правінцыйны. Зайшлі ў мясцовую газэту «Зара Палесься», дзе, як і можна было чакаць, у Сяргея быў знаѐмы галоўны рэдактар. Я даўно перастаў зьдзіўляцца непамернай колькасьці ягоных знаѐмстваў сярод «пісомай брацii». Наадварот, было б дзіўна, калі б у нейкім кніжным выдавецтве, газэце альбо часопісе ў яго не было б нікога знаѐмага.

Як вядзецца, адзначылі сустрэчу некалькімі шклянкамі партвэйну, у час расьпіцьця якога рэдактар даў поўную інфармацыю пра Моладава,
і пра тое, як да вѐскі дабрацца: трэба было ехаць аўтобусам да вялікай вѐскі ці нават мястэчка – Моталя. А там пешшу прайсьці, як Бог дасьць, нейкіх там восем кілямэтраў.

Моталь сустрэў нас агіднéнным дажджом. Мала таго, калі дождж трохі сьцішыўся, стала ясна, што той новы дробненькі дожджык будзе зацяжны і яшчэ болей збрыдне сваѐй манатоннасьцю і паўсюднай макратой. Як і бывае ў пахмурныя дні, такі дожджык-рунец адметны сваѐй пранізьлівасьцю і паўсюднасьцю; чалавек мокне ад яго ўвесь, з галавы да ног, вільгаць кандэнсуецца ня толькі зьверху, але й з бакоў, і паратунку няма.



Дом Хаіма Вэйцмана ў Моталі

Цяпер некалькі словаў пра Моталь. У тыя савецкія часы савецкай няпамяці назоў «Моталь» мала што гаварыў нам. Вѐска – дый вѐска. Значна пазьней я даведаўся, што Моталь – гэта цэнтар скураной прамысловасьці, там і толькі там, адмысловым чынам вырабляюць скуры і шыюць знакамітыя мотальскія кажухі. Ці вось такі цікавы факт: у Моталі нарадзіўся Хаім Вэйцман – першы прэзыдэнт Ізраілю…

…Ніводзін з гэтых цікавюткіх фактаў з гісторыі Моталя нам, прамоклым падарожным, ня быў ведамы. Тады перад намі была звычайная, да будзѐннасьці простая беларуская вѐска, якіх безьліч па ўсѐй краіне «пад белымі крыламі». Аднак, мне здаецца, што калі б мы й ведалі пра наяўнасьць такой багатай біяграфіі мястэчка, то на той час яна нас і ня ўразіла б і не натхніла б на нейкія велічныя ўчынкі. У жыцьці кожнага алканаўта – выкарыстаю такі зборны тэрмін для абазначэньня і простага п’яніцы, і шчырага алкаголіка, – пасьля прыняцьця добрай дозы алкаголю праз пэўны час няўхільна ўзьнікае стан прыгнечанасьці, стомы, які часам нават пераходзіць у фазу незразумелай роспачы і беспрычыннай тугі. Вось і мы – два менскія прапойцы, прамочаныя ўшчэнт дажджом і «недапіцьцѐм», панурыўшы свае бяспутныя разумныя галовы, самотна доўжылі свой шлях па грузкім, разьбітаму дажджом і

грузавікамі гасьцінцы, насустрач новым уражаньням і новай порцыі сьвежага самагону…

Мы выйшлі на гасцьцінец у кірунку Моладава недзе а 14-й гадзіне, і гадзіны празь дзьве паўстала законнае пытаньне: колькі ж нам яшчэ тэпаць? Перад стартам, як ужо гаварылася, мы навялі спраўкі і даведаліся, што да Моладава ад Моталя 8 км. Трэба было запытацца ў нейкага сустрэчнага чалавека пра засталую адлегласьць. А тут яшчэ адна бяда – скончылася курыва. І то ў абодвух. Сяргей неадменна курыў «Беламор», я – «Прыму». Калі ў некага не ставала ягонага звыклага тытуню – даводзілася браць тое, што курыць сябра, ці я Сяргеевы папяросы, ці ѐн – маю «Прыму». Але тут здарылася горшае – курыва ў нас зусім скончылася. А вакол – ні душы, толькі нізкія хмары паўзуць і паўзуць, насоўваюцца на шлях і зьліваюцца з прыдарожнымі хмызьнякамі.

Раптам у густым мокрым паветры вымалявалася постаць вясковага чалавека няпэўных гадоў, які йшоў, пыхкаючы цыгаркай, а мо’ самакруткай.

– Дзень добры, – вітаемся і адразу. – Ці ня знойдзецца ў Вас чаго закурыць?

– Нэ маемо, – бадзѐра адказвае палескі чалавек.

– А ці блізка Моладава? – задаем наступнае пытаньне.

– Вѐрст восем мусіць…

Гэта ж трэба! Ішлі, ішлі і зноў – восем. Ці, можа, у іх вѐрсты, ня тое, што дзяржаўныя кілямэтры?

Праз хвілін трыццаць, бачым, да нас набліжаецца мужык з бабай. Можа, у госьці да каго йшлі, ці з гасьцей. Але парачка была яўна пад мухай, гучна гаманіла на сакавітай і пявучай палескай гаворцы, прытым і ѐн і яна жвава махалі рукамі. Ну, думаем, пашанцавала, людзі зь вясельля, сквапіцца ня будуць – закурыць дадуць.

– Дзень добры, – зноў, ужо вельмі лісьліва, вітаемся і, асьцярожна так, пытаемся, – ці ня знойдзецца ў Вас якой цыгарэціны, ці хоць якога курыва? А то зусім ужо змучыліся.

– Нэ маемо, – амаль у два галасы радасна адказвае палеская парачка.

«Ну, нэ маемо дык нэ маемо! – падумаў кожны з нас, і мы таксама амаль дружна, але ўжо на адзін голас, выціскаем:

– А колькі ж нам яшчэ йсьці да Моладава?

– А вѐрст з восем будзе… – пачулі знаѐмую і сакрамэнтальную «палескую» фразу.

Выходзіць, як у нейкай зачараванай краіне. Колькі ні йдзі – ня зрушысься. Усѐ восем ды восем.

Але ў Моладава мы ўсѐ ж трапілі. Як нас ні палохалі васьмю вѐрстамі, а праз гадзіны тры-чатыры мы, дрыжучы ад холаду, дажджу і пахмельля сталічныя «мальцы», як сказаў бы мой тагачасны аршанскі спадарожнік Сяргей Аладзьеў, нарэшце ўбачылі першыя хаты чаканай вѐскі Моладава. Трывожнае і шасьлівае спадзяваньне хуткага пахмельнага глытка запаланіла маю душу і цела і, думаю, ня меньш пакутную Сяргееву душу і цела.

Знайшлі дом сябра – Колі В., зайшлі ў хату… І сустрэлі толькі ягоную маці. Коля яшчэ не прыйшоў з працы. Сьвятло патухла у маіх вачох – час чаканай шклянкі мог яшчэ настаць ня так хутка, як хацелася. Хацелася ня тое слова. Каб сказалі, йдзеце назад у Менск і там вам нальюць адразу і надоўга – то я б пайшоў! Вось яшчэ адзін момант, які адрозьнівае тыповага алкаголіка ад чалавека непітушчага: алкаголь цалкам кантралюе п’яніцу, і калі ѐн трапляе ў сытуацыю нястачы сьпіртнога, то здольны на ўсѐ і робіць усѐ, каб здабыць хоць чаго-кольвек з градусам.

Але Мікалаева маці была жанчынай гасьціннай. Яна сардэчна запрасіла нас у хату, пераабула й пераапранула, але галоўнае – пасадзіла за стол, дзе апроч патэльні з традыцыйнай яешняй на сале – вось яно шчасьце!!! – у цэнтры стала зіхцела сваім непаўторным хараством мутная пляшка палескае самагонкі…

Выпілі, угрэліся, а там і гаспадар Мікола з працы прыйшоў. Зноў выпілі. Стала цѐпла і ўтульна. Так прамоклыя і зьнясіленыя падарожнікі знайшлі сваѐ… шчасьце. Яно было хоць і мутнаватым, вадкім ды мела ўласьцівасьць

хутка канчацца, але Мікалай зрабіў усѐ, каб той жудасны момант, калі кажуць мэталічным голасам: «Гарэлка скончылася!», ніколі не настаў.

Жлопалі некалькі дзѐн. Дзе толькі ні знаходзіў Коля чарговую пляшку палескага цуду! Дом мы абшукалі ня горш за Мухтара. Гэта само сабой. Потым абшукалі ўсе хатнія прыбудовы. І ў сьвіран залезьлі, і ў лазенку, і нават у сьвіны хлеў. Езьдзілі на маторцы па чароўнай рэчцы Ясельдзе ў суседнюю вѐску да Колевых сваякоў. Былі на мясцовых могілках, дзе, як ведама, «усѐ прыстойненька і закусачка на грудку».

Але неяк раніцай я ўпарта заявіў:

– Сяргей, а ці не пара нам у вѐску Дастоева? А то так мы ўсѐ жыццѐ сваѐ прап’ем без культуры. Хіба ня ты празваніў мне вушы аб радзіме Хведара Міхайлавіча?

Я думаў, што Сяргей, прысмактаўшыся да Моладаўскіх самагонных кранікаў, не зварухнецца нікуды. Але ѐн без ваганьня адказаў:

– Даўно пара. Але як туды дабрацца?

– Коля мо’ давязе, ці хоць бы накіруе.

Назаўтра Коля, уперад добра апахмяліўшы, запраўды накіраваў нас на вѐску Дастоева. Тут была радзіма дзеда знакамітага рускага пісьменьніка Фѐдара Міхайлавіча Дастаеўскага. Для мяне асабіста Дастаеўскі значыў вельмі многае. Празь яго, пэўна, я й прыйшоў да веры ў Бога, што пазьней стане вызначальным стылем майго жыцьця і ўрэшце прывядзе да цьвярозасьці.

Але тады да цьвярозасьці было далѐка, і таму цэлую дарогу да Дастоева, даўжынѐй чатыры кілямэтры, мы ўсѐ пілі. Нарэшце, прыйшлі. і без асаблівых цяжкасьцяў знайшлі мясцовы музэй Хведара Міхайлавіча. Дырэктар яго, адданы сваѐй справе чалавек, у адрозьненьне ад нас, быў цьвярозы, і ўбачыўшы наведнікаў з самой сталіцы, пачаў зь вялікай любасьцю паказваць нам розныя цікавыя экспанаты з жыцьця сям’і Дастаеўскіх. Мне было цікава і адначасна вельмі сорамна за тое, што п’яны. Пасьля экскурсіі, каб патушыць усе большы й большы сорам, мы зайшлі ў мясцовы рэстаран – звычайную сталоўку, якая за два крокі ад музэя Хведара Міхайлавіча.

На разьліў прадавалася віно й гарэлка. І піва.

Назад я не дайшоў. Ня стала сілаў. «Змарыўся», – як любіў казаць мой малады сябра-бомж, паэт з народу Ванька Нарачанскі. Сяргей паклаў мяне недалѐка ад гасьцінца пад прыгожай бярозкай і пайшоў па дапамогу ў Моладава.

– А дзе ж Антон? – пытаецца Коля.

– Трэці рад, чацьвертая бярозка, – здолеў прамармытаць Сяргей і сам паваліўся.

Прыехалі па мяне на грузавой машыне і запраўды знайшлі пад чацьвертай бярозкай трэцяга раду. Пагрузілі, як дровы у кузаў і паехалі. Да гэтай пары я нядобрым словам пазываюся, калі Коля ўспамінае той момант. Бо цэлы тыдзень рэзкім болем адгукаліся праз усѐ цела пабітыя аб дно кузава мае худыя бакі.

Так скончылася культурная праграма нашага падарожжа на Берасьцейскае Палесьсе.

Так мы зьедзілі ў госьці да палескага сябра Колі В.

Так мы жылі ў СССР.

Так мы сьпіваліся.



*Дастоева. Сучасны выгляд.*

***

Ішлі гады, склад «сталых кліентаў» як у «Молодежным», так і «Ясені» альбо ПНУ зьмяняўся й аднаўляўся, адны «завязвалі» ці выходзілі з запою, другія, наадварот, уваходзілі ў запой і кідалі працу – адным словам, гэта было жыцьцё з сваім мясцовым каларытам і асаблівасьцямі. Адзін Сяргей Аладзьеў жыў без асаблівых катаклізмаў, гадамі прыносіў «на алтар» хатні рубель і ніколі не імкнуўся да кар’ернага росту ці нават да звычайнага мяшчанскага шчасьця з жонкай і дачкой. Хоць жонка й дачка ў яго былі – і былі яму далёка не абыякавыя.

Сяргееў зорны час усё ж настаў – з уступленьнем БССР у новы статус незалежнай краіны пад назвай Беларусь, з атрыманьнем свабоды слова, друку і веравызнаньня. Усюдыісны Сяргей пазнаёміўся на пачатку 90-х гадоў з адным прадпрымальнікам, былым сьледчым, які надумаў стаць пісьменьнікам. Некалі, адбываючы пакараньне, ён вёў на зоне дзёньнікі й вырашыў іх літаратурна апрацаваць. Для гэтага й быў запрошаны журналісты Сяргей Аладзьеў. Рэдактарская праца Сяргея дала такі плён, што ў бізнэсмэна адзін за адным сталі выходзіць дэтэктыўныя раманы пра міліцыю. Яго прынялі нават у Саюз пісьменьнікаў Беларусі.

Сяргей пачаў хадзіць у новай кашулі і заміж піва піць дарагі каньяк. Пра хатні рубель ён забыўся, бо ў кішэнях вяліся чырвонцы. І можа, усё йшло да таго, каб Сяргей празь які год-два і сам стаў слынным пісьменьнікам ці ведамым рэдактарам.

Аднак у жыцьці заўсёды ня так, як мы плянуем, ці лічым, чамусьці, што заслужылі. Гэта як закон Чызхолма: «Калі ў вас справы йдуць вельмі добра, то абавязкова здарыцца нешта вельмі дрэннае».

Раптам захварэла на рак жонка Сяргея – Валянціна. Трэба аддаць належнае Сяргею – да апошніх дзён ён быў пры сваёй палавіне. Але як толькі пахаваў жонку, зьлегла маці, і ўсё паўтарылася. І цяпер рэальнасьць была куды цяжэйшай, безвыходнай. І Сяргей, калі пахаваў праз год пасьля маці жонку, сам захварэў.

У яго за адну ноч страшэнна распухлі ногі. Гэта вынік слабой работы сэрца, матор ня здольны рэгуляваць прыток крыві на пэрыфэрыю арганізму.

Памѐр Сяргей у 2003 г. Было яму 62 гады.

## МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ

### Знаѐмства

Са Стральцовым мяне пазнаѐміў Сяргей Аладзьеў. Ён наагул ведаў шмат каго асабіста, а пісьменьнікаў дык, пэўна што, усіх. Як звычайна, зайшоўшы ў «Тэлевізар» і парукаўшыся з наведнікамі, я сярод знаѐмай кампаніі ўгледзеў новага чалавека сярэдніх гадоў. Гэны чалавек больш маўчаў і зрэдку папыхваў таннай цыгарэтай, здаецца, «Прымай». Яму яўна нямоглася «пасьля ўчарашняга», вялікія блакітныя вочы, яўна кранутыя ўчарашнім «пахмельным туманам», выглядалі стомленымі.

– Ведаеш, Антон, хто гэта? – запытаў, адводзячы мяне ўбок, Сяргей.

– ?

– Гэта выдатны беларускі пісьменьнік, паэт і крытык Міхась Стральцоў, – паведаміў сябра і дадаў, – у жанры кароткай навэлы яму няма роўных.

Гэта было вельмі цікава. Ня часта даводзіцца сутыкацца з геніямі. Інтарэс яшчэ больш узрос, калі ўрэшце, пасьля патрэбных для стабілізацыі жыцьцѐвага тонусу ста грамаў, Міхась загаварыў. Голас у яго быў ціхі, мова беларуская, але з своеасаблівымі фанэтычнымі рысамі, – як потым я даведаўся – з рысамі магілѐўскага дыялекту. Аднак і тады, і ў пазьнейшых прамовах Стральцова, апрача дыялектных асаблівасьцяў, выявіліся больш важкія, толькі яму ўласьцівыя асаблівасьці. Ён ня ўмеў гаварыць так, каб нічога істотнага не сказаць, як гэта часта здараецца. Кожная ягоная фраза мела вагу, часам была загадкавай, але гэта толькі на першы пагляд, незразумелай гэтая фраза была толькі ад нашай недасьведчанасьці. Кожная Стральцоўская фраза мела сэнс, паступова ператваралася ў цэлы тэзіс, які можна было ўспрымаць альбо не – у залежнасьці ад вашай дасьведчанасьці і інтэлекту.

На момант нашага знаѐмства Міхась Стральцоў ужо напісаў усе свае асноўныя празаічныя і публіцыстычныя творы, у тым ліку знакамітую аповесьць «Адзін лапаць, адзін чунь» і шэдэўр у жанры эсэ «Загадку Багдановіча». Пісаў добрую паэзію.

Аднак творчасьці Стральцова замінала п’янства, якое мела характар жудасных запояў, з усімі атрыбутамі гэтага стану – абсцынэнтным сындромам з выразным «калатуном» – трасеньнем пальцаў рук, ранішнім пасьляпахмельным паўпрытомным станам і іншымі выдатнымі спадарожнікамі тыповай ахвяры алкагалізму. У час нашага знаѐмства Міхасю было ўжо каля 40 гадоў, мне – на гадоў дзесяць менш.

Мы пасябравалі зь Міхасѐм імгненна, і з той сустрэчы ў кавярні пачалі часта бачыцца. Ёсьць, відаць, у кожнага чалавека такое кола людзей, зь якім яму прыемна бавіць час, прыемна гаманіць і сьмяяцца, прыемна піць тое ж віно. Як пісаў пра такую зьяву Курт Ванэгут – гэта кола людзей з *аднаго карáсу*. Стральцоў быў з майго карасу.

Неяк Сяргей Аладзьеў прынѐс сьвежы нумар часопісу «Маладосьць», перавярнуў яго апошняй старонкай – там звычайна месьцілася інфармацыя пра найбліжэйшыя публікацыі знакамітых і ня вельмі літаратараў. На гэты раз там было напісана: «У наступных нумарох часопіса чытайце новую аповесьць Міхася Стральцова «Гуляў конь на волі».

Пры сустрэчы зь Міхасѐм я запытаў, калі канкрэтна выйдзе аповесьць і пра што яна. Але ѐн нічога не адказаў, моўчкі кульнуў шклянку партвэйну і закурыў. Курыў ѐн шмат, і можа гэта нейкім ходам было прычынай яго заўчаснай сьмерці.

Але ня буду апярэджваць падзей.

Мінуў год, а абяцаны «Конь» усѐ недзе гуляў, аповесьць не выходзіла. Затое якім было наша зьдзіўленьне, калі празь некаторы час мы сталі сьведкамі «працягу» ў тым самым часопісе на той самай старонцы. Адбывалася гэта так. У адзін цудоўны студзеньскі дзень дзьверы «Маладзѐжкі» адчыніліся, і мы ўбачылі на парозе таго ж самага ўсяведнага і яўна шчасьліва-ўсхваляванага

Сяргея Аладзьева, які пераможна трымаў ува ўзьнятай руцэ асобнік часопісу «Маладосьць» і нешта паведамляў бліжэйшым наведнікам кавярні. Можна было падумаць: нарэшце аповесьць Стральцова ўбачыла сьвет. Але выявілася, што ў гэтым сьвежым нумары зноў зьмешчана паведамленьне: «У наступных нумарох часопіса чытайце новую аповесьць Міхася Стральцова «Гуляў конь на волі».

На жаль, сьвет не пабачыў новага твора Стральцова – ні ў год апошняй рэклямы «Маладосьці», ні ў наступны, ні пасьля пабыту ў ЛПП. Пасьля прымусовага, гадавога знаходжаньня ў ЛПП – лячэбна-працоўным прафілякторыі – Міхась запраўды кінуць піць. Яму было тады 47 гадоў, а ў 1987 г., у 50 гадоў, ѐн памѐр ад раку страўніка. Тыя тры гады цьвярозага жыцьця Стральцоў актыўна працаваў, але да памянѐнай аповесьці так і не вярнуўся. Больш таго, ѐн наагул нічога істотнага, на мой пагляд, больш не напісаў.

Я ня ведаю, можа дзе засталіся рукапісы, ці якія нататкі да аповесьці «Гуляў конь на волі», але гэта ўжо не мая кампэтэнцыя. Стральцоўскі «Конь» усѐ гуляе...

## Каляды

У першыя дні Новага 1980 году пасьля бурнага сьвяткаваньня году Маскоўскіх алімпійскіх гульняў я здумаў патэлефанаваць Міхасю Стральцову.

– А, Антон! Прывітаньне, стары, – так любіў зьвяртацца да добра знаѐмых Міхась. Прытым характэрна гучала не «стары», а больш – «стар-і-і-і», мяккага магілѐўскага «р», – зь Сьвятам цябе!

– Зь якім Сьвятам? – пытаюся, – здаецца, Новы год ужо мінуў...

– З Раством Хрыстовым! З Калядамі! – адказвае Стральцоў.

Запраўды, было 7-га студзеня, і ўвесь праваслаўны хрысьціянскі сьвет мусіў сьвяткаваць Раство. Але гэта было б цяпер. Тады, у эпоху «развитого социализма», ці інакш – брэжнеўскага застою – хрысьціянскія традыцыі былі

амаль забытыя, а адзінкавыя выпадкі адзначэньня якіх-кольвек рэлігійных сьвятаў нават перасьледаваліся. Вялікдзень дык яшчэ я ведаў, неяк зь дзяцінства не забывалася традыцыя фарбаваных яек і ўсяночнай каля царквы. А вось Каляды і Раство… былі зусім забытыя.

А Стральцоў ведаў і адзначаў гэтыя сьвяты.

– Прыязджай да мяне, – кажа, будзем сьвяткаваць разам.

Доўга ня думаючы бяру пляшку, сядаю ў 20-ты тралейбус – да вакзалу, а там на 40-ы аўтобус – і я на вуліцы Казінца, дзе жыў Міхась. Ён тады займаў аднапакаёўку, недзе на верхнім паверсе. Пазьней – пераехаў у трохпакаёвую кватэру на вуліцы Апанскага, адкуль яго і выпраўлялі ў апошнюю дарогу.

Падымаюся. Званю. Адчыняе дзьверы ўжо добра нападпітку, але вельмі гасьцінны, гаспадар. Стол увесь пазастаўляны бутэлькамі, перадусім з-пад вінных вырабаў. Бутэлькі пад сталом, проста на падлозе – валяюцца скрозь. Аднак ехаў я не дарма, літаратурны вечар быў наперадзе, нягледзячы на батарэю пляшак.

*На гэты раз Стральцоў прачытаў мне лекцыю пра Забалоцкага, якога вельмі паважаў. Ён чытаў з памяці цэлыя старонкі, і гэта ён быў здольны рабіць нават з заплюшчанымі ад празьмерна выпітага віна вачыма.*

## Стральцоў прыходзіць у госьці

Жонка некуды зьехала, і я запрасіў «зборную» кавярні «Молодежное» да сябе ў госьці. Быў сярод запрошаных і Міхась Стральцоў.

Пагулялі добра. Паснулі – дзе хто мог: на ложках, крэслах і нават на падлозе. Хіба што на шафе нікога не было.

Чаму ўспомніў шафу?

Бо быў такі выпадак, калі шматлікая кампанія «балявала» ў навукоўца-біёляга Віці Праташчыка і «найнепрыхотлівейшы» госьць распрануўся да трусоў ды залез адпачываць на шафу. Гэтым госьцем быў вольны журналісты

Сяргей Аладзьеў. Найцікавей і найдзіўней было тое, што як толькі ўтаймаваліся госьці, раптам аднекуль зьверху, з шафы данёсься Сяргееў голас:

– А коўдра? Коўдру мне дайце. Здаецца, вецер прадзімае...

Праташчык абурыўся:

– Коўдру яму падавай! Самае высокае, пачэснае месца атрымаў, ды яшчэ незадаволены!

Аднак у мяне на час таго «баляваньня» Сяргея не было. Так што шафа была вольная.

...У шэсьць ці сем гадзін раніцы Міхась ужо быў на нагах. Прачнуўся й я. Грамада ж яшчэ спала. Сон нам ня йшоў, і настала стадыя цяжкога пахмелу.

– Стары, дзе ў цябе вады папіць, – ціха, хрыплым шэптам пытаецца Міхась.

– Ды вось, на кухні, з-пад крана.

Міша бярэ куфаль з-пад піва, налівае вады, падносіць куфаль да твару і спрабуе прагна піць. Спрабуе, бо цяжка назваць той жудасны працэс змаганьня з куфлем простымі словамі «піць ваду». Рукі ходзяць хадуном, бакал трымціць і даволі адчувальна б’е па зубах, вада расплёскваецца ва ўсе бакі... Адным словам – цяжкі трэмар і пахмел як мае быць.

– Так і зубы павыбіваць можна, – кажу. – Можа, лепш выкарыстаць мэтад ручніка?

Тут трэба даць патрэбнае тлумачэньне. Мэтад ручніка мы тады ведалі ня з нашага піцьцёвага досьведу, а праз асьвету, дакладней, праз тэлевізію. Неяк паказвалі спэктакль, і адзін з герояў, наш брат-п’яніца, ніяк ня мог данесьці да вуснаў шклянкі гарэлкі, бо надта ж трэсьліся рукі. Тады гэты герой находзіць арыгінальнае выйсьце. Ён бярэ ў левую руку адзін канец ручніка, а другі перакідвае праз шыю і бярэцца за яго правай рукой, у кісьці якой моцна сьціскаецца шклянка з гарэлкай. Наступныя дзеяньні такія: левая рука павольна апускаецца ўніз, што адначасна выклікае рух другога канца ручніка ўверх і, такім спосабам, правая рука з шклянкай таксама рухаецца ўверх – пакуль не дасягне прагных вуснаў. Нарэшце, вадкасьць пасьпяхова пераліваецца ў горла,

а нагрузка ў гэты час на правую руку мінімальная, зь яе, можна сказаць, здымаецца адказнасьць, што й дазваляе выпіць гарэлку.

...Але Міхась быў далёкі ад рэчаіснасьці, словы амаль не даходзілі да яго затуманенай галавы. Толькі калі прынесьлі піва і выпілі па добраму літру, вочы яго праясьніліся, пахмельныя зморшчыны на стомленым твары разгладзіліся, а рухі цела сталі дакладнымі і цэльнымі.

Ён абвёў вачыма кухню, дзе на стале, пад сталом – усюды, дзе можна – красамоўна валяліся цыгарэтныя «бычкі», кубаркі з-пад кансэрваў, абгрызкі хлеба й шматкі таго, што некалі было каўбасой. Чамусьці гэтую карціну «панскага стала» завяршалі шахматныя фігуркі двух сланоў і чорнага фярзя, што немаведама як трапілі на талерку з марынаванай кількай. Міхась трохі памаўчаў і сказаў:

– Ці то тут сьвіньні пасьвіліся, ці то шляхта балявала?

Сьвіней у нас не было, а вось шляхецкіх замашак ставала – баляваць мы любілі, хоць і ня так, як нашыя продкі, за сталом славутых князёў Радзівілаў ці Сапегаў недзе ў Нясьвіскім палацы, – а ў ня менш выдатным месцы – у мікрараёне Серабранка гораду Менску, дзе вось другі дзень як даюць «Агдам»...

## Стральцоў і Вагнэр

Я вельмі люблю нямецкага кампазытара Рыхарда Вагнэра. Неяк, пасьля некалькіх шклянак віна, мы выйшлі з «Маладзёжнага», дасталі па цыгарцы і разгаварыліся пра музыку. Ня ведаю чаму, але гаворка зайшла пра Вагнэра. Тут высьветлілася, што й Міхась Стральцоў любіць музыку вялікага немца. У мяне дома, у Серабранцы, была кружэлка з запісам некаторых твораў Рыхарда Вагнэра, і я запрасіў у вольны час прыехаць і паслухаць. «А цяпер мы можам паслухаць, га, стары?» – запытаў Міхась. Усе засьмяяліся, бо была відавочнай яўная пасьпешлівасьць дзеі – вось-вось мусіў зьявіцца ганец па чарніла. Але Міхась не жартаваў. І мы аддзяліліся ад кампаніі і пацягнуліся праз увесь горад

у Серабранку, каб паслухаць «Палѐт валькірыяў» і ўвэртуру да опэры «Тангейзэр». Узьнѐслая, Боская музыка прыцягвала й чаравала, і не было ўжо ні камуністых, ні сацспаборніцтваў, ні Саюзу Савецкіх... Гэтая кружэлка ѐсьць у мяне і цяпер, але, на жаль, яе ўжо не паслухаеш, бо час наклаў на яе непапраўныя шнары, і ляжыць яна як памяць пра незабыўныя сямідзясятыя…

Засталося, праўда, адно пытаньне: *ці чарніла патрабуе Вагнэра, ці наадварот, але наслухаўшыся «Валькірый» так і хочацца кульнуць чарку гарэлкі ці шклянку «Агдаму»*?

## Стральцоў і батаніка

Ці вось яшчэ момант. Улетку 1978 году мы зь Міхасѐм апынуліся неяк у Серабранкаўскім садзе, што каля адпаведнага возера. Прыгарнуліся да травіцы ды пра нешта гутарылі. Было горача, і паступова, як пусьцела бутэлька, сьціхала й гаворка. Раптам Міхась запытаўся: «Ці ведаеш ты, Антоне, што гэта?», паказваючы на нейкую травінку, якая для мяне заўсѐды мела назву такую ж, як і ўсякая іншая «наземная» расьліна з саду, – «трава». «Не», – кажу. «Гэта, – кажа Міхась, – звычайная канюшына. А вось гэта зь мяцѐлкай – лісахвост. Тая расьлінка з блакітнымі кветачкамі – крынічнік, добры антытаксічны сродак. Гэтая трава завецца купальнік...» Міхась заўзята, як вучоны-батанік, апавядаў пра кожную расьліну.

Вельмі зьдзіўлены, я запытаў, адкуль такія веды, бо не батанік жа ѐн паводле адукацыі. Стральцоў адказаў, што «пісьменьнік павінен дасканала ведаць усѐ, пра што ѐн піша. І калі піша пра траву, то мусіць ведаць, што гэта за від і што гэта. Калі піша пра аблокі, то адразу трэба адзначыць, якія яны – пярыстыя ці хмаравыя. Калі піша пра характар чалавека, то бязь веданьня псыхалѐгіі не абысьціся. І так ува ўсім. Пісьменьнік як ні хто мусіць мець унівэрсальныя веды», – сказаў ѐн на заканчэньне.

Міхась Стральцоў ведаў тэмы свае творчасьці ўва ўсѐй шырыні. Ён быў спэцыялістым сусьветнай літаратуры, як паэзіі, так і прозы, драматургіі. Мог

без падрыхтоўкі прачытаць цэлую лекцыю аб творчасьці Генрыха Мана ці Мікалая Забалоцкага. Прытым і ў час добрай выпіўкі алкаголь амаль не чапаў яго лёгікі й памяці, і нават з заплюшчанымі ад алкаголю вачыма ён без запінкі дэклямаваў вершы, урыўкі з паэм самых розных паэтаў. Міхась Стральцоў быў, ведама, вельмі таленавіты паэт і геніяльны празаік. У апошнія гады жыцьця каля яго роем таўкліся шматлікія «пачаткоўцы», дый больш сталыя паэты, і ўсім ён, як мог, памагаў. Мне здаецца, што яго безадказнасьцю шмат хто злоўжываў, а час, патрачаны на якога графамана, ён мог выкарыстаць зусім інакш, напісаць тое, чаго за яго ўжо ніхто не напіша. Бо часу заставалася няшмат...

*Але ніхто ня можа ведаць, колькі дадзена яму часу. Найбеспэрспэктыўнейшы занятак лічыць мажлівыя варыянты мінулага жыцьця й плакаць аб «бязмэтным іх праходжаньні».*

## Стральцоў і жанчыны

«Куріные мозгі» – любіў паўтараць Міхась, калі гаворка заходзіла пра жаночы пол. Але жанчыны яго любілі праз усё жыцьцё. Нават у Мазырскім ЛПП, дзе яму давялося адбыць год, у яго закахалася жанчына з турэмнага пэрсаналу і потым слала яму лісты.

Мне здаецца, што Міхась таксама паважаў слабы пол, бо ён быў у існасьці рамантыкам і, як паэт, мог закахацца вельмі моцна.

*Але што да яго меркаваньня аб роўні інтэлекту жанчын, то... запраўды, а раптам да Стральцова варта прыслухацца?*

## Сена на асфальце

У Менску Міхась адчуваў увесь час вялікую адзіноту. Менск душыў і прыгнятаў яго. Усім тым, хто вырас у вёсцы, знаёмая настальгія па родных краёх, колькі б яны ні пражылі ў горадзе. Стральцоў адчуваў гэтую

настальгію больш чым хто, адчуваў як Мастак і Чалавек – і гэтая любоў да вёскі, цяга да яе адчуваецца ў шмат якіх ягоных творах. Разам з тым Стральцоў быў высокаадукаваны чалавек, тонкі інтэлігент, і вёскі было ўжо для яго мала. Таму й апынуўся ён у горадзе, дзе ўсё ж больш мажлівасьцяў для здавальненьня духоўных патрэб. Але ўсё гэта разам утварыла запраўднае замкнёнае кола, зь якога нельга было вырвацца. Пра жыцьцё ў горадзе ён казаў: «Загналі нас у катакомбы». Яму не ставала ў горадзе паветра, а вёска была такой далёкай і нерэальнай. Гэты сталы антаганізм гораду й вёскі ў ягонай душы змушаў пісьменьніка шукаць выйсьця ў асяродзьдзі такіх жа, як і ён, своеасаблівых вясковых «эмігрантаў», людзей, якія не маглі «пагадзіць» вёскі й гораду ў сваім нутраным жыцьці. І таму «Сена на асфальце» – гэта й яго твор, і яго жыцьцёвая філязофія.

Бяз гэтага сымбіёзу гораду й вёскі не зразумець натуры Міхася, яго нутранага жыцьця, сьветагляду, тут, мне падаецца, й ляжыць ключ да раскрыцьця «*загадкі Стральцова*», як сказаў Рыгор Барадулін на юбілейным вечары пісьменьніка.

**20 кастрычніка 2009 г. (З дзёньніка)**

*Сёньня, седзячы ў Інтэрнэце, раптам патрапіў на сумную зьвестку – памёр ведамы журналісты, былы загаднік катэдры журналістыкі БДУ Барыс Стральцоў. Успомніў, як «у тыя славутыя гады» юнацтва і бестурботнага бадзяньня па савецкім Менску, мы сядзелі з дзьвюма бутэлькамі (а мо трыма?) у дзіцячым парку імя Горкага разам з двума Стральцовымі – Міхасём і Барысам – двума славутымі літаратарамі, і гаварылі пра жыцьцё.*

**Пахаваньне Асобы**

Тры гады цьвярозага жыцьця – ад часу выхаду з ЛПП да заўчаснай сьмерці – мінулі для Стральцова хутка – у напружанай працы і шуканьнях

сябе... Выйшлі ягоныя кнігі паэзіі «Выбранае» (1987), але славуты «Конь» так і не зьявіўся.

Міхася ўзялі на дзяржаўную працу ў часопіс «Нѐман» рэдактарам. У рэдакцыі часопіса, што месьціўся на рагу праспэкту Леніна й Варвашэні, заўсѐды можна было ўбачыць пісьменьніка, вельмі часта ў атачэньні сьвіты «пачаткоўцаў», што пішчом лезьлі ў паэзію, часта ня маючы для гэтага патрэбных даньняў.

Неяк, ужо ў 1987 г., я сустрэў Міхася ў тым раѐне каля «Нѐмана», здаецца, блізу плошчы Перамогі – ці Круглай плошчы, як яе звалі менчукі.

– Забяжы да мяне ў рэдакцыю, – кажа, – сходзім у кавярню, каньячку пастаўлю.

– Ты ж ня п’еш, – кажу.

– Яно то так, але затое люблю пачаставаць сяброў, мне гэта прыемна. Успомнім былыя паходы. Іншы раз так хочацца зноў перажыць радасьць нашых сустрэч...

І тут я ўспомніў, што амаль дзесяцьцю гадамі раней, у 1978 годзе, ѐн падарыў мне сваю кнігу выбранага, дзе напісаў: «На ўспамін аб радасьці сустрэч...»

Але, на жаль, я так тады і не «забег», мітусьня дзѐн не пускала. І дарма. Але хто ж мог падумаць... Літаральна празь якія два-тры месяцы тэлефануе Сяргей Аладзьеў:

– Ведаеш сумную навіну? Стральцоў памѐр. За тры месяцы згарэў ад раку страўніка.

Цікава, што Сяргей заўсѐды першым аднекуль атрымліваў навіны такога кшталту, асабліва першыя зьвесткі пра сьмерць якога знакамітага пісьменьніка, іншага супольнага знаѐмага. Празь яго я даведаўся, прыкладам, пра сьмерць Уладзіміра Караткевіча, Алеся Шлега, паэта-клясыка Сьцяпана Гаўрусѐва, Яўгена Крупенькі, Міколы Федзюковіча і шмат каго іншых. Толькі пра яго асабістую сьмерць паведаміла ўжо ягоная дачка Натальля.

Безумоўна, знаходжаньне за кратамі цэлы год моцна падарвала здароўе пісьменьніка. Верх цынізму называць ЛПП (Лекава-працоўны прафілякторый) – лячэбнай установай. Гэта адно з жудасных вынаходніцтваў савецкай сыстэмы, фактычна, працяг сталінскага ГУЛАГу ў нашы часы. «Лячэньне» ў ЛПП накіравана на здушэньне волі чалавека, зьнявагі ягонай чалавечай годнасьці, паўгалоднае існаваньне ўсімі кінутага чалавека. Найбольшы ўдар знаходжаньне ў гэтай установе наносіць па творчых натурах, па такіх людзях, як Міхась Стральцоў. Мне здаецца, што пасьля Мазырскага «прафілякторыя», а дакладней – турмы, ѐн так і не ачуняў запраўды. А Саюз пісьменьнікаў змог бы яму памагчы, змог бы выцягнуць з таго пекла. Баяліся. Як заўсѐды, баяліся запэцкацца, баяліся страціць пасады, баяліся за сябе... І загубілі Чалавека і Асобу.

«Лячэньне» дорага абышлося Стральцову. Пасьля, у яго ўвесь час балелі ногі, якія застудзіў у сутарэньні бібліятэкі ЛПП, дзе працаваў апошні час бібліятэкарам. Хваробы заўчасна апанавалі яго. Можа адгукнулася й няспыннае курэньне. Так ці не, але ў 50 гадоў Міхася ня стала.

Тое, як абышлася савецкая сыстэма зь Міхасѐм Стральцовым – гэта вялікае злачынства. Такія людзі – з талентам ад Бога – нараджаюцца вельмі рэдка, іх трэба шанаваць, на іх трэба маліцца. І я думаю, што калі адбудзецца Суд над камунізмам «Нюрнберг-2», адной з спраў аб злачынствах камунізму пасьлясталінскага пэрыяду будзе «Справа аб зьдзеку над талентам і здароўем беларускага пісьменьніка Міхася Стральцова».

...Труну зь целам Міхася Стральцова выставілі ў Доме літаратара, што на вуліцы Фрунзэ, 5. Людзей, каб разьвітацца, прыйшло вельмі шмат. Быў нават заказаны духавы аркестар, які граў «Пахавальны марш» Шапэна ды яшчэ нешта сумнае. Калі выносілі труну, я апынуўся побач з музыкамі. Надарылася паўза і я пачуў:

– Жмур-то, говорят, был известный писатель, – кажа «трамбон» свайму калегу з трубой.

– Так должны больше забашлять, – адказвае «труба» і, набраўшы паветра, зноў надзімае шчокі.

...Па Круглай плошчы разносяцца жалобныя гукі.

Дасьледнік беларускай літаратуры, ангельскі вучоны Арнольд Макмілін выпусьціў у 1975 г. уЛондане грунтоўнае дасьледаваньне «Гісторыя беларускай літаратуры», дзе без прызмы эсэсэраўскага соцрэалізму, панавалага ў савецкай літаратуры таго часу, прааналізаваў шлях беларускай літаратуры ад XII ст. да нашых дзѐн (сярэдзіны 70-х гг. XX ст.). Гэтая кніга канчаецца такімі словамі:

*«Аднак найбольш лірычным з усіх беларускіх пісьменьнікаў жанру кароткага апавяданьня зьяўляецца Міхась Стральцоў, адзін з найбольш выдатных прадстаўнікоў пакаленьня, літаратурная дзейнасьць якіх пачалася ў 60-я гады. Паэт-філѐзаф і пільны крытык, Стральцоў асабліва паважаны за яго высокаэкспрэсыўную, эмацыянальна ўзвышаную прозу».*

## МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ

Мікола Федзюковіч паходзіў з той часткі беларускага Палесься, якое славіцца сваѐй цудоўнай самабытнай гаворкай, не падобнай ні да беларускай літаратурнай мовы, ні да ўкраінскай. Праўда, некаторыя рысы палескае гаворкі нагадваюць украінскую, асабліва ў фанэтыцы. Значна пазьней, у канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў, Мікола Шэляговіч назаве гэтую мову яцьвяжскай, а яе носьбітаў – жыхароў Берасьцейскага Палесься – яцьвягамі («Етвязь»). Ён нават складзе граматыку гэтай мовы, створыць грамадзка-культурнае аб'яднаньне «Полісьсе» і будзе дамагацца сусьветнага прызнаньня новай яцьвяжскай нацыі. Але апрача выхаду газэты «Збудзіньне» (здаецца, гады два-тры выходзіла), рэальных вынікаў не было. Не захацелі палешукі стаць асобным ад беларусаў народам. Можа, і дарма... Застаўся той край толькі часткаю Беларусі, а мог бы называцца – Берасьцейскае Палесьсе. Ці Этвязь!

Нічога гэтага ня ведаў Мікола Федзюковіч, бо тварыў ѐн у застойныя 70-я і 80-я, пісаў свае вершы на добрай літаратурнай беларускай мове, гаварыў таксама на ѐй.

Федзюковіч быў добры паэт. Ведалі яго ня толькі ў тыя гады, ведаюць і цяпер. У 2009 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў тамок ягонага «Выбранага».

***

У той векапомны час, далѐкі ад перабудоў, мітынгаў і Чарнобыльскіх шляхоў, сядзела ў «Тэлевізары» «цѐплая кампанія»: тры геніяльныя паэты – Мікола Федзюковіч, Яўген Крупенька, Лѐнька Шугалей, журналісты Сяргей Аладзьеў, мастак Дон Антоніѐ і я. Пілі ня то «Вермут», ня то «Агдам», але дакладна нешта смачнае. Кампанія была ўжо ў той стадыі, калі праблема самой выпіўкі даўно выракавана і быццам бы нікому й не цікавая. І вось у тыя лепшыя

з лепшых хвіліны алкагольнага сумоўя на першы плян пачынае выходзіць важная праблема міжнароднага становішча, альбо праблема дачыненняў паміж сабутэльнікамі, ведамая ў народзе пад кодавай назвай «А ты мяне паважаеш?»

Той раз спрэчка разгарэлася паміж паэтамі Міколам Федзюковічам і Яўгенам Крупенькам. Паляшук Федзюковіч быў ня проста добры паэт, але і паэт дыпламаваны. Ён скончыў знакаміты Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве, вучыўся зь вельмі паважанымі пісьменьнікамі. Асабліва ганарыўся ѐн знаѐмствам з зоркай рускай паэзіі Мікалаем Рубцовым. Але ў той няшчасны дзень ляўры выпускніка Літінстытуту і сяброўства з Рубцовым узяўся аспрэчваць дзіцячы паэт Яўген Крупенька, які таксама скончыў гэтую ўстанову.

Хмель і крыўдныя словы, сказаныя Крупенькам, нарэшце зрабілі сваю брудную справу. Міколу стала бракаваць словаў і ѐн, каб замацаваць сваю тронную прамову больш выразна, ляснуў з усяе сілы шклянкай па стале. Як і можна было чакаць, у выніку такога ваяўнічага дзеяньня шклянка разьбілася, ды так, што ў розныя бакі паляцела шкло, а рэшта віна ў выніку нейкай адмысловай траекторыі дасягнула да Яўгена і нават трапіла яму ці не ў твар.

– Гаўняк ты! – адно здолеў выціснуць з сябе пакрыўджаны такім не інтэлегентным паваротам падзей паэт Крупенька. У гэтым ѐмістым слове ѐн выказаў усю крыўду за зьнявагу яго літаратурных прыгодаў у Маскве і яшчэ большую крыўду за абліты віном пінжак і нос.

– Гэта ты ГАЎНЯК!!! – пераможна замацаваў акт разьбіцьця шклянкі Федзюковіч і, абвѐўшы вачыма ўсіх, хто там быў, завершыў сваю выснову нечаканым дадаткам: – Усе вы гаўнякі!

Рэакцыя нецьвярозай багемы не пасьпела праявіцца. Мы не заўважылі, што за спрэчкай назіралі ня толькі мы. Можа, за колькі сэкунд да хуліганскага ўчынку палескага паэта ў кавярню зайшлі міліцыянты, і як столік наш быў каля самых дзьвярэй, то яны сталі самымі беспасярэднімі сьведкамі вайны беларускіх паэтаў. Нечаканасьць візыту міліцыянераў яшчэ больш абцяжарвалася для нас фактам знаходжаньня на стале не схаванай у час

бутэлькі чарніла, дзе па-здрадніцку цямнела вадкасьць аматараў Бахуса і Музы. Да таго ж, пабітая шклянка, гнеўныя, вылупленыя вочы літаратурных апанэнтаў, адным словам – «кліенты гатовыя».

Так нам і сказалі:

– Пройдѐмте!

Гэтае славутае «пройдѐмте», сказанае вуснамі міліцыянтаў, значыла ў тыя часы вельмі многае. У гэтай простай фразе хавалася праграма вашага жыцьця на бліжэйшыя колькі гадзін, а можа, і сутак. «Пройдѐмте» гарантавала вам штраф мінімум 30 рублѐў, «паперу» (акт аб правапарушэньні) на працу ці месца навучаньня. «Пройдемте» значыла таксама «хаджэньні» па знаѐмых і іншыя шляхі, мажліва, кантакты зь лейтэнантам, што Вас афармляў, каб адкупіцца, парваць «паперу».

Усе ў шчыльным атачэньні мянтоў рушылі ў міліцыю. У тыя часы парушальнікаў грамадзянскага спакою прымалі ў гэтак званых «апорных пунктах». Гэта невялікі пакойчык, звычайна побач зь месцам правапарушэньня, дзе складаюць пратакол, а потым выпускаюць ці выпраўляюць па этапу ў райаддзел, калі парушэньне больш сур’ѐзнае і «пахне» суткамі.

Пачалі дапытвацца і складаць пратакол «За распитие». «Падпісвайце, а то можа быць і горш, калі падпадзеце пад артыкул «за дробнае хуліганства», – вучыў нас маладзенькі, але вельмі шустры лейтэнант. «Лепш прызнацца ўва ўсім, назваць запраўднае месца працы, месца нараджэньня і іншыя патрэбныя зьвесткі, і вам сьвеціць наймякчэйшы артыкул за расьпіце сьпіртавых напояў у грамадзкім месцы, – падсумаваў ѐн і дададаў. – І пойдзеце па хатах».

Што тут паробіш – пішам. Некаторыя пачалі прасіцца, выбачацца, адным словам, заігрываць зь мянтамі.

Адзін Мікола Федзюковіч увесь час, ад пачатку хапуна і да апошняга «пакаяннага» моманту падпісаньня папер, маўчаў, можа, перажываючы больш за міліцэйскую прыгоду нядаўную абразу ў кавярні. Толькі, калі чарга падачы паказаньняў дайшла да Федзюковіча, ѐн раптам падаўся ўперад, выпрастаўся і гучна сказаў, відавочна зьвяртаючыся да ўсяго аддзелу міліцыі:

– Гоўны вы! – і, набраўшы поўныя грудзі паветра, яшчэ гучней крыкнуў, амаль у твары новых, што ўвайшлі на шум, міліцыянтаў. – Усе вы гоўны!

*Як ні дзіўна, памер штрафу Міколу выпісалі такі самы, як і іншым «тэлевізарным» парушальнікам.*

У 2010 г., праз трыццаць гадоў пасьля памянѐных падзей і праз трынаццаць гадоў пасьля сьмерці Міколы Федзюковіча, у залатой сэрыі выдавецтва «Мастацкая літаратура» – «Беларуская паэзія XX стагоддзя», выйдзе ягоная кніга вершаў і перакладаў. Вось што напіша літаратар новага пакаленьня Юрась Пацюпа ў рэцэнзіі на кнігу Федзюковіча:

*Што такое сѐньня добры паэт? Каго цяпер гэтым зьдзівіш? Сѐньня, каб заняць пачэснае месца ў літаратуры, мала... а зрэшты... і зусім ня трэба быць добрым паэтам. Трэба напісаць так, каб усе пляваліся, а потым праверашчаць... ці прабляяць казьліным голасам свае, выбачайце, творы. От тады месца гарантавана!*

*А перада мной проста кніга добрага паэта, запраўднага лірыка – Міколы Федзюковіча. Паэта недаацэненага пры жыцьці.*

*Ладны тамок вершаў – добрая нагода адкрыць для сябе проста добрага лірыка Міколу Федзюковіча. Адкрыць наноў ці адкрыць упершыню.*

---

## ...І ТРОШКІ ПРА СЯБЕ

Пара чытачу даць нейкія зьвесткі і пра сябе. А то выходзіць, што й той пісьменьнік п’яніца, і той... Мастакі – не малююць, а ў бутэльку глядзяць, музыкі і кампазытары – наагул п’янтосы беспрасьветныя. А ты хто? (Гэта я пра сябе). Чаму ня пішаш дысэр, не праседжваеш днямі ў Акадэмічнай бібліятэцы, якая зусім блізка ад апісваных мясцінаў – якраз насупраць Дому друку і ўжо ведамай чытачу кавярні.

Дык вось. Пра сябе.

Завуць мяне Антон. Вырас, скончыў школу і атрымаў атэстат сталасьці ў мястэчку Васілевічы, што на Гомельшчыне, за сорак кілямэтраў ад цудоўнага гораду Рэчыца.

Першая частка фільму пад назвай «жыцьцѐ» прайшла імкліва, бурна, здаецца, досыць разумна і абяцала перайсьці ў наступныя часткі плаўна, з высокім роўнем новых і цікавых дасягненьняў, здаровай жыцьцѐвай моцы…

Вось школа.

*5–9 кляс. Мадэляваньне самалѐтаў, маляваньне, акварэль, алей, Фэнімор Купэр, Майн Рыд – індзейцы, Жуль Вэрн, Аляксандр Бяляеў, Гербэрт Уэлс – фантастыка, касьмічныя падарожжы й астраномія, зоркі й іншыя сусьветы…*

*10 кляс: матэматыка – задачы, задачы, задачы й алімпіяды… Гэты новы, ні з чым непараўнальны, чароўны сьвет матэматыкі…*

*Гомель. Педінстытут. Матэматыка й плюс тэарэтычная фізыка.*

*Цягнік жыцьця імкліва набірае хуткасьць. І вось – Эйнштэйн, тэорыя адноснасьці. Квантавая мэханіка…Здаецца, Госпад не абышоў мяне сваѐй увагай, хоць я яшчэ нічога ня ведаю пра яго…*

Дзе ж тут той момант, калі я, Антон, упускаю ў сябе той магутны вірус будучага вясѐлага, п’янага жыцьця, іншых – д’ябальскіх каштоўнасьцяў, а потым як вынік – змрочных дзѐн безвыходнасьці, змроку, няспаных начэй,

дрыжачых рук і апухлага твару, фінгалаў, пераломаў, асфальтавай хваробы і славутага абсцынетнага сындрому, іншай напасьці, дараванай ужо ня Богам, а Сатаной?

Але вось што гэта? Што робіць Антон не ў чытальнай зале, а ў парку графа Паскевіча сярод маляўнічага суквецьця стракатых клюмбаў, старажытных клёнаў і белых лебядзей, што неадменна і ўрачыста праплываюць па невялічкім возеры каля паркавай танцпляцоўкі? Ён трымае першую шклянку, дзе блішчыць не вада і не ліманад, там мы бачым яе – гарэлку…

Што ж здарылася?

*Трэці курс. Узапар пяць сэмэстраў павышаная стыпэндыя, вучэньне толькі на выдатна!*

*Але й танцпляцоўка ў парку над Сожам. Прыгожыя і таямнічыя дзяўчаты. І як перад імі сябе паводзіць, калі баісься нават рот адкрыць…Таму адзін і – кнігі, кнігі… формулы…*

*– А чаму б нам ня выпіць па сто грам перад танцамі, – неяк кажа мой новы сябра Ванька Спрэсаў.*

*– Дык я ж ня п’ю.*

*– А ты паспрабуй і ўбачыш, як гэта добра. І, галоўнае, ня будзеш саромецца перад дзеўкамі.*

*Паспрабаваў. І праўда, сорам, зацятасьць як рукой зьняло. Вясёла, радасьць. І жаночае хараство стала ўжо не такім недасяжным.*

Але навука не выпускае. Новы этап. Менск і Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, фізычны факультэт, на які трапляю пераводам і ажно на чацьверты курс. Іншы ровень студэнтаў, такіх вундэркіндаў, як Антон, тут мора. А некаторыя, «прасунутыя», здаюцца недасяжна разумнымі і нашмат здольнейшымі за цябе. Як тут ня кінуцца ў роспач. Аднак усё йдзе добра. Ды вось…

*…Інтэрнат БДУ на вуліцы Паркавая Магістраль. Цяпер гэта праспэкт Пераможцаў.*

*Антону – далі абшчагу! Студэнцкія «ўваходзіны»... Раз пасяліўся – у магазын! Бяру пару пляшак гарэлкі. Наліваюць усім, не адмаўляюся й я. На добрым ужо падпітку – спаборніцтва: хто вып’е шклянку гарэлкі, утрымваючы яе толькі зубамі? Усіх зацьміў малады чалавек з прозьвішчам Пятроў. Ён лѐгка перакульвае поўненькую – 250 грамаў – шклянку, да берагоў напоўненую гарэлкай. Вось яны запраўдныя студэнты – і разумныя, і могуць добра выпіць. Менавіта так думалася тады.*

*Пачалося запраўднае студэнцкае жыцьцѐ. Першыя цыгарэты – «Трэзор», БТ, потым «Арбіта», «Гродна» і нарэшце «Прыма».*

*Віно. Партвэйны «Агдам» (1 руб. 42 кап.), «Хірса» (1 руб. 37 кап.), вэрмут «чорны» і белы (кожны па 1 руб. 22 кап.), віно «Розовое» (мянушка – «разавае») – 1 руб. 37 кап., віно «Фруктовое» (92 кап) (мянушка – «фурцава»), віно – 1 руб. 07 кап. (як жа звалася?– «Волжское!»), віно «Крепкое» – за 1 руб. 02 кап. Пра апошняе нават анэкдот быў: «Узялі за руб. дзьве, а п’еццa так добра, як за руб. сем».*

*Цягнік жыцьця яшчэ імклівей ляціць насустрач няведамаму. Ужо –* ***няведамаму****, бо фізыка – гэта ня так і проста, дый жыцьцѐ – гэта ня толькі фізыка.*

Незаўважна навуковыя інтарэсы можа й не заступілі, але зраўняліся з бурлівым студэнцкім жыцьцѐм, танцамі, музыкай, песьнямі. І тут жа першае каханьне… Алкагольныя напоі ўжо стала трываюць на ўсіх гэтых мерапрыемствах, і спадарожныя першым пацалункам і першай ночы каханьня да канца…

*Але вось цягнік – на роўнай дарозе – саскоквае з рэек, бац! Навагодняя п’янка, што доўжыцца дзѐн 10. І ...адлічэньне з унівэру ў студзені за п’янку. З пятага курса!*

Аднак праз год – сканчэньне ўнівэрсытэту, жаніцьба, служба ў войску год, нараджэньне сына, паступленьне ў асьпірантуру.

Пачалося дарослае жыцьцѐ. Бібліятэка, кнігі, фізыка, кандыдацкія экзамэны ангельскай мовы і філязофіі. Філязофіі… Але пра каго ж гэта напісана ў красамоўнай насьценнай газэце, што кідаецца ў вочы кожнаму пры галоўным уваходзе ў Інстытут фізыкі?



*Філязофстваваць мастак,*
*Думаў ѐн прыблізна так:*
*Вып’ю водкі – моц прыму,*
*Ўсю навуку абдыму!*

А побач зь вершам прыгожы малюнак вялізнай бутэлькі, што абдымае зялѐны зьмей, і з-пад аднаго зь яго зьмяіных колцаў выглядвае кволае цельца п’яніцы, што спрабуе вызваліцца ад зьмеевых абдымкаў…

І надпіс: «Асьпірант Інстытуту фізыкі Антон Кулон пасьля здачы кандыдацкага мінімума па філязофіі затрыманы ў нецьвярозым выглядзе нарадам міліцыі».

Аднак, *цягнік не спыняцца, прабівае на поўнай хадзе шлагбаўм, – пасьля асьпірантуры разьмеркавалі выдатна – застаўся мэ-нэ-эс-ам у Акадэміі навук, у той жа лябараторыі, паравоз мяняецца на цеплавоз і з новай сілай імчыць свой цягнік, які дапаўняецца новымі вагонамі, бо да фізыкі далучаецца філязофія, беларуская гісторыя й культура, усходнія рэлігіі й хатха–ѐга… Цягнік імчыць і імчыць далей, і мы бачым праз прызму часу, як віхура тых дзѐн усѐ больш перанапаўняецца, пераарыентоўваецца на новыя рэаліі, дзе ўсѐ часьцей чуцѐн вокліч «Налівай!» і наліў спраўна робіцца, чыніцца, зьдзяйсьняецца, ужыцьцяўляецца, паўтараецца, і зноў куфлі й шклянкі напаўняюцца, наліваюцца, разьліваюцца, зьліваюцца, пераліваюцца, дапаўняюцца, уліваюцца й падымаюцца, разьбіваюцца, абнаўляюцца, і так усѐ йдзе па нейкім зачараваным коле, але паступова выяўляецца, што гэта ўжо ня кола, а сьпіраль, якая закручваецца ўсѐ больш туга, пакідаючы ўсѐ менш прасторы для манэўраў, падпарадкуючы тваѐ жыцьцѐ жорсткай схеме, у якой*

*усе менш свабоды, бо ўсім кіруе адзін д'ябальскі мэханізм ці існасць, імя якой – алкаголь.*

З таго часу, калі маім жыцьцём неўпрыкмет стаў кіраваць алкаголь, пачалося запраўднае жыцьцё – на выжываньне.

Чаму я стаў сталым наведнікам кавярні «Молодежное» і шмат якіх іншых піўных бараў? Ня ведаю. Можа, дастала другое «Я», якое любіла жанчын, музыку й розных цікавых людзей. А можа, нейкае расчараваньне ў навуцы? А можа, проста ўпадабаў смак віна й піва?

А хутчэй за ўсё мяне прывяла туды таямнічая «Найвышэйшая сіла», якая цяпер – праз многія гады – зрабіла адваротнае: пазбыла найзнакаміцейшага нэктару, што вынайшла людзтва.

## Філязофстваваць мастак…

*Ной начал возделывать землю и насадил виноградник;*

*и выпил он вина, и опьянел, и [лежал] обнаженным в шатре своем.*

*И увидел Хам, отец Ханаана, наготу отца своего, и выйдя рассказал двум братьям своим.*

*Сим же и Иафет взяли одежду и, положив ее на плечи свои, пошли задом и покрыли наготу отца своего; лица их были обращены назад, и они не видали наготы отца своего.*

(Быцьцѐ, 20-23)

Як відаць з прыведзенага біблейскага ўрыўка, людзі навучыліся напівацца «да адключкі» ледзь ня з моманту стварэньня сьвету, прынамсі, адзін з першых людзей – Ной, ужо добра ведаў гэтую справу. Але зьвернем увагу на

іншае – на тое, як павялі сябе сыны Ноя, убачыўшы п’янога бацьку. Сім і Іяфэт, узяўшы для бацькі вопратку, «пайшлі задам», каб ня дай Бог убачыць яго голага, і «пакрылі яго». Вось так культурныя, далікатныя людзі павінны паводзіць сябе ў адносінах да трохі перабраўшага грамадзяніна. Хам жа, які ўбачыў свайго бацьку ў такой непрыгляднай позе, пабег і ўсім растрызвоніў пра гэта. Гэты ўчынак у Бібліі жорстка асуджаецца, й ягоныя вынікі ведамыя. Слова ж «хам» стала прыкметай чалавека з хамскімі, нахабнымі паводзінамі. А Бібліі трэба верыць, бо гэта Кніга Кніг – у ѐй захоўваецца ўся мудрасьць, вынайдзеная і ўзрошчаная чалавецтвам.

На жаль, савецкая камуністычная сыстэма забараніла Біблію, а заміж яе ўвяла свае хамскія бязбожныя законы і правіла сужыцьця. Адным з такіх нечалавечых набыткаў савецкай сыстэмы была запраўднае паляваньне на выпіўшых людзей органамі міліцыі і наступная жорсткая рэакцыя грамадзкасьці, дакладней, працоўнага калектыву на свайго члена, які трапіў у пастарунак.

Менавіта так, па-хамскі, абышліся з імною пасьля здачы кандыдацкага экзамена па філязофіі, калі выпусьцілі той векапомны абражальны плакат зь вершаваным прыветам «Філязофстваваць мастак…», пра які я ўжо гаварыў. Потым гэтая гісторыя аукнулася мне пры прахаджэньні чарговай працэдуры абраньня па конкурсе на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка. Першы, пасьля асьпірантуры, тэрмін я прайшоў без прыгод, бо быў патрэбен і шэфу, і інстытуту. І тады пра «паперу» зь міліцыі нават не ўспомнілі. Але яшчэ праз тры гады – а гэта быў 1982 год, год сьмерці Леаніда Ільіча, абставіны зьмяніліся карэнным чынам. Дало пра сябе знаць пагаршэньне эканамічнае сытуацыі, што адбылося падчас кульмінацыі праўленьня Брэжнева – найбольшага росквіту эпохі «развитого социализма». Па ўсѐй краіне прайшлі першыя скароты працоўных кадраў і найбольш яны закранулі акадэмічныя інстытуты. І тут падчас чарговага конкурсу «на замяшчэньне пасады малодшага навуковага супрацоўніка» я нечакана атрымліваю больш чорных шароў, чым трэба. І вылятаю з Акадэміі навук.

У 35 год я нарэшце пачаў самастойнае жыцьцѐ. Той самы цягнік «Школа – унівэрсытэт – асьпірантура – навука» урэшце спыніўся. Пачаўся новы этап жыцьця, які вымагаў новых рашэньняў, новых думак, новых мэтаў. Але за плячамі ўжо быў алкагалізм як факт быцця.

# МІКОЛА КАПЫЛОВІЧ

*Мікола Капыловіч – мой зямляк. Мой, Міколы Захаранкі і Івана Мележа. Ён зь Лельчыцкага раёну, куды трэба было ехаць з Хойнікаў, што 40 кілямэтраў ад маіх Васілевіч. Але адметна тое, што туды, у Хойнікі, вядзе чыгуначная ветка, і якраз дзякуючы гэтаму адгалінаваньню Васілевічы лічацца ўжо ня проста чыгуначнай станцыяй, а чыгуначным вузлом.*

*У «Тэлевізары» цанілі Капыловіча за сумленнасьць, імкненьне да праўды і здольнасьць піць не п'янеючы. Нельга сказаць, што Мікола не п'янеў зусім. Такіх людзей, відаць, на сьвеце няма. Але вось піць, піць і ня падаць, захоўваць здольнасьці да інтэлектуальных размоў, калі можна так назваць «жывую гаворку» пасьля прыняцьця літру чарніла на душу, такіх людзей было няшмат. Беларускі празаік Мікола Капыловіч адносіўся да катэгорыі такіх «талерантных» да напояў людзей.*

## *Капыловіч і Каралішчавічы*

Неяк Мікола надумаў пайсьці ў творчы адпачынак і паехаў у славуты Дом пісьменьнікаў, што ў Каралішчавічах. Там сярод лесу, у цішы, у асяродзьдзі калег-пісьменьнікаў нараджаліся запраўдныя літаратурныя шэдэўры. І кожны год, ці з нагоды ці, найчасьцей, проста так, Мікола стараўся ўцячы ад цывілізаванага сьвету сюды, на «ўлоньне прыроды», і тварыць, тварыць…

Вось і гэтым разам празаік усеўся за невялікі столік ува ўтульным пакойчыку Дома адпачынку пісьменьнікаў і дастаў шарыкавую ручку. Ён прыехаў сюды з цьвѐрдым намерам пісаць штодня па адным разьдзеле сваю новую аповесьць.

Напісаў першую фразу, а дакладней – загаловак «Дні ціхай восені». Крыху падумаўшы, дадаў: «Разьдзел 1». Потым пераправіў: «Разьдзел першы». Паклаў асадку і здумеўся: «Толькі задумак было, а тут нешта ня йдзе…». Раптам нехта гучна таўхануў дзьверы і на парозе намалявалася постаць суседа, паэта-пачаткоўца – Алеся Т.

– Мікола, цягні шклянкі, прамочым трохі горла, каб лепш тварылася нам на тутэйшай прыродзе. Пара фаўстаў ѐсьць – шчасьліва мовіў пачатковец. (Даведка: «Фаўстам» называлася бутэлька ѐмістасьцю 0,7 – 0,8 літра).

І тут Мікола зразумеў, чаго яму так не ставала для паўнаты творчага экстазу – ста грамаў. Ведама, можа гэта й ня так, можа й ня ста грамаў не ставала, а нечага іншага, але Мікола тады так ня думаў, зьяўленьне суседа было як выратаваньне ад можа й непатрэбнага яму пэцканьня паперы, што завецца напісаньнем аповесьці.

І скора два літаратары ў Доме пісьменьнікаў у Каралішчавічах ужо мірна гутарылі пра жанчын і няякаснае віно, якое з кожнай шклянкай рабілася ўсѐ лепшым і лепшым… Творчы дзень скончыўся. Затое пачатковец – быў найпрыемнейшым хлопцам, ѐн пісаў геніяльныя вершы, якія дэклямаваў усѐ гучней з чарговым прыѐмам шклянкі вэрмуту ў сваѐ маладое нутро. Пачаткоўцу, дарэчы, было ўжо сорак гадкоў, але так ужо завялося: тыя паэты, якія ўпершыню выпускалі сваю кніжку, а часта гэта быў невялічкі зборнік з бібліятэчкі паэта, набывалі статус маладога паэта і званьне «пачаткоўца». Ну, як у войску, скажам, пасьля вучылішча курсанты атрымоўваюць званьне лейтэнанта.

На наступны дзень Мікола прачнуўся з самым наважлівым настроем і ў сваім эпахальным пісьменьніцкім сшытку пасьля ўчорашняга няўдалага стварэньня адразу напісаў: «Разьдзел другі». Але от бяда – раптам нешта сьціснула галаву, і ўчорашні субантуй пачаў вылазіць найпаскуднейшым ходам – пахмельным сындромам. Давялося зайсьці да суседа…

Недзе праз тыдзень пасьля памянѐных падзей я разам з сваім сябрам – яшчэ з адным паэтам – Віктарам Стрыжаком – заехалі ў Каралішчавічы ў госьці

да яго самога (Віктар часова там працаваў на «блатной» працы, качагарам) і да знаёмых мне пісьменьнікаў. Я ведаў, што Мікола Капыловіч там працуе над новай аповесьцю. Вось да яго мы й завіталі адразу.

Пастукалі – цішыня. Гаспадара, відавочна, не было дома. Дзьверы незачыненыя. І мы зайшлі. Перад вачыма паўстала маляўнічая карціна: батарэя пустых бутэлек на стале, пад сталом, пад крэслам, пад ложкам, пад… – ну, усюды, дзе ёсьць пустое месца. А пусткі, калі й былі, то даўно запоўніліся цыгарэтнымі бычкамі й рэштай заскарузлых скарынак. Але на тумбачцы красававаўся эпахальны «пісьменьніцкі сшытак».

Я ўзяў сшытак у рукі і прачытаў: «Дні ціхай восені. Разьдзел першы». Ніжэй – «Разьдзел другі». Яшчэ ніжэй – «Разьдзел трэці»… І гэтак далей – па колькасьці дзён да нашага прыезду.

Так Мікола Капыловіч выканаў сваю сьветлую задуму пісаць кожны дзень па разьдзелу новай аповесьці.

На ягоным прыкладзе чарговы раз перконваесься ў геніяльнасьці выказваньня: «*Калі п'янка замінае працы, то кінь яе». Што кінуць – п'янку ці працу, кожны выбірае сабе сам, як каму даспадобы*.

Мікола тады абраў варыянт больш цярністы і гераічны – шлях п'янкі.

### ***Капыловіч на «Пяньках»***

«Пянькамі» называлася піўніца на вуліцы Валгаградзкай, недалёка ад яе перакрыжаваньня з вуліцай Кузьмы Чорнага. Некалі, у канцы 70-х – 80-х гадоў, распачаўся пэрыяд развіцьця гэтак званага культурнага піцьця. У Менску, дый па ўсёй Беларусі, у масавым парадку пачалі адчыняцца розныя піўныя бары, дзе ўсё рабілася дзеля таго, каб людзі не захапляліся піцьцём моцных напояў, а «культурна» забаўляліся піўком ды рыбкай. Часта наведнікаў піўніцаў прываблівалі ня толькі багатым па савецкіх мерках асартымэнтам спажываньня, але й прыгожым, арыгінальным інтэр'ерам. «Пянькі» набылі папулярнасьць праз дэкаратыўныя дубовыя пянькі, якія служылі ў піўніцы і сталамі, і крэсламі.

Адсюль і назва. Пазьней, калі гэтыя пянькі-сталы й пянькі-крэслы адслужылі прызначаны ім тэрмін, іх замянілі на звычайныя кругленькія сталы-стойкі. Аднак назва піўніцы – «Пянькі» – захавалася, і з гэтай назвай піўніца праіснавала аж да свайго закрыцця ў 90-я гады ХХ ст.

Пэўны час Мікола Капыловіч быў там сталым кліентам, ці, як той казаў, заўсёднікам. Асабліва сталым наведнікам «Пянькоў» Мікола стаў пасьля другой адсідкі ў ЛПП, куды яго справодзіла жонка разам з участковым і пры маўклівай згодзе Саюзу пісьменьнікаў БССР. Жонка ня стала чакаць вяртаньня мужа з мазырскага «курорту», афарміла развод і разьмяняла кватэру. Капыловічу дасталася аднапакаёўка, але ня ў цэнтры Менску, якой была вуліца Валгаградзкая, а за 80 км ад сталіцы – у раённым цэнтры, горадзе Маладзечна.

Мікола пагараваў, пагараваў, але рабіць няма чаго, трэба ехаць. Засяліўся наш пісьменьнік у пустую, халодную кватэру, такую неабжытую і чужую, дзе нават Менскіх прусакоў не было. Папіў трохі ў адзіноце і, ня вытрымаўшы нудоты, сеў на электрычку… А праз тры гадзіны быў на Валгаградзкай.

Няма большага шчасьця, як пасьля доўгага тыднёвага адпачынку ў маладзечанскай правінцыі зноў апынуцца ў роднай стыхіі «Пянькоў». Вось яны, знаёмыя стойкі, застаўленыя паўпустымі куфлямі, вось яны, родненькія твары п’янюг, вось ён, роўны гуд прапітых галасоў, якія зьліваюцца і расплываюцца па памяшканьні разам з сінім дымам ад цыгарэт «Прыма». Не, адсюль Міколу ўжо так проста ня выкурыш!

Такім чынам, беларускі празаік зьбег з сваёй ссылкі і з раніцы да вечару тырчэў у піўніцы. А як жа ноч? Дзе ж начаваць? – заканамерна спытаеце вы, прасякнуўшыся спагадай і любоўю да выгнанца-пісьменьніка. Няўжо цягнуцца праз доўгія кілямэтры да абрыдлай маладзечанскай хаты?

Толькі магутны паляшуцкі розум, якім і быў розум Капыловіча, быў здольны разьвязаць гэтае найскладанейшае пытаньне зь мінімальнымі затратамі як у фізычным пляне, так і ў маральным.

Пытаньне разьвязвалася так. Пад самы занавес, перад закрыцьцём, звычайна ў піўніцу заходзіў дзяжурны нарад міліцыі. Міліцыянты разганялі

адносна цьвярозых людзей па дамох, на самых п'яных афармлялі пратаколы ці здавалі ў выцьвярэзьнік. Міколу яны добра ведалі і як сталага кліента піўніцы, і як двойчы прапісанага на «лячэньне» ў мазырскім прафілякторыі, і як пісьменьніка… Таму яго нікуды й не накіроўвалі, дый не было куды, – на Валгаградзкай ѐн ужо прапіскі ня меў. Дый на нагах Мікола заўсѐды трымаўся добра, бо, як я ўжо казаў, да піцьця ѐн быў здольны майстра.

І раптам Міколу асяніла: раз вы не прапаноўваеце мне ніякіх варынтаў далейшага існаваньня, то прапаную я.

– Хлопцы, – зьвярнуўся Мікола да міліцыянтаў, – забярыце мяне ў выцьвярэзьнік, можа, там ложак вольны знойдзецца, а то няма дзе пераначаваць. Усѐ роўна ж яна будзе пуставаць, калі ня знойдзецца небарака-п'янтос. А прасьціна мне непатрэбная, я загартаваны.

Міліцыянты спачатку аслупянелі, а, калі ўцямілі ў чым рэч, зарагаталі на ўсе «Пянькі». Аднак начлег пісьменьніку ў выцьвярэзьніку яны з'арганізавалі, *бо паважалі беларускага клясыка.*

Гэтая практыка так падабалася Міколу, што наступны раз ѐн ужо не чакаў прыходу міліцэйскага нараду, а самастойна накіроўваўся ў выцьвярэзьнік і, калі былі вольныя месцы, адпачываў.

### *Капыловіч вывешвае бел-чырвона-белы сьцяг у Маладзечне*

Пасьля афіцыйнага закрыцьця «Пянькоў» у пачатку 90-х гадоў Міколу ўжо нічога ня стрымвала ў сталіцы, і ѐн пасяліўся нарэшце ў сваѐй аднапакаѐўцы ў Маладзечне на сталае жыхарства. Пісьменьніцкі хлеб прыносіў мала прыбытку і ў савецкія часы, а ў тыя гады, – развалу Савецкага Саюзу, абвяшчэньня незалежнасьці і ўтварэньня Рэспублікі Беларусь, тады калі ўсѐ ламалася, перабудоўвалася, адраджалася, калі ўтварыўся Беларускі народны фронт і сотні тысяч людзей кінуліся хто на мітынгі і шэсьці, а хто й на стадыѐн «Дынама» гандляваць калготкамі і красоўкамі, прывезенымі з Польшчы ці Турцыі, – у тыя «бандыцкія» часы кожны выкручваўся як мог, і не абмінуў гэты працэс і

пісьменьніка Міколу Капыловіча. Аднак ѐн нічога не ўмеў, апрача таго як пісаць апавяданьні ці аповесьці. За гэта грошай не давалі, дый да пеньсіі яшчэ было трохі гадоў. Трэба было недзе працаваць, каб не памерці.

І Мікола ўладкаваўся вартаўніком. Вартаваў ѐн ня што-небудзь, а будынак Маладзечанскага гарсавета. Трое сутак дома, а суткі – на службе, сядзіш сабе ва ўтульным пакойчыку пры галоўным уваходзе ў гарсавет і вартуеш яго 24 гадзіны. Нічога рабіць ня трэба, ѐсьць шмат вольнага часу, можна і пісьменьніцтвам займацца.

Але Міколу пісьменьніцтва прыелася ўжо за савецкія часы, яго ўсур’ѐз захапілі ідэі БНФ, ѐн пачаў наведваць мітынгі, прыслухоўвацца да новых, зусім не савецкіх размоў. Прываблівала й тое, што аратары амаль заўсѐды прамаўлялі па-беларуску, – і Капыловіч пачаў думаць, што б зрабіць такое добрае на карысьць Бацькаўшчыны ў свае ўжо немаладыя гады.

І дадумаўся. Неяк падчас свайго дзяжурства ѐн ціхенька, незаўважна прынѐс да сябе ў дзяжурку куплены папярэдне ў сядзібе БНФ бел-чырвона-белы сьцяг, і цѐмнай ноччу, калі ўсе дэпутаты і пра́таньніцы гарсавету бачылі чацьвѐртыя сны, вывесіў яго на самым казырку будынку – там, дзе звычайна вісіць афіцыйны дзяржаўны сьцяг.

Газэты не абмінулі гэтую неардынарную падзею і пісалі: «*Сѐньня ноччу невядомы вывесіў сьцяг на будынку Маладзечанскага гарсавета. Вось і маладзечанская зямля ўзбагацілася сваім Міронам!*»

# ІНШЫЯ ПАВАЖАНЫЯ ЛЮДЗІ

## «Утканосы сухасрак» – журналісты Ўладзімір Аляхновіч

Майстра на трапныя выразы паэт-клясык Сцяпан Гаўрусёў назваў журналістага Валодзю Аляхновіча даволі ёмка і вычарпальна – «утканосы сухасрак». У гэтай назьве адлюстравалася фізычнае аблічча Аляхновіча на ўсе 100. Ён быў даволі дробнага целаскладу пры досыць высокім росьце. Але над гэтай хударлявай, непрыкметнай постацьцю вылучаўся непаўторнай адметнасьцю нос. З усёй кволенькай фігуры Уладзіміра нос вызначаўся сваёй велічынёй і самавітым выглядам. Ну чысты Сірано дэ Бэржарак.

Праўда, выгляд Валодзя захоўваў вельмі прыстойны – адпрасаваны, хоць і паношаны касцюм, шэры гальштук і зачэсаныя назад валасы – усё сьведчыла на тое, што чалавек гэты інтэлігентнай пароды, калі не з намэнклятурных эшалёнаў. І апошняя гіпотэза не падманвала – Уладзімір Аляхновіч быў у мінулым камсамольскім інструктарам і займаў нейкі высокі пост у адміністрацыі. А як быў журналістым, то безь яго не абыходзіліся замежныя паездкі досыць высокага ўзроўню.

Некалі Аляхновіч у складзе групы шчасьліўчыкаў з савецкіх наменклатурных кадраў патрапіў нават на далёкую Сіцылію. Пра гэтае падарожжа ён любіў расказваць у нашай улюбёнай кавярні, але толькі пасьля прыняцьця прыкладна 400 грамаў віна тыпу «Агдам». Зьмест ягонай прыгоды ў скарочанай трактоўцы быў наступны.

– І вось іду я па востраву Сіцылія разам з групай савецкіх турыстаў і чую песьню. І спыняюся як укопаны пачуўшы словы:

*Купалінка, купалінка,*

*Цѐмная ночка,*
*Купалінка, купалінка,*
*Дзе ж твая дочка…*

Я падыходжу да дзяўчыны й кажу: «Скуль жа Купалінка будзе? Ня йнакш як зь Беларусі – у Італіі такіх красунь не сустрэнеш». А яна: «Вы ўгадалі, я нарадзілася ў вѐсцы Шылавічы на Слонімшчыне. Але вось ужо пяты год жыву тут, на Сіцыліі. Вельмі смуткую па Бацькаўшчыне...»

На гэтым Аляхновіч рабіў паўзу, бачачы, што слухачы ловяць ужо кожнае ягонае слова.

– І што далей? – прамаўляе нехта нецярпліва, – ці пазнаѐміўся ты зь ѐй больш шчыльна?

– Яшчэ як!

Выявілася, што Карына – так звалі дзяўчыну – выйшла замуж за італьянца і пераехала жыць да мужа. Па савецкіх часох такая зьява, як шлюб зь іншаземцам, была надзвычайнай падзеяй, такое здаралася скрайне рэдка. Яшчэ большы напал набірала апавяданьне, калі Валодзя паведамляў, што муж у Карыны быў мільянэрам, і яна запрасіла яго ў госьці. Запрасіла, хоць муж быў у адʼезьдзе, – а можа, наадварот, таму што быў у адʼезьдзе. Як бы там ні было, Валодзя зьбег ад групы, згубіўся і ўрэшце апынуўся ў ложку ў мільянэркі. Слугі прыносілі яму марціні з шампанскім і тэкілай проста ў ложак, дзе ѐн трое сутак адпачываў з чароўнай зямлячкай з вострава Сіцылія…

Пасьля расказу кампанія заціхала, кожны ў думках пераносіўся ў далѐкую недасягальную Італію, дзе пад пякучым сонцам гуляе прыгожая дзяўчынка зь Беларусі Карына.

Потым Валодзя Аляхновіч яшчэ не адзін раз раскажа гэтую гісторыю і ў «Молодежном» і па-за яго межамі, а калі зʼяўляліся новыя людзі, то нехта з старых абявазкова прасіў у яго: «Валодзя раскажы пра мільянэрку!…»

**Князь Полоцкий – Лѐнька Шугалей**

*Из полей доносится «Налей!» –*
*это Лѐнька, Лѐнька Шугалей.*
*Народнае.*

*Лѐня Шугалей нарадзіўся ў 1934 годзе ў слаўным градзе Полацку. З слоў Шугалея вынікала, што ягоны бацька быў княскай крыві, яшчэ ад Рагвалода, і ў яго адзін з найбагацейшых радаводаў у Эўропе. Лѐнька быў паэт, але, як нідзе не працаваў, то лічыўся паэтам вольным, здаецца, нонканфармістым. На лета ѐн звычайна зьязджаў на Поўнач – на Пячору альбо ў які Нарыльск, а зімой бавіў час у «Тэлевізары» і ў кампаніі свайго сталага спонсара Антона Кавальчука – ѐн жа Дон Антоніѐ. Яго так і звалі – Донаў ад'ютант.*

*Сам Лѐнька Шугалей не адзін раз хваліўся, што вучыўся ў адной клясе зь Белавежскім Зубром – Станіславам Шушкевічам. «У него был большой умный лоб, по которому удобно было бить щелбаны», – часта ўспамінаў пра Шушкевіча Лѐнька, калі гаворка заходзіла пра былога сьпікера Паралямэнту Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча. Аднак апрача гэтых садысцкіх пстрычак ні пра якія іншыя цікавыя падзеі, зьвязаныя зь белавежскім зубром, Лѐня нам не расказваў.*

*Лѐнька Шугалей быў ці не адзіным з нашай «тэлевізарнай» кампаніі, хто карыстаўся вылучна рускай мовай і ніколі не спрабаваў перайсьці на нашую рабочую мову – беларускую, што дамінавала ў «Тэлевізары».*

*З усѐй багемнай камапаніі «Тэлевізару» і «Ясеня» Лѐня Шугалей быў адзіным, хто пабываў не ў ЛПП, а ў запраўдным турэмным лягеры – у Мікашэвічах. Ён адсядзеў год за алімэнты, якія мусіў плаціць сваѐй былой жонцы Ядзі.*

*– Антон – у меня есть 3 копейки. Давай выпьем! – так гаварыў Лѐнька Шугалей.*

**Шугалею – 50!**

*Не царям, Лемуил, не царям пить вино, и не князьям – сикеру*
*Прытчы 31,4*

Лѐня Шугалей хоць і быў князем, але сікеру ніколі ня піў. Піў ѐн усѐ ж царскі напой – віно. Праўда, тое віно мела агульную назву «чарніла» і, відавочна, юдэйскія цары ўяўленьня ня мелі пра «Осенний букет», «Золотую осень», «Аромат садов»…

На пяцідзесяцігодзьдзе князя-паэта Сяргей Аладзьеў напісаў верш зь якога мне запомнілася толькі тое, што вельмі даўно, яшчэ да вайны ў гэты дзень – 10 чэрвеня 1934 г. – нарадзіўся «малютка Шугалей». Малютка жыў на завулку Казлова, д. 8, што недалѐка ад кінатэтра «Смена», так яскрава апісанага А. Бахарэвічам у кнізе «Праклятыя госьці сталіцы».

Стол накрывала яго старэнькая мама, якая, як і шмат якім нашым знаѐмым самотным бабылѐм, была яму адзінай блізкай істотай. На стале, апрача «Осеннего букету», стаяла няведама акуль узятая бутэлька каньяку. Маці, хоць і змагалася ўсѐ жыцьцѐ за цьвярозасьць сына, на юбілей прыхавала вельмі добрую па савецкім часам пляшку.

*Ночь, улица, фонарь, аптека,*
*Бессмысленный и тусклый сьвет.*
*Живи еще хоть четверть века –*
*Все будет так. Исхода нет.*

*Умрешь – начнешь опять сначала*
*И повторится все, как встарь:*
*Ночь, ледяная рябь канала,*
*Аптека, улица, фонарь.*

Шугалей сам быў паэт, але гэтыя радкі з Аляксандра Блока былі ў яго ўлюбёныя і ён часта цытаваў іх.

І калі Лёнька чытаў Блока, ён потым казаў: «*У меня есть 3 копейки. Давай выпьем!*»

## ***Шугалей і Дон Антоніё***

Гэтую парачку, як я ўжо казаў, звалі Дон Антоніё і яго ад’ютант. Дон быў мастак-манумэналісты, і бывала, што мастацкі камбінат даваў яму неблагі ганарар. Грошы дадому Антон не любіў насіць, ён любіў іх «красіва» прапіць. Вось для гэтых мэтаў вельмі добра й падыходзіў, кажучы пратакольнай мовай міліцыі, «нідзе не працуючы Лёнька Шугалей». Шугалей быў запраўдным, да канца адданым справе каманьёнам у расьпіцці сьпіртавых напояў. Ён заўсёды быў «у страі», у яго не было пэрыядаў дэпрэсіі альбо цьвярозага пэрыяду, ён быў надзейны, як малянкоўская шклянка альбо куфаль піва пасьля бутэлькі гарэлкі.

Часта, асабліва тады, калі ганарар Дона Антоніё быў ладны, гэты ганарар цешыў ня толькі яго вока і ня толькі Лёнькава, а шмат якіх іншых наведнікаў піўніцы. Лёнька быў і ганец – не зважаючы на салідны век – і прыемны гутарысты, і першы сябра Дона Антоніё. Як і шмат якія людзі малога росту, ён меў вялікую талерантнасць да алкагольных напояў. Я, прыкладам, ня помню, каб ён хістаўся, ці адрубаўся за сталом. Гэтая якасьць таксама ставіла яго ў шэраг Донавых VIP-пэрсон.

Дык вось, пры атрыманьні досыць салідных грошай Антон сабіраў самавітую й пажондную кампанію, якая йшла гуляць не ў якую там кавярню ці піўніцу, а на «культурную фазэнду». Фазэнда насіла назву «Купал Антоніё». Ня трэба думаць, што ў назьве ёсьць нешта італьянскае, рымскае. Не. І не бразільскае, альбо інданэзыйскае, дзе згодна з легендай некалі бавіў дні юнацтва Антон Кавальчук.

«Купал Антоніѐ» – гэта накрытая альтанка ў двары аднога з дамоў прыватнага сэктару на вуліцы Някрасава – акурат насупраць мастацкага камбінату. Камунікабельнасьць Антона чыніла цуды. Аднаго разу і – як выявілася, надоўга – ѐн пратаптаў сюды сьцежку – у двор незнаѐмага гаспадра, які наважыўся пусьціць у свой дом-крэпасьць незнаѐмую кампанію выпівох, якія былі прыемнымі гасьцямі, вясѐлымі, вялі размовы пра высокія матэрыі, ніколі не сварыліся і тым больш, не распускалі рукі. Наадварот, ад іх быў пэўны прыбытак, першае: ад здавання пустых бутэлек пасьля выпіўкі, і другое: гаспадара заўсѐды запрашалі і налівалі першую чарку.

Кампаніі Дона таксама было добра: можна было баляваць «на прыродзе» колькі хочаш. Ні адзін мент ня суне нос «Пад купал»! А па савецкіх часох сама мажлівасьць правесьці такім парадкам некалькі гадзін, а то й дзень сярод тлумнага й гаманкога гораду – раўнялася падарожжу на курорты Піцунды.

У тыя шчасьлівыя часы Лѐнька не казаў «*у меня есть 3 копейки*». Ён заяўляў: «Антон, давай вып’ем!» І Антон ставіў на стол альтанкі скрыню віна, якая, як ведама, зьмяшчала 20 бутэлек ѐмістасьцю па 0.5 літра кожная.

## КІНАРЭЖЫСЭР ГАЛЯ МАЦЬВЕЕВА

*Галя Мацьвеева ўварвалася ў нашу мужчынскую кампанію, як тайфун, яна пахавала нашыя штодзённыя шуканьні самотнага рубля на карысьць жыцьця іншага, такога, дзе пры сустрэчы двух «адзіночастваў» не даводзіцца з апошняй надзеяй пакорліва зазіраць у вочы адно аднаму, такога жыцьця, дзе заўжды поўныя шклянкі віна, а піўны кранік не перасыхае суткамі. І вось, няўдзячныя п’яніцы, бяз кроплі сарамлівасьці п’юць і п’юць самыя розныя алкагольныя напоі, якія здабыла для іх слабая жанчына. Імя гэтай Выратавальніцы – Галя. Дзе брала грошы Галя мы ня ведалі й не хацелі ведаць. А трэба было б…*

*Як толькі наставаў час «пустых кішэняў», яна зьнікала на некалькі гадзінаў і неўзабаве зьяўлялася з ладнай кіпай рублёў. Баль доўжыўся. Цікава, што Галя даставала грошы аднолькава пасьпяхова ў самых розных раёнах Менску, куды б нас ні закідваў лёс вольнага пітука.*

### *Зьяўленьне Галі*

Неяк раніцай, пракаўтнуўшы нагбом першы куфаль піва, я разам з першай партыяй апахмеленага народу выйшаў на перакур. Дзея адбывалася ў піўбары «Голубой Дунай», што каля прыпынку Безыменны на праспэкце Ракасоўскага ў Серабранцы.

Я стаяў каля ганку піўніцы і курыў, як і ўсе ў тыя часы – цыгарэту маркі «Прыма». І тут падышла *яна*. Гэта была жанчына, яшчэ маладога веку, з апэтытнымі формамі ў гусьце Дона Антоніё – значыць з добрым кругленькім азадкам і прывабным тварам. Праўда, твар гэтай маладзіцы быў трохі пакамечаны, пад вачыма характэрныя кругі пасьля ўчарашняй п’янкі, ды выраз

гэтага твару прасіў пра дапамогу. Бязь лішніх слоў і непатрэбных прэлюдый жанчына сказала:

– Ребята, возьмите мне, пожалуйста, два бокала пива. Там в баре одни мужчины, мне так неудобно…. А пива так хочется!

З гэтымі словамі яна падала рубель, які я ўзяў, бо быў да рубля бліжэй за астатніх.

Мы выпілі піва і пазнаѐміліся. Дзяўчыну звалі Галя, і выявілася, што яна жыве ў тым жа доме, што й я, толькі яе кватэра праз два пад'езды. Высьветлілася таксама што яна працуе на кінастудыі і ўчора, пасьля замочваньня важнага этапу новага фільму, добра выпіла.

Тое, што Галя пасаромелася зайсьці ў піўбар, сьведчыла, што яна яшчэ далѐка ня ў той стадыі, калі «ўсѐ па барабану», як у некаторых сталых наведніц піўніц. Але, з другога боку, той факт, што яна запрасіла не маленькі бакальчык, ці хоць бы толькі адзін куфаль піва, а пачала адразу з двух – сведчыў, што алькагольная залежнасьць «налицо», і яна ўжо належыць да нашай братвы, да п'яніц.

Потым мы перайшлі на чарніла і кончылі знаѐмства ў нашым доме на Пляханава, у Галінай кватэры, добрай п'янкай. Галя была вельмі адукаванай жанчынай як у літаральным сэнсе, так і ў сэнсе выпіўкі. Яна скончыла Маскоўскі тэтральны інстытут па спэцыяльнасьці рэжысура і працавала на кінастудыі «Беларусьфільм» намесьнікам рэжысэра. Дзень мінуў у інтэлектуальных размовах разам з рэалізацыяй добрай колькасьці чарніла ў выглядзе віна «Волжскага». Аднак пад вечар кампанія разышлася, бо меўся адбыцца прыход яе мужа – хахла, як звала яго Галя. Хахла яна ня вельмі любіла і ў гэтым я хутка пераканаўся, бо з таго часу Галя большую частку свайго жыцьця праводзіла ня з мужам а з новай камапаніяй інтэлігентных п'яніц, у якую я яе прывѐў. А нашая мужчынская кампанія, сваім парадкам, набыла запраўды гарманічную форму, бо, як ведама, *Бог стварыў спачатку чалавека, але потым і жанчыну, каб стварэньню не было самотна ў Раі.*

## ***Галя і сэкс***

*Была весна, и дамы пахли,*
*Как свежесорванные сливы.*
*Мужчины восхищенно ахали...*
*Предпочитая все же пиво.*
*Верш з Інтэрнэту*

Ведама, калі сярод мужчын зьяўляецца жанчына, то заўсѐды ўзьнікае пытаньне аб няўхільных сэксуальных дачыненьнях. І запраўды, нават у непітушчых кампаніях рэдка абходзіцца без каханьня ці на самы апошні выпадак, без прасьцюткага палавога акту. Мушу канстатаваць: запраўды – пад кайфам праблема палоў вельмі спрашчаецца. Прынамсі, для жанчын.

Неяк, седзячы ў кавярні выстаўнага павільѐну, я выпадкова пачуў размову двух мужыкоў, у якіх я пазнаў музык, якія толькі што лабалі ў канцэрце на гэтай выставе. Мужчыны гаварылі пра жанчын. Абодва падвыпілі і, як часта бывае паміж маладымі хлапцамі, перайшлі на ўлюбѐную тэму. Успамінаючы ўчарашні дзень, адзін з музыкантаў сказаў між іншым такую фразу, што адразу запомнілася дзякуючы добрай рыфме:

– Водка ў роце – манда ў рабоце.

Скора яны падняліся й выйшлі. Я падумаў: «Вельмі слушна сказана. Ёмка і… слушна!»

Галя не была выняткам з агульнага правіла, што так трапна сфармулявалі тыя музыкі. Яна ставілася да сэксуальных кантактаў як да зносін, якія само сабой павінны быць, тым больш з тым чалавекам, зь якім ты кульнуў перад гэтым добрую чарку. Але каб сказаць, што яна, адразу кідалася ў ложак, таксама ня так, – у яе да аб’екту каханьня павінны былі ўзьнікнуць нейкія пачуцьці, блізкасьць. І вельмі важнай была блізкасьць па інтэлекту, а таксама па духу.

Усяго гэтага ў мяне было даволі, й мы імгненна пасябравалі. Хутка я ўвёў Галю ў кола маіх знаёмых па «Тэлевізару», пазнаёміў зь іншым колам – музыкальным, якое зьбіралася ў асноўным на кватэры ў кампазытара Стася. Са зьяўленьнем Галі і ў мяне і ў маіх сяброў настаў пэрыяд нейкага агульнага разгулу, сталага п’янства і нейкай поўнай бесклапотнасьці. З’ імной гэта здаралася толькі ў юнацкія гады. А тут – «зьнюхаліся» зусім ня дзеці, а высокаадукаваныя інтэлігенты самых розных прафэсіяў.

Галя таксама ўсім вельмі падабалася, бо ў яе ніколі не было праблемы з грашамі, як я казаў, дастаць на бутэльку-дзьве яна магла дзе заўгодна. Асабліва падабалася Галя Дону Антоніё, які вельмі паважаў добрыя жаночыя клубы і прываблівыя азадкі. Аднак Дон некуды мусіў ехаць, так і не зрэалізаваўшы сваіх мастацкіх праектаў што да Галі Мацьвеевай. Трэба заўважыць, што ў дачыненьні да жанчын большасьць інтэлігентных паэтаў і іншага вучонага народу нават на падпітку былі вельмі сьціплыя, ніколі не дазвалялі лішніх непрыстойных альбо мацерных слоў, не адбівалі жонак альбо часовых сябровак у сваіх сяброў. Адным словам, былі поўнымі джэнтльмэнамі.

Гэтае донкіхотства спачатку падабалася Галі, але прырода брала сваё…

Аднойчы я, як заўсёды, адзначыўся на працы ў Інстытуце, і накіраваўся да Гарыка Дзеравянкі з надзеяй на апахмел. Гарыкава кватэра была на высокім шостым паверсе, ліфта ў доме не існавала, таму падымацца пасьля ўчорашняга баляваньня, зразумела, было цяжкавата. Але тут я мужна перанёс уздым па гэтых бясконцых пацёмкінскіх сходнях, бо ведаў: там Галя, а значыцца, пахмел гарантаваны. Напярэдадні, я да глыбокай ночы змагаўся зь вінным тайфуном у кампаніі Галі, Гарыка, а таксама нейкіх паэтаў-пачаткоўцаў і палітэканома Лёхі Бурдынава. Яшчэ не зусім прапіты доўг перад сям’ёй ды думка аб заўтрашняй працы, прымусілі мяне паехаць дадому начаваць, ціха пакінуўшы п’яны народ. Галя ж так упадабала нашу кампанію, што не вярталася дадому – да свайго збрыдлага хахла – ужо некалькі сутак.

З-за дзьвярэй чуўся гуд людзкіх галасоў. Калі дзьверы адчыніліся перад мной паўстала маляўнічая карціна. Чатыры а мо’ й пяць мужыкоў сядзелі вакол

застаўленага бутэлькамі і рознай закускай авальнага Гарыкавага стала, нешта гаманілі міжсобку й кожны трымаў у руцэ, хто пустую, а хто напоўненую чарнілам, шклянку. А ў цэнтры гэтай кампаніі ў адной ночнай сарочцы сядзела Галя. Чорныя вочы зьзялі асаблівым д'ябальскім агнѐм, шчокі пакрытыя чырваньню, рукі рэзка рухаліся па складанай траекторыі лемніската і, наагул, выглядала ўсѐ так, нібы спявачка Ваенга перадала ѐй ліцэнзію на выкананьне песьні « Снова стою одна, снова стою, мама снова…»

Было ясна, што народ альбо ня клаўся спаць зусім, і ночны банкет перарос у ранішні, альбо трохі паспаўшы ўжо пасьпеў добра апахмяліцца і прыступіў да высьвятленьня адносін на вечную тэму «А ты мяне паважаеш?» Найбольш узбуджанай выглядала мая серабранкаўская сяброўка, яўна каўтнуўшая добрую дозу віна, а ня толькі піва.

Убачыўшы мяне яшчэ ў пярэднім пакоі, Галя закрычала: «Антоша, смотри какие сволочи. Я іх пою, пою, а меня никто не ебѐт! Никто не ебѐт!!!»

*У яе словах было гэтулькі непадробнай крыўды і разам з тым дзяцячай прастаты і праўды…*

## *Галя і хаўтуры*

«Мальчики, я сейчас все устрою» – казала Галя, гледзячы на нашы апухлыя, шызыя твары, на якіх як на далоні былі адлюстраваныя ўсе ўчорашнія баталіі і ночныя паходы па «точкам».

Я моўчкі пажадаў ѐй шчасьлівай дарогі і без асаблівага спадзяваньня на станоўчы вынік пачаў пракручваць у галаве ролік з адвечнай думай – «дзе дастаць…» Тады я яшчэ ня ведаў, што скептыцызм мой быў дарэмны.

Праз пару гадзінаў нашая добрая фея вярнулася. Яна запраўды сталася выратавальніцай-феяй, бо прынесла з сабой аж тры бутэлькі чарніла. І нават кола адэскай кілбасы. «Вып'ем і зьбяжым, – шапнула яна, – у мяне яшчэ ѐсьць грошы. Ня хочацца паіць ўсю гэтую хеўру».

Так мы й зрабілі. Высьветлілася, што за тыя дзьве гадзіны яна здабыла цэлых 50 рублёў. Па савецкім часох гэта была немалая сума. Пазьней яна расказала, дзе так хутка дастала грошы на апахмел.

«Некалі ў нашым доме ў Серабранцы зьбіралі грошы на пахаваньне суседа па лесьвічнай пляцоўцы, – расказала Галя, – таксы не было: хто колькі мог, столькі й даваў. У «аргкамітэт» па зборы грошай тады трапіла й я, бо памерлы быў маім суседам… Грошы назьбіралі немалыя – у доме 320 кватэр.

І аднаго разу я падумала, а навошта мне памочнікі для такой акцыі й навошта чакаць моманту калі нехта аддасьць Богу душу…»

Яна элегантна апранулася й пайшла «касіць» пянѐндзы самастойна. Праз некалькі гадзін дамская сумачка не зьмяшчала «грабавых» рублёў. Наступным разам Галя правяла такі экспэрымэнт ужо не ў сваім доме, а ў доме ў сяброўкі. Зноў усѐ зышло гладка.

Сваѐ экспэрымэнтальнае вынаходніцтва здабычы грошай Галя трымала ў таямніцы. І доўгі час мы не здагадваліся якім спосабам адкрываецца кранік дармавога чарніла добрага анѐла п’янтосаў – Галі Мацьвеевай.

Даведаліся мы ўжо на судзе. Галі далі чатыры гады за махлярства.

Так распалася кампанія «Гарык і К» на чале з Галяй Мацьвеевай.

### *Праз некалькі гадоў*

Праз некалькі гадоў вектар маіх паходаў з раѐну кавярні «Молодежное» і кінатэатру «Кастрычнік» зьмясьціўся на «Бэрмудзкі трохкутнік», альбо проста – «Бэрмуды». Я звольніўся зь Інстытуту Фізыкі, і новае месца працы было бліжэй да гэтага знакамітага месца ў горадзе Менск. Гарык стаў заўзятым шабашнікам і па паўгода прападаў у паўночнай частцы Савецкага Саюзу пад назвай Карэлія. Бурдынаў яшчэ раней асвоіў новую спэцыяльнасьць былых інтэлігентаў і стаў шчырым сібірскім бічом.

А Галя… Недзе ўжо на пачатку 90-х я яе выпадкова сустрэў на вуліцы Карла Маркса. На гэтай вуліцы жылі былыя партыйныя функцыянэры й

супрацоўнікі КДБ. Яе бацька быў палкоўнікам той страшнай установы, але на той час, здаецца, ужо ня жыў. Вось туды, на кватэру па вул. К. Маркса, дзе прайшлі дзіцячыя й юнацкія гады, і накіроўвалася Галя.

На ѐй была тая самая чорная сукенка, што й некалькі гадоў таму, калі мы блыталіся па Менску й пілі віно, былі тыя самыя, таксама чорныя, але ўжо згубіўшы свой ранейшы выгляд, чаравікі. Твар быў таксама той самы – малады, хоць у ім ужо не было ранейшай прывабнасьці, можа, таму, што яе вялікія чорныя вочы ўжо не ззялі той бесшабашнай энэргіяй, а можа, таму, што яна ўсѐ ж пасталела, а мо’ проста бокам вылезла турэмнае зьняволеньне.

Яна толькі што вызвалілася. Ці, як сказаў бы «зэк» Гарык, які за няплату алімэнтаў таксама адседзеў год: «Яна – адкінулася».

– Привет! – сказала Галя зь ціхай усьмешкай. Прыадкрыты рот прадэманстраваў пры гэтым знаѐмую мне нястачу цэнтральнага ніжняга зуба, які ѐй выбіў яшчэ ў тыя «нашыя» часы муж-хахол.

– Што, да гэтага часу так і не паставіла сабе зубы? – задаў я дурное пытаньне.

– Там дзе я была, зубы ня ставяць, а толькі выбіваюць, – з горыччу сказала яна.

Мы яшчэ трохі пагаварылі і разышліся. Назаўсѐды.

Мушу адзначыць: Галя парушыла адну з запаведзяў улана: «Не ўкрадзі!». І таму заплаціла.

## *Шмат гадоў пазьней*

Мінулым летам разам з турыстычнай групай мне давялося наведаць горад Амстэрдам – сталіцу Галяндыі. Выдатны, вельмі прыгожы горад на вадзе, з мноствам каналаў, мастоў, безьліччу ровараў і стракатай масы людзей з усяго сьвету.

Але ѐсьць у гэтым горадзе цікавае, пікантнае месца, якога больш няма нідзе на Зямлі. Гэта – квартал чырвоных ліхтароў. Амстэрдам – горад, дзе

ўзаконеная прастытуцыя. І ўсе радасьці жыцьця, усе сэксуальныя прыхамаці й фантазіі можна здаволіць за пэўную плату ў квартале чырвоных ліхтароў. Менавіта там вы можаце ўбачыць першы ў сьвеце помнік прастытутцы. Гэта невялікая бронзавая скульптура: жанчына трывала стаіць на нагах і ўпіраецца рукамі ў сьцёгны, упэўнена гледзячы ў сьвет. Скульптура ўсталёвана на плошчы побач з Старой Царквой.

Прастытутка ў Амстэрдаме мае статус прыватнага прадпрыманьніка і плаціць падаткі. Яна мае ліцэнзію, якая строга рэглямэнтуе яе дзейнасць у чыненьні сэкс-паслуг. У знакамітым амстэрдамаўскім квартале кожны дом, пад’езд, вулачка хавае за сабой бездань распусты, нават рэклямныя шыльды там маюць парнаграфічны зьмест.

Гід нашага падарожжа – рускамоўная жыхарка сталіцы Галяндыі таго веку, які ў жанчыны еўрапейскага ладу жыцьця амаль немажліва вызначыць. Гіда звалі Галіна, і родам яна зь Беларусі. Яна была яшчэ прывабнай кабетай – ладнага целаскладу, на прыгожым амаль бяз зморшчын твары вылучаліся вялікія чорныя вочы, якія, як мне падалося, хавалі таямніцу мінулых часоў і настальгію па ім.

Мова яе была спакойная, тэмбр голасу грудны зь лёгкай хрыпатцой.

Галіна вадзіла нас па калярытных вулачках распуснага кварталу і з усьмешкай адказвала на натуральныя пытані пра кошт паслуг прастытутак, якасьць жыцьця іх як прадпрыманьнікаў, а таксама пра архітэктуру квартала чырвоных ліхтароў.

Раптам яна прыпынілася і паказала на адну зь «вітрын», дзе сядзела прыгожая, амаль голая маладая жанчына, дэманструючы свае шыкоўныя формы, і сказала: «Вось паглядзіце на гэты, вельмі папулярны публічны дом Амстэрдаму, а цяпер адвярнецеся і паглядзеце назад». Усе дружна павярнуліся і перад намі паўстаў старажытны сярэдневечны будынак з скульптурнымі выявамі сьвятых, анёлаў і іншых біблійных пэрсанажаў вакол фасаду і вялізным крыжом на даху цэнтральнай вежы.

– Гэта Царква, – усьміхнуўшыся сказала Галіна. – Як бачыце, у Амстэрдаме загана і дабрачыннасьць добра ўжываюцца побач. Мала таго, вунь той дом – ня што іншае, як роддом. Так што ў нас усѐ суіснуе разам: нараджэньне і жыцьцѐ, якое кожны выбірае сабе сам – з Богам альбо безь Яго – з забавамі, распустай і асалодамі.

– Як можна дапусьціць такое суседзтва! Якая ганьба! – пачуліся абуральныя галасы дабрадзейных сябраў нашай групы. Мне таксама стала ніякавата і я запытаў:

– А як Вы, спадарыня Галіна, ставіцеся да гэтага, вы ж ўсѐ-ткі нашая, беларуска?

– Вы ведаеце, я вырасла ў атэістычным асяродзьдзі. Мой бацька быў супрацоўнікам спэцслужбаў і я зь дзяцінства чула, як ганьбавалі Бога. Потым савецкая школа і інстытут, дзе таксама не было Яму места. Я навучылася цаніць жыцьцѐ паводле іншых меркаў, агульначалавечых, не такіх як у вернікаў, дзе ўсѐ павінна адпавядаць нейкім высокім Божым Наказам. Я заўсѐды была агностыкам і прыймала жыцьцѐ, як яно ѐсьць. Таму мне, як і большасьці жыхароў Амстэрдаму, зусім усѐ роўна, якое суседзтва ў гэтай Царквы. Як і яны, я абыякава стаўлюся да жыцьця путан, гэта іх праца.

Прамаўляючы гэтыя словы, Галіна раптам глянула на мяне, і мне падалося, што я недзе ўжо бачыў гэтыя чорныя, праніклівыя вочы, і з глыбіні падсьведамасьці я адчуў іх таямніцу. Я ўспомніў Менск і тую Галю, якая заўсѐды абараняла сябе агнастытызмам, сьмяялася зь вернікаў і любіла жыцьцѐ…

*Гэта былі тыя самыя вочы.*

## ЛЮДЗІ «БЭРМУДАЎ»

### *«Бэрмудзкі трохкутнік»*

«Бэрмудзкі трохкутнік» (у прасталюдзьдзі «Бэрмуды»), уяўляў з сябе некалькі знакамітых «кропак» у самым цэнтры Менску. У яго склад уваходзілі: піўніца «Ясень» на плошчы Свабоды, піўбар «Прохлада» на Нямізе, насупраць Свята Пятра-Паўлаўскага сабора, які Стрыжак абазваў «Прастуда» – і піўніца каля кінатэатра «Победа», якая мела назоў – «Пад Пабедай».

Менавіта там мяне лѐс зьвѐў з выдатным чалавекам і таленавітым беларускім паэтам, зусім заўчасна пакінуўшым гэты сьвет – Віктарам Стрыжаком.

Паэт
Віктар Стрыжак (жыў 40 г.)

Вось яшчэ старажылы «Бэрмудаў», мае знаѐмыя са студэнцкіх гадоў, але даўно ўжо пакінуўшыя гэты сьвет:

Палітэканом
Лѐха Бурдынаў (жыў 45 г.)

Матэматык
Віця Мацьвееў (жыў каля 40 г.)

А гэты перажыў усе бітвы, цяпер бавіць час у «горадзе-герої» Ляхавічах:

Філѐзаф
Вяча Петрушкевіч

А вось вельмі цікавы малады чалавек (цяпер доктар навук), які ня ведаў нікога з папярэдніх людзей:

Эканаміст
Анатоль Громаў

## ВІКТАР СТРЫЖАК, ПАЭТ

*Жыў 40 год. Нарадзіўся ў вѐсцы Заспа, што пад Рэчыцай. Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школе. Студыяваў на філфаку БДУ ў 80-х гадах. Пасьля заканчэньня ўнівера працаваў у раѐннай газеце г. Ветка. Віктар заўсѐды марыў перасяліцца ў Менск. У 1994 годзе гэтая мара нечакана зьдзейсьнілася, і Віктар атрымаў добрую трохпакаѐвую кватэру ў Малінаўцы (далі як перасяленцу з Чарнобыльскай зоны). Праз год ѐн раптоўна памѐр, летнім ранкам прама ў холе 9-га паверха Дома кнігі па вуліцы Машэрава. Гавораць, у яго спынілася сэрца пасьля ўчарашняга добрага выпівона. Незадоўга ад свайго зыходу ў лепшы сьвет выйшла ягоная адзіная кніжка паэзіі «Рэха журбы», членскі білет Саюза беларускіх пісьменьнікаў прынесьлі да яго ўжо пасьмяротна, і на пахаваньні білет ляжаў побач з труной – там, дзе звычайна зьмяшчаюць фотаздымак нябожчыка.*

### *20 куфляў піва*

Сярод удзельнікаў «Бэрмудзкага трохкутніка» найбольшы попыт мела таннае віно, што звалася ў простага народа «чарнілам». Гарэлку народ ужываў вельмі рэдка, ды й гэта здаралася толькі з людзьмі альбо асабліва дбаючымі пра сваѐ здароўе, альбо з апошнімі «піжонамі» ды камунякамі. Піва ўжывалася ўсімі, але толькі «поутру», раніцай – на першым этапе апахмелу. «Півам душу не абманеш!» – любілі гаварыць шматдасьведчаныя старажылы пасьля законнага першага куфлю залацістай вадкасьці і нетаропка скідваліся на «чарнілку».

Аднак сустракаліся й такія – у большасьці маладога ўзросту,  што паважалі піўны кайф. Сярод іх быў і Віктар Стрыжак.

Аднаго разу ў «Ясені» сабралася вельмі пажондная кампанія й піла піва. Тут прыходзіць Дон Антоніё і замаўляе ў бармена 20 куфляў піва. Відавочна, Антон атрымаў ганарар за чарговы манумэнт і ў такія моманты ён любіў выкідваць шырокія жэсты. На гэты раз яму чамусьці захацелася напаіць народ ад пуза півам. Такую колькасьць не змясьцілі й тры сталы. Сталы тут сказана занадта, у «Ясені» ў той час стаялі так званыя стойкі, якія ўяўлялі сабой невялікія кругляки на апорах-штатывах. Кампанія, так і хочацца выказацца цяперашнім словам «братва», у складзе Лёнькі Шугалея, Віктара Стрыжака, Міколы Капыловіча, Парамелы, самаго Дона Антоніо й мяне была ўжо на падпітку, бо паспытала ня толькі піва, але й віна і таму шчыры жэст мастака-манумэнталіста ўспрыняла без асаблівага энтузіязму.  «Няма чаго рабіць... Хто яго піць будзе... Грошы выкінуў...» – пачалася незадаволеная гамана прысутных.

Толькі аматар піва паэт Віктар Стрыжак лічыў інакш:

– Што вы разумееце! Знайшлі пра што гаварыць. Падзякавалі б чалавеку. Ды я, 20 куфляў адзін вып’ю ня тое што тут – падалі аж на 6 чалавек.

І тут распачалася спрэчка.

– Ня вып’еш, – заявіў практычны паляшук Мікола Капыловіч. – Гэта ж цэлае вядро! У цябе столькі ні ў жысьць ня ўлезе.

– За раз – не. Але ў працэсе, за гадзінкі дзьве-тры – вып’ю! – упэўнена даводзіць Віця.

Паспрачаліся на скрыню каньяку. Аддалі ўсё піва паэту, самі паслалі ганца за вэрмутам, балазе Дон Антоніё працягваў шчыраваць.



*Ясеньскія арлы. Справа налева: Мікола Капыловіч, Віктар Стрыжак, Дон Антонiѐ (Антон Кавальчук), Парамэла.*

Бралася на поўдзень. Сонца пляжыць, гарачынь. Ранішнія турботы пачалі саступаць месца дзѐннаму працоўнаму рытму. Менск увайшоў у трывалую фазу дзелавога жыцьця. Токар Бэдзя на заводзе «Шэсьцерняў» амаль скончыў сваю дзѐнную норму, студэнтка Юля Шаршнѐва сышла з трэцяе пары ў «Пінгвін» за марозівам, а чародка вераб'ѐў у сквэры ля «Ясеня» суцішылася, ўбіраючы цяпло чэрвеньскага сонца.

У адрозьненьне ад токара Бэдзі, нашыя «ясеньскія» людзі ня выканалі аніякіх працоўных нормаў і нават не патурбаваліся пра выкананьне прамых абавязкаў творчае інтэлігенцыі, напрыклад, напісаньня чарговых вершаў паэтамі Шугалеем і Стрыжаком ці закладаньня падмурка новага апавяданьня Капыловічам. Не, тут уладарыла зусім іншае жыцьцѐ й зусім іншыя праблемы займалі галовы сяброў.

«Вып'е ці не? – вось як гучаў на той момант тэкст знакамітай шэксьпіраўскай фразы.

Недзе праз гадзіны паўтары-дзьве, падмацаваўшы нашыя творчыя патэнцыялы яшчэ праз адну «ходку» ў 20-ты магазын[1], мы апынуліся перад неверагодным фактам: Віктар пасьпяхова завяршыў сваю няпростую задачу. Вось нарэшце ѐн выцер ад піўной пены насоўкай свае далікатныя вусікі і сказаў: «Усѐ. Даўно так добра не балаваўся піўком».

І тут Дон Антоніѐ, вялікі жыцьцялюб, аматар жанчын, Лацінскай Амэрыкі й азербайджанскага партвэйну, прапанаваў працягнуць баляваньне на прыродзе. Дакладней – на Камсамольскім возеры, дзе ад сьпѐкі можна было схавацца ў вадзе. Сказана – зроблена, кампанія амаль у поўным складзе – без заўсѐдніка «Ясеня» злодзея-рэцыдывістага Парамэлы – перамясьцілася на траўку за колькі мэтраў ад бруднай, хоць яшчэ й не тэхнічнай на тыя часы вады Камсамольскага возера.

Як дзеці, плѐхаліся ў вадзе п’янтосы – літаратары, асьпірант-фізык і мастак-манумэнталісты, размаўлялі, жартавалі, сьмяяліся, зноў нешта пілі, але ўсім было добра. І не без прычыны – усе ўпершыню за бягучы год вырваліся на прыроду, адарваліся ад радзімай піўнухі і раптоўна адкрылі свае вочы на прыгажосьць прыроды.

І тут Віця Стрыжак зноў зьдзівіў нас. Ён заявіў, што пройдзе на руках дзесяць мэтраў, нягледзячы на вялікую колькасьць выпітага піва. Народ ужо не спрачаўся, але паступіла гіпотэза – піва пачне выліваццa, як толькі Віктар апынецца дагары нагамі.

Тое, што паэт можа хадзіць на руках, не выклікала ні ў каго зьдзіўленьня, Віктар меў атлетычную фігуру, займаўся ні то штангай, ні то барацьбой і быў на той час яшчэ амаль юнацкага ўзросту. Але як пасьля 10 літраў піва перавярнуцца дагары нагамі й прайсьці на руках аж 10 мэтраў? Сапраўды, піва пачне выліваццa.

Тым ня менш Віктар стаў на рукі і пайшоў. Мэтар, два, ..., дзесяць. Прайшоў.

І ні грама піва ня вылілася.

---

[1] 20-ты магазын – гастраном на вул. Леніна ў Менску, які меў № 20. Цяпер там італьянская рэстарацыя.

## Радуніца на Ваенных могілках

*Гамарня горада*
*Нядзельнага*
*Панесла гоман свой*
*Па келлях,*
*І раптам захацелася*
*За мѐртвых выпіць*
*Келіх.*

(Віктар Стрыжак. Рэха журбы)

У адзіным пажыцьцѐвым зборніку Віці Стрыжака «Рэха журбы» ѐсьць верш, прысьвечаны мне. Ён пачынаецца з радкоў, што стаяць у эпіграфе.

…У той майскі дзень мы сьвяткавалі Радуніцу на Ваенных могілках гораду-героя Менску. Неяк Сяргей Аладзьеў паказаў мне там цікавае месца, дзе злучаюцца мінулае, сучаснасьць і будучыня, дзе мѐртвыя ўваходзяць у нябачны, таямнічы кантакт з жывымі і вядуць зь імі невідочны дыялѐг, дзе ляжаць лепшыя беларусы, і іх несьмяротныя душы аддаюць вам часьцінку сваѐй любові. Той куток на могілках знайсьці не складана. Трэба… Але лепш паслухаць Стрыжака…

*Шчыміць мой смутак*
*Надвячоркавы,*
*Які развеяць*
*Не бяруся…*
*Правей –*
*Магіла Чорнага,*

*Лявей –*

*Магіла Труса…*

Вось там, ва ўтульным месцы паміж надмагільляў Кузьмы Чорнага, Паўлюка Труса і Эдуарда Самуйлѐнка, любілі мы выпіць чарку і пагаманіць, падумаць, памарыць…

Тым больш на Радуніцу. На Радуніцу йсьці на могілкі да памерлых і зь імі выпіць чарку на Пасху за ўваскрослага Хрыста – гэта ўжо не п'янка, а старажытны парадак, традыцыя, вялікае праваслаўнае сьвята. І ў тыя далѐкія ад Бога савецкія часы мы шанавалі Радуніцу.

Вось і той раз, на Радуніцу, я павѐў Віцю Стрыжака на тое знакамітае месца сустрэчы зь пісьменьнікамі мінулых часоў. Быў тады працоўны дзень, камуністыя мѐртвых не любілі памінаць. Але, нягледзячы на некалькі дзесяцігодзьдзяў татальнага вынішчэньня народных традыцый й хрысьціянскіх абрадаў, Радуніца ў народзе сьвяткавалася непарыўна. І калі мы ўвайшлі на тэрыторыю могілак, то ўбачылі, што дзе-нідзе купкамі стаяць бабкі, дзяды, наогул пажылыя і ня вельмі людзі, якія прыбіралі могілкі, раскладалі на прымагільных лавачках невялікую трапезу і бралі памінальную чарку. Мы таксама прымасціліся побач з Паўлюком Трусам і Кузьмой Чорным і расклалі сваю няхітрую закуску – парэзанае сальца, хлеб, цыбулю. Дасталі дзьве паўлітровыя пляшкі віна, адкаркавалі і пачалі памінаць лепшых сыноў Бацькаўшчыны. Настаў той спакойны, «шчымлівы» час сумоўя з мѐртвымі, які бывае толькі на могілках і толькі ў пэўны час…

Але нядоўга працягвалася тое сумоўе. Раптам за сьпіной Віці я ўбачыў постаць чалавека ў пагонах. Гэта быў міліцыянт, другі «падасінавік»[1] ужо стаяў каля мяне.

– Распиваем?… Нарушаете общественный порядок, граждане! Пройдемте!

[1] “Падасінавікамі” ў савецкія часы звалі міліцыянераў за фуражкі з чырвонай стужкай. Здалѐк яны нагадвалі грыб падасінавік.

– Сёньня ж Радуніца. Мы памінаем гэтых людзей, – паказваем на помнікі пісьменьнікам.

– Это что – ваши родственники? Нет? Тогда быстренько собрались и на выход. В отделении разберёмся, что и как вы празднуете в рабочее время.

І нас забралі ў пастарунак. Не дапамаглі аніякія аргумэнты – маўляў, мы й ня думалі гарэлку піць, а прыйшлі на могілкі, каб ушанаваць народныя традыцыі, і наш доўг – наведаць гэтых геніяльных людзей, якіх ужо даўно няма з намі і г.д. Мянты аказаліся не прабівальнымі. Пры «исполнении». Калі нас вялі паміж магільнымі плітамі, бабкі спачувальна глядзелі нам ўслед, а адна нават пераҗагнала. «Чаму ж бабулек не арыштоўваеце?» – яхідна запытаў Віця. «Маўчаць, а то палучыце, п'янтосы!» – гаркнуў адзін з мянтоў, відавочна вышэйшага званьня.

Такім чынам нас даставілі ў апорны пункт, як «паложана» афармілі пратаколы і адправілі па дамах з задачай: «як выкупіць гэтыя паперы, каб не прыйшлі на працу?» Зразумела – задачу кожны сабе ставіў самастойна, яе фармулёўка залежала ад таго, наколькі адчувальную шкоду магла прынесьці міліцэйская папера.  Бо ведамыя выпадкі, калі людзей нават звальнялі за гэта, а ўсялякія паходы да начальства «на кавёр», пазбаўленьне прэміяльных і паніжэньні ў пасадах – гарантаваліся на ўсе сто.

Праз некалькі гадоў мы з Стрыжаком зноў езьдзілі на могілкі, але ўжо не тыя, а Чыжоўскія. І не на Радуніцу. Гэта было ўжо пасьля сьмерці Міхася Стральцова. Віця прыехаў з Веткі, куды ён зьехаў на сталую працу ў раённую газэту. Як водзіцца пры сустрэчы сяброў, мы добра выпілі, успомнілі Стральцова, з якім абодва сябравалі пры ягоным жыцьці. І надумалі наведаць ягоную магілку.

…Сказана – зроблена. Узялі з сабой трохлітровы слоік піва і паехалі. Так, гэта быў, здаецца 1988 год, Мішы ўжо год як не было з намі. І ў той,  час якраз быў росквіт, так званай, супрацьалкагольнай кампаніі. Гарэлка й віно сталі дэфіцытнымі таварамі, а піва адпускалася толькі ў сваю тару і народ неадменна цягаў з сабой розныя банкі, слоікі.

Доўга блыталіся, але месца пахаваньня Стральцова ўсѐ ж знайшлі. Надгробнага помніка яшчэ не было, і наагул выглядала на тое, што за год ніхто так і не наведаў генія беларускай літаратуры. Мы прыселі на траўку каля магілы, бо нават лавачкі якой-кольвек побач яшчэ не было. Выпілі па глытку піва. Утраіх. І доўга маўчалі. Цішыня, летняя сьпякота і могілкі.

Мы заснулі каля апошняга прытулку Міхася, абодва. Адзін з левага боку ад сьцежкі паміж магіламі, другі – з правага. Міхась Стральцоў быў па цэнтру, ѐн быў з намі і адначасова далѐка ад нас. Але ў кожным разе ѐн быў рады нашаму прыходу. Можа таму й агарнуў нас сон…

Я прачнуўся, калі стомленае сонца ўжо схілілася над нашым амаль пустым слоікам і адкінула ад яго даўгую цень на няўхожаную магілу Стральцова. «Што гэта было з намі?» пачуўся голас Віктара, які амаль адначасова са мной расплюўчыў вочы і выпрастаўся. – «Чаго та мы паснулі, ды так дружна?»

Сапраўды, выглядала гэтае паломніцтва да магілкі Міхася Стральцова даволі дзіўна.

*Пройдзе яшчэ 14 гадоў, і я накіруюся ў новае паломніцтва – ужо да магілкі самаго Віктара Стрыжака.*

**Бывай, Віця!**

…Гэта было, мабыць, раньняй вясной, бо яшчэ ляжаў сьнег, Віця забег да мяне проста на заняткі ў тэхналягічны інстытут, дзе я працаваў тады старшым выкладчыкам.

– Дай мне 20 капеек на хлеб, – кажа.

Ішоў 1996 год. Кульмінацыя майго ўзыходжаньня па прыступках п'яніцы і нясьведамага алкаголіка. То быў час пэрыядаў запойнага п'янства – па тыдні і болей не прасыхаў – і потым цяжкія дні адыходу. Чарговае кіданьне піць…

І ведама – кожная капейка на ўліку. Я лічыў хвіліны, калі скончацца заняткі і можна будзе выскачыць на піва.

– Няма, – адказваю на просьбу Віці, – самому не стае…

У Віктара быў цяжкі час. Яшчэ нядаўна ѐн меў добрую працу рэдактара ў часопісе для людзей з слабым зрокам «Зрок». Але раптоўна часопіс зачынілі, і Стрыжак стаў беспрацоўным. А дома – жонка і двое дзяцей. Усе хочуць есьці і піць. Віктар вельмі цяжка пераносіў сытуацыю безграшоўя і ў выніку моцна пасварыўся з жонкай, якая таксама хацела есьці і піць. Віця вырашыў паказаць свой спартанскі характар і перастаў нават адчыняць хатні халадзільнік, дзе нешта ўсѐ ж вадзілася. Ён купляў у магазыне чорны хлеб і еў яго разам з цыбуляй, вялікую колькасьць якой прывѐз з вѐскі яшчэ восеньню. Калі хто так не харчаваўся, то магу распавесьці пра гэты студэнцкі мэтад таннага абеду, вячэры і сьняданку. Адразаецца луста хлеба, лушчыцца ладная цыбуліна і на цэнтр стала ставяць салонку альбо лепей сподак ці банку з сольлю. Потым трэба ўзяць цыбуліну, добра памачыць у солі і шчыльна заесьці хлебам. Пры неабходнасьці ежу запівайце халоднай вадой з-пад крана альбо мінералкай.

Вось і тады Віця харчаваўся менавіта такім спосабам. Аднак я грошай Віктару ня даў. Жаба задушыла. Хутчэй нават не жаба, а эгаістычнае жаданьне не аддаваць апошнія капейкі, каб потым самаму іх выкарыстаць. Надта ж хацелася піва.

А потым Віця трапіў на 10 суткак – жонка здала. Здаецца, ѐн паскандаліў са сваѐй жоначкай і нават трохі пабіў яе – можа са злосьці, а можа таму, што быў вельмі п'яны… Па выхаду з сутак мы бачыліся і нават пілі піва. Але праз дзень яго ня стала. Пасьля сутак Віця выйшаў ня ў лепшым настроі і добра выпіў. На наступны дзень ѐн пайшоў да сяброў у Дом кнігі – у рэдакцыю нейкага часопіса, а можа, выдавецтва. Там у яго заўсѐды было шмат знаѐмых. Можна было пагаманіць зь людзьмі і зь імі ж можна было апахмяліцца. Але не пасьпеў. Ён сеў у фатэль, які стаяў у холе, запаліў цыгарку і раптам згубіў прытомнасьць. Выклікалі «хуткую», але запозна. У Віктара Стрыжака спынілася сэрца. Было 10 гадзін раніцы.

Віцю пахавалі на радзіме, у вѐсцы Заспа, што знаходзіцца непадалѐк ад г. Рэчыца. Жонка сказала, што такая была ягоная воля. Дарэчы, узнікае пытаньне

аб гэтай «ягонай волі»: што, ѐн зьбіраўся паміраць у свае няпоўных 40 год? Ён жа памѐр раптоўна!

А той момант, калі Віктар прасіў у мяне на хлеб, чамусьці вельмі запомніўся. Мяне пачало грызьці сумленьне і запаздалае каяньне. «І чаму я ня даў тыя капейкі тады. Ды знайшоў бы дзе-небудзь на тое піва… А Віці ж ужо няма!… Можа б, і не трапіў бы на тыя суткі, можа, ѐн да гэтага часу б жыў і пісаў вершы!.. Вось які ты сябра!...» – вось такія думкі пачалі мне прыходзіць пасьля. І не адзін раз…

…Прайшло 14 гадоў. Улетку 2010 года выдаткі цьвярозага жыцьця прывялі мяне да думкі зьезьдзіць на магілку В. Стрыжака. За 6 гадоў цьвярозасьці я навучыўся езьдзіць на аўтамабілі, здаў на правы, купіў машыну і ўпершыню ў жыцьці сеў за руль самахода ў якасьці кіроўцы. Таму ў Заспу я ехаў на сваім «японцы» «Сузукі балено».

Мясцовы п'янтос, сеўшы да нас у машыну, вызваўся паказаць месца пахаваньня паэта. Яго прозьвішча, як і чвэрці насельніцтва вѐскі, было – Стрыжак. Заспа – вялікая палеская вѐска, якая раскінулася на беразе прыгожай беларускай ракі Дняпро. Вѐска настолькі салідная, што мела нават двое могілак. Таму без праважатага было б цяжка.

І вось, я на могілках. Мне даводзілася бываць на розных месцах апошняга пристанішча людзей. І ў вялікіх гарадох і малых, на каталіцкіх могілках і праваслаўных. Наагул чалавеку карысна паблукаць сярод магільных пліт і падумаць ад вечнасьці і аб мізэрнасьці зямнога быцьця. Але могілкі ў Заспе мне падаліся лепшымі з усіх бачаных. Яны прытуліліся да стромкага правага берага Дняпра і падступалі да самага абрыву, дзе ўнізе імкліва нѐс свае воды Дняпро і далей на многія кілямэтры адкрываўся цудоўны далягляд з заліўнымі лугамі, рачнымі поймамі, невялічкімі ляскамі.

– Добра ўладкаваўся Стрыжак! – толькі і здолеў я вымавіць, падышоўшы да магілкі Віктара, перапоўнены сьветлымі пачуцьцямі, якія выклікала прыгажосьць гэтага месца.

Мы дасталі пляшку віна, шклянкі, і мой брат зь мясцовым праваднікам Стрыжаком і маѐй жонкай выпілі за ўпакой душы раба Божага Віктара.

# ВЯЧА,
# ЁН ЖА: ФІЛЁЗАФ, ВЯЧАСЛАЎ ІВАНАВІЧ, ПЕТРУШКЕВІЧ

*Філѐзаф. «Вечны жыд», 1941 года нараджэньня, рэдкі экзэмпляр прафэсійнага выпівохі і жыцьцялюба – заўсѐды здаравенькага, ніколі не губляючага пачуцьця гумару, ніколі не завязваючага, заўсѐды гатовага выпіць.*

Вяча – у 80-я – 90-я гады XX ст. асоба ў Менску ня менш легендарная, чым знакаміты Кім Хадзіеў. Ёсьць, дарэчы, падазрэньне, што абодва – жыды.

Вячаслаў Іванавіч Петрушкевіч – так гучыць поўнае імя Вячы, быў па адукацыі філѐзаф (скончыў у 1974 годзе філязофскі факультэт БДУ).

Менавіта Вяча навучыў мяне сьпяваць адну ведамую песьню, знакамітую «Бэсса мэ мучо» у сваѐй манэры і сваімі словамі, і менавіта такім чынам я яе выконваў на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў у самых розных кампаніях. Яна гучыць так:

*Бэсса мэ, бэсса мэ мучо,*
*Сегодня с тобою, а завтра с другою,*
*Гуляю я!*
*Бэсса мэ, бэсса мэ мучо,*
*Ля-ля, Ля-ля, Ля-ля, Ля.*

## Спроба сямейнага жыцьця, шабашка

Я пазнаѐміўся зь Вячам, ці паўней – Вячаславам Іванавічам Петрушкевічам вельмі даўно, яшчэ падчас навучаньня ўва ўнівэрсытэце. Гэта адбылося ў інтэрнаце БДУ на Паркавай магістралі (цяпер гэта праспект Пераможцаў, які перамог яшчэ адну назву гэтай вуліцы – праспект Машэрава).

Нейкім няведамым чынам я й Вяча, студэнты зусім розных факультэтаў БДУ, апынуліся ў адной кампаніі ў адным з пакояў на другім паверсе згаданага

інтэрнату, дзе, зразумела, займаліся, мякка кажучы, ужываньнем сьпіртнога, а кажучы не мякка, а па праўдзе – пілі па-чорнаму. Вось там і зьдзівіў мяне ўпершыню Вяча сваѐй «сілай удара», гэты выраз належыць таксама яму і пазьней будзе вельмі часта выкарыстоўвацца. Слова «ўдар» трэба тут разумець не ў фізычным сэнсе, а ў цалкам інтэлектуальным – мазгавым ударам.

Гэтая «сіла ўдара» праявілася тады, калі ўжо ўсѐ выпіта, а яшчэ хочацца, калі грошай няма, а выпіць усѐ роўна хочацца, калі кампанія «цѐплая» і ѐй хочацца яшчэ больш «пацяплець».

І вось тут уступае ў актыўную фазу Вяча. Аднекуль дзякуючы няведамым таямнічым дзеяньням філѐзафа на стале зноў і зноў выстаўляюцца бутэлькі, праўда, ужо без закускі, але апошняе, як ведама – не актуальна.

Пасьля заканчэньня БДУ Вяча атрымаў пасаду сацыѐлага ў нейкім праектным інстытуце, ажаніўся і нават пасьпеў нарадзіць дзіця. Але прырода брала сваѐ – для чалавека, які валодаў «силой удара и страстностью таланта» (поўны тэкст афарызму) – праца сацыѐлага была занадта празаічнай. А пасьля таго, як ѐн зрабіў варыянт «Ха!», шлях у царства свабоды стаў цалкам адкрытым.

Для недасьведчаных. Варыянт «Ха!» – гэта проста. Трэба прыйсьці ў дупель п'яным дахаты і на несправядлівыя папрокі жонкі адказаць пратэстнымі дзеяньнямі наступнага кшталту. Адкрываюцца дзьверцы сумесна нажытага сэрванту (секцыі, сьценкі), па чарзе бярэцца хрусталѐвы посуд, пажадана фужэр, і з воклічам «Ха!» разьбіваецца аб сьцяну. Пры гэтым колькасьць разьбітых фужэраў залежыць ад рэакцыі вашай жонкі. Калі яна зьнікае ўжо пасьля трэцяга фужэра, то ўсѐ ў вас яшчэ на перадзе, калі ж фужэраў не засталося – развод гарантаваны.

Такім чынам, калі ў кватэры Вячаслава Іванавіча не засталося ня толькі цэлых фужэраў, а і посуду наагул, ѐн стаў амаль «свабодным філѐзафам». Засталося звольніцца з працы, і ўсѐ – цалкам «свабодны»…

Так пачаўся новы пэрыяд у жыцьці філѐзафа – перыяд «шабашак», які доўжыўся аж да самай пэнсіі, якую ѐн атрымаў мізэрную, так званую

сацыяльную, бо калі працаваў на «северах», то ў працоўнай кніжцы рэдка ставіў адпаведныя запісы – можа, па недасьведчанасьці, а можа, не разьлічваючы дажыць да пэнсійнага веку.

Кожны год, прыяжджаючы з Пячоры пасьля летняга працоўнага сезону ў Менск, Вяча шыкаваў, як некалі Астап Бэндэр з Шурам Балаганавым пасьля атрыманьня мільѐна. Ён мог імгненна прапіць сотні рублѐў – піць шампанскае віно, катацца па начным Менску на таксі ў суправаджэньні сьвіты «памочнікаў» – у сэнсе памочнікаў прапіць грошы. Пры гэтым ѐн не забываў пачаць свой загул з пакупкі новага шыкоўнага капелюша і адмысловага стракатага гальштука, які нязьменна павязваўся ў камплекце з новай белай кашуляй. Празь які-небудзь тыдзень грошы канчаліся, і наступалі працоўныя будні: набіралася новая каманда, усталѐўваліся новыя кантакты на Поўначы… і наперад!

## 31 літара

У «Ясені» быў хапун. Некалькі чалавек, у склад якіх трапіў і філѐзаф Вяча, узялі з «палічным», то бок падчас расьпіцьця сьпіртнога. Прывялі ў апорны пункт, пачалі афармляць пратаколы.

– Фамилия, имя, отчество, – задае законнае пытаньне дзяжурны лейтэнант у нашага філѐзафа.

– Петрушкевич Вячеслав Иванович, – сьціпла адказвае Вяча. – Если можно, попрошу и Вас представиться.

– Старший лейтенант Николайченко Виктор Владиславович, – гаворыць дзяжурны.

– Тридцать одна, – амаль імгненна адклікаецца Вяча.

– Что тридцать одна?

– Количество букв в Вашей фамилии, имени и отчестве.

– Так быстро посчитал, что ли? Не может быть.

Пачынае лічыць, загібаючы па чарзе пальцы:

– Ни-ко-лай-чен-ко – 12, Вик-тор – 6, Вла-ди-сла-во-вич – 13. Всего .. точно – 31! Ничего себе!

– А у меня можешь подсчитать? – пытаецца заінтрыгаваны калега першага міліцыянта, – Пригодич Алексей Иванович…

– 23, – не задумваючыся рубіць Вяча.

І пайшло.. У каго 35, у каго 38 літар.

– А большыя тэксты можаш падлічыць? – пытаюцца.

– Магу падлічыць абзац газэтнага тэксту, – кажа, – раней і болей лічыў, але цяпер я выпіўшы – не бяруся больш за абзац.

Прынесьлі газэту. Зачыталі абзац. Было бачна як Вяча сканцэтраваўся, трохі, як нам здалося, падумаў і – вынік:

– 187!

Хвілін дзесяць усѐ аддзяленьне міліцыі лічыць па літарам колькасьць усіх літар прапанаванага Філѐзафу тэксту. Усѐ дакладна – 187.

– Наагул, нас двое такіх, – ужо важным, лектарскім голасам, гаворыць Вяча: – Я і – Вольф Месінг. Праўда, у Месінга трохі іншы профіль. Шкада, што ѐн ужо нябожчык.

У аддзяленьні міліцыі ўладарыць прыўзьнятая атмасфэра, ну амаль сьвяточная. Такога цуду сьцены апорнага пункта за ўсѐ сваѐ існаваньне не адчувалі. Вось дык парушальніка прывялі!

– Такога чалавека трэба на руках насіць, а мы яго ў «варанку» прывезьлі, – сакрушаюцца міліцыянты. – Павесяліліся і хопіць.

– Выбачайце, што мы Вас затрымалі, – кажуць.

Пачалі апраўдвацца, маўляў, «мы ж ня ведалі....»

Заключны акт спектакля: Вяча трыюмфальна выходзіць з апорнага пункта, міліцыянты з замілаваньнем «праваджаюць» генія экстрасэнсу.

Пазьней гэты прыѐм ня раз выручаў свабоднага філѐзафа пры «пападаньнях» у «кантору».

*Мне здаецца, што Вяча закапаў свой талент, як закапаў герой новазапаветнай прытчы. Ён прамяняў свой рэдкі талент на вольнае жыцьцѐ,*



*на такіх жа вольных і танных жанчын, на сумніўны кайф ад віна, гарэлкі і наагул – ад усяго, што гарыць... А мог жа, як Месінг, даваць сеансы экстрасэнсорыкі, быць знакамітым і паважаным чалавекам.*

**Пра «белых коней», альбо Як дапіцца да белай гарачкі**

У мастацкай літаратуры даволі часта можна сустрэць сюжэт пра небараку-п’яніцу, які дапіўся да белай гарачкі. Пісьменьнікі любяць паказытаць нервы тубыльцам рознымі страшылкамі і «зялѐнымі чарцянятамі», што нязьменна спадарожнічаюць запойным грамадзянам.

Але ў рэчаіснасьці – жахлівая белая гарачка не такі ўжо й часты госць, як можна было б чакаць. Прыкладам за мой, больш чым 30-ці гадовы вопыт п’янства, сустрэч зь «белымі канямі» не было ні разу. Пра тое ж піша й Белазор у сваѐй п’янай кнізе «Чароўнай краіна». А вось Венечка Ярафееў у знакамітых «Петушках»[1] відавочна перагібае палку, і дасьведчанаму чалавеку лѐгка здагадацца, што пра п’янства піша чалавек, які сам ня надта злоўжывае, а то мо’ й не п’е зусім.

Аўтар, як ужо адзначана, – пасьпяхова прайшоў свой цяжкі шлях ад маладзенькага, наіўнага п’яніцы да дрымучага алкаголіка са стажам, так і не сутыкнуўшыся зь фенаменам белай гарачкі. Аднак у тыя даўнія, даўнія часы, савецкія, цяпер ужо настальгічныя гады вольнага жыцьця, запоўненага маштабнымі ваеннымі дзеяньнямі супраць «зялѐнага зьмея», што вынікалі як

[1] Ерофеев В. Москва – Петушки. М. 2002.

законная рэакцыя на павальнае п'янства савецкага народа й заключаліся ў чарговым падвышэньні цэнаў на гарэлку альбо адкрыцьці новага аддзяленьня ў наркалогіі; у тыя бестурботныя часы пабудовы камунізму пэрыядычна зьяўляліся паведамленьні пра не зусім і савецкія зьявы. Так, так – у правільным савецкім грамадзтве можна было сустрэць і ня вельмі савецкую зьяву – п'яніц.

У любым раѐне любога горада, гарпасѐлка і  нават вѐскі ня тое што можна было сустрэць п'яніц – яны былі абавязкова. Гэта неад'емная частка ландшафту савецкай рэчаіснасьці. Чым і адрозьніваліся краіны сацыялістычнага лягеру ад буржуазных – ад «гнілога» Захаду, дзе п'янства хоць і было, але не насіла такога масавага характару.

Аднак нягледзячы на тое, што павальнае распаўсюджаньне ідэй і практыкі п'янства было распачата яшчэ старажытнымі грэкамі і рымлянамі, якія нават выдзелілі п'янтосам з сонму антычных багоў асобнага бога – Бахуса, нягледзячы на тое, што ў тым сонме кожнае месца было пад строгім улікам, – у Савецкім Саюзе вінапіцьцѐ вельмі трывала, цесна спалучылася з будаўніцтвам камунізму і маральным кодэксам будаўніка камунізму. Можа таму й такая зьява, як белая гарачка, ня вельмі пасавала да «радостных трудовых будней»? А магчыма, яна добра хавалася ад працоўнага народа.

…Прыкладна ў такім ракурсе ў год маскоўскай алімпіяды адным цѐплым летнім днѐм і клалася гаворка  сярод літаратурнага бамонду і іншага мастацкага люду ў знакамітым творчым кафэ «Маладзѐжнае».

Пасьля абмеркаваньня посьпехаў беларускіх спартоўцаў на алімпіядзе, беларускія творцы распачалі тэму больш надзѐнную й патрэбную для ўсіх: «Ці часта сустракаецца белая гарачка, як яна выглядае і ці варта кідаць піць, каб самому ня ўскочыць на коніка?»

Сяргей Аладзеў як чалавек найбольш эрудзіраваны й дасьведчаны, першым пачаў свой аповед. Сюжэт быў самы банальны.

«Канцэрт сімфанічнага аркестра. Музыкі граюць, зрэдку паглядваючы на дырыжэра, у рухах палачкі якога ўся канва твора, увесь сюжэт і інтрыга – у яго руках, у таямнічых, амаль рытуальных рухах дырыжорскай палачкі.

Дырыжор з добрага бадуна, але пахмяліцца не пасьпеў. Таму яму вельмі блага, і з кожным акордам даручанага яму аркестра, становіцца яшчэ горш. «Пахмяліцца, тэрмінова пахмяліцца», – сьвідруе чыгунную галаву навязьлівая думка. «Але як доўга яшчэ да канца акта!» Самае цяжкое выпрабаваньне на сѐньняшні дзень ужо амаль прайшло – з самае раніцы дырыжор так і не палячыў сваю хворую галоўку, бо чакаў вечара, каб даць вельмі важкі канцэрт для з’езду КПСС.

А як ведама, пахмяляцца трэба, бо могуць быць самыя непрыемныя рэчы: можа палачка выскачыць з дрыготкіх пальцаў, можаш і сам вываліцца з-за дырыжорскага пульту – бо вельмі ж няпэўная і хісткая пазыцыя самога не апахмялѐнага цела, ледзь утрымліваючага раўнавагу на нагах, якіх, на жаль, толькі дзьве. І галава – цяжкая, чыгунная, напоўненая не сьціхаючым звонам, які нясьцерпна сьвідруе яе, намагаецца разваліць непаслухмяную мінімум як на дзьве часткі.

Неўзабаве пачынаецца другі акт канцэрта. Наш дырыжор зноў пачынае махаць сваѐй палачкай – дырыжыруе. Раптам ѐн адчувае, што нешта замінае яму, навязьліва тузае з правага боку. Паварочваецца – на правым плячы… сядзіць такі маленькі чорцік – сантымэтраў 15 у вышыню, калмаценькія рожкі ў розныя бакі тырчаць, увесь зялѐненькі такі, «мелкі бес» – як у Салагуба. І самае гідкае – гнюсна хмыліцца, разявіўшы зяпу да самых вушэй. «Згінь!», «Згінь!» – шэпча дырыжор – узрушаны, увесь у поце, але кіраваньне музыкамі не прыпыняе. «Кыш!» – амаль гучна вымаўляе ѐн. Але чорцік усѐ сядзіць. Тады, неяк улаўчыўшыся, не выпускаючы палачку, лоўкім пстрычком левай рукі ѐн нарэшце зьбівае чорціка з пляча. І музыка, здаецца, выраўніваецца, скрыпкі весела запяялі, ударныя інструменты грымнулі, бы апладысмэнты за вырваную перамогу…

Але ненадоўга. Не пасьпеў пачацца новы малюнак сюіты, мажорны лад нечакана пачынае мяняцца, і не на дырыжораў загад. «У чым справа?» – мільгае ліхаманкавая думка, і тут жа бачыць яго зноў, таго ўжо знаѐмага чорціка, але на гэты раз на левым плячы – сядзіць гад, хмыліцца й нахабна кіруе аркестрам ў

зусім іншай танальнасьці. Дырыжор не здаецца, зноў пстрычок – «Вось табе, вось табе!» Але чорціка ўжо не адолець. Аркестр губляе яшчэ так нядаўна глыбока прафэсійнае кіраваньне, трамбоны наязджаюць на віялянчэлі, фагот уступае ня ў час…

Трэба сказаць, што дырыжор аркестра, акадэмічнага альбо царкоўнага хору – гэта асоба вельмі адказная. Безь яго музыкі ня будзе. Гэта як пастух на пасьвішчы – сыдзі ѐн, і каровы ўмомант разьбягуцца. Як толькі зблытаўся наш дырыжор, пачалася запраўдная какафонія, поўная неразьбярыха. Канцэрт быў загублены. А дырыжора адвезьлі ў псіхушку.

Мы слухалі гэтыя байкі Сяргея і пасьмейваліся. Мы ня надта верылі рыжаму балбатуну, бо такіх займальных гісторый пра знакамітых менчукоў ѐн ведаў шмат і даўно прызнаўся, што часам іх трохі прыдумляе. Сяргей скончыў гаварыць, але абмеркаваньне перайшло ў актыўную фазу: кожны хацеў нешта расказаць з свайго досьледу, з досьледу знаѐмых і нават зь іншых расказаў. Надта ж цікавая была тэма. Кожнаму сьвярбела выказацца.

Раптам падаў голас Коля В., які звычайна маўчаў, бо прывык гаварыць толькі па справе.

– А ведаеце, чаму Вяча не прыехаў са мной з Пячоры? – запытаўся ѐн і не чакаючы адказу, патлумачыў, – у бальніцы ѐн, лечыцца ад белай гарачкі.

Коля В. рэгулярна рабіў ваяжы на Пячору разам з «фюрэрам» – знакамітым «філѐзафам» Вячам. Вяча Петрушкевіч ужо некалькі год запар вазіў у Комі будаўнічы атрад, альбо па-народнаму – шабашнікаў. Сам ѐн быў камандзірам атрада альбо – па-народнаму – фюрэрам, а Коля як чалавек рабацяшчы – быў звычайным рабочым. Праўда, як аднакурснік Вячы і сябра па вучобе ў БДУ, Коля па сумясьціцельству быў ягоным намесьнікам па будоўлі (прарабам).

….Атрымалі мы тады добры аванс, – расказваў Коля, – і ўсе ўвайшлі ў запой. Пілі, пілі і ўрэшце разбрыліся па Пячоры – хто куды. Дзень зьмяшаўся з ноччу, п’ем. Тут яшчэ белыя ночы, ад якіх і бяз п’янкі ноч, бы дзень. Адным словам, усѐ зьмяшалася «ў доме Аблонскіх». Іду я неяк у гадзіны тры ночы

дадому, у наш рабочы барак. І бачу насустрач мне насоўваецца знаѐмая фігура, гэта быў Вяча, але весь сур'ѐзны такі, мэтанакіраваны. Кажа мне: «Коля, ня йдзі туды», г. зн. у наш барак, «там ѐсьць чалавек, які ўсіх нас выдасьць камітэтчыкам.» «А куды ж ты сабраўся?» – пытаюся ў яго. «– Іду ў порт, на верф», – шэптам адказвае Вяча. «Адтуль лепш уцякаць ад КДБ».

Бачу, нешта ня тое з галавой у фюрэра. Таму ў тон філѐзафа кажу:

– Пайду з табой, будзем разам уцякаць.

А да Пячоры, дзе тая верф, ня менш за тры кілямэтры. Таму я прапаную:

– Толькі давай возьмем таксі, вельмі ж далѐка йсьці.

– Не, Коля гэта вельмі небяспечна – кажа Вяча, і панізіўшы голас, ціхенька, шэптам дабаўляе, – у кожнага таксіста ў машыне «клапы».

«Клапамі» ў савецкія часы называлі спецыяльныя прыстасаваньні для тайнага праслухоўваньня падазроных размоў. «Клапы» былі галоўным сродкам працы спэцслужб.

Таму вырашылі йсьці пешшу.

Як прыйшлі, Вяча хуценька пачаў падымацца па сходнях наверх, я за ім. Але не пасьпеў дагнаць. Як толькі ѐн залез наверх, то не спыняючыся даў з вышыні нырца ў Пячору. Я ж – бегам, па тых жа сходнях – толькі ўжо ўніз і бягом за філѐзафам. Вяча ў вадзе бултыхаецца. Аказалася не глыбока, таму ѐн крыкнуў: «Мяне кліча Нептун! Іду да цябе!» і з гэтымі словамі паплыў углыб ракі, «да Нептуна».

Коля кінуўся ратаваць філѐзафа, але ѐн адбіваўся, вынікам чаго аказаліся здаравенныя фінгалы на тварах абодвух шабашнікаў. Вячу ўсѐ ж выратавалі, і ѐн ня стаў няпрошаным госьцем марскога бога. Замест гэтага яго адвезьлі ў мясцовую больніцу й тры тыдні лячылі ад белай гарачкі.

# КІМ ХАДЗЕЕЎ
# ДЫСЫДЭНТ І ЛЕГЕНДА МЕНСКУ

Кім Хадзееў, альбо проста Кім – легендарны дысыдэнт і ўнікальны менскі інтэлектуал савецкіх часоў. Гэта «хадзячая» энцыкляпэдыя, «мозг», гэта настаўнік многіх таленавітых юнакоў і дзяўчат, якія бы жамяра раіліся вакол яго на працягу 60-х, 70-х, 80-х, 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Скажу больш, Кім быў ня проста настаўнік. Імя «Кім» у тыя гады асацыявалася з цэлай школай, своеасаблівай Акадэміяй вольных мастацтваў. У кватэры, дзе жыў Кім, бесьперапынна таўкліся маладыя людзі абодвух палоў, і сярод гэтага гармідару й тлуму кожнаму будучаму генію заўсёды знаходзіўся час для гутаркі з «Гуру» – Кімам Хадзеевым. Размовы вяліся на самыя розныя тэмы, калі не сказаць – на ўсе: пра старажытную паэзію й сучаснае мастацтва, пра палітычныя рэжымы Афрыкі й філязофскія сыстэмы антычнага сьвету, пра культ асобы Сталіна і Анжэлу Дэвіс... Моладзь, галоўным чынам юнакі і дзяўчаты 16 – 25 – гадовага ўзросту,



цягнулася сюды – на Кісялѐва, д. 17, кв. 24, каб паспрачацца ці проста паслухаць Кіма, які, як здавалася, ведаў усѐ.

Іронія лѐсу: заўзятага антысаветчыка Кіма бацькі назвалі ў гонар Камуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі (КІМ). У 20 – 30-я гады XX стагодзьдзя было модна дзецям даваць такога кшталту імѐны: Ленінід, Ленінір, Рэўміра (Рэвалюцыя міра), Акцябрына, Мэлор (Маркс, Энгельс, Ленін) і нават Чалналдзін (Чалюскін на ільдзіне).

Адкуль у звычайнага савецкага вартаўніка (вартаўнік – асноўная афіцыйная пасада ці месца працы Кіма) зьявіліся такія неабмежаваныя веды й магутны інтэлект, было ўсім ведама. З турмы! І звычайна новенькаму расказвалася наступная легенда ці быль.

....У 1949 годзе, калі Кім быў студэнтам філфаку БДУ, распачалася знакамітая справа ўрачоў-шкоднікаў. Паўсюдна праводзіліся сходы працоўных калектываў, на якіх адзінадушна выкрываліся злачынствы лекараў і прымалася прашэньне самым жорсткім чынам пакараць ворагаў народу.

І вось, у той гістэрычнай вакханаліі дружнага ляманту: «Укрыжуй яго!» – знайшоўся чалавек, які меў сваю асабістую думку і, больш за тое, ѐн яе выказаў! Гэта быў Кім Хадзееў. На чарговым сходзе «па выкрыцьці ворагаў народу», ѐн узяў слова й проста з трыбуны заявіў: «Сталін – забойца, і не нявінныя ўрачы павінны быць пакараны, а ѐн – Іосіф Сталін!»

За гэты шчыры заклік Кіму далі, здаецца, дзесяць гадоў сталінскага ГУЛАГу, і з таго гістарычнага моманту пачаліся сапраўдныя «ўнівэрсытэты» будучага настаўніка моладзі. І скончыліся « ўнівэрсытэты » толькі з надыходам хрушчоўскай адлігі 1956 году.

Пэўны час Кім сядзеў у турме КДБ, якая месьцілася ў скляпеньнях будынку КДБ, што й цяпер добра ведамы менчукам пад назвай «амэрыканка». Знаходзіцца гэтая знакамітая ўстанова побач з Цэнтральнай кнігарняй, што на праспэкце Незалежнасьці (у тыя часы– праспэкт Сталіна, потым Леніна, і, нарэшце, перад апошнім перайменаваньнем – праспэкт Скарыны). Вось там і быў першы ўнівэрсытэт Кіма. Базай гэтага «ўнівэрсытэту» зьяўлялася цудоўная

бібліятэка, якая налічвала сотні тысяч тамоў самай рознай літаратуры. Менавіта там можна было знайсьці кнігі, якія ў звычайныя бібліятэкі не траплялі ці былі пад забаронай. Доступ у кніжную скарбніцу КДБ быў для ўсіх адкрыты, а ўлічваючы, што часу ў вязьняў было вельмі шмат, то лѐгка здагадацца, што кніжны фанат, якім быў носьбіт ідэі камуністычнага інтэрнацыяналу, знайшоў для сябе ўсѐ, што душы заўгодна. Былы студэнт Кім Хадзееў з галавой акунуўся ў кніжны скарб бібліятэкі.

Кім згадваў таксама пра яшчэ адну крыніцу памнажэньня ведаў. Гэтай крыніцай былі многія сукамернікі, меўшыя на волі навуковыя ступені кандыдатаў і дактароў навук, гэта былі знакамітыя навукоўцы, пісьменьнікі, мастакі й іншая творчая інтэлігенцыя.

Адным словам, Кім выйшаў на свабоду не з пустой галавой, а напоўненай самымі рознымі і глыбокімі ведамі. Верагодна, немажлівасьць весьці больш-менш рэгулярныя запісы, дзѐньнікі ва ўмовах турмы, а мажліва, і прыродныя здольнасьці выпрацавалі ў яго звычку трымаць веды ня ў сшытках, ці кнігах, а непасрэдна ў сваѐй радзімай галаве.

Як бы там ні было, але напрыканцы 50-х гадоў мінулага стагодзьдзя ў Менску зьявіўся чалавек сярэдніх гадоў, які бязьлітасна паліў праз муштук «тэрмаядзерныя» цыгарэты «Памір» і які лѐгка даваў фору любой менскай багемнай тусоўцы самага высокаінтэлектуальнага кшталту. Гэты чалавек выдатна разьбіраўся ў тэатры (дарэчы, знаны рэжысэр У. Рудаў пачынаў свой творчы шлях у «акадэміі Кіма»), цудоўна ведаў гісторыю рускай паэзіі й саму паэзію, гісторыю Кітая й гісторыю Тайваня, і, мусіць, гісторыю любой краіны. Ён выдатна арыентаваўся ў мадэрным мастацтве і мог сходу прачытаць лекцыю пра творчасьць Поля Сэзана.... Ён любіў пагаварыць пра творчасьць Шапэнгаўэра і ня вельмі паважаў савецкага паэта Твардоўскага...

Гэтым чалавекам быў Кім.

Была адна непрымная акалічнасьць – інтэлектуала, але ж у мінулым зэка (!) Кіма – ніхто не хацеў браць на працу, нават простым карэктарам у газэту. Але ж трэба было за нешта жыць і, як не круці, – на хлеб неабходна неяк зарабляць.

І выйсьце знайшлося.

Трэба сказаць, што такім людзям, як Кім, шлях у афіцыйную навуку быў наглуха закрыты. Аднак гэта не азначала, што выйсьця ніякага няма. Існаваў усё ж адзін «падпольны» калідор. Кім, які сам ня быў «аступененым» навукоўцам, пасьпяхова пісаў дысэртацыі іншым! І за гэтую працу плацілі савецкімі «тугрыкамі». Непрызнаны савецкі дысыдэнт К. Хадзееў рабіў за грошы дыплёмы й дысэртацыі ў самых розных галінах грамадзкіх навук.

Я пазнаёміўся з Кімам Хадзеевым недзе напачатку 70-х гадоў. Да таго часу ён напісаў 11 кандыдацкіх і 2 доктарскія дысэртацыі, а таксама безьліч дыплёмаў, курсавых, рэфэратаў і іншай інтэлектуальнай прадукцыі. Гэта цяпер праз інтэрнэт можна ўсе гэта знайсьці й замовіць навуковую працу самага высокага роўню. У тыя ж часы мала хто мог зраўнавацца з Кімам па напісаньні дысэртацыяў, прынамсі, у Менску – ніхто.

Хоць левыя грошы за дысэртацыі і не былі малымі, яны ўсё роўна не вырашалі праблемы спакойнага жыцьця ў савецкай сыстэме. Справа ў тым, што гэтая, «самая передавая ў сьвеце» сыстэма вымагала абавязковага працаўладкаваньня кожнага грамадзяніна СССР. Беспрацоўе прыраўноўвалася да дармаедства й каралася турэмным зьняволеньнем прыкладна на два гады.

Таму Кім быў вымушаны мець афіцыйнае месца працы. Трэба было хаця б лічыцца на працы ў такой установе, дзе заводзіцца працоўная кніжка і куды заносіцца запаветны ратавальны запіс: «Залічаны на працу…» Звычайна для людзей без кваліфікацыі – а менавіта да такіх адносіўся былы гулагаўскі вязень, стандартны запіс гучаў: «Залічаны на працу ў якасьці вартаўніка». Такім чынам, «вартаўнік» – гэта й была самая галоўная «спэцыяльнасьць» першага менскага інтэлектуала Кіма Хадзеева.

## Мікола Захаранка

Мікола Захаранка – мой зямляк і лепшы сябра тых гадоў, ды й цяперашніх. Менавіта ён прывёў мяне ў акадэмію Кіма. Нягледзячы на сваё студэнцтва ў

політэхнічным інстытуце, Мікола быў увахожы ў розныя літаратурныя і іншыя багемныя тусоўкі, бо сам быў, прынамсі, на наш зямляцкі погляд, выдатным паэтам і, больш за тое – бардам. У тыя часы сьпяваць пад гітару ў грамадзкіх месцах, ці хутчэй, адважыцца сьпяваць пад гітару, маглі адзінкі. А Мікола ня толькі ламаў бар'еры савецкага паказнога правапарадаку, але й нёс людзям асалоду музыкі, бо валодаў выдатным голасам і сам пісаў прыгожыя песьні.



*Мястэчка Васілевічы ў савецкія часы. Сям'і цыганоў вельмі захацелася трапіць у кадр з Міколам Захаранкам. (Ці наадварот?) Ён крайні справа.*

Як цяпер бачу той летні дзень і Захаранку, які стаіць з гітарай на самым версе сходняў у тунэль для цягнікоў менскага чыгуначнага вакзала, а мы, слухачы і незнаёмыя, выпадковыя людзі, задраўшы галовы, глядзім на яго, і па ўсяму перону разносіцца:

*«Вжик, вжик – кто на новенького,*
*Вжик, вжик – уноси готовенького,*
*Кто на новенького!*
*Кто на новенького!»*

Голас у Міколы моцны, прыгожы, і тая песьня – папулярная ў той час – падабаецца, захапляе ўсіх, хто яе чуе. Трэба дадаць да гэтага незвычайнасьць сытуацыі і, разам з тым, нечакана, яе адпаведнасьць словам песьні. Праходзіць міма міліцыянт у форме, але Мікола не палохаецца, наадварот грозна працягвае: «Кто на новенького...» Міліцыянт раптам усьміхаецца і крочыць сваім шляхам.

Мікола Захаранка даволі хутка і, як высьветлілася пазьней, надоўга ўліўся ў кімаўскую багему. Тут ѐн адчуваў сваѐ асяродзьдзе, знаходзіў разуменьне прысутных людзей, тут ѐн «набіраўся» самых розных ведаў, і галоўнае – вучыўся пісаць не па заказу і схемах савецкага рэалізму, а па закліку сэрца і асэнсаваньне шчырай крытыкі Кіма і іншых «прадзьвінутых» літаратараў. Тут Мікола пісаў сваю выдатную п’есу «І зноў – Несьцерка», якую так і не паставілі ў віцебскім Коласаўскім тэатры, але тут апрабавалася і іншая п’еса – «Паехалі», што пэўны час шла ў менскім Купалаўскім тэатры.

* * *

Аднойчы, калі мы йшлі да Кіма на вуліцу Энгельса (ѐн там жыў перад пераездам на Кісялѐва), Коля Захаранка прапанаваў узяць пляшку віна. Што й было зроблена. Але, каб не дзяліцца чарнілам з шматлікай галоднай кампаніяй, што заўсѐды тусавалася ў Кіма, было вырашана рэалізаваць «чарнілку» па дарозе.

Шлях пралягаў міма Сабачага сквэру. Для маладога пакаленьня менчукоў патлумачу: «Сабачым сквэрам» на пачатку сямідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя называўся ў Менску сквэр насупраць суда Ленінскага раѐну (побач са стадыѐнам «Дынама»). Цяпер там ніякага сквэру няма, а ѐсьць будынак Міністэрства замежных справаў. У тыя ж часы там была зялѐная зона, дзе мясцовыя выгульвалі сабак. Месца было, калі неакультураным, то дакладна малаакультураным, – таму мянты там амаль не бывалі. А гэта азначала, што ў Сабачым сквэры можна адносна бясьпечна выпіць бутэльку-другую віна і паразважаць над сэнсам жыцьця. Апошняму спрыяла і тое, што сквэр быў на

ўзгорку, і адтуль адкрываўся нядрэнны краявід на раку Сьвіслач і трамвайную лінію. За гэтыя якасьці мы й аблюбавалі гэтае месца, і хоць паблізу не было гастраномаў, часта цягнуліся сюды, каб спакойна пасядзець і выпіць. Таму й ня дзіва, што там заўсѐды можна было сустрэць некага са знаѐмых, «сесьці на хвост», ці проста пабачыцца.

Перайшоўшы вуліцу Ульянаўскую і ўжо амаль ступіўшы на тэрыторыю сквэру, я раптам рэзка прыпыніўся. Згаданая акалічнасьць магчымага «хваста» на сквэры навеяла мне, як чалавеку рацыянальна мысьлячаму, наступную прапанову:

– Коля, на сабачым сквэры мора знаѐмых, давай лепш недзе па хуткаму глынем і пойдзем далей!

– Давай, – кажа і сам прапануе. – Вось нейкі амаль пусты будынак, людзей не відаць, зойдзем з таго нутранага боку і там вып’ем.

– Добра, пайшлі.

Сказана – зроблена. Зайшлі за рог будынку, прыпыніліся каля бліжэйшых зачыненых дзьвярэй і п’ем. Спачатку Колю сваю палову адпіў, потым я – стаю, п’ю, – глыток, другі… Раптам дзьверы ажылі, адкрыліся і з іх выходзіць… міліцэйскі афіцэр – ці то старлей, ці то капітан. Выйшаў і аслупянеў. Я таксама. Бутэлька ў паднятай руцэ, каля рота, але апошні глыток ужо й ня лезе.

– Вось табе й на… – гаворыць мент мэталічным мянтоўскім голасам. – Вы б хоць прачыталі шыльду, пад якой расьпіваеце.

Праўда, міліцыянт пайшоў сваѐй дарогай. Ня той чын, каб за расьпіцьцѐ браць, гэта прэрагатыва сяржанцкага саставу міліцыі.

А мы, нарэшце, апрытомнелі і на шыльдзе, якую чамусьці ня ўбачылі на дзьвярох, прачыталі:

«*Суд Ленінскага раѐну г. Менску*».

* * *

Пасьля заканчэньня ўнівэру мяне забралі ў войска, бо так атрымалася, што на ваенную катэдру я не патрапіў, і па тагачаснаму закону павінен быў год адслужыць.

Служба «сынком», якім я быў, нягледзячы на вышэйшую адукацыю, была нялёгкай, найбольш даймалі «чорныя» – выхадцы з Каўказа. Аднак, я ўсё ж пасябраваў зь некаторымі, і асабліва з адным армянінам, «арай» – Сісакянам. Пра гэтыя асаблівасьці службы я пісаў на гражданку сябрам.

З усіх ліставаньняў з гражданкай найбольш запомніўся ліст ад Міколы Захаранкі, які быў напісаны ў вершаванай форме. Я яго прывёз пасьля службы з сабой і доўгі час захоўваў. А падчас застольляў любіў зачытваць яго як паэму, напісаную маім геніяльным сябрам. Пасьля ліст усе ж згубіўся. Але некаторыя радкі запомніліся:

*Мой друг, я позабыл твое лицо,*
*В тумане вижу прошлые походы,*
*Съедают наши души наши годы –*
*І мы не превратились в мудрецов.*

Заканчваўся ліст парадай – папярэджаньнем:

*Будзь здоров – стране служи,*
*С армянином не дружи!*

Тут быў намёк на серыю армянскіх анякдотаў, ў якіх абыгрывалася нетрадыцыйная сэксуальная арыентацыя, быццам бы уласьцівая армянам як нацыі.

*    *    *

Захаранка бавіў увесь свой час у акадэміі Кіма. Бадзяўся й па іншых багемных тусоўках. Усѐ гэта скончылася вельмі сумна – Міколу адлічылі з палітэха, і ўзьнікла пагроза загрымець у войска.  Кім сьцьвярджаў, што Захаранка «талантливый мальчик» і яму аніяк не выпадае йсьці  ў армію – бо там талент згубіцца. Ехаць назад на радзіму – у Васілевічы, таксама нельга было – сорамна перад бацькамі за няўдалую вучобу.

Першае пытаньне Кім лѐгка вырашыў праз сваіх знаѐмых лекараў-псыхіятраў, якім пісаў дысэртацыі. Далі Колю «белы» білет.

Другое пытаньне разьвязаць было нашмат складаней. Каб застацца ў Менску, трэба было знайсьці прапіску, працу і г. д. А жанатаму чалавеку – тым больш было цяжка.  Таму пайшлі ў Гарана і паспрабавалі знайсьці працу ў школе настаўнікам на сяле, але каб гэтае сяло было блізка да Менску.

І такі шанец хутка зьдзейсьніўся! Колю ўзялі настаўнікам беларускай мовы і літаратуры  ў вѐску Чырвоная Швабаўка, якая цяпер ведама, як проста Швабы. Гэта пад Лагойскам, у 50 км ад Менску.

Абрадаваны Кім усім хваліўся: «Колька работу нашел. В деревне под названием…» – тут ѐн задумваўся і, нарэшце, успомніўшы, дадаваў у сваім «перакладзе»:  «…под названием Красная Швабра!»

* * *

У канцы лютага ў Менск прыйшла адліга, Сабачы сквэр першым адчуў на сабе гэтую падзею, бо ляжаў на ўзгорку, і промні ласкавага, ужо амаль веснавога сонца павыразалі на схілах вузкія палоскі зямлі бязь сьнегу, так што відаць было леташнюю зжаўцелую траву.

Я, Лѐнік і Антон Доўжык сядзелі на зьлѐгку паламаных скрынях ад шклатары, што немавед адкуль тут узяліся,  і пілі віно. Пілі ўлюбѐны «Агдам». Адначасова мы чакалі  нашага – ужо знакамітага – земляка-паэта Міколу Захаранку. Нам утрох было столькі гадоў, як мне аднаму цяпер, але, здаецца, гэта было ўчора, і настрой тых хлопцаў адпавядаў майму сѐньняшняму адзін да аднаго, – мо таму, што ва ўспамінах мы пераносімся ў тыя залатыя часы і адпаведна маладзеем, а мо таму, што настаў люты, хоць і 2011 года, але такі ж

сонечны і цѐплы. Хоць няма даўно ўжо таго Сабачага сквэру, і даўно на Беларусь не трапляў «Агдам», ды і сам аўтар гэтых радкоў за апошнія 7 гадоў ня выпіў ні грама ня тое што віна альбо гарэлкі, але й улюбѐнага «Баярышніка» і нават «Жыгулѐўскага» піва.

А вось і Мікола.

Мікола прыйшоў ня толькі з новай пляшкай віна, але й з новай песьняй. І хутка Сабачы сквэр напоўніўся гукамі маладосьці й разам з тым нейкай тугі аб іншым жыцьці, што несла песьня Міколы. Яна была напісана на матыў моднай у тыя часы французскай песенькі, якую па-руску выконвала, здаецца, Эдыта П'еха. Памятаю два куплеты і два прыпевы:

*На исходе января,*
*Изнывает вся земля,*
*Изнывает мой народ,*
*Потому то он и пьѐт.*

Прыпеў:

*Антон, Иван,*
*Николай, Степан,*
*Андрэй, Зуя,*
*Зиммерман и Я!*

Другі куплет:

*Пьѐт Россия от тоски,*
*Пьѐт до гробовой доски,*
*Пила, пьѐт и будет пить –*
*Невозможно ж совместить:*

Прыпеў:

*Коньяк, Кагор,*
*Солнцедар, Глинтвейн,*
*Самогон, Портвейн ….*
*Вермут, Шнабс, … и Я!*

Не ручаюся за апошні прыпеў. Мажліва, пералік напояў у арыгінале быў трохі іншы.

## Казка й вэрмут

Кім таксама пісаў. Казку. Тэкст Казкі зьмяшчаўся ў звычайным вучнѐўскім сшытку «ў клетачку», пісаўся вельмі сьцісла – здавалася, што аўтар старанна эканоміць паперу. Магчыма, у гэтай «эканоміі» адбіваліся зэкаўскія атавізмы былога вязьня. Казка абмяркоўвалася прысутным колам маладых геніяў і, магчыма, лепшыя знаходкі той казкі на рахунку «маладняка». Сам Кім быў чалавекам надзіва не завідушчы, не амбіцыйны, сьціпла лічыў сябе чалавекам зусім ня творчым, хоць і не адмаўляў сваѐй разумнасьці. Ён казаў: «Я гатовы аддаць сваѐ жыцьцѐ, каб напісаць хоць радок гэтак, як Мандэльштам ці Пастарнак».

Была ў Хадзееўскай «акадэміі» адна рыса, уласьцівая, відавочна, любой багеме – як у Савецкім Саюзе, так і ў цяперашнім «дэмакратычным» грамадзтве з ілюзорнай свабодай – у Кіма неадменна пілі. Пілі «Вэрмут», «Агдам», «Залатую восень», «Водар садоў», азэрбайджанскі партвэйн... Пілі гарэлку, зуброўку, адэкалѐн «Тройной» і настойку араліі... Пілі ўсѐ, што гарыць.

І вынікі такога рэжыму жыцьця былі несуцяшальныя. Многія літаральна сьпіваліся, траплялі ў Навінкі на лячэньне ад алкагалізму, а то й іншых псыхічных захворваньняў. Некаторыя, пераадолеўшыя багну Кімаўскага раю, сталі ведамымі ў наш час літаратарамі й мастакамі. Аднак пераважнай большасьці ужо даўно няма на гэтым сьвеце, яны сыйшлі, так і не зразумеўшы, што трапілі ў пастку алкагалізму, так прыгожа афарбаваную пад інтэлектуальныя дысыдэнцкія размовы й чытаньні «геніяльных» вершаў чарговай ахвяры зялѐнага зьмея.

Цікава, што Кім, пракіраваўшы сваѐй «акадэміяй» цягам некалькіх пакаленьняў «хлопчыкаў» і таксама ўжываючы алкагольныя напоі – і ня менш за многіх маладых, – *сам алкаголікам ня стаў.*

## Працаголік

Як я сказаў, Кім ня быў алкаголікам. Але ѐн быў – «працаголікам». Працаваў ѐн кругласутачна, зь перапынкам на сон. А часам, калі ўзьнікала тэрміновая патрэба, – то й безь перапынку: здаралася, ня спаў па некалькі сутак. Кватэра Кіма нагадвала нейкі офіс, там увесь час сноўдаліся розныя людзі, прыходзілі, выходзілі. Але ніхто не заставаўся без увагі: гаспадар знаходзіў хвілінку, каб перамовіцца з кожным.

Аднак гэта толькі на першы погляд быў гармідар, напраўду жыцьцѐ Кіма й галоўных дзейных асобаў зь ягонага атачэньня было падпарадкавана нейкаму стрыжню ці пляну, толькі ім ведамым. І калі Кім браўся абмяркоўваць зь якім-небудзь паэтам – на той момант галоўным «мальчыкам» – новы верш генія, то яны гэта рабілі адасобіўшыся, у адзіным жылым вялікім пакоі кімаўскай кватэры, а астатнія пераходзілі на кухню, дзе звычайна расьпівалі віно альбо гарбату. Бывала, й наадварот: колькасьць гасьцей была досыць вялікая, і тады ім пакідалі «залю» – г. зн. той вялікі пакой, а Кім і «дзяжурныя» хлапцы замыкаліся на кухні.

Звычайна такі парадак вытрымліваўся ўвесь дзень і вечар. Потым, калі надыходзіла ноч, людзі, хто мог разыходзіліся, але заўсѐды нехта адзін альбо й не адзін заставаўся й начаваў – альбо на падлозе, альбо ў ложку, прычым немагчыма было зразумець – дзе сьпіць гаспадар, а дзе госьці. Я наагул не памятаю Кіма сьпячым, хоць я бываў ў ягонай кватэры не адзін год. Здаралася таксама заставаўся на ноч, але й скрозь сон чуліся інтэлектуальныя размовы пра літаратурныя навінкі альбо пра крызіс у Карыбскім моры.

Могуць запытацца: што, акрамя расьпіцця сьпіртавых напояў рабіў я ў Кіма? Я ж быў чалавекам дакладных навук, а «Кімаўская акадэмія» была ўсѐ ж гуманітарнай. Мяркую, што адказ ня просты. Але падаецца, што цягнула мяне туды нікому, нават мне, няведамае другое «Я», у якім жыла музыка, паэзія, беларуская старасьветчына й любоў.

Сустрэчы з Кімам і іншымі людзьмі яго асяродзьдзя фактычна далі мне другую, гуманітарную адукацыю. Неяк я запытаў у чалавека ўнівэрсальных ведаў Кіма Хадзіева: «Што трэба прачытаць з сусьветнай літаратуры, каб быць усебакова разьвітай асобай?» І ѐн склаў мне адмысловую праграму, ажыцьцявіць якую можна было гады за два. І я яе выканаў! Там, у гэтым літаратурным сьпісе, былі адзначаныя творы сусьветнай літаратуры, клясычныя шэдэўры, бязь якіх немагчыма ўявіць сабе адукаванага чалавека, прынамсі, на мой погляд. Панарама літаратурных геніяў была дасыць шырокая: ад антычных паэтаў Вэргілія і Авідыя да сучасных рускіх пісьменьнікаў Бялова й Распуціна ды нашага беларускага клясыка Васіля Быкава.

Бывала, што ведаў Кіма ўсѐ ж не хапала, каб напісаць нейкую чарговую дысэртацыю ці артыкул. Тады ѐн ішоў у бібліятэку Акадэміі навук. Я як асьпірант там таксама часта бываў. І калі мы выпадкова сустракаліся, то распачыналі гутарку, а акадэмічны народ у гальштуках і акулярах дзівіўся такому знаѐмству. Дзіва было сапраўды не звычайнае: ня часта ўбачыш у бібліятэцы запраўднага бамжа – немаладога чалавека ў падзѐртым швэдары, калматага й прапахлага самымі таннымі, «тэрмаядзернымі» цыгарэтамі «Памір».

*Гэтым бамжом быў Кім.*

## «Ні дня без дрочкі»

У 1979 годзе Кіму Хадзееву споўнілася 50 гадоў. Шматлікія прыхільнікі й сябры непрызнанага генія кінуліся хто як мог віншаваць свайго куміра. Быў стол, былі тосты, піліся віно й гарэлка. Сьпявалі песьні непрызнаныя савецкія барды. Былі падарункі: прынесьлі новую патэльню, нехта купіў новую кашулю (Кім не любіў абновак і гадамі цягаў задрыпаны швэдэр).

Аднак самым цэнтральным падарункам быў вучнѐўскі сшытак з красамоўным надпісам-загалоўкам – «Ні дня без дрочкі!» Гэтая выслоўе, як лѐгка здагадацца, ѐсьць перафразаванаю назвай знакамітай кнігі Юрыя Алешы

«Ни дня без строчки», якая была вельмі папулярнай ў тыя савецкія часы. Здаецца, паэт Грыша Трэстман, вялікі майстра розных розыгрышаў ды кпінаў, прынёс той жартаўлівы сшытак.

Загаловак сшытка вельмі ўдала адлюстроўваў фэнамэнальную працаздольнасьць Кіма й разам з тым марнасьць усяго ім зробленага.

**Кім любіць прыгажосьць, альбо «Там вдали, у реки…»**

Мікола Захаранка й Грыша Трэстман любілі размаўляць з Кімам пра паэзію. Абодва пісалі вершы, Кім называў іх геніямі й казаў, што сусьветная паэзія ўзбагацілася яшчэ двума носьбітамі Сапраўднага. Дыскусія ўзмацнялася з кожным чарговым звонам зьдзвінутых шклянак з партвэйнам. Я вершаў не пісаў, быў далёкі ад паэзіі і таму эпітэта «геніяльны» не заслугоўваў. Але як студэнту-фізыку мне знаходзіўся занятак «амаль па прафэсіі» – бегаць у краму па чарніла.

Вось і ў той раз, набегаўшыся да «шпіля[1]» і абмеркаваўшы ўсіх мадэрных паэтаў, вырашылі пасьпяваць песьні. Сьпяваць тады любілі ўсе, але ў некаторых гэта атрымлівалася й прытым няблага. Асабліва ўдала ў нас прагучала песьня «Там вдали, за рекой».

Сьпявалі дуэтам – я й Мікола Захаранка:

*...Там вдали, у реки, загорались огни,*
*В небе ясном заря догорала.*
*Сотня юных бойцов из буденновских войск*
*На разведку в поля поскакала.*

Хто б мог падумаць, што праз колькі гадоў, ужо ў бурлівыя 90-я гады, я пачну сьпяваць у царкоўным хоры зусім іншыя песні, сьпяваць «Херувимскую» Лядава і «Богородице Дево, радуйся» Хрыстава...

[1] Гастраном у раёне тэлерадыёкампаніі на вуліцы Чырвонай.

І вось, мы зь Міколам прасьпявалі радок:

*И боец молодой вдруг поник головой,*
*Комсомольское сердце пробито.*

Кім, які ўвесь час вельмі ўважліва слухаў нашыя сьпевы, раптам падыйшоў да мяне, нібыта ўбачыўшы ў першы раз, па-бацькоўску паклаў сваю руку мне на плячо і пранікліва прамовіў: «Ты, Антон, хороший человек! Плохие люди не могут так хорошо и честно петь».

Так што, хоць не атрымаў я ад Кіма пахвалы за паэзію, атрымаў яе за сьпевы.

## Трэстман друкуе Захаранку

У кімаўскім асяродзьдзі ўсе паэты пісалі геніяльныя вершы, але амаль ніхто не друкаваўся. Гэта было нармальным. Друкавацца ў савецкіх, пракамуністычных выданьнях было непрыстойным, ці, гаворачы зэкаўскім жаргонам, які набыў у наш час вялікую папулярнасьць у інтэлігенцыі і адміністрацыі прэзыдэнта, – гэта было «западло». Тым ня менш, усякі верш надрукаваны хоць у раёнцы, хоць ў самвыдаце выклікаў вялікую ўвагу й зайздрасьць.

Мікола напісаў ужо даволі шмат вершаў – цэлы сшытак. А ягоная песня пра белых коней лічылася ці не шэдэўрам бардаўскай песьні. Вось яе пачатак:

*Як на досьвітку зоры заслоніць –*
*Адарвуцца ад сіняй вады*
*І прымчаць ка мне белыя коні,*
*Абадраўшы бакі аб кусты...*

Грыша Трэстман, сябра Захаранкі, быў не толькі паэтам, а й працоўным чалавекам. Ён працаваў ні то карэктарам, ні то рэдактарам у нейкім выдавецтве,

дзе яго вельмі паважалі й да думкі ягонай заўжды прыслухоўваліся. Апошняя акалічнасьць, відаць, і дазволіла яму зрабіць наступны пачэсны ўчынак.

Было гэтак. Аднойчы да Кіма прыйшоў Трэстман і сказаў:

– Вот, издал новую книгу. Хоть Кольку напечатал.

Усе кінуліся глядзець: што ж там за кніга, – анталѐгія паэзіі ці новыя імѐны можа… Не. Кніга зусім не мастацкая, сур'ѐзная – называецца «Стенография. Пособие для начинающих». Прычым тут Мікола Захаранка? Аказваецца, у раздзеле «Стенография на языках народов СССР» ѐсьць параграф «Белоруский язык». І там у прапанаваных тэкстах для трэніровак набыцьця навыкаў па стэнаграфіі дадзены два тэксты: Максіма Багдановіча «Зорка Вэнэра» й Міколы Захаранкі «Белыя коні».

*Вось так Грыша Трэстман «Кольку напечатал».*

## «Жидовская морда»

Грыша Трэстман быў любімым сынам добрапрыстойнае габрэйскае сям'і, якая захавала даўнія габрэйскія традыцыі й звычаі. Габрэйскі хлопчык Грыша быў надзеяй й гонарам бацькоў, прыкладам для малодшых дзяцей й аднаклясьнікаў.

Нейк па Менску цягалася кампанія ў складзе нецьвярозых паэтаў Грышы Трэстмана, Міколы Захаранкі, Пятра Кошаля й мяне – хоць не паэта, але таксама нецьвярозага. Грыша раптам вырашыў патэлефанаваць сваім бацькам, – ѐн іх даўно ня бачыў і меўся нешта сказаць.

Падышлі на бліжэйшы тэлефон-аўтамат. Грыша заходзіць, але дзьвярэй не зачыняе, – пазьней стала ясна – для таго, каб усім было чутна.

– Алло! Это семья Трестманов? – зьмяніўшы голас, нейкім казьліным тэнарам, прамаўляе любімы сын габрэйскіх бацькоў.

– Да, а кто это?

– Что жидовская морда, жируешь на плечах трудового белорусского народа!... Еще возмущаетесь, жидовьѐ! ... Кто я? Сейчас представлюсь – бей жидов, спасай Россию!

Пасьля гэтых перлаў нехта на тым канцы дрота кладзе трубку, а кампанія на другім канцы валіцца ад рогату.

## Грыша Трэстман і паэзія

Грыша Трэстман любіў пісаць вершы з мацернымі словамі. Я мяркую, што гэта была добрая й сапраўдная паэзія, бо адзін з вершаў я памятаю дагэтуль:

*Кудри вьются, кудри вьются у блядей,*
*Почему ж они не вьются у порядочных людей?*
*Потому что у блядей деньги есть для бигудей,*
*А порядочные люди деньги тратят на блядей.*

Але, магчыма, гэта й ня ѐн напісаў, бо мацюкацца любілі ўсе паэты.

*Цяпер Грыша Трэстман жыве ў Ізраілі, ходзіць у сынагогу і ніколі не працуе ў суботу*.

## Пѐтр Кошаль

Адным з тых нямногіх «хлопчыкаў-геніяў», што хадзілі да Кіму і сталі сапраўднымі, прызнанымі пісьменьнікамі, быў Пѐтр Кошаль.

Кошаль быў рускамоўны паэт. Аднак гэта не замінала яму сябраваць з кампаніяй такіх заўзятых беларусаў як Мікола Захаранка і Антон Кулон. Ён быў, магчыма, ад нараджэньня, а можа, у выніку траўмы – інвалідам. У яго была пашкоджаная левая нага.

Чалавек ѐн быў markdownрознабаковы, вельмі цікавы, але ня гэта выклікала нашую чорную зайздрасьць. Нас заўсѐды зьдзіўляў беспрэцэдэнтны посьпех Кошаля ў

жанчын. І гэта на фоне ягонай інваліднасьці:  ідзе такі маленькі, плюгавенькі чалавечак, цягне, валачэ за сабой нягнуткую нагу і ... не прамінае ні воднай прыгожай дзяўчыны.

Вось характэрны прыклад. Неяк шпацыруем мы сваѐй кампаніяй па праспэкце Леніна. Размаўляем, жартуем, сьмяѐмся. Раптам бачым – Пятро падкалваецца да вельмі эфэктна апранутай чарнавокай дзяўчыны. Мы, як заўсѐды, толькі назіраем, парад не даѐм, паміж сабой вядзем сваю гутарку. Раптам чуем, дзяўчына адказвае Пятру не па-расейску й не па-беларуску. Прыслухаліся – французская мова. Дзяўчына была француженка. На тыя савецкія часы прысутнасьць іншаземцаў у Менску была вельмі рэдкай зьявай, а спроба ўсталяваньня якіх-небудзь кантактаў зь імі наагул выглядала як кантакт з іншаплянэтнікамі. Тым больш, зь дзяўчынай, завітаўшай з далѐкай Францыі. Аднак пастаўленая праблема была не для Кошаля, ужо празь мэтраў сто нашага агульнага шпацыру французскае дзяўчо трымала Пятра пад руку і аб нечым весела шчабятала. «Фенаменальна!» – гаварыў у такіх выпадках адзін мой знаѐмы.

*Пазьней Пѐтр Кошаль з’едзе з Менска ў Маскву, там ажэніцца з дзяўчынай зь вельмі багатай сям’і і стане ведамым маскоўскім паэтам.*

## На крылах эфэдрыну альбо «Ноч нежна»

Як я ўжо казаў, Кім зарабляў сабе на жыцьцѐ пісаньнем рознага кшталту навуковых трактатаў, памеры якіх сягалі доктарскіх дысэртацыяў. Калі ѐн браўся за замову, то парадак дня мяняўся самым радыкальным чынам. Перапынак на сон адмяняўся, і працоўны графік разьмяркоўваўся на круглыя суткі, прычым такіх сутак магло быць і тры, і пяць, і больш.

Як вытрымаць некалькі бяссонных сутак і пры гэтым бесьперапынна працаваць, прычым працаваць творча, зь вялікай інтэлектуальнай нагрузкай? Мне, маладому асьпіранту Інстытуту фізікі АН БССР, гэта было не зразумела. Сам Кім казаў нешта пра допінг, але той ягоны допінг, на мой погляд, быў

даволі сумніўны. Сапраўды, выкарыстоўвалася даволі дзіўная кабінацыя рэчываў – гарэлка і эфэдрын. Ну, зь першым рэчывам я быў добра знаѐмы, але, каб выкарыстоўваць гарэлку як сродак супраць засынаньня, – пра такое я ніколі ня чуў. Наадварот, колькі знаѐмых часта адрубаліся, засыналі ад гарэлкі, але ніяк не выпівалі перад працай. Толькі, калі трэба было апахмяліцца. Што тычыцца эфэдрыну, то я ведаў адно: гэта нейкія кроплі для закапваньня ў нос пры насмарку. Адным словам, уся кімаўская дзея была для мяне таямніцай з таямніц.

Але аднойчы мне давялося самаму праверыць мэтад напісаньня навуковых працаў «па Кіму».

Было гэта так.

Увесну 1973 года надыходзіў час заканчэньня першага году навучаньня ў асьпірантуры. Я меўся здаваць два іспыты так званага кандыдацкага мінімуму: па ангельскай мове й па філязофіі. Па ангельскай мове я, як і ўсе, за год здаў мільѐн знакаў і атрымаў на іспыце заслужанаю чацьвѐрку. З філязофіяй жа атрымалася наступная гісторыя. Для доступу да іспыту спачатку трэба было напісаць рэфэрат па пэўнай філязофскай тэме блізкай да абранае спэцыяльнасьці. Як цяпер памятаю, мая тэма была: «Прынцып прычыннасьці ў квантавай мэханіцы». Канечне, напісаць нейкую амаль навуковую працу па такой цікавай праблеме не складала цяжкасьцяў. Слова «амаль» паставіў таму, што ў ганарыстых фізыкаў філязофія за навуку наагул не лічылася. Нечакана ў мяне зьявілася думка: а што калі гэты рэфэрат напісаць з Кімам, праверыць тым самым ягоны славуты мэтад «мазгавога штурму» цягам бяссоных начэй на крылах гарэлачна-эфедрыннага стымулятару?

Сказана – зроблена. Распавѐў Кіму, быццам ніяк не магу напісаць рэфэрат па філязофіі, а часу ўжо няма, маўляў, выручай. Той пагадзіўся і папрасіў, каб загадзя прынѐс яму некалькі базавых кніг па праблематыцы рэфэрату. Як гуманітарый, Хадзееў фізыкі ня ведаў, але як вольны мысьляр шмат чаго мог сказаць наконт філязофскіх праблемаў той жа фізыкі.

Так што можна было брацца за працу.

За пару дзѐн да старту эпахальнага экспэрымэнту я даў Кіму штук 5-7 кніжак, пару часопісаў кшталту «Успехов физических наук», а ѐн прызначыў час сустрэчы. Былі абраны адныя адны з сутак дзяжурства Кіма Хадзеева на прадпрыемстве, дзе ѐн працаваў вартаўніком па графіку: трое сутак – дома, адныя суткі – на дзяжурстве.

У прызначаны час я прыйшоў да Кіма дадому. Адразу кінулася ў вочы, што на адзіным працоўна-абедзенным стале гаспадара ляжалі мае кнігі, відавочна прапрацаваныя, бо з-пад старонак кніг тырчэлі шматлікія папяровыя стужкі-закладкі. Кім дастаў пачак таблетак з надпісам «Эфэдрын» і сказаў: «Зараз я прыму палову пачка, каб яны разышліся, покуль мы прыедзем да прадпрыемства. Ты, як чалавек непрывучаны, можаш зьесьці для пачатку няшмат – 5-6 таблетак».

Так і зрабілі. Празь некалькі хвілін я адчуў, што паміраю. Сэрца моцна закалацілася, перад вачыма паплылі нейкія ружовыя кругі, настаў момант незвычайнага ўзбуджэньня, якое межавала з стратай прытомнасьці. «Хутка пройдзе гэта, – запэўніў мяне Кім, – да эфэдрыну трэба прызвычаіцца, ты яшчэ малады. Не...., варта было пачынаць з дьвюх-трох таблетак, а не з шасьці», – дадаў ѐн, гледзячы на мой пазелянелы твар.

...А 20-й гадзіне мы былі на месцы працы Кіма. «Дзяжурства – здаў, дзяжурства – прыняў», – сказалі адзін аднаму папярэдні вартаўнік і новы, і мы прыступілі да працы. Пакойчык дзяжуркі быў нішто сабе – стол, два крэслы, тапчанчык, нават нейкія прылады для падагрэва вады – каб зрабіць гарбату. Жыць можна.

Кім адразу паставіў наступную ўмову: не ўступаць ні ў якія дыскусіі – ѐн дыктуе, а я толькі запісваю. Дасталі патрэбныя кнігі з закладкамі, пачалі працаваць. Кім адкрыў адразу некалькі кніг і амаль адразу пачаў дыктаваць:

– Прынцып прычыннасці быў распрацаваны яшчэ ў антычных філязофскіх школах Арыстафана, Эмпедокла й Арыстоцеля …

Не пасьпеў я пераварыць першы паток інфарамацыі, як Кім перайшоў на новы ровень тэрмінаў ужо з галіны тэарэтычнай фізыкі:

– …Але прынцып дадатковасці Бора нанѐс удар па дэтэрміністычных уяўленьнях…

Гучала даволі пераканаўча, і я зьдзівіўся: адкуль ѐн, гуманітарый, ведае пастуляты квантавай мэханікі, прынамсі, у фізычнай частцы рэфэрату ніводнай відавочнай памылкі не было зроблена.

Ледзь пасьпяваў я за «дыктарам» запісваць фактычна гатовы тэкст свайго рэфэрату. Рука замлела, галава наагул перастала «варыць».

– Што, стаміўся? – заўважыў дзейсны вартаўнік прадпрыемства «К». – Даставай гарэлку.

Дастаю загадзя купленую пляшку «Сталічнай».

– Налівай па 100 грамаў, – камандуе Кім.

Выпілі мы, і гляджу – стомленасьць мая адыходзіць, галава праясьнілася. Сапраўды, можна пісаць з новымі сіламі. Што мы й рабілі даволі пасьпяхова на працягу наступных дзьвюх гадзінаў. Кім зноў прыклаўся да эфэдрыну й запіў яшчэ ста грамамі гарэлкі. Я абмежаваўся толькі гарэлкай, занадта сьвежыя былі ўспаміны пра нядаўні прыѐм гэтых «лекаў» і той амаль беспрытомны стан, што выклікалі гэтыя «калѐсы».

Ноч цягнулася роўна, на стол мэтадычна кладліся сьпісаныя лісткі з маім рэфэратам. Ужо даўно я перастаў «встревать» у ход думкі філѐзафа-энцыкляпэдыста. Як толькі стомленая рука губляла жвавасьць і вочы мімаволі пачыналі закрывацца, Кім наліваў дозу і працэс аднаўляўся па новай. Вось табе, й «Ночь нежна» – чамусьці прыйшлі мне тады гэтыя словы, што сталі назовам славутага рамана Фітцджэральда.

Да раніцы, гадзін, здаецца, да сямі ўсѐ было скончана. 45 старонак рэфэрату роўненькім стосам узвышаліся ў самым цэнтры стала.

– Усѐ! – падсумаваў Кім, – можна ісьці дадому. – Акурат дзяжурства скончылася.

Пачалі зьбірацца. Я, малады хлопец, – ледзь на нагах. Кіму – хоць бы што. Адно – папыхвае сваѐй люлькай з «Памірам» – як быццам бы ўсю ноч спаў і толькі прачнуўся, поўны сіл да новых працоўных будняў. Мой выгляд, дарэчы,

быў такі замораны, што ў аўтобусе, які вѐз нас пасьля дадому, нейкія дзяўчаты саступілі не Кіму месца, а мне.

Трэба сказаць, што рэфэрат аказаўся вельмі добра напісаны, але – завялікі. Трэба было на 25 старонак, а ў мяне пасьля яшчэ невялікай дапрацоўкі – атрымалася ўсе 50. Прыйшлося скарачаць да стандарту.

Але для мяне з усяго гэтага працэсу засталася вялікая навука. Я зразумеў, што філязофія – зусім не далѐкая ад мяне навука. І, больш за тое – яшчэ трохі напнуцца – і можна напісаць ня тое што рэфэрат – дысэртацыю.

Што, дарэчы, я й зрабіў шмат гадоў пазьней.

Яшчэ адзін вынік той бяссоннай ночы быў у тым, што, аказваецца, гарэлка можа быць ня толькі сродкам «вырубіцца» і заснуць, але й адваротным – сродкам пазбавіцца сну.

## Табурэт як халодная зброя ў руках Кіма

Зэдлік, альбо табурэт у жыцьці чалавека грае вялікую ролю, калі не найбольшую. Зь ім можа супернічаць хіба што толькі ложак, які бярэ на сябе другую з асноўных чалавечых позаў – стан «лѐжачы». Першая ж з «асан» працоўнага грамадзяніна – гэта стан «седзячы». І тут на дапамогу вам прыйдзе старэйшы сябра чалавека – зэдлік. Магчыма, вы скажаце: «А як жа крэсла?» Хіба крэсла горш выконвае тую ж службу таварышу які марыць сесьці?

Я адкажу – горш!

Чалавек, які сядзіць на крэсле, нагадвае партыйнага дзеяча, што ўтульна разьмясьціўся на партыйным сходзе. Вось ѐн выцягвае як мага далей свае партыйныя ногі, сьпіна паступова выпростваецца па ўсѐй тэрыторыі сьпінкі крэсла, а локці ўжо трывала разьмясьціліся на падлакотніках. Цяпер усѐ гатова, каб незаўважна драмануць...

На зэдліку такія лайдацкія паводзіны не магчымыя ў прынцыпе. На зэдліку вы будзеце проста вымушаныя працаваць, а там бачыш, на тым жа партыйным сходзе вы не засьнеце, і ў вас зьявіцца сьвежая думка і, глядзіш, зьявіцца новая

праграма дзеяньняў «Шэсьць плюс». Краіна ўрэшце выйдзе з эканамічнага крызысу, а вам прыбавяць заробак.

Вось што такое зэдлік.

Але тэма нашай гаворкі – алкаголь і алкаголікі. Дык і тут карысьць зэдліка несумненная! Дзе лепш разьмесьціцца самагонны апарат, чым не на табурэце? Толькі на табурэце можна атрымаць самы моцны пяршак! А Астап Бэндар пайшоў яшчэ далей, чым простыя сьмертныя, ѐн ведаў рэцэпт самага смачнага самагону, які гоніцца з табурэту. Гэты смачненькі самагон так і называецца – табурэтаўка.

Кім Хадзееў адкрыў яшчэ адзін функцыянальны бок зэдліка, а менавіта – выкарыстаў яго як халодную зброю.

А справа была так.

.... Апошняй кропляй быў «палѐт» Валерыя Л. праз зачыненае акно кватэры Кіма на саму вуліцу Кісялѐва. Кім жыў на невысокім, па цяперашніх мерках паверсе – на другім, але дом будаваўся па праекце мінулых часоў,  меў высокую столь, і таму адлегласьць ад акна да зямлі была значнай. Дадаць да гэтага тое, што «зямля» была асфальтам – і вы зразумееце чаму прызямленьне скончылася для Валеры пераломамі абедзьвюх ног. Ці ѐн «сеў на каня» ад празмернага ўжываньня алкаголю, ці проста мазгі паэта зрушыліся – цяпер цяжка сказаць. Але адназначна можна сказаць – то быў вынік шматлікіх складнікаў «акадэміі Кіма»: алкаголю, «калѐс», цыгарэт і самой задушлівай, я б цяпер сказаў – не хрысьціянскай атмасферы, што там стварылася.

Суіснаваньне самых розных людзей: геніяў і няздараў, некранутых дзяўчынак і прастытутак, закаханых хлопчыкаў і асоб нетрадыцыйнай арыентацыі, юнакоў і пажылых людзей – усѐ гэта «акадэмія Кіма». Зразумела, канфлікты й нездаровыя тэндэнцыі непазьбежна павінны былі праявіцца. А вельмі падазроная любоў Кіма да маладых хлопчыкаў, кожны зь якіх будучая зорка паэзіі ці мастацтва, не маглі ня выклікаць маѐй адмоўнай рэакцыі. Я шчыра скажу: да гэтага часу ня ведаю – ці сапраўды Кім належаў да блакітных, ці гэта толькі плѐтка непрыяцеляў. Безумоўна, жонкі, альбо палюбоўніцы ў яго

не было, вакол толькі «мальчики» – пытаньні ѐсьць. Але пагадзіцеся – гэтага не дастаткова, ѐсьць жа прэзумпцыя невінаватасьці.

Трэба сказаць, што ад Кіма да псыхлякарні быў пракладзены наўпросты шлях. Хто ад алкаголю лячыўся, хто ад наркаты, а хто і проста з глузду з'ехаў. Нават Міколу Захаранку, каб закасіць ад арміі, намаганьнямі Хадзеева зьмясьцілі ў 2-ю бальніцу, дзе ўдалося выбіць даведку для «белага» білета.

Дык вось, «палѐт» Валеры Л. канчаткова настроіў мяне на хвалю выкрыцьця Кіма. Неяк, добра прыняўшы «на грудзі», мы сядзелі ў Кіма й спрачаліся: «Хто лепш піша з асяродзьдзя «ўвахожых» да Кіма людзей?» Тут і прыгадалі пра малады талент – Валерыя Л., які трапіў пасьля падзеньня на асфальт ня проста ў траўматалѐгію, а ў хірургію пры псыханэўралягічнай бальніцы ў Навінках.

Успомнілі пра яшчэ аднаго частага госьця Навінак – Біга. Біг – гэта першы сябра Кіма. Поўнае імя: Барыс Іванавіч Галушка, скарочана – па першых літарах – Біг. Ён быў з пакаленьня Кіма і, мне здаецца, яны абодва нешта ведалі нам усім абсалютна недаступнае. Пэўна, кожнае пакаленьне забірае з сабой у Вечнасьць толькі яму знаѐмую таямніцу *іхнага часу.*

Біг жыў, а дакладней, трымаўся на нейкіх таблетках. Ён быў наркаман. Мабыць, таму й уражвалі ягоныя вочы, якія гарэлі нездаровым, жарсным агнѐм, апякаючы чырвоным бляскам кожнага суразмоўцу. Нягледзячы на бігаўскую арыетацыю на калѐсы, яго любілі ў кімаўскай алкагольнай кампаніі. Гэта быў сапраўдны інтэлігент мінулай эпохі, тых часоў, калі існавалі сапраўдныя прафэсары й сапраўдныя паэты.

Але Біг ня быў ані пісьменьнікам, ані мастаком. Ён быў паліглот. Самы звычайны паліглот. У свой час працаваў выкладнікам ангельскае мовы ў Інстытуце замежных моваў. Ведаў ѐн ня толькі ангельскую, але й францускую, нямецкую, гішпанскую й шмат іншых – усяго каля 40 моваў. Памятаю, як нехта з мастакоў, хіба што Анціпаў, прынѐс парнаграфічны часопіс на галяндзкай мове. Фотаздымкі зразумелі й без перакладу, але потым паўстала пытаньне: «Што ж усѐ-такі напісана?» Бігу хапіла ўсяго толькі пару гадзінаў, каб разабрацца з тэкстам. Дагэтуль з галяндзкай мовай ѐн не сутыкаўся.

Навуцы няведама, чаму часам людзі інтэлектуальных прафэсіяў ад інтэнсіўнай мазгавой працы раптам пачынаюць страчваць розум. Я ведаў некалькіх фізыкаў, у якіх бяз дай прычыны паехаў дах, пра паэтаў і гаварыць няма чаго: там наагул мяжа паміж нармальнай разумовай дзейнасьцю й творчым працэсам сьціраецца да такой ступені, што бывае незразумела – ці мы стаім перад нейкай стадыяй паэтычнага натхненьня, ці гэта проста праява асаблівасьцей натуры чалавека.

Аднойчы падчас нейкай канферэнцыі ў «ін’язе» ў гарачцы навуковай дыскусіі на тэму «Мовы й дыялекты» Біг заявіў:

– Дыялектаў існуе нашмат больш, чым вы думаеце, паважаныя калегі. Наагул, ува ўсім сьвеце існуе толькі тры мовы – ангельская, расейская й украінская. Астатнія мовы – іхныя дыялекты.

Сказана гэта было пры вельмі вучонай аўдыторыі й самым сур’ѐзным чынам. Чаму Біг абраў за базавыя менавіта згаданыя мовы – таксама зразумела: ангельская – гэта асноўная мова ягонай спэцыялізацыі, расейская мова – ѐй паўсюдна карыстаюцца навокал, а ўкраінская – таму што сам быў хахол.

– А як жа кітайская? – раптам спытаў нехта.

– Мя-ў...., мя-ў..., мяў..., – задумаўся на імгненьне Біг і вельмі сур’ѐзна адказаў: – Дыялект кашэчай!

Так Біг упершыню трапіў у Навінкі. Пэрыядычна ѐн то выходзіў адтуль, то заходзіў, адным словам, пасябраваў з гэтай установай.

Вяртаючыся да тэмы, скажу, што можна пералічыць яшчэ шмат асобаў, чый лѐс так ці інакш зьмяніўся, дзякуючы «акадэміі Кіма», і часта – ня ў лепшы бок.

І вось, будучы пад добрым градусам, а як ведама, што ў цьвярозага ўва ўме, то ў п’янага на языку, я сказаў Кіму простаў вочы пра тое, што апошні час мучыла мяне й не давала спакою:

– Кім, твая акадэмія, твае дысыдэнты і «завумныя» размовы й дыскусіі – усѐ гэта лухта, усѐ робіцца для таго, каб уцягнуць неспакушаных «мальчыкаў» у твае сеці й зьнішчыць іх. Бо ўсе твае наведвальнікі за кароткі час

ператвараюцца ў звычайных п’яніц, алкаголікаў, наркаманаў. Яны сталыя госьці Навінак і іншых псыхушак.

Што пасьля гэтай заявы зрабілася! Я такім Кіма яшчэ ня бачыў. Вочы наліліся нейкай жоўтай злосьцю, губы затрэсьліся, сківіца адвісла... Ён схапіў вольны табурэт, які стаяў побач, і нечакана апусьціў яго, што ѐсьць сілы… на мае плечы. Як і ўсѐ атачэньне Кіма, табурэт аказаўся нетрывалым і разьляцеўся ад удару на дробныя часткі.

Так закончылася адна з самых выніковых дыскусіяў у акадэміі Кіма. Рэакцыя Кіма, я мяркую, была не выпадковай, бо была сказана «праўда ў вочы».

Недзе з год я не заходзіў да старога вар’ята Кіма, але потым мы памірыліся. А табурэт папоўніў свае шматлікія карысныя і ня вельмі функцыі яшчэ адной – як сродак высьвятленьня адносін у спрэчцы, як халодная зброя.

## Эпілѐг

Кім пражыў больш за 70 гадоў, а гэта нямала пры такім не курортным ладзе жыцьця. Ніколі ня кідаў піць і паліць свае любімыя цыгарэты «Памір». Апошнія гады ягонага жыцьця мне невядомыя, бо 90-я гады занесьлі мяне вельмі далѐка ад «Кімаўскай акадэміі», хоць у падсьведамасьці іншым часам не настойліва прабівалася думка: «Трэба наведаць Кіма». Але яна не рэалізавалася. Праз сваіх сяброў ведаў, што ў Кіма ўсѐ па-ранейшаму, зьявіліся новыя «мальчыкі», а некаторыя з старых «мальчыкаў» атрымалі статус вечных.

Усѐ жыцьцѐ Кім пісаў сваю знакамітую Казку. Ня ведаю ці скончыў ѐн яе. Мяркую, што не, бо ні Мікола З., ні Валера Л., ні іншы Валера М. таксама нічога аб гэтым мне не распавялі. Можа, хтосьці ўсѐ ж мае той знакаміты рукапіс у вучнѐўскім сшытку ў клетачку і некалі наважыцца надрукаваць яго. А можа, Кім спаліў Казку, як некалі Гогаль другі том сваѐй нясьмяротнай паэмы.

P.S. У красавіку 2011 года на самую Пасху мне пашанцавала наведаць Сьвятую Зямлю. Я быў у Ерусаліме і апроч удзелу ва ўнікальнай акцыі пад назвай «Зыходжаньне Благадатнага Агню» і сьвяткаваньня Ўваскрасеньня Хрыстовага знайшоў час сустрэцца з Грышам Трэстманам. Аказалася, што ѐн ужо ня Грыша, а Гершон. У Ізраілі ѐн стаў ведамым і прызнаным рускамоўным паэтам і выдаў некалькі кніг, а таксама публіцыстычны трактат, кнігу ў 370 старонак пад назвай «Маленькая страна с огромной историей».

На маѐ пытаньне пра аўтарства верша «Кудри вьются, кудри вьются…» ѐн сказаў, што гэта, на жаль, не ягоны верш, але пагадзіўся, што паэзія цудоўная.



## АСОБНЫЯ ЛЮДЗІ

### Эканаміст Анатоль Громаў

Я ўжо казаў пра існаваньне ў нашым жыцьці таямнічай зьявы – хуткага збліжэньня адных людзей і незразумелай узаемнай няпрыязнасьці другіх. Мы ўжо ведаем, што першая кагорта аб’ядноўвае людзей з аднаго караса. Такімі былі для мяне, напрыклад, Міхась Стральцоў, Віктар Стрыжак, Коля Вырвіч, Стась Баско.

Такім стаў і Анатоль Громаў, што аднойчы выпадкова апынуўся за адным з’імной столікам у піўной «Прахлада». Менавіта пасьля такіх сустрэч мы на заўтра не выходзім на працу, альбо нават забываем забраць сваѐ дзіцятка з дзіцячага садка яшчэ ў першы дзень. Ён быў асьпірант, а я да таго часу ўжо кандыдат навук, значыцца, гаварыць было пра што. Праўда, пра навуку мы гаварылі ня надта й многа. Нас займалі больш актуальныя тэмы.

Напрыклад, мы даволі хутка прыйшлі да згоды, што заміж папулярнай тады газэты для маладых закаханых «Двое», на многа выгодней наладзіць выпуск газэты «Трое». Такая газэта была б надзвычай папулярнай у ранішні час каля вінна-гарэлачных аддзелаў, дзе гуртуюцца мужыкі, што саабражаюць на траіх. Ды і ў піўніцах такі матэрыял быў бы актуальны, бо пасьля таго, як выпіваўся ранішні куфаль піва, многім грамадзянам станавілася ясна, што «півам душу не абманеш», і пачыналіся пошукі «трэцяга».

Не, сярод піўной публікі такіх інтэлектуальных размоў ніхто ня вѐў. Пра працу, жанчын, пра ўчарашнія паходы і п’яны мардабой пасьля іх – вось пра што вы маглі пачуць у бары. У самым крайнім выпадку магла быць размова пра прыезд піцерскіх фанатаў на матч «Дынама» Менск – «Зеніт», альбо пра высадку амэрыканскіх астранаўтаў на Марс. Праект будучай газэты «Трое» маглі абмяркоўваць гадзінамі – толькі мы.

Ня дзіва, што раз’ехаўшыся па сваіх дамох па прычыне сканчэньня п’янкі, абмеркаваньне маглі працягваць ужо й па тэлефоне, калі ўзьнікала пільная патрэба ў мозгавай атацы. А праблемы множыліся, надышлі цяжкія гады пабудовы капіталізму ў Беларусі, і літаральна ў паветры насіліся самыя грандыѐзныя, крутыя праекты.

Нeяк я пeражываў цьвярозы пeрыяд жыцьця, ці, іншымі словамі, быў «у завязцы». Акуратна хадзіў на працу, выводзіў жонку ў кіно, не пазьней 11-й гадзіны вечара клаўся спаць. І ў дьзве гадзіны ночы, калі пачуўся першы тэлефонны званок, я, зразумела, бачыў трэція сны. Уставаць не хацелася, але званок не сунімаўся, тарахцеў на ўсю хату. Нарэшце я ўзяў трубку: – «Антон, прывет», – чую. Гэта быў мой новы сябра эканамісты. Аказваецца, ѐн цэлы дзень піў у «Прахладзе» і чакаў мяне, каб распавесьці пра новыя ідэі ў праекце «Трое». Але не дачакаўшыся, пасьля добрай дамашняй дабаўкі вырашыў патэлефанаваць мне. Як ведама, п’яніцы й творчыя людзі часу не заўважаюць. Але працэс п’янства вымагае яшчэ адной акцыі, якая завецца: «А патрындзець?»

Ня трэба доўга гаварыць пра магчымыя словы майго адказу на начное натхненьне эканаміста Громава. Тым ня менш, яны складаліся ня толькі з мацюкоў, але й з пажаданьня Анатолю сесьці й апісаць усе геніяльныя задумы пісьмова. Так сказаць, скласьці тэхнічнае заданьне й аформіць заяўку на рэгістрацыю газэты.

У наступную ноч дакладна ў дзьве гадзіны ночы кватэра зноў расколвалася ад тэлефоннага набату, якім у цішыні ночы здаваўся звычайны тэлефонны званок.

Анатоль з радасьцю паведамляў, што піва было выключна якасным і ў яго зьявіліся новыя ідэі адносна праекта «Трое». Учарашнюю размову ѐн, здаецца, ужо й ня помніў, а калі «я думаю, што ѐн ня помніць, то гэта няпраўда», проста «сѐньняшнія ідэі настолькі геніяльныя, што ня йдуць у аніякае параўнаньне з ранейшымі». На гэты раз я проста паслаў вялікага выдаўца і па сумяшчальніцтву эканаміста на тройчы многа літар і вымкнуў тэлефон.

На наступны дзень, не чакаючы новага званка, я пайшоў у «Прахладу» і ўзяў адразу два куфлі піва. Падзеі апошніх начэй канчаткова вынішчылі ўва мне ідэю цьвярозага жыцьця і вярнулі ў нармальны стан. На маѐ зьдзіўленьне, Анатоля не было. Не было яго й праз гадзіну, што прывяло мяне ў стан

незвычайнага натхненьня, і я далучыўся да кампаніі вясѐлых мужыкоў, якія скідваліся на чарніла.

Я прыплѐўся дахаты а палове другой ночы, заварыў сабе гарбаты і пачаў паціху піць. Але нечага ўсѐ роўна не хапала. «Піва і чарніла за дзень мне хапіла. Чаго ж не хапае?» – сьвідравала мяне думка. І раптам я зразумеў чаго. Званка! Званка ад сябра, ад Анатоля. Раз няма сігнала ад яго, то «гара пойдзе да Магамэта» – вырашыў я і хуценька набраў ягоны нумар.

Доўга не было адказу, але ўрэшце з другога канца дрота данѐсься заспаны голас:

– Хто там?

– Сто грам! Ты чаго не тэлефануеш? Ужо дзьве гадзіны.

– Гэта ты, Антон? Ты ж нас усіх тут разбудзіў, бацька вунь як раззлаваўся.

– А што ты яшчэ хацеў? Ты ж запар дзьве ночы акурат у такі час мяне падымаеш. Прывучыў. Вось і цяпер – час надыйшоў, а ты маўчыш…

Нарэшце да яго даходзіць уся беспадстаўнасьць прэтэнзій і справядлівасьць маіх слоў. Крыць няма чым, таму Анатоль ідзе супакойваць бацьку.

Вось што бывае, *калі фазы п’янства не супадаюць*.

*Эканамісты Анатоль Громаў потым абараніў і кандыдацкую дысэртацыю, і доктарскую. Так што нашыя «прахладныя» дыскусіі аказаліся вельмі плѐннымі.*

## Скульптар Кузя

*Яго поўная імя – Кузьміных Анатоль. Але ўсе яго звалі «скульптар Кузя». Невялікага росту, з кругленькай лысай галавой, ѐн як дзьве кроплі вады быў падобны на правадыра сусьветнага пралетарыяту Уладзімера Ільіча Леніна. Мала таго – Ленін быў асноўным аб’ектам ягонае творчасьці. Скульптуры*

*Ільіча ѐн ляпіў у самых розных пазыцыях, строях і позах. Вырабляў з плястыліну, гліны, адліваў у бронзе і ваяў у гіпсе.*

*Ён быў яшчэ даваеннага пакаленьня – канца 30-х ці пачатку 40-х гадоў. Гэтае пакаленьне, выраслае «пад гарматнымі ствaламі», для мяне – пасьляваеннага, было заўсѐды асаблівым і паважаным. І брат мой старэйшы быў тых гадоў, і ягоныя сябры – усе яны для мяне былі ўзорамі для пераймання і мелі вялікі аўтарытэт.*

Я паважаў Кузю за яго ленінскую зьнешнасьць і гумар, зь ім вельмі цікава было выпіць пару шклянак віна ў ягонай падобнай на музэй кватэры. Адно не любіў я – здароўкацца з Кузем за руку, асабліва калі ѐн быў нападпітку. Ён так моцна сьціскаў пальцы, што рабілася балюча, а адчуваючы гэта, садыст-скульптар яшчэ больш сьціскаў свае пальцы-абцугі. Сіла ў пальцах не была прыроднай, такую моц кісьці рук атрымалі дзякуючы прафэсіі. Кузя ўсѐ жыцьцѐ ляпіў і ляпіў пальцамі гліну альбо плястылін, так што колькасьць перарасла ў якасьць, і пальцы сталі, як жалезныя.

Ён жыў на восьмым паверсе адной са знакамітых прывакзальных вежаў Менску. Месца было зручнае, асабліва для ад’язджаючых ці прыяжджаючых людзей, якія мелі гонар быць знаѐмымі з Анатолем Кузьміных асабіста і таму мелі магчымасьць выпіць на дарогу і выпіць пасьля дарогі.

Ягоны пакойчык у кватэры, дзе ѐн жыў разам з матуляй, быў настолькі арыгінальны, што інтэр’ер можна было разглядваць гадзінамі. Скульптуры, карціны, эцюды, макеты былі раскіданыя па ўсѐй тэрыторыі, віселі на сьценах, валяліся на падлозе ў перамешак з рознымі вымпеламі, нейкімі значкамі, пажоўклымі газэтамі, кнігамі па карабельнай справе, цыгарэтнымі пачкамі й запалкамі Барысаўскай фабрыкі. На сьцяне побач з «абедзенным» сталом, зь якім пастаяна «абедала», значыць, расьпівала пляшку, чарговая кампанія гасьцей, вісела падрабязная мапа выспы Шыкатан маштабу 1:1000. Кузя езьдзіў у гэты няблізкі сьвет – выспа Шыкатан побач з Сахалінам – ці то на нейкія заробкі ў якасьці мастака, ці то па запрашэньні нейкага залѐтнага марачка з

Далѐкага Ўсходу. Адтуль Кузя прывѐз мора праектаў па ўзьвядзеньні на Шыкатане й Сахаліне скульптурных партрэтаў экіпажа судна «Адмирал Нахимов», а таксама тры тоўстыя кнігі «Корабельное дело». Мапа выспы Шыкатан вельмі цанілася японскай выведкай, але ѐй не дасталася, бо была падараваная капітанам карабля скульптару Кузю.

Побач з мапай, на той жа сьцяне вісеў вялікі аркуш ватмана, і на ім кожны наведвальнік мог пакінуць свой сьлед, зрабіўшы нейкі малюнак альбо проста паставіўшы аўтограф.

* * *

Як буйны спэцыялісты па помніках правадыру сусьветнага пралетарыяту Ульянаву-Леніну Анатоль Кузьміных высока каціраваўся ў старшыняў калгасаў і дырэктараў саўгасаў па ўсѐй Беларусі. Пэрыядычна яны запарашалі яго на хаўтуру, якой, па сутнасьці, была высакародная праца па стварэньні скульптурнай выявы Ільіча. За гэтую працу камуністы не скупіліся ў грашах, а такому асу, як Кузя, плацілі ўдвая.

Жыцьцѐ йшло роўна й бясхмарна. Але аднойчы здарыўся нечаканы казус. У калгасе «Зорька Ильича» пабудавалі новы будынак сельсавету. За сэканомленыя грошы было вырашана зрабіць насупраць канторы гіпсавы помнік Леніну, які і ўзяўся ўзвесьці скульптар Кузя. Усѐ рабілася па наладжанай схеме: быў узведзены шкілет помніка з мэталічных прутоў, зьлеплены макет – паменшаная мадэль помніка, і распачаты самы працаѐмкі этап –запаўненьне пустот гіпсавым растворам.

І тут Кузя разам са сваім памочнікам робіць можа й законны, але ў той сытуацыі ня самы правільны ход. Ён бярэ аванс, і ўся артэль уваходзіць у моцны загул. На просьбу старшыні: «Можа, спачатку закончыце, а потым зробім банкет?» Кузя толькі адмахнуўся – «Пасьпеем!» . Помнік трэба было завершыць да 1 мая, к гэтаму любімаму народам сьвяту працоўных усяго сьвету.

Літаральна за некалькі дзѐн да адкрыцьця ўрэшце працвеpазелыя ваяцелі надумалі закончыць працу і прыйшлі да месца свайго тварэньня. І ўбачылі… груду сьмецьця, зь якога тырчэла, нібы нямы крык адчаю, гіпсавая рука Ільіча. Ці то клей быў няякасны, калі запаўняліся гіпсам драбы помніка, ці то яго часткова прапілі з дапамогай мясцовага насельніцтва, якому на халяву і лайно будзе каштоўнасьцю, ня тое што клей.  Але факт застаецца фактам: пасьля добрага дажджу, які цэлую ноч баляваў са скульптурай правадыра, яна раптам ня вытрымала зьдзеку з стандартам савецкіх помнікаў і развалілася. Ёй стала сорамна перад чысьцінѐй дажджавых кропель за свой абражаны разбаўленым клеем гонар.

Кузю з трэскам пагналі зь вѐскі, не заплаціўшы больш ніводнай капейкі.

* * *

Кузева матуля была спадчыннай інтэлігенткай і мела «яшчэ тую» сталінскую загартоўку. Яна была адзінай апорай старога халасьцяка. Але гады йшлі, йшлі, і здарылася тое, што заўсѐды рана ці позна здараецца – яна памерла.

Кузя застаўся адзін на адзін з гэтым жорсткім сьветам, уступіўшым ужо ў дзікія дзевяностыя. Трэба было за нешта жыць і за нешта ж піць… Заказы на Ільіча ўжо не паступалі за іх незапатрабаванасьцю. Наадварот, у некаторых рэспубліках былога СССР помнікі Леніну і іншым дзеячам эпохі бальшавізму пачалі зьнішчаць, у лепшым выпадку іх звозілі ў асаблівыя музэі-запаведнікі. Гэта быў поўны крах для многіх людзей савецкай сыстэмы. І скульптар Кузя як сьлед запіў. І пачаў піць яшчэ мацьней, чым у ранейшыя маладыя гады. І каб было за што піць, пачаў прапіваць пакрысе тое, што засталося ад маці. Кульмінацыяй быў старасьвецкі антыкварны сямейны гадзіньнік, які, можа, сотню гадоў гайдаў вялізнымківачом і памятаў яшчы тыя часы, калі праз суседні з прывакзальнай вежай будынак чыгуначнай станцыі Менск праяжджаў на фронт у пачатку І-й сусьветнай вайны расейскі цар Мікалай ІІ.

Кузя прапіў сямейную рэліквію – і з таго часу Гасподзь зусім адвярнуўся ад яго. Архітэктар Валодзя М., які жыў побач са скульптарам, быў вельмі

абураны яго ўчынкам і потым гаварыў мне: «Я адразу сказаў яму – ты пераступіў мяжу прыстойнасьці, і гэта дабром ня скончыцца».

Сьмерць Кузі была самая жудасная з мне вядомых.

Стаяла вельмі сьпякотнае лета. Ліпень. Суседзі Кузі не адразу заўважылі яго доўгатэрміновую адсутнасьць. Ён жыў сваім жыцьцём і часта некуды зьязджаў. Заўважылі, ці дакланей, пачулі сьмярдзючы пах, які разносіўся з-за дзьвярэй кватэры № 82, суседзі па лесьвічнай пляцоўцы. Дзьвярэй ня здолелі адчыніць, й супрацоўнік МНС залез у кватэру праз балкон. Тое, што ѐн там убычыў, і быў вымушаны нюхаць, было такім уражваючым, што чалавек страціў прытомнасьць. Толькі з дапамогай процігаза ўдалося правесьці нейкія неабходныя дзеяньні над трупам былога скульптара Кузі, а дакладней над тым, што ад яго засталося. Труп праляжаў цэлы месяц і, натуральна, па ім поўзалі чарвякі з мухамі. Выратавальнікі сабралі тое, што засталося ад Кузі, у цэляфанавы мяшок і завезьлі ў морг.

Так скончыў жыцьцѐ таленавіты мастак, скульптар Анатоль Кузьміных, і зь ім сышла эпоха інтэлігентаў старога Менску, саступіўшы месца новаму пакаленьню, так і ня выбраўшаму напой «Кола», і яшчэ з большым за папярэднікаў імпэтам наступаючага на алкагольныя граблі.

## Лѐша Бурдынаў

*Беларускі Ален Дэлон – так называлі Аляксея Бурдынава ў тыя векапомныя дні бадзяньня па «Бэрмудах», кафэ «Молодежное» і Гарыкавай кватэрай над Тэатральна-мастацкім інстытутам. Ён так і запомніўся мне – 25 – 30-ці гадовым стройным хлопцам з атлетычнай фігурай, клясычным антычным тварам і інтэлігентнай сівізной у валасах. З гадамі сівізна павялічвалася, пакуль галава ня стала цалкам срэбнай.*

Бурдынаў, альбо Бурдын, быў палітэканомам. Так, была такая спэцыяльнасьць у савецкія часы, якую можна было набыць на філязофскім факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. П’янства сярод студэнтаў

грамадзкіх навук было ня меншым, чым на фізфаку, а ў нейкім сэнсе і больш узаконеным, бо многія студэнты-філёзафы альбо гісторыкі прыйшлі вучыцца ўжо ў больш сталым узросьце – пасьля арміі, і як дасьведчаныя таварышы стараліся паказваць кляс выпіўкі. Лёша Бурдынаў быў таленавітым маладым чалавекам і паказаў сябе ня толькі ў вучобе, але і ў спорце, выканаўшы майстарскі нарматыў па боксу ў паўцяжкай вазе.

У гэтай кнізе я кранаюся п’янства людзей многіх творчых прафэсій, але амаль не закранаю спартоўцаў. Гэта зразумела – каб нешта сказаць пра спартыўны кантынгент, трэба самому да яго належаць. Ня будучы спартоўцам я, аднак меў шмат сустрэч зь імі пад час сумесных п’янак, якія іншым разам выпадкова надараліся праз агульных знаёмых. Шмат спартоўцаў ведаў, напрыклад, Сяргей Аладзьеў. У ягонай біяграфіі быў пэрыяд працы ў папулярнай савецкай газэце «Фізкультурнік Беларусі», і таму ўжо па профілю службы яму даводзілася сустракацца з фізкультурнікамі самых розных роўняў. Менавіта Аладзьеў прадставіў нам аднойчы ў «Молодежным» знакамітага спартоўца, алімпійскага чэмпіёна па клясычнай барацьбе Алега Караваева. Вось якой была тая сустрэча.

…Алег Караваеў зайшоў у кафэ зь відавочным жаданьнем пахмяліцца, што лёгка чыталася на яго змучаным ад п’янства твары, і на запрашэньне Сяргея без хістаньняў прысеў за наш столік. Аднак калі ў шклянкі налілі віна, то ён доўга ня мог узяцца за шклянку, бо вельмі моцна калаціліся рукі. Дарэчы – ён быў першым чалавекам, у якога я назіраў сапраўдны алкагольны калатун і потым, калі сам дасягнуў ягонай ступені «прагрэсу», часта ўспамінаў алімпійца. Толькі пасьля прыняцця добрай дозы ён стаў здольным нешта сказаць...

Але вярнуся да нашага палітэканома.

Дык вось жа, Лёша Бурдынаў, спалучыўшы талент філёзафа і баксёра, стаў клясычным прыкладам улана, адпавядаючага ўсім прыкметам майго азначэньня. Як лепшага студэнта яго накіравалі пасьля заканчэньня ўнівэра на працу ў мэдінстытут, дзе яму далі мажлівасьць весьці заняткі па палітэканоміі і перспэктыву абараніць дысэртацыю. Яго адразу палюбілі студэнты за гумар,

цікавы, нестандартны падыход к прадмету і … за зьяўленьне на заняткі «пад мухай». У стане лѐгкага пахмелу Лѐша станавіўся вельмі цікавым субяседнікам і любіў разважаць пра сэнс жыцьця і бясконцасьць Сусвету.

Аднаго разу я ехаў з Гомля ў Менск цягнікам і ў тамбуры разгаварыўся з маладымі хлапцамі. Аказалася, што яны былі студэнтамі медінстытуту і вярталіся з зімовых вакацыяў на вучобу. Навучаньнем яны былі задаволеныя, расказвалі пра свае ўражаньні і асабліва ажывіліся, калі нехта зь іх успомніў пра выкладчыка палітэканоміі, якому яны ўзімку здавалі экзамен. Выявілася, што ѐн прыйшоў выпіўшым на экзамен і ўбачыўшы на стале графін з налітай заміж вады гарэлкай, прыйшоў у вельмі добры настрой і выставіў кожнаму тую адзнаку, якую той хацеў. Я запытаў, ці ня звалі выкладчыка Аляксей і ці ня прозьвішча яго Бурдынаў? Студэнты сказалі, што так, менавіта ѐн і быў той паважаны палітэканом.

Зразумела, кар’ера выкладчыка не была доўгай пры абраным Лѐшам спосабе навучаньня будучых мэдыкаў. Затое яму адкрыўся шлях на шабашку і рамантыку Поўначы.

З таго часу жыцьцѐ Аляксея, як і некаторых іншых маіх сяброў – герояў гэтай кнігі, было падзелена на наступныя гадавыя цыклы: вясна, лета і восень – шабашка, зіма, а таксама раньняя вясна і позьняя восень – адпачынак і падрыхтоўка да наступнага сезону. «Адпачынак шабашніка» – гэта не паездка на Маямі ці Канары. Гэта праца і барацьба. Праца над зьнішчэньнем вялізнай колькасьці гарэлкі, віна і піва, і змаганьне з зялѐным зьмеем за месца «пад сонцам».

«Падрыхтоўка» да новага працоўнага сэзону для шабашніка – гэта шуканьні грошай на дарогу да Пячоры ці Сургута, бо яны былі даўно прапітыя падчас «адпачынку шабашніка».

Зразумела, што калі канчаліся грошы, у ход ішлі розныя пазыкі – у родзічаў, сяброў, былых калег і аднакурсьнікаў – у самых розных знаѐмых і нават не знаѐмых людзей. Часта бывала й так, што ніхто ўжо грошай не даваў, але выпіць усѐ роўна карцела. І тады ў ход йшло ўсѐ, «што гарыць». У

двухкоссі ўзяты распаўсюджаны выраз савецкіх часоў, які азначаў ужываньне ўсякіх рэчываў, якія ўтрымліваюць сьпірт. Гэта і адэкалѐн, і дэнатурат, і аптэчныя настойкі, і шклоачышчальнікі, і гуталін, і клей БФ.

Цяпер ілюстрацыя з тых часоў і з таго пэрыяду безграшоўя.

На кватэры ў Серабранцы: я, бо мая кватэра, Філѐзаф – ѐн жа Вяча Петрушкевіч, былы палітэканом Лѐша Бурдынаў і былы гісторык Коля В. – усе трое выпускнікі-гуманітарыі БДУ. Раптам скончылася віно. Хутчэй ня раптам, а ў выніку актыўных дзяньняў выпівох, бо віно канчаецца непазьбежна – рана ці позна. Гэта як яшчэ адзін закон Паркінсона: колькі б не было віна, яно скончыцца заўсѐды.

– Адэкалѐн ѐсьць? – пытаецца Вяча.

– Няма, яшчэ ўчора выпілі, – кажу.

– А гэта што? – уступае ў «дыскусію» Лѐша Бурдын, паказваючы на маленькую бутэлечку з надпісам «Kam`s. Christian Dior».

– Духі «Камю» фірмы Хрысціян Дзіор, з Францыі – 40 рублѐў каштуюць, весь аванс пайшоў – тлумачу я. Да ведама: за 40 руб. у той час можна было купіць 11 бутэлек гарэлкі па 3 р. 62 кап. і сырок на закуску (12 – 18 капеек).

Духі былі падораныя жонцы з нагоды Восьмага сакавіка. На такі подзьвіг я пайшоў упершыню за ўсѐ сумеснае жыцьцѐ. На новай працы далі прэмію да жаночага сьвята, й гэты незапланаваны даход прымусіў мужыкоў нашага аддзела патраціць грошы па прызначэньні. «Christian Dior» абсалютная навінка для савецкіх часоў, калі яны зьявіліся, нягледзячы на астранамічныя кошты, за імі стаялі вялізныя чэргі. Я адстаяў такую чаргу і набыў парфуму.

Калі я растлумачыў, што гэта за «флакуша», то яшчэ больш распаліў нездаровы інтарэс сяброў да французскай вытворчасьці. Бурдын крутануў корак бутэлечкі, і не пасьпеў я адрэагаваць, як ѐн зрабіў добры глыток.

– Цудоўныя духі. Смачныя, – адно філязофскі заўважыў Аляксей.

Больш мне не даводзілася купляць прадукцыю фірмы «Christian Dior». Летась я трапіў у Парыжы ў буцік «Bouticue tax free Kam`s». Я ўспомніў Бурдына і не прывѐз з Францыі нават таннай парфумы…

* * *

Яшчэ ў «тэлевізарныя» часы, г. зн. у слаўныя 80-я гады мінулага стагодзьдзя, Бурдын нападпітку любіў філязофстваваць, разважаць пра жыцьцѐ і сьмерць. Ён часта гаварыў фразу: «Я памру маладым». Ягоныя словы аказаліся прарочымі. Хоць нічога не нагадвала пра сумны фінал жыцьця. Канечне, калі лічыць сьмерць сумным фіналам жыцьця, то гэтая падзея чакае кожнага. Таму сумным трэба лічыць хутчэй заўчасны адыход у іншы сьвет.

Як і заўсѐды, у тую зіму 1990 года розныя групоўкі шабашнікаў рыхтаваліся да новага сэзону, актыўна зьнішчаючы вырабы менскага завода алкагольных напояў «Крышталь». І ня толькі менскага – наступалі часы некіруемай прыватызацыі, і, як грыбы, расьлі зусім новыя заводы, заводзікі ды проста нейкія ОО ці ІП, якія вельмі спрытна асвоілі прыбытковы занятак вырабу таннага чарніла.

Мы сядзелі ў дыетычнай сталоўцы фабрыкі-кухні, што акурат над ПНУ – на другім паверсе, і пілі гарэлку зь півам. Я расказваў шабашнікам пра зьмены, што адбыліся ў беларускім грамадзтве, пра Беларускі народны фронт, Курапаты й Зянона Пазьняка. Паказаў нават першую праграму БНФ. Аляксей быў вельмі ўражаны ўсім гэтым, папрасіў праграму і сказаў, што абавязкова далучыцца да Руху БНФ «Адраджэньне».

Але не пасьпеў. У маі ѐн выехаў на Поўнач, здаецца, у Комі, але літаральна праз месяц вярнуўся назад лячыцца ад сур'ѐзнай хваробы печані. Ён гаварыў, што захварэў ад злоўжываньня сьпіртным, і цяпер ѐн ужо дакладна піць не будзе, вылечыцца і нікуды больш не паедзе, а будзе будаваць новую Беларусь. Але нічога ня выйшла. Ён памѐр праз тры месяцы. У яго аказаўся нават не цыроз – адвечны спадарожнік п'яніц, а рак печані.

Лѐша Бурдынаў пражыў 45 гадоў.

# ПРАТАШЧЫК

*Хасбулат молодой,*
*Крепка сакля твоя,*
*Золотою казной*
*Я осыплю тебя…*

(Радкі ўлюбѐнай песьні
ст. інжынэра АН БССР
Віктара Праташчыка)

## Навасельле

Я шукаў кватэру, каб зьняць пакойчык з сваѐй сям’ѐй у складзе жонкі, шасьцігадовага сына й мяне. Мне не шанцавала з гаспадарамі, у якіх я здымаў дагэтуль кватэры. Пападаліся альбо скандальныя, альбо моцна п’ючыя гаспадары. Асабліва дастала мяне апошняя гаспадыня, якая ўзяла грошы наперад і распачала градыѐзную п’янку. Яна купіла сьвінячую галаву для халадца, паставіла яе варыць і… «п’янствавала водку» цэлы тыдзень, так і не зварыўшы халадца. Кожны дзень я вяртаўся з працы дадому, заходзіў паесьці на кухню, і там мяне ў агромністай каструлі сустракаў сьвіны лыч, што тырчэў з вады, так і не выкіпеўшай зь нястачы працэсу варэньня.

На той час газэт тыпу «Ва банкъ» альбо «Из рук в руки» не існавала, і ўсе аб’явы кшталту «Шукаю кватэру», «Здыму пакой» вывешваліся непасрэдна на вулічных слупох й інфармацыйных дошках на тралебусных прыпынках. Даваўся працоўны тэлефон – іншага проста не было – і чакалі званка ад

добрага, а часта й ня вельмі добрага чалавека. Ці хадзілі па кватэрах і пыталіся: «Ці не здаяце вы пакой кватарантам?» Звычайна такі мэтад выкарыстоўваўся ў новых раёнах, дзе толькі што здалі ў эксплуатацыю дом.

Ня часта адклікаліся людзі на нашыя абвесткі, і таму з якой радасьцю я пачуў аднойчы ў тэлефоннай трубцы прыемны мужчынскі голас:

– Вам патрэбна кватэра? Ёсьць пакой у двухпакаёўцы, раён Серабранка, плата памяркоўная.

– Вельмі трэба, зараз жа еду на перамовы, – адказваю.

Гаспадар кватэры аказаўся чалавекам трохі сталейшым за мяне, але яшчэ не старога веку, у акулярах, інтэлігентнага выгляду, апрануты ў белую сарочку, гальштук і цёмны шэраваты касцюм. Аказалася, што ён, як і я, працуе ў Акадэміі навук і піша дысэртацыю.

«Тое, што трэба», – падумаў я.

– За пакой будзеце плаціць 40 рублёў у месяц, плата наперад. Вось яшчэ трэба дафарбаваць падлогу ў пакоі, і ён ваш. Праходзьце, знаёмцеся.

Я прайшоў і ўбачыў прыстойны сьветлы пакойчык, на падлозе каля вакна стаяла банка з фарбай, некалькі дошак ужо было зафарбавана яркім зялёным колерам.

«Вой, як цудоўна», – зноў падумаў я і дадаў услых:

– Пакой добры, але чаму падлогу робіце зялёнага колеру? Можа, лепей усё ж звычайнага, карычневага?

– Другой фарбы не ўдалося ўкрасьці, – засьмяяўся Віктар.

Я таксама засьмяяўся ацаніўшы жарт. Тады я не ведаў, што гэта быў зусім не жарт, бо Праташчык краў не толькі фарбу, а ўсё, што можна. У яго была сапраўдная клептаманія, якая прымала вострую форму ў п’яным стане. Калі Віктару сказалі пра існаваньне такой цікавай хваробы, то ён вельмі абрадаваўся – нібы адкрыў у сабе экстрасэнсарныя здольнасьці – і пры выпадку з гонарам неправільна гаварыў: «У мяне клептаманція».

А тады я сказаў:

– Дык мы згодны. Калі засяляцца?

– Ды хоць зараз. Толькі закончу фарбаваць. Давайце грошы і пераязджайце.

– Добра. Але ўсѐ ж такі мы лепей самі закончым афарбоўку, калі Вы ня супраць.

Я выдаў гаспадару 40 рублѐў і пайшоў да тэлефона-аўтамата, каб патэлефанаваць жонцы пра добрую навіну. Віктар жа накіраваўся щ магазын, сказаў, што трэба перакусіць і трошкі выпіць за знаѐмства.

Калі я вярнуўся, то ўбачыў красамоўную карціну: на падлозе, побач зь зялѐнымі масьніцамі, сядзеў старшы інжынэр Інстытуту біялѐгіі Віктар Праташчык у сваеасаблівым атачэньні вельмі знаѐмых мне прадметаў – каля яго паўколам стаяла 8 бутэлек віна. Гэта каб «трошкі выпіць». Бутэлькі былі ня простыя, а фаўсты, ѐмістасьцю 0,71 мілілітра, а віно было – на той час ужо рэдкае – «Фруктовае», празванае ў народзе «Фурцавым», і каштавала гэтая «красата» – 1 руб. 27 кап.

Пасьля другой бутэлькі Праташчык навучыў мяне сьпяваць песьню «Хасбулат удалой, крепка сакля твоя».

Пасьля трэцяй бутэлькі я пайшоў да тэлефона-аўтамата і рапартаваў жонцы:

– Дрр-ржэнькая… ж-жоначка, кватэра цудоўная, ніхто не п’е… Хасбулат удалой…

Насамрэч кватэра была як кватэра. Цудоўным, у сэнсе арыгінальным, аказаўся гаспадар, бо піў не адзін, а з кватарантам, г.зн. з’ імной. І ў нас склаўся «неблагі калектыў», які пратрымаўся год з паловай, пакуль я не знайшоў новую кватэру, дзе няе трэба было складаць абавязковую кампанію гаспадару.

* * *

Віктар Праташчык у маладосьці хацеў стаць урачом. Ён нават здолеў паступіць у мэдінстытут. На другім курсе студэнтаў павялі ў анатамічны тэатар, дзе паказвалі розных засьпіртованых жывѐлін. Праташчык на той час мучыўся пахмельлем, і яму было не да навукі і нават не да тэатру, хоць бы й

анатамічнага. І ѐн разьвязаў сваю праблему наступным чынам. Злавіўшы момант, калі выкладца некуды адлучыўся, ѐн выжлукціў увесь сьпірт, у якім плавала да гэтай няшчаснай сустрэчы экзатычная істота – вужака. Сьпірт пайшоў добра, але нехта засѐк Віцю за гэтым ня самым высокародным учынкам. І яго адлічылі зь медыінстытута.

З таго часу Віця Праташчык атрымаў мянушку «Хірург», а таксама – «Доктар». Гавораць, што хірургам яго празвалі з тае нагоды, што ѐн ня толькі выпіў вужакаў сьпірытус, але й закусіў гэтай рэптыліяй. Хоць мне здаецца, што гэта яўнае перабольшваньне.

Хоць чаму перабольшваньне? А хто з’еў мухамор? Наступная гісторыя 100 адсоткаў дакладная праўда!

Было гэта ў часы павальнага пакарэньня поўначы атрадамі шабашнікаў з горада героя Менску, і трапіў Віця ў адзін з такіх атрадаў, бо я пазнаѐміў яго з філѐзафам Вячам таксама з «горада-героя», але іншага – Ляхавіч.

Жылі нашыя працаўнікі ў рабочым пасѐлку, займалі катэджык на ўскраіне, да якой падступаў хвойны масіў тайгі. Грыбоў тады было – мора!

Але зьбіраць тыя грыбы нікому было не цікава, бо далі аванс. І вось пад час апрыходаваньня авансу нехта завѐў гаворку пра грыбы, і ў рэчышчы тэмы – было паднята пытаньне: «Якія яшчэ грыбы, акрамя мухамора – ядавітыя?» Але Хірург – Праташчык усіх ашаламіў. Ён сказаў, што, паварыўшы, можна есьці ўсе грыбы, а мухаморы нават і сырымі.

І каб ня быць галаслоўным, прапанаваў пайсьці ў заклад, што ѐн за бутэльку каньяку зьесьць сыры мухамор.

Сказана – зроблена. Тут жа прыпѐрлі зь лесу здаравенны мухамор, збегалі таксама за каньяком.

І зьеў! Праўда, на нейкім этапе папрасіў адкаркаваць амаль выйграны каньяк і наліць шклянку, маўляў – «Трэба запіць». Калі ўжо даядаў грыб, то толькі прабурчэў: «Во гады! Выбралі грыбок – ня самы малы. Ды й стараваты будзе».

Самае дзіўнае было тое, што раніцай Віктар прачнуўся, як быццам бы нічога й не было. Выглядаў сьвежанькім, бадзёрым і вясёлым.

## Баромэтар

Віктар Праташчык знайшоў «залатую жылу». Усе кнігі ўжо даўно былі здадзены у мясцовы «Гастраном» і «Сталовую». Але высьветлілася, што ў ягонай кватэры ёсьць і іншыя каштоўныя рэчы. Такім парадкам зьнеслі адносна новы пыласос, насценны гадзіннік, посуд у выглядзе талерак, рондаля і нават мэльхіёравыя відэльцы.

Усё было прададзена з дому Праташчыка. Амаль па Талстому. Як пахмяліцца?

І тут позірк былога навуковага супрацоўніка Акадэміі навук БССР ўтаропіўся на сценку, дзе самотна красаваўся кругленькі кампактны баромэтар, вынесены падпольна зь інстытуту ў лепшыя гады падаючага надзеі (а на самай справе – «поддающего надежно») вучонага.

У гастраном!

Рубшчык мяса Аркадзі, якому нядаўна пасьпяхова быў здадзены насьценны гадзіннік, доўга і ўважліва разглядваў баромэтар. Пакруціў рычажкі, паглядзеў збоку, ззаду – нічога не зразумела!

– Што гэта?

Віця цярпліва тлумачыць назначэньне баромэтра, гаворыць нешта пра атмасферны ціск, пра Паскаля і бары...

Нарэшце да мясьніка даходзіць, чаго хоча Праташчык, хоць гэта і адразу было ведама, але ж баромэтры яшчэ ні разу ў гісторыі алкагалізму не прапіваліся.

– Віця, ты б яшчэ швабру мне прынёс, – давіцца рогатам Аркадзі і доўга яшчэ ня можа прыйсьці ў сябе ад сьмеху.

Але на бутэльку «Агдаму» ўсё ж даў.

## Прэндзеляк і Палтаўшчызна

Тома зьявілася ў кватэры Віктара немаведама як і адкуль. Прыблудзіла. Прыйшла. Прыбілася… Як яшчэ можна сказаць? Ды як ні гавары, але аднойчы раніцай за пахмелачным сталом у знакамітым пакоі Праташчыка я ўбачыў даволі прыгожую, маладую дзеўку, адно што мінус – мела твар трохі пабіты воспай, ды вылучалася досыць адметнымі паводзінамі … скажам так, лѐгкімі паводзінамі. Але пры ўсім яна мела выдатныя грудзі дзесьці 4-га памеру, якія пры хадзе спакушальна калыхаліся, бо іх уладарка ня мела звычкі насіць станік. А яшчэ яна мела звычку, а, можа, гэта ў яе было ад прыроды – калыхаць пры хадзе сваімі шыкоўнамі сьцѐгнамі, якія добра праглядваліся да самага… пачатку ѐмкага азадку. Ногі праглядваліся так высока таму, што Тома насіла лѐгенькую міні-спаднічку шырынѐй можа сантымэтраў 15 – ня больш, у модную тады касую клетачку.

Томка была дзеўкай бяз комплексаў – накшталт Лаліты – і мала саромелася ў асяродку мужыкоў. Наадварот, яна хутка стала неабходным элемэнтам нашай сыстэмы штодзѐннага п’янства, і паколькі нідзе не працавала і не вучылася, а значыць грошай не прыносіла, то адпрацоўвала гэты недахоп… не тым, пра што можа падумаць чалавек з прымітыўнай мужланскай лѐгікай – а канкрэтнымі гаспадарчымі справамі.

Томка здавала тару! Кожны дзень, у той час, калі мы ніяк не маглі адарваць ад падушкі свае цяжкія галовы, напоўненыя адпітымі мазгамі, Томка ўжо праставала да прыѐмнага пункуту шклотары і неўзабаве прыносіла пляшку – другую віна на апахмел.

У Томкі быў вельмі вясѐлы нораў, яна была сваім чалавекам да мазга касьцей. Менавіта пра яе, мяркую, быў складзены анэкдот:

«– Девушка, Вы что будете пить: водку, самогон или спирт?.

– Прямь не знаю, всѐ такое вкусненькое».

Паэт Коля Захаранка, чалавек вельмі багемных колаў, прыехаў да мяне ў госьці. Я прыняў яго на кватэры, якую здымаў у Праташчыка, і, натуральна,

пазнаѐміў яго з гаспадаром. Мы селі за стол і пачалі распіваць бутэлькі, што прынесьлі. Праташчык быў вельмі задаволены госьцем, бо Коля песьню «Хасбулат молодой, крепка сакля моя» прапанаваў прасьпяваць разам. Тут вярнулася са шпацыру Томка. Яна далучылася да нас і выпіла поўненькую маленкоўскую[1] шклянку віна, чым вельмі спадабалася Міколу.

Пасьля таго, як усѐ чарніла было апрыходаванае, Коля сказаў: «Ведаеш, хто такія Праташчык і Тамара? Гэта – Прэндзеляк і Палтаўшчызна!»

Я хацеў выпытаць у яго, што за такі спадар Прэндзеляк і якія ў яго даносіны да спадарыні Палтаўшчызны, але Коля ўжо нічога не адказаў, бо не хацеў, ці дакладней, нават і ня мог хацець, як любы чалавек, які вырубіўся. Альбо заснуў…

У мяне засталася як рабочая гіпотэза, што таямнічыя Прэндзеляк і Палтаўшчызна – героі нейкага літаратурнага твора.

## Настойка стручковага перцу

Гэтая лекавая настойка прызначаная для націраньня суставаў й іншых вонкавых уздзеяньняў на хворыя часткі цела. Як і большасьць настоек, якія пастаўляліся ў аптэкі, настойка стручковага перца мела ѐмістасьць 25 мілілітраў, а каштавала 22 капейкі і была настойкай на сьпірце. Але цымус быў ня ў гэтым. Самая маленькая колькасьць, якая-небудзь доля мілілітра, кропелька гэтай вадкасьці пры трапляньні ўжо ў паражніну рота выклікала страшэнную пякоту, нѐба апавальвалася, нібы пры паласканьні салянай кіслатой, – вочы ў ахвяры вылазілі з арбіт, яго скручвала ў тры покруты і ѐн валіўся на падлогу. Некаторыя пасьпявалі запіць глыток гэтай цуда-настойкі вялікай колькасьцю вады, і ім было ня так блага – адно хвілін пяць даводзілася хаўкаць ротам і сутаргава шукаць дадатковых глыткоў вады.

[1] Маленкоўская шклянка – знакамітая шклянка ѐмкасьцю 250 грамаў. Названая ў гонар Старшыні прэзідыюма Вярхоўнага Савету СССР Маленкова, які кіраваў краінай адразу пасьля І.В. Сталіна.

Іншая справа – Праташчык. Ён выпіваў усю флакушу і хоць бы хны! Нават не запіваў. Ніхто ня мог паўтарыць подзьвіг былога інжынэра Акадэміі навук. Нават Адамчык, які піў усѐ, што гарыць, больш дзьвюх флакуш ня мог адолець. У другой палове 80-х гадоў, у звязку з гарбачоўскім сухім законам, усе настойкі пачалі выдаваць толькі па рэцэптах. Аднак Праташчык як былы мэдык па старых сувязях дабываў патрэбныя рэцэпты, і настойка стручковага перцу ў яго не пераводзілася. Самае дзіўнае было ў тым, што пры наяўнасьці нармальных напояў накшталт гарэлкі альбо віна ѐн аддаваў перавагу флакушам і ў першую чаргу настойцы стручковага перцу.

У сярэдзіне 90-х гадоў ѐн зьехаў з Серабранкі і наагул зь Менску, у Маладзечна. Але аднойчы я сустрэў яго ў Менску, у раѐне вуліцы Захарава. На пытаньне «Што ты тут робіш?» ѐн адказаў: «На гэтай вуліцы ѐсьць аптэка, дзе мне яшчэ даюць настойку стручковага перцу, вось туды й накіроўваюся». Як заўсѐды, Праташчык быў акуратны, у адпрасаваных нагавіцах, белай сарочцы й гальштуку.

У той дзень вуліцы Менску былі мнагалюднымі й шумнымі – пад штандарамі БНФ людзі зьбіраліся на Чарнобыльскі шлях.

*Але шлях Віктара Антонавіча Праташчыка быў іншы.*

## АДАМЧЫК

*Уладзімер Адамчык, ці проста Валодзя – большую частку свайго ня вельмі доўгага жыцьця прапрацаваў на заводзе Вавілава, што знаходзіцца ў Дражні. У тыя часы (80-я гады ХХ ст.) там выраблялісе розныя прылады, маючыя адносіны да оптыкі і маючыя яшчэ большыя адносіны да ваеннай прамысловасьці. Адамчык скончыў Ленінградзкі інстытут кінаінжынэраў і быў даволі адукаваным спэцыялістым.*

*Колькі я яго ведаў – ѐн заўсѐды піў. Піў віно, гарэлку, піў піва. На заводзе было шмат сьпірту. Яго Адамчык таксама піў. З тае прычыны, што па заводу ѐн часта хадзіў «пад мухай», яго любілі пасылаць у камандыроўкі – і з вачэй далоў, і справы зробіць, бо як ведама, шмат важкіх кантрактаў, дагавораў падпісваліся ў канфідэнцыйным парадку, дзе абавязковым трэба было замацаваньне папераў гарэлкавай пячаткай.*

*З усіх маіх шматлікіх знаѐмых Адамчык быў адзіны, хто ніколі не завязваў і нават не выказваў жаданьня кінуць піць. Тут ѐн быў цьверды: «Мне падабаецца піць і таму я гэта раблю і буду гэта рабіць, што б вы ні казалі», – вось ягонае жыцьцѐвае крэда.*

* * *

Калі Адамчык даведаўся, што я пайшоў сьпяваць у Народны хор народнай песьні пры БДУ ѐн вельмі сьмяяўся. Ён ня мог зразумець, навошта цягнуцца некуды ва ўнівэр, у цэнтар Менску, калі гэта можна рабіць у сябе, у яго ці іншай суседзкай кватэры. І трэба заўважыць, пасьля добрай выпіўкі мы любілі пасьпяваць песьні. Сучасныя п’янтосы, мне здаецца, ужо ня ўмеюць гэтага рабіць.

Але яшчэ больш быў уражаны Валодзя Адамчык, калі даведаўся, што мы сьпяваем у хоры заўседы цьвярозыя. Толькі пасьля канцэртуа ці рэпэтыцыі харысты маглі сабе дазволіць расслабіцца і кульнуць нейкую шклянку добрага віна альбо выпіць куфаль піва.

* * *

Адамчык быў заўзяты рыбак. На рыбалках ѐн звычайна няблага бавіў час і заўсѐды быў з уловам. Думаю, ня трэба нагадваць, што там ѐн таксама піў.

Аднаго разу любоў да рыбалкі саслужыла яму добрую службу.

Атрымалася так. Адной цѐплай вясеньняй раніцай мы ўзялі два фаўсты «Агдама» і пайшлі не дадому, не да каго-небудзь на кватэру, а надумалі пасядзець на прыродзе. «Мы» – гэта я, спонсар «Агдамаў», бо збыў для гэтага кнігу «Двадцать лет спустя», знакаміты п’яніца Праташчык, ведамы ў Серабранцы пад клічкай «Хірург», Валодзя Клязовіч, якому мая жонка дала прозьвішча «Падзаборнік» і аматар рыбалкі, інжынэр Адамчык.

Нашае імкненьне пабыць на прыродзе можна было зразумець. Пасьля працяглай зімы, калі ўжо сышоў сьнег і птушкі ва ўсю давалі аб сабе знаць вясѐлымі спевамі, якія, між іншым, можна пачуць толькі ў разгар вясны, менавіта ў тыя радасныя часы абуджэньня ваша душа таксама хоча сьпяваць і весяліцца, і яе цягне да вытокаў вечнасьці, да зямелькі і першых зялѐненькіх лісткоў на бярозках…

«Прыродай» у Серабранцы былі кусты вакол высокіх бярозак непадалѐк ад вѐскі Шэпічы, якая даўно ўжо забудаваная высоткамі, між якіх красуецца ўнівэрсам «Палесьсе».

– Давайце спусьцімся вунь у тую ямку – прапанаваў я, – зьверху нас ня будзе бачна, мянты ніколі не здагадаюцца, што там нехта ѐсьць.

Усе пагадзіліся з прапановай, і мы спусьціліся ўніз. Ямка, ці хутчэй глыбокі яр, прытулілася паміж вялікімі ліпамі і надзейна, як мне здавалася, хавала нас ад непатрэбных вачэй.

Першым пракаўтнуў сваю дозу – паўбутэлькі – Валодзя Адамчык і перадаў рэшту мне. З тым, поўны сьвежых сілаў і рыбацкага настрою, Адамчык падняўся і сказаў:

– Пакуль вы тут будзеце мурыжыць гэтыя бутэлькі, пайду пагляджу ды пакапаю чарвячкоў за той ліпкай. Заўтра на рыбалку – вельмі патрэбна будзе.

Другую бутэльку пілі на дваіх Падзаборнік і Хірург. Пасьля ўчарашняга мяне вельмі муціла, і я ніяк ня мог наважыцца пачаць ці, дакладней, працягнуць пачатае суседам двайное вызваленьне: фаўста – ад жывіцельнай вадкасці і сябе – ад немінучай гібелі ад пахмелачнага сіндрома. Я то падносіў бутэльку да вуснаў, намагаючыся прымусіць сябе зрабіць першы глыток, то зноў апускаў, адчуваючы, як ірвотная хваля падступае да самага горла.

Ужо выпіў першую порцыю з другой пляшкі Праташчык і пачаў падстройвацца Клязовіч, а я ўсѐ не наважваўся.

Раптам, як гром зь яснага неба, аднекуль зьверху пачуўся мэталічна-роўны, але добра знаѐмы сваім варожым выразам голас:

– Вот вы куда спрятались, голубчики. Неплохо устроились. Ну что? Допивайте и пройдемте.

На вяршыне нашага, як высьветлілася, ня толькі намі заўважанага яра, зіхацелі кукардамі чырвоныя фуражкі двух міліцыянтаў, якія радасна пасьміхаліся і махалі нам рукамі. Іх радасць можна было прыраўнаць да знаходкі грыбніком добрай сямейкі баравікоў пасьля працяглага бадзяньня па лесе.

Убачыўшы непажаданых «сяброў», я канчаткова расстроіўся, зьнікла жаданьне нават спрабаваць выпіць, якое яшчэ больш умацавалася пасьля слоў мянта: «Допивайте, мы подождѐм». Але Валодзя Клязовіч не лічыў, што здарылася нешта кепскае – узяў у мяне бутэльку і хуценька праглынуў усѐ зьмесьціва на вачах у нашых «грыбнікоў».

З тым і пагрузілі нас трох у варанок, які чакаў зусім побач – пад суседняй ліпкай. А Адамчык так і ня трапіў тады ў міліцыю, бо выкопваў чарвякоў і

падыходу міліцыянтаў нават не заваўважыў. Як нас грузілі – ужо бачыў, але прасіцца ў варанок не стаў.

* * *

Пасьля таго, як Валодзю нарэшце выгналі з завода, ѐн працаваць на дзяржаву болей не схацеў. Пачаў езьдзіць на шабашкі – перайшоў у самую знатную катэгорыю савецкіх інтэлігентаў – у бічы. А біч, як ведама, гэта «быўшы інтэлігентны чалавек», а ня нейкі там бомж, як цяпер завуць людзей, што выпалі з сыстэмы грамадзкіх адносін і вядуць вольнае існаваньне.

Аднак езьдзіць па «северам» яму хутка надакучыла, і ѐн прыдумаў сабе іншую крыніцу прыбыткаў. Ён вырашыў правярнуць вельмі – на ягоны погляд – выгадную грашовую апэрацыю. Апэрацыя абяцала быць не толькі грашовай, але й рамантычнай, грэла векавое імкненьне самотнай вясковай душы па зямельцы і вясковаму доміку. Так, вы ўгадалі. Адамчык вырашыў купіць дом у вѐсцы. Грошы на гэта находзіліся вельмі проста. Прадаецца аднапакаѐўка на праспэкце Ракасоўскага, дзе апынуўся Валодзя ў выніку разводу з Надзюшай, купляецца дом, а рэшта прапіваецца.

Так і было зроблена. Адамчык купіў дом, але ў вѐску чамусьці ехаць не сьпяшаўся. Можа, таму, што некалькі тысяч баксаў, што засталіся ад продажу, «ляжку грэлі», а можа, проста яму не было з кім піць там, у вѐсцы. А хутчэй і тое й другое. Адным словам, застаўся Адамчык у Менску, начаваў у сябра па мянушцы Рыжы – з якім «кентаваўся» яшчэ з завода Вавілава.

Рыжы жыў у Сьляпянцы, далѐка ад Серабранкі. Таму на пэўны час Адамчык зьнік з «майго гарызонта». Але аднойчы да мяне дайшла жудасная вестка – Адамчык памѐр, дакладней, загінуў пад коламі аўтобуса. Пазьней сам Рыжы мне расказаў пра абставіны гібелі Валодзі.

… Яны пілі ўвесь дзень і рэшту ночы. Скончылася «пойла». Тады – недзе а 4-й раніцы, ці нават ужо на 5-ю – яны рушылі «на точку», дзе ў спэкулянтаў можна было набыць гарэлку альбо віно ва ўсякі час сутак. Грошы былі, йшоў 1995 год, і 1000 даляраў Адамчыка – былі вялізнай сумай, якаю прапіць ня так проста. Узялі 4 фаўсты і тут жа два з іх апрыходавалі. На старыя дрожджы віно

моцна дало ў галаву. Абодва хутка закаселі і моўчкі пасунуліся у накірунку Рыжавай хаты. Сьпераду, выпісваючы васьмèркі, шоў Валодзя Адамчык, празь некалькі мэтраў цягнуўся Рыжы. Было 5 гадзін 30 хвілін. Ужо пачаў хадзіць гарадзкі транспарт. Раптам Рыжы пачуў віскатаньне тармазоў, і перад самым ягоным носам рэзка прыпыніўся рэйсавы аўтобус, які толькі пачаў свой першы маршрут. Пачуліся крыкі, лямант, «Чалавек пад коламі! Ратуйце!. Цягніце яго!... Хуткую!...»

Але калі таго чалавека выцягнулі, èн ужо быў мèртвы. Гэта быў Валодзя Адамчык. Рыжы ў аварыі не атрымаў нават драпіны.

Валодзю Адамчыку было 47 гадоў.

# МУЗЫКАНТЫ

Музыканты – гэта своеасаблівы, асобны народ. І розьніць іх ад звычайных людзей вось што. Яны ня толькі граюць, сьпяваюць і танчаць. Яны – *размаўляюць на сваѐй адмысловай мове.* Нешта накшталт слэнгу альбо дыялекту ці наваязу, ці яшчэ што, але ўсѐ будзе ня тое, што ѐсьць на самай справе. Гаворку музыканта, асабліва калі ѐн нападпітку, альбо яшчэ горш – пры шуканьнях выпіўкі – нельга зблытаць ні з якой іншай мовай, альбо дыялектам. У гэтым музыкальную мову можна параўнаць хіба што з мовай зэкаў – феняй. Але ня думайце, што іх асобная мова падобная тэкстам навукоўцаў, перасыпаная музыкальнай тэрміналогіяй накшталт «Дыез, бемоль, бекар, дымінуенда, крэшчэнда, алегра», альбо суправаджаецца таямнічай фразай накшталт «дамінанта ў мінор». Не. Хоць некаторыя музыкальныя тэрміны ўсѐ ж набываюць у музыкаў зямны сэнс, як, напрыклад, фраза «Машка ўжо бемольная» азначае, што знаѐмая па імені Маша – зацяжарала.

Музыкальны слэнг, альбо проста мова музыканата – простая, але зьмястоўная. Выраз «Я зараз здыму ў таго чувака квінту на кір» азначае , што я зьбіраюся пазычыць у знаѐмага мне чалавека пяць рублѐў, каб на іх узяць тры бутэлькі віна, а тэкст «отлабали вечер и так кирнули в кабаке, что Квадрат метнул харч прямо в тарелку» перакладаецца на рускую мову, напрыклад, такім чынам: «Отыграли в ресторане целый вечер, потом хорошо выпили, так, что гитарист по кличке Квадрат блеванул в свою тарелку».

Нехта сказаў, што п’янства – гэта найперш занятак паэтаў, артыстаў і сантэхнікаў. Ня верце ім. Яны ня ведаюць музыкантаў.

Пра некаторых асабіста знаѐмых мне музыкаў таксама хочацца расказаць у гэтай кнізе.

## Кампазітар Стась Баско

### *Дом, дзе некалі будзе мемарыяльная шыльда*

Стась Баско – кампазытар. Ён пісаў неблагія прэлюдыі, цудоўныя полькі і вальсы, інструмэнтальныя п’есы і нават стварыў сур’ёзную опэру « А хто там ідзе»? Сваёй жонцы Лідзе, даўно ўжо нябожчыцы, ён прысьвяціў польку пад назвай «Ліда», дзе лёгка ўзгадваўся ўвесь сварлівы характар спадарожніцы жыцьця. Ліда вельмі любіла гэты твор і ганарылася тым, што полька названая ейным імем. А яшчэ яна марыла аб тых часах, калі Стась зробіцца знакамітым кампазытарам і будзе ладзіць аўтарскі канцэрт у філярмоніі. І ёй мроілася такая карціна: пасля заканчэньня канцэрту, пад бясконцыя авацыі меламанаў недзе ў першых радах партэра падымаецца Стась, а разам зь ім яна – яго жонка, і яны паважна раскланьваюцца ў розныя бакі залы, а аплядысмэнты ўсё гучаць, усё гучаць…

Стась жыў на перакрыжаваньні вуліц Плятонава і Гікала, на чацвертым паверсе хрушчоўскай пяціпавярхоўкі. Ад Інстытута фізыкі, дзе я тады працаваў, гэта было ўсяго на тры прыпынкі язды аўтобусам 37-га маршрута. Але ня толькі гэты фактар спрыяў нашым частым сустрэчам. Стась быў вольным кампазытарам – г.зн. амаль не працаваў на дзяржаву, і большую частку свайго вольнага часу бавіў дома, на Плятонава. І бавіў гэты час кампазытар ня толькі напісаньнем партытур для флейты з аркестрам – Стась любіў выпіць. І любіў гэта рабіць грунтоўна, камфортна. Я таксама тады, як гаворыцца, запаў на гэтае зельле, і калі мае ногі не хацелі перамяшчаць цела навуковага супрацоўніка ў напрамку Акадэмічнай бібліятэкі, то яны абавязкова дастаўлялі мяне да Стася.

На першым паверсе дома, дзе жыў сябра, быў лікёра-гарэлачны аддзел, і гэты немалаважны плюс яшчэ больш прывабліваў аматараў музыкі да ягонай кватэры. Ліда, як і большасць савецкіх працоўных, сыходзіла штодзень на працу ў нейкі праектны інстытут яшчэ да восьмай гадзіны раніцы. І да адкрыцьця магазіна, у 9.00, у Стася ўжо купавалася цёплая кампанія розных па

сацыяльным статусе і прафесіях людзей, якія нягледзячы на розніцу ў рэгаліях, тым не менш праяўлялі на дзіва рэдкае адзінадушша пры закліку «Налівай!».

### *Зьмеявік музыканта*

Няведама адкуль ѐн зьявіўся на Стасевай кухні, такі даўжэзны, з матава-срэбнай кругленькай у папярочніку трубкай, месцамі сагнуты ў «тры пагібелі», далей зноў выпрастаны і ўрэшце скіраваны сваѐй пашчай у кухонную ракавіну – дзіўны агрэгат пад назвай – зьмеявік. Шмат гадоў пазьней я бачыў самагонныя апараты ў музеі п'янства і алкагалізму ў вѐсцы Мосар, што стварыў вялікі змагар з алкаголем, славуты ксѐнз Булька. Там стаялі два запраўдныя зьмеявікі і чыгункі для адліву першака. Але зьмеявік кампазытара Стася, без перабольшаньня быў лепшы за тыя музэйныя экспанаты зоны цьвярозасьці Глыбоцкага раѐну.

Меркавалася, што музычны Алімп гораду Менску, дзякуючы набытку Стася ў выглядзе таго выдатнага зьмеявіка хутка пазбавіцца вечнага стану «недапіцьця» і вечных пошукаў дабаўкі, і ў вечна сасьмяглыя музычныя раты хутка пальецца смачная вадкасьць, здабытая аўтарам полькі «Ліда» зь лепшага набытку кампазытара за апошнюю пяцігодку – самагоннага апарату.

На кухню паставілі выварку з брагай, накідалі ўсяго, «што паложана» – цукру, дрожджаў, хлебавых корачак ды забрадзілага варэньня, і пачалі чакаць, калі набяруцца градусы і можна будзе запусьціць Стасеў гонар – самагонны апарат для перагонкі гэтай самай брагі. Трэба сказаць, што ня з простага жаданьня экзотыкі зьявілася тая ідэя рабіць сваю самагонку, – насталі часы так званага сухога гарбачоўскага закону, і прыстойна апахмяліцца савецкаму алкаголіку стала зусім ня проста.

Цярпеньня часта не хапала, таму літаральна праз два-тры дні нехта ціхенька пракрадваўся ў ванную, дзе стаяла выварка з брагай, і патаемна выпіваў першы кубак запаветнага напою. А празь нейкую гадзіну выварка ўжо стаяла ў зале – побач са знакамітым Стасевым раялем, які праславіўся тым, што

ня толькі спрыяў нараджэньню геніяльнай музыкі, але й часта служыў дахам для стомленых гасьцей, якім не хапіла цывільнага ложку.

Аднак помняцца й такія часы, калі бражка ўсё ж дастойвалася да моманту Х і пераганялася праз знакаміты самагонны апарат. Гэты момант быў настолькі ўрачысты, што адмяняліся ўсялякія паходы на працу, а адгаворкі накшталт «мне трэба йсьці да дому (да жонкі)» прыраўноўваліся да сабатажу з расстрэлам на месцы. Стась урачыста пераліваў з вываркі ў апарат брагу, і пачынаўся магічны рытуал перагонкі, які дасягаў кульмінацыі як толькі пачыналі падаць першыя кроплі першака. Стась ласкава гладзіў зьмеявік, і ў яго вачах сьвяцілася дзіцячая радасьць немаўляці, якому мамка падсоўвае смачную цыцку.

«А як жа музыка?» – могуць задаць законнае пытаньне дылетанты творчага музычнага працэсу. – «Калі Стась ствараў свае неўміручыя творы, гонар нябожчыцы Ліды»?

*Гэтая тайна няхай будзе раскрытая толькі самім Стасем. Чужая творчасьць – пацёмкі.*

## Барабаншчык Лёня

У канцы 70-х – пачатку 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя ў разгар працоўнага тыдня ў Менску можна было назіраць наступную прыродную зьяву. Дакладней, не назіраць, а – пачуць.

Раніцай, такой, – ужо ня надта каб і раньняй – недзе а гадзіне 10-й ці 11-й, ідучы па сваіх справах праз вуліцу Пляханава ў раёне Ленінскага ЗАГСу, вы маглі раптам стаць сьведкам дзіўнага барабаннага бою, нават ня бою, а стройных музычных гукаў, што ствараў нябачны інструмэнт, па рытму нагадваючы ўдарнік, ці па прафэсійнай музычнай тэрміналёгіі – проста барабан. Гукі даляталі аднекуль зьверху, захоплівалі ўсю Серабранку і несьліся кудысьці яшчэ вышэй, магчыма, у космас, выконваючы сваю пратэстную місію быць над шэрымі буднямі і наагул над прозай усёй савецкай рэчаіснасьці.

Людзі задзіралі галавы, гадаючы, адкуль нясуцца гэтыя чароўныя й сьмелыя гукі, хто іх выканаўца і як іх можна сумясьціць з чэргамі за сталічнай кілбасой і зялѐным гарошкам.

Адзін я дакладна ведаў прыроду тых пранізьліва б'ючых па патыліцы гукавых хваляў, бо жыў у тым жа доме, з дзявятага паверху якога яны й ліліся, і добра ведаў іх аўтара. І, ідучы у тыя раньнія часы ў кампаніі сяброў-п'яніц у гастраном пад назвай «Праз дарогу» за пляшкай, я з гонарам паведамляў: «Гэта грае на барабане мой сусед Лѐня. Чуеце – ѐн ужо пахмяліўся».

Іншым разам мы сустракалі Лѐню «на піве», г.зн. каля піўнога ларка, што стаяў побач з магазынам, які цяпер называецца «Зручны». І тады мы разам затарваліся чарнілам, і калі яго жонкі не было дома, а яе часта не было, то йшлі да яго й балявалі на поўную катушку. Падвыпіўшы, Лѐня садзіўся за свой ударны інструмэнт, які займаў большую частку залі, і пачынаў тварыць на ім цуды. Сапраўды цуды, бо я ніколі ня думаў, што на простым ударніку можна шляхам маніпуляцыяў з палачкамі й рознымі талеркамі ды пэдалямі можна ствараць добрую музыку.

Лѐня быў запраўдны музыкант, і шкада, што віно стала папярок яго жыцьцѐвага шляху.

* * *

Жонка ў Лѐні была таксама музыкантам, але ў адрозьненьне ад благавернага, віна не ўжывала і часцяком затрымлівалася на працы. Яна была натурай цэльнай і жыла высокімі мэтамі. Значна пазьней мы сустрэнемся з ѐй у зусім іншых абставінах і я шмат даведаюся менавіта ад яе пра царкоўныя сьпевы, але гэта, як той казаў, зусім іншая гісторыя. А ў пэрыяды тых Лѐневых загулаў мы зь ѐй нават ніяк і не перасекліся.

Каля жонка затрымлівалася, то ў абавязак Лѐні ўваходзіла забраць дачку з дзіцячага садка, які знаходзіўся акурат праз дарогу, побач з аднайменным гастраномам «Праз дарогу». І калі Лѐня з трохгадовай дачушкай падбіраліся да вуліцы Пляханава, то малая бралася сваѐй маленькай ручачкай за ягоную

вялікую музычную –  безвольную руку таты-музыканта, які ледзь трымаўся на нагах, і вяла яго праз гэтую шумную вуліцу, міма трамваяў і іншых грозных машын, і прыгаворвала:  «Папка, осторожно, машинки плохие, быстро ездят, дяди нехорошие – мешают папе и Любке идти домой…»

* * *

У сваѐй асноўнай масе музыканты – народ небагаты. Жыруюць толькі зоркі шоў-бізнэсу ды тыя адзінкі, што здабылі сабе славу праз талент. Аднак пасьля прышэсьця ў Беларусь дэмакратычных пераўтварэньняў і падзеньня жалезнай заслоны ў 90-я гады, некаторыя музыканты рванулі на Захад, дзе многім удалося няблага зарабіць.

Паехаў у Германію й Лѐня. Там яму ўдалося зарабіць мо 1500 нямецкіх марак, што ў 90-я гады для нас было вельмі шмат. Калі ѐн вярнуўся з гэтымі грашыма, то не панѐс іх адразу дадому, а вырашыў наведаць свайго сябра кампазытара Паліводу, каб пахваліцца сваім набыткам. Сустрэча двух музыкантаў у савецкія часы, асабліва калі ѐсьць грошы – рэч страшэнная.  Гэта грандыѐзная п’янка, прычым у адрозьненьне ад шэрай, нятворчай масы грамадзян, у музыкантаў – весялосьць сапраўдная, бо з музыкай і сьпевамі.

Па дарозе дадому барабашчыку Лѐню *нейкія* маладзѐны далі па галаве і забралі ўсе грошы. Недзе паўгады Лѐня праваляўся ў лякарні, але ачуняў, хоць і не зусім. У яго парушылася і без таго ня вельмі зьвязнае маўленьне, пастаянна балела галава і слаба слухаліся ногі. Пра п’янку трэба было б ужо забыцца.

Аднак звычка – магутная рэч. Штовечар пасьля Лѐню можна было потым убачыць каля піўнога ларка. Ён падыходзіў, браў сабе маленькі куфаль піва і ўспамінаў пра тое, як некалі «лабаў» на ўдарніку і сябраваў са знакамітымі «Песьнярамі».

## **Піяністы Аляксееў Аляксей**

Некалі, а менавіта ва ўсѐ тыя ж 70-я гады, Лѐша Аляксееў быў піяністым. «Лабаць[1]» на фано[2], па-запраўднаму, цяпер ѐн мабыць ужо ня можа, але «мурку[3]» сыграе. А ў тыя гады ѐн «лабаў» на розных там піянінах і раялях вельмі прыстойна. Праўда, консы[4] ѐн не скончыў, бо выгналі, здаецца, з трэцяга курса за п'янку.

Таму ў той радасны для жыцьця час Аляксеева загрэблі ў войска і вымусілі аддаць радзіме два гады жыцьця службай у шэрагах Савецкай Арміі. Выслужыцца яму там не ўдалося, бо яшчэ ў каранціне ѐн трапіў на губу з-за свайго разгільдзяйства. Атрымалася гэта так.

Неяк, у першыя ж дні службы, кусок[5] вѐў пераклічку і павучаў салаг тэкстам, добра зацэмэнтаваным мацернымі словамі. Адбывалася гэта прыкладна так:

– Рядовой Петров!

– Тут.

– Надо говорить «Я», ѐ..ны в рот…!

– Рядовой, Мурадов!

– Здеся.

– Надо говорить «Я», ѐ..ны в рот…!

Дашла чарга й Аляксеева.

– Рядовой Алексеев!

– Я, ѐ..ны в рот…!

За такое літаральнае разуменьне статуту арміі Аляксееў атрымаў пяць сутак арышту.

* * *

Адслужыўшы, Аляксееў пайшоў працаваць у Тэатар юнага глядача (ТЮГ) музыкантам, бо навукі няскочанай консы якраз хапіла, каб зарабляць сабе на жыцьцѐ ігрой на тым самым фано.

---

[1] Лабаць – іграць на музыкальным інструменце (муз. жаргон)
[2] Фано – фартап'яна, скарот, прыняты сярод музыкантаў.
[3] Мурка – знакамітая блатная песьня.
[4] Конса – скарочаная назва кансерваторыі, цяпер Акадэмія музыкі.
[5] Кусок – старшы сяржант, альбо прапаршчык.

Грошы плацілі невялікія, і гадаючы, як іх расцягнуць на ўвесь месяц, а можа й з прычыны недаверу сямейнай бухгалтэрыі сваѐй жонцы Людзе, якая таксама была музыканткай – грала на скрыпцы, – Лѐша пачаў распараджацца заробкам самастойна. Зрабіў ѐн гэтак. На ўвесь атрыманы аванс была закуплена цэлая скрыня чарніла (20 бутэлек) – для сябе і сяброў; для Люды, якая любіла салодкае, на астатнія ад аванса 8 р. набылі два кг халвы, рассудзілі гэтак – і жонка паесьць і закусіць будзе чым. З гэтымі пакупкамі ўжо цѐплая кампанія падалася на вуліцу Янкі Маўра да Аляксея ў госьці.

Аднак скрыпачка Люда не ацаніла такога лоўкага і галоўнае – граматнага падыходу да сямейнага бюджэту і, ўбачыўшы вясѐлую камапанію з батарэяй бутэлек, ціха сышла з хаты, нават не паспытаўшы смачнай халвы.

* * *

Урэшце Аляксей зь Людай памірыліся і пастанавілі жыць эканомна – Аляксей аддавацьме ўсю зарплату жонцы, а тая будзе выдзяляць кожны дзень па рублю на абед. Так яны і зрабілі. І ўсе йшло добра, пакуль Аляксей не запіў. А паколькі Люда не любіла п’яных кампаній, то піў ѐн ня дома, а ў розных іншых людзей, і таму не начаваў дома трое сутак.

На чацьверты дзень Аляксей зьявіўся перад змучанай ад бяссоных начэй жонкай, і першыя словы яго былі не мальбой пра дараваньне і не суправаджаліся пакаяльнымі сьлязьмі. Трэба сказаць, што Аляксееў быў не толькі музыкантам, але й здольным матэматыкам, і менавіта ў крытычных сытуацыях гэтая здольнасьці ў яго й праяўляліся.

На нямое пытаньне Люды – «Дзе ты быў?» Аляксей зь вялікім смуткам сказаў:

– Людка, я не начаваў трое сутак… Трое начэй безь цябе! А кожны дзень ты мне павінна даваць па рублю. Значыць, ты мне задаўжала… чатыры рублі!

* * *

Аляксей мог граць на піяніна нават на добрым падпітку. Праўда, у ТЮГу з гэтага аднойчы атрымалася невялікае непаразуменьне. Хто ж вінаваты, што спэктаклі пачынаюцца толькі а 18.30 вечара, а выпіць хочацца ўвесь дзень. І на

той раз мы добра пагулялі раніцай, працягнулі ў абед, прынялі і перад спэктаклем  і нават разам пайшлі ў тэатр – Лёша «лабаць», а мы культурна разьвівацца, тым больш, што квіткі нам браць ня трэба было, зайшлі з чорнага ходу. Аднак спэктакль мы не даседзелі, у антракце ў нашу ложу – менавіта туды як VIP-пэрсон нас пасадзілі – прыйшоў Аляксей і забраў нас. Ён быў вельмі пакрыўджаны, лаяўся:

– Грамацеі знайшліся! Выгналі мяне. Маўляў, граю асобна ад аркестра, яны новую тэму нібыта распачынаюць, а я яшчэ заканчваю мінулую.

* * *

З таго часу, як Лёшу выгналі з ТЮГа, ён пачаў граць сола. Прычым ужо не за грошы, а для душы. І ня нейкім там «юным гледачам», а сур’ёзным дзядзькам у далёкай Якуціі.

У той далёкай Якуціі тады была будоўля стагодзьдзя – стваралася гідраэлектрастанцыя, і таму праз шырокую сібірскую раку Вілюй узводзілі плаціну. Для будаўнікоў быў узведзены нават цэлы пасёлак пад назвай Чарнышэўскі, дадзенай у гонар ведамага рэвалюцыянэра-дэмакрата.

Трапілі мы туды ўлетку 1975 года, каб зарабіць грошы на так званай «шабашцы». Пасьля працоўнага дня, калі наступалі летнія белыя ночы, мы затарваліся «Партвэйнам-72» альбо бралі «Дзядзьку з тапаром» – так празвалі настойку «Стрелецкая» дзеля малюнку на наклейцы – і праставалі ў мясцовы клюб – гонар пасёлка Чарнышэўскі.  Там стаяў раяль, на якім да нас ніхто граць ня браўся.

Мясцовыя рабацягі – у асноўным былыя зэкі – хутка заацанілі талент Аляксея, і праблем з выпіўкай у нас не было. Зборная кампанія пасланцоў з Беларусі і сібіракоў,  займала месцы вакол таго шыкоўнага чорнага раяля, у цэнтр – каля клавіш – саджалі Аляксея, налівалі ў шклянкі віно і пілі за беларусаў. Аляксееву шклянка ставілася проста на раяль – туды, дзе звычайна кладуцца ноты. Потым пачыналі граць і сьпяваць. Аляксей мог сыграць усё, што прасілі. Найбольш улюбёнай тэматыкай была ваенная, а самай папулярнай песьняй у нашага сібірскага хору была такая:

*Дымилась роща под горою,*
*А вместе с ней горел закат.*
*Нас оставалось только трое*
*Из восемнадцати ребят…*

Характэрны факт: нават у самым п’яным стане пальцы былога піяніста Аляксеева слухаліся бездакорна. Быў выпадак, калі бліскуча адыграўшы, скончыўшы акампананіраваць хору, Аляксей пасьля апошняга акорду проста зваліўся на падлогу побач зь інструмэнтам.

## *Тарабанка*

*В половине двенадцатого с северо-запада, со стороны деревни Чмаровки, в Старгород вошел молодой человек лет двадцати восьми.*

*За ним бежал беспризорный.*

*– Дядя, – весело кричал он, – дай десять копеек! Молодой человек вынул из кармана нагретое яблоко и подал его беспризорному, но тот не отставал. Тогда пешеход остановился, иронически посмотрел на мальчика и тихо сказал:*

*– Может быть, тебе дать еще ключ от квартиры, где деньги лежат?*

*(Ільф і Пятроў. Дванаццаць крэслаў)*

Піяністы Лёша Аляксееў славіўся як майстра тарабанкі.

Для недасьведчаных дам тлумачэньне.

Тарабанкай называўся працэс негвалтоўнага выцягваньня (выпрошваньня, вымольваньня) грошай у працоўных й непрацоўных грамадзян дзеля набыцьця сумы, неабходнай для аплаты бутэлькі мацаванага віна. Да тарабанкі як

крайняга сродку зьвярталіся ў двух выпадках: калі грошы трохі былі, але іх не хапала на чарговую бутэльку, і калі грошай ужо не было, але выпіваючаму яшчэ хацелася выпіць, каб больш поўна задаволіць сваѐ вечна недапітае нутро – і тады неабходная сума нашкрэбвалася з нуля.

Тарабанка ажыцьцяўлялася наступным чынам. Тарабаншчык падыходзіў да грамадзяніна – патэнцыяльнага донара, і з глыбока няшчасным, альбо наадварот – у залежнасьці ад сытуацыі – радасным выглядам пранікнѐна гаварыў, што яму не стае толькі 15 (толькі 14, толькі 23…) капейкі да бутэлькі партвэйну, і толькі вы здолееце выручыць яго ў гэтай крытычнай сытуацыі. Грамадзянін, агледзеўшы прасіцеля, і пераварыўшы сказанае, мог рэагаваць па-рознаму, але ў выніку ўсе магчымая варыянты зводзіліся толькі к двум: ѐн мог альбо даць, альбо – ня даць.




Ня кожны п’яніца быў здольны да тарабанкі. Тут мелі значэньне шмат якія фактары – і зьнешні выгляд, і здольнасьць да прыгожага маналогу, канешне – харызма, як у нашага прэзыдэнта… А яшчэ грала ролю ступень ап’яненьня прасіцеля: на цьвярозую галаву – дрэнна, перабраўшы – таксама дрэнна. Трэба было трымацца нейкай залатой сярэдзіны. А самае галоўнае – добра адчуць, «праінтуіраваць», да каго падысьці. Як бы наперад прадбачыць – дасьць чалавек ці не…

Аляксееў быў майстрам тарабанкі высокага клясу. Яго статная фігура, чарнявы, інтэлігентны ў акулярах твар і галоўнае прыемна-ласкавы тон голасу, не пакідаў ахвяры амаль ніякіх шанцаў. Ужо праз колькі імгненьняў размовы з кішэні выцягваліся і аддаваліся жаданыя капейкі.

Аднаго разу, ужо добра «паддаўшы», Аляксей на хвалі эйфарыі ад ухваленьняў за толькі што «зробленую» тарабанкай бутэльку чарніла, заявіў:

– Гэта што! Паспрачаемся, што я назьбіраю на пляшку выключна ў міліцыянтаў?

Паспрачаліся.

Чаго, чаго, а міліцыі ў Менску – як сабак нярэзаных. І цяпер і – тады. У краіне Вялікае герцаргства Люксембург, дзе я быў у 2010 годзе, каля 400 000 чалавек насельніцтва, і там на ўсіх ёсьць толькі адзін паліцэйскі, ды і той задзейсьнены на ахове вярхоўнага правіцеля дзяржавы Вялікага герцарга Анры Альбер Габрыэля Фелікса Мары Гіёма. Мне не пашчасьціла ўбачыць гэтага ўнікальнага чалавека, бо палац герцага быў зачынены ў сувязі з ад’ездам правіцеля, і паліцэйскі пайшоў на абед, аставіўшы свой пост побач з палацам пустым.

…Некалькі міліцыянтаў, на наша дзіва, даволі хутка раскашаліліся, і ў Лёшы настаў, як кажуць цяпер мае студэнты трэцяга курсу, «медыюм» – палова неабходнай сумы на «Партвэйн».

Раптам чарговы міліцыянт, выслухаўшы прасіцеля, маляўнічым жэстам паказаў на бліжэйшы будынак, і яны ў двух павярнулі ў двор дома і зьніклі за дзьвярыма пад’езда. Падыйшоўшы бліжэй, мы ўбачылі надпіс: «Опорный пункт правопорядка Ленинского района № 23». А было гэта непадалёк ад стадыёна «Дынама».

Праз трывожных хвілін сем выходзіць Аляксееў.

– Абышлося. Ледзь пратакол не саставілі. Выручылі музычныя пальцы. Буду лабаць у лейтэнанта Пятрэнкі на вясельлі. Пайшлі – на пляшку ўжо ёсьць!

## Баяністы Лёша Буйневіч

У адрозьненьне ад Лёшы Аляксеева, Лёша Буйневіч – у народзе проста Буй – нападпітку граць ня мог. Пачыналі заплятацца пальцы. Прычым ступень заплятаньня была прапарцыянальная колькасьці выпітага. А ў баяне акрамя націсканьня на кнопкі, трэба яшчэ расцягваць мяхі – працы шмат болей, чым у піяністага. А калі сілы канчаліся, то бывала так, што расцянуўшы мех –

сціснуць баян ужо можна было й ня здолець. Таму, што ні кажыце, баян сур’ёзны інструмэнт.

Затое Буй, як і Стась, скончыў консу й заўсёды меў працу па спэцыяльнасьці. Наяўнасьць вышэйшай адукацыі павінна была, на думку Буя, арганізаваць сямейнае жыцьцё на вельмі высокім роўні. Тым больш, што жонка трапілася разумная, адукаваная, зь інтэлігентнай бабруйскай сям’і. Канцэрты, творчыя вечары, сямейныя візыты да калег й каляжанак, дзіцячыя конкурсы з удзелам дачушкі Вікі… – такім уяўлялася жыцьцё маладым Лёшы й Марыі пасьля вясельля, на якім быў нават зьняты аматарскі фільм. Камэру для здымак вясельля падарыла маладым любімая цёшча Клава, пасьля чаго і зьехала ў свой Бабруйск.

Маладыя атрымалі добрую двухпакаёўку ў Серабранцы, непадалёк, дарэчы, ад майго дома, й мірна зажылі… Аднак Буява жонка, выходзячы замуж не ўлічыла, што Лёша ў першую чаргу музыкант, а ўжо потым муж. Прафэсія накладвала сваю пячаць, і ня дзіва, што Лёша раз за разам прыходзіў дадому нападпітку, чым вельмі хваляваў сваю інтэлігентную супружніцу. І неўзабаве яна паказала свой запраўдны характар.

І пачалося!

Сваркі былі выкшталцоныя. Адкуль у такой адукаванай жанчыны браліся такія не адукаваныя, ці, як прынята цяпер казаць, «недрукаваныя выразы» – аднаму Богу ведама. Нават Сакратава Ксантыпа, пэўна, пазайздросьціла б.

Я заўсёды лічыў і лічу, што творчы чалавек творчы ўва ўсім. І не выключэньне, калі гэты чалавек музыкант. Правільнасьць гэтай тэорыі якраз і пацьвярджаў спосаб рашэньня сямейных праблем Лёшам Буйневічам.

Неяк, атрымаўшы ад Марыі асабліва моцны прачуханец, ён вырашыў пакараць яе. Не фізычна, а маральна. Ён прыдумаў вельмі мудрагелісты план, сутнасьць якога была вельмі простай – запісаць увесь працэс чарговай сваркі на магнітафонную стужку. Магнітафон быў прыхаваны на самым відным месцы – каля ўваходу ў кватэру. Ён засунуў апарат пад шчыліну, туды дзе звычайна

кладуць пры ўваходзе абутак, прыкрыўшы яго дошчачкай, а зверху разьмясціў шчотку і чорны гуталін.

І вось, заходзіць Аляксей у добрым такім стане алкагольнага ап’яненьня ў сваю хату. Толькі адчыняе дзьверы – тут жа налятае разьюшаная жонка і лямантуе: «Зноў надраўся, падла! Каб ты здох з гэтым чарнілам! Каб так напіўся, што ня ўстаў…!» Ну і гэтак далей. Леша маўчыць, робіць выгляд, што яму гэтая сварка да лямпачкі і тым самым яшчэ больш заводзіць супругу. І між іншым ціхенька нагой націскае на патаемную кнопку, якая і ўключае запіс.

На наступны дзень апахмяляемся раніцай у Лѐшы. Настрой благадатны. Веснавы. Яшчэ больш падымаецца, калі Лѐша пачынае трансьліраваць сямейнае прадстаўленьне – уключае ўчарашні запіс з сольным выступленьнем жонкі.

– Цяпер хай падасьць на развод! Вось уліка! Ніхто не прызнае мяне вінаватым, толькі яе! – радаваўся Буй.

Але нядоўга «музыка йграла, нядоўга фраер таньчыў». Аднойчы Лѐша, прышоўшы з чарговага застольля, адразу памкнуўся ўключыць магнітафон, каб здабыць новую порцыю шэдэўраў «экстрэмальнага жанру», якім віртуозна валодала ягоная жонка. Але на гэты раз ѐн узяў лішку і, пераблытаўшы кнопкі націснуў на «Гучаньне», а не на «Запіс». Лѐшава Ксантыпа толькі адкрыла рот з намэрам разразіцца сваѐй клясічнай тырадай – як раптам пачуўся ейны ж голас аднекуль зьнізу, і ня голас, а моцная сірэна гукаў ад «до дыез» першай актавы да «мі» трэцяй, што звалася размовай па-душам паміж любячымі музыкальнымі супругамі. Марыя аслупянела. Яна пайшла на гук, адкрыла дзьверцы тумбачкі для абутку – нічога ня відна. Між тым лямант запоўніў ужо ўсю кватэрную прастору. Лѐша бездарна лыбіцца і таксама ня ведае, што рабіць. Нарэшце бабруйская нявеста выдзірае дошкі, што прыхоўваюць магнітафон, люта хапае яго і што ѐсьць моцы запускае ў твар Бую гэтым дэфіцытным на той час вырабам.

Так што развод прайшоў пры поўнай перавазе аргумэнтаў Марыі.

* * *

Аляксея Буйневіча няма з намі ўжо каторы год. Пра гэта мне паведаміў Стась Баско, які ведаў пра музыкантаў усе навіны. Апошні час Буй жыў з новай кабетай на іншай кватэры, але таксама ў Серабранцы. Я ў яго бываў, але новай – грамадзянскай жонкі ня бачыў, хоць і вельмі было цікава. Бо падчас п’янак Буй заўсёды пра яе расказваў і вельмі сьмяяўся. Прычынай крытыкі Лёшам сваёй грамадзянскай жонкі была яе гаворка. Была яна з простых людзей, прыехала зь вёскі і захавала ў сваім лексіконе многія рысы сваёй вясковай дыялектнай гаворкі. «Ну и деревня!» – казаў Лёша і цытаваў які-небудзь перл, што вылятаў з вуснаў ягонай новай абраньніцы.

Лёша Буйневіч пражыў каля 55 гадоў.

## ФІЗЫКІ І МАТЭМАТЫКІ (НЯЛІРЫКІ, АДНЫМ СЛОВАМ)

*Лічыцца, што самы п’ючы народ – гэта паэты і мастакі. Я ўжо адзначаў, што гэта ня так, бо аўтары меркаваньня забыліся пра музыкантаў. Але й гэта не зусім так. Бо прапушчана яшчэ адна група людзей – матэматыкаў. Ну і, само сабой, – фізыкаў. Фізык, асабліва калі ѐн тэарэтык, – гэта той жа матэматык, толькі такі, які думае над сэнсам жыцьця. А гэта яшчэ горш! І ў выніку – гатовая «бабулька» Хведара Міхайлавіча.*

### Гена Абуховіч

Былы кадэт Гена Абуховіч, пасьля заканчэньня сувораўскага пайшоў на матфак БДУ і даволі прыстойна яго скончыў, ці не з чырвоным дыплѐмам. На пятым курсе яго навучылі піць піва й чытаць раманы Дастаеўскага. Многія праходзяць гэты небясьпечны пэрыяд і, уцалелыя, потым ствараюць цалкам прыстойныя сем’і. Але на Гену такая дрымучая сумесь духоўнага і больш чым духоўнага падзейнічала безадмоўна – ѐн стаў жлукціць піва вялізнымі колькасьцямі і прапаведаваць у піўных сваю тэорыю гнастыцызму. Зыходным прыцыпам ягонай тэорыі было вучэньне аб забароне і татальным выняцьці з бібліятэк кніг Хведара Міхайлавіча Дастаеўскага і Франца Кафкі.

Аднак, ажыцьцяўленьню ягоных глябальных плянаў перашкодзіла адна акалічнасьць: не дастатковая даўжыня ягонага тулава, альбо малы рост. Насамрэч росту ѐн быў хоць і не высокага, але цалкам нармальнага – сярэдняга, такіх людзей калі ня большасьць у нас. Але Гена ўбіў сабе ў галаву адну думку: трэба павялічыць свой рост на 2 – 3 сантымэтры – і тады ўсѐ будзе выдатна. Усе жыцьцѐвыя планы здзейсьняцца, і галоўнае – ѐн заваюе сэрца прыгажуні Люсі з другога аддзела Вылічальнага цэнтра ЦНДІТК, дзе яны працавалі праграмістамі.

Ды й ня толькі Люсі! Толькі тры сантымэтры – і любая жанчына будзе каля яго ног!

Каб павялічыць свой рост, Гена для пачатку падбіў таўшчэзнай падэшвай свае туфлі і пачаў прыходзіць на піва ў «Ясень» з ганарліва паднятай галавой. І сапраўды ѐн аказаўся вышэйшым за многіх людзей, хоць і трымаўся на сваіх новых нагах, як на хадулях.

Былі ў праекце Гены й больш радыкальныя задумкі, і самая галоўная патрабавала пэўнай сумы грошай для зьдзяйсьненьня. Ён вычытаў, што недзе ў Маскве ѐсьць Інстытут, у якім робяцца апэрацыі па расьцягваньні ног на любую даўжыню. І з таго часу спакою сабе ўжо ня меў. Колькасьць выпітага піва пачала расьці з дня ў дзень, так што каб выканаць норму, прыйшлося й працу кінуць. І Гену можна было ўбачыць у тыя дні і ў «Прахладзе», і ў фірменнай піўніцы ПНУ, і, зразумела, самым папулярным бары  «Ясень», адным словам – у любой кропцы «Бэрмудзкага Трохкутніка». Няведама, чым бы ўсѐ гэта скончылася, але дапамаглі «Навінкі» – знакамітая менская псыхушка, якая хоць і не спэцыялізавалася па расцяжцы ног, але здолела надзяліць Гену пасьведчаньнем інваліда 2-й групы з дыягназам «вялацякучая шызафрэнія». Гэтае пасьведчаньне дазваляла нідзе не працаваць і атрымоўваць нейкія грошы ад дзяржавы. Але потым яно саслужыла вялікую службу ня толькі яму, а і мне й іншым агульным сябрам.  Справа ў тым, што па гэтаму пасьведчаньню мы ўсе пасьпяхова езьдзілі ў цягнікох у любую кропку БССР за палову кошту квітка – як студэнты.

Потым, у часы ўжо перабудовы, прыехалі родзічы Гены і забралі яго жыць у прыгожы беларускі горад Гомель. Аднойчы па дарозе ў сваю Рэчыцу я заехаў да Гены ў Гомель. Я даволі хутка знайшоў яго ў адной з піўніцаў. Гэта быў амаль той жа ўзрушаны сангвінік менскіх часоў, але зьнешні выгляд зьмяніўся радыкальным чынам. Заміж туфляў на вышэзных абцасах Гена насіў падвязаныя вяровачкай звычайныя галѐшы, меў вельмі брудную вопратку і даўно няголены, апухлы ад піва твар. Ён не пакідаў надзеі расьцягнуць ногі, і скардзіўся, што атрымлівае вельмі малую пэнсію за другую групу.

З таго часу прайшло больш як 25 гадоў…

## Матэматык Віця Мацьвееў

Віця Мацьвееў займаўся тэорыяй амаль пэрыядычных працэсаў. Аказваецца, няма ў прыродзе дакладна пэрыядычных зьяваў. Што-небудзь заўсёды замінае дакладнай пэрыядычнасьці. І гэты, здаецца відавочны, факт даў мажлівасьць Віцю зрабіць вельмі прыстойную матэматычную працу. Ён напісаў дысэртацыю і пачаў рыхтавацца да абароны. Зразумела, пра віно, гарэлку і нават піва прыйшлося на час забыцца.

А трэба сказаць, што Віця Мацьвееў быў адным з тых выпускнікоў унівэра, якія пасьля сканчэньня вучобы не пакінулі сваіх набытых падчас вучобы звычак пасядзець з сяброўскай кампаніяй за пляшкай-другой віна ці прапусьціць пару куфляў піва ў ПНУ. Аднак, як, дарэчы, й мне, да некаторага часу Віцю ўдавалася захоўваць раўнавагу паміж півам і навукай. Па маладосьці мы, праўда, тады ня ведалі, што так балансіраваць да бясконцасьці нельга. Зялёны зьмей заўсёды пераможа. Асабліва тады, калі на дапамогу гэтай зьмяінай пачвары пачынае прыходзіць яшчэ большая, пад назвай «запой». З аднаго боку, можа здацца, што ў тыя, фактычна выкрэсьленыя з жыцьця гадзіны, суткі, месяцы… нічога каштоўнага для чалавецтва вамі ня зроблена, але ў мяне – можа для апраўданьня – існавала гіпотэза, што важныя рашэньні, творчыя знаходкі, што ляжаць недзе па-за сьведамасьцю – нярэдка ўзьнікаюць менавіта ў такія экстрэмальныя часы. Так лічыў і Віця Мацьвееў.

Па выхадзе з чарговага запою, адным з такіх важкіх рашэньняў для Віці Мацьвеева і стала рашэньне абараніць дысэртацыю. Усяго ставала: колькасьці патрэбных артыкулаў, наяўнасьці здадзеных кандыдацкіх мінімумаў. Быў напісаны тэкст і знойдзены апанэнты. І нарэшце, быў прызначаны дзень абароны. Абарона мелася адбыцца ў родным БДУ а 12.00 гадзіне 16-га траўня 1990 года.

З Кіева прыехаў вельмі важны апанэнт па тэме дысэртацыі, прафэсар Л. Цягнік з Украіны «Дніпро» прыбыў даволі рана – а шостай гадзіне, пяць хвілін і таму прафэсар асабліва не зьдзівіўся, што яго ніхто не сустракае, хоць дысэртант у тэлефоннай размове абяцаў сустрэць. Яшчэ раней прыехаў таксама ведамы навуковец А. з Новасібірску. Ён быў ужо суткі ў Менску, бо былі яшчэ нейкія пільныя патрэбы, але дысэртанта таксама ня бачыў.

Дванаццаць гадзін – дысэртанта няма. Заля навуковых паседжаньняў на другім паверсе галоўнага корпуса БДУ поўная. Прыйшлі: навуковы кіраўнік Д. Мядзьведзеў, апаненты, калегі, сябры, абслугоўваючы персанал. Не прыйшоў толькі дысэртант Віктар Мацьвееў. Пачаліся шуканьні, тэлефанаваньні, але Віця так і не зьявіўся.

І толькі адзін чалавек ведаў, дзе знайсьці дысэртанта – гэта быў я.  Ужо трэція суткі мы з Віцям пілі партвэйн зь півам і ніяк не маглі прыпыніць гэты цікавы занятак. І былі мы побач з БДУ – насупраць альма матэр. Так, у знакамітым ПНУ. Але мабільнікаў тады не было, а з гарадзкога тэлефона ў бар не патэлефануеш. (Гэта толькі ў буржуйскіх фільмах галоўнага героя заўсѐды клічуць у барах да тэлефону).

Здарылася тая нечаканасьць, якая ўласьціва толькі нашаму брату – алкаголіку. Віця ўвайшоў у запой і піў ужо прыкладна з тыдзень. Ён усім хваліўся, што ў яго праз тры дні, потым – праз два дні, потым – заўтра,… адбудзецца абарона кандыдацкай дысэртацыі. У дзень абароны ѐн ужо не хваліўся, а моўчкі піў піва, утаропіўшыся нерухомым поглядам у нейкую кропку ў цэнтры стойкі. З маўчаньня яго вывеў праз некалькі дзѐн ягоны братан, які і здаў Віцю ў «Навінкі».

Віця Мацьвееў так і не абараніў дысэртацыю, экземпляр тэксту якой у прыгожым карычневым пераплѐце да гэтага часу захоўваецца ў мяне. Зараз я пайду, яго дастану і запішу дакладную назву. Вось: «Матвеев Виктор Васильевич. Интерполяция и экстраполяция почти периодических случайных процессов. Минск. 1990.»

Віця Мацьвееў памѐр празь некалькі год пасьля няспраўджанай абароны. Ён так і ня стаў больш на ногі, пэрыяды п’янкі чаргаваліся зь лячэньнем у 23-м аддзяленьні Псыха-нэўралягічнага дыспансэра ў Навінках. Ён не пражыў нават і сарака гадоў…

## Фізык-тэарэтык Аляксандар К.

*Усе людзі п’юць, як коні, а*
*бацька ад водкі – пасінеў!*
*(Народнае)*

Асьпірант Аляксандар К. неяк ноччу прачнуўся зь цяжкага бадуна і няведама чаму ўспомніў гэтыя лірычныя радкі эпіграфа. Яго разабраў такі сьмех, што ѐн доўга ня мог спыніцца, а калі ўсѐ ж перастаў, то зразумеў – больш тэарэтычнай фізыкай ѐн займацца ня будзе. Хоць і скончыў фізычны факультэт унівэрсытэта з чырвоным дыплѐмам, і навуковы кіраўнік трапіўся вельмі добры, і дысэртацыя рэальна вымалѐўвалася, але баста – з навукай скончана назаўжды.






Іншая рэч:

*Я беру портвейн 72!*
*По идее счастливый номер,*
*Сумма цифр, да ведь это – 9*
*Трое нас и на брата – по три!*

Гэты верш ѐн напісаў у той жа позьні начны час, разьвязваючы неразьвязальнае пытаньне – «фізыкі – лірыкі».

Асьпірант Аляксандр К. кінуў асьпірантуру, паехаў у Маскву і паступіў у Студыю-МХАТ у кляс знакамітага рэжысэра і актора А. Яфрэмава.

*Вось так тэатар атрымаў новага артыста, а навука згубіла бліскучага дасьледніка.*

**«Молодой человек»**

*Так па-сяброўску звалі фізыка-тэарэтыка Сашу Федарцова за яго амаль дзіцячую постаць, за вечна юны выгляд і мяккасьць паводзін. Ён даволі рана абараніў кандыдацкую дысэртацыю, займеў славу выдатнага матэматыка – што ня кожнаму фізыку ўласьціва, і меў рэпутацыю працавітага чалавека. Такім я запомніў Аляксандра яшчэ падчас сумеснай працы ў Інстытуце фізыкі.*

Шлі гады, я даўно сышоў з Акадэміі навук, плынь жыцьця штогод кідала мяне і кідала па розных навучальных установах, я пастаянна змагаўся з зялѐным зьмеем, то піў, то завязваў, то вѐў цьвярозы лад жыцьця. І калі-некалі заглядваў у Інстытут фізыкі да старых сяброў-калег, якія ўпарта трымаліся навукі, усѐ яшчэ спадзяваліся «схапіць сініцу» і атрымаць Нобэля… А можа, яны проста прывыклі і баяліся любых пераменаў у жыцьці... І ў тыя рэдкія хвіліны сустрэчы з фізыкамі мне даводзілася бачыцца і з Сашам Федарцовым. І я заўсѐды зьдзіўляўся, што ѐн па-ранейшаму ўсѐ той жа «Малады чалавек», які з года ў год нетаропка прагульваецца па няўтульным інстытуцкім калідоры, усьміхаецца і творыць, творыць… Ёсьць такая катэгорыя людзей, якія цалкам прысьвячаюць сябе навуцы, яны ня маюць аніякіх іншых інтарэсаў і ўрэшце не маюць нават сям’і. Такім быў і Саша. Ён ніколі ня быў жанаты і заўсѐды жыў з маці.

Але ў адзін мой прыход – ужо ў новым, цьвярозым статусе жыцьця – я даведаўся, што Федарцова ўжо няма ў інстытуце, ѐн звольнены. Самае

ўзрушаючае было ў тым, што звольнены ѐн быў за п'янку! Я ня мог паверыць у гэта.

Высьветлілася, што Аляксандар быў утоеным алкаголікам.

Неяк, калі Саша выправіўся на працу, да яго ў двары падыйшлі два мясцовыя п'янтосы й папрасілі дадаць на бутэльку – рубель, а можа й іншую суму – улічваючы пастаянную інфляцыю апошніх дваццаці год. Тыя аматары закласьці за каўнер былі людзьмі вельмі прыстойнымі і, імгненна зьбегаўшы за вінам, налілі шклянку нашаму фізыку. Чалавек ѐн быў вельмі шчыры і адмаўляцца не ўмеў. Ён выпіў. Ён выпіў і – гэта яму *спадабалася*!

Літаральна праз месяц Саша ўжо сам частаваў сваіх суседзяў вінам. А потым вырашыў, што можна абысьціся і бязь іх, можна ўзяць з сабой бутэльку на працу і там выпіць яе. І пайшло і паехала. Праз некалькі год, ѐн пачаў вяртацца дадому на карачках. А яшчэ праз некаторы час ѐн атрымаў сур'ѐзную траўму галавы – ці сам упаў у п'яным выглядзе, ці проста прыстукнулі ня тыя – іншыя суседзі, карысьлівыя й жорсткія. Дайшло да таго, што яму далі другую групу інваліднасьці, адпаведную маленькую пэнсію. З навукай прыйшлося разьвітацца…

Вельмі хутка «Молодой человек» ператварыўся ў бамжа і, калі памерла ягоная маці, Саша гэтага нават не заўважыў – здаваў бутэлькі. Пахаваньне ўзяў на сябе Інстытут фізыкі. На хаўтурах былі супрацоўнікі Інстытута, суседзі. Толькі Сашы не было – ѐн адпачываў у закутку прыѐмнага пункта шклатары.

Калі я даведаўся пра жахлівы лѐс свайго калегі, то першым памкненьнем маім было жаданьне дапамагчы Аляксандру Федарцову. У Ананімных Алкаголікаў, да якіх я ўжо тады належаў, ѐсьць вельмі важны крок – дванаццаты. Гэта апошні, замыкаючы крок дванаццацікрокавай праграмы АА. Вось як ѐн гучыць:

*Дасягнуўшы духоўнага абуджэньня, да якога прывялі гэтыя (папярэднія) крокі, мы імкнуліся данесьці сэнс нашых ідэй да іншых алкаголікаў і прымяніць усе гэтыя прынцыпы ўва ўсіх нашых справах.*

У мяне было ўжо гады з чатыры цьвярозасці, і хоць заплянаванага духоўнага абуджэньня я яшчэ не дасягнуў, ідэя выратаваць калегу не давала мне спакою. Я выкраіў са шчыльнага графіку дзелавога чалавека вольную гадзіну і пайшоў у Інстытут фізікі, каб даведацца адрас Аляксандра і паспрабаваць яго потым знайсьці.

Аднак я спазьніўся. За некалькі тыдняў да майго зьяўленьня Аляксандар Федарцоў адышоў у лепшы сьвет.

## Фізык-тэарэтык Сяргей Сіпач

Ён прыехаў вучыцца ў асьпірантуру Інстытута фізікі з самага цѐплага беларускага горада – з Брэста, дзе скончыў на выдатна мясцовы пэдінстытут. На нейкі год ці два я яго апярэджваў па вучобе ў асьпірантуры, але гэта неістотны разрыў, каб пасьпець вылучыцца нейкімі асаблівымі посьпехамі і мець перавагу. Мы былі калегі, ды і ўсѐ. Аднак ня фізыка нас аб’яднала. І ня музыка, якую мы абодва любілі. Нас аб’яднала, зразумела, п’янка. Мы былі тымі дзьвюма людзьмі, якіх заўсѐды можна знайсьці ў кожным працоўным калектыве савецкіх часоў па прыкмеце вельмі празаічнай:  пасьля заканчэньня любога банкету, дня народзін, іншай калектыўнай папойкі ўсе людзі разыходзіліся па дамах, а мы ішлі дабаўляць – самі альбо спакусіўшы яшчэ каго.

З Сяргеем «п’янстваваць водку» было цікава, было пра што паразмаўляць, канструктыўна паспрачацца.  Як і я, ѐн любіў музыку, купляў рэгулярна розныя кружэлкі з клясычнай музыкай і наведваў з жонкай бальныя танцы…  Ён цікавіўся, ізноў жа – як і я – кнігамі, зьбіраў альбомы з рэпрадукцыямі карцін знакамітых мастакоў…  Памятаю таўшчэзны альбом Гераніма Босха, які Сяргей дастаў у магазыне замежнай кнігі «Дружба», што быў насупраць парку Чалюскінцаў.

Адно мне не падабалася. Хутчэй, ня тое, што не падабалася, а неяк пужала. Усякі раз, як толькі мы зьбіраліся сысьці з працы, каб выпіць, Сяргей заяўляў: «Бярэм па дзьве бутэлькі віна, інакш сэнс ў выпіўцы ня бачу». Я быў праціўнік такіх вялікіх доз і любіў спачатку выпіць патроху, па шклянцы, а потым зноў скінуцца. У выніку – «на грудзь» траплялі тыя ж дзьве пляшкі, але ж не адразу!

Я сышоў з Інстытуту фізікі на вольныя хлябы ў выніку неабраньня па конкурсу яшчэ ў 1982 годзе, працаваў у розных дасьледчыцкіх інстытутах, абараніў дысэртацыю і стаў выкладчыкам, дацэнтам. Сяргей пратрымаўся ў інстытуце вельмі доўга – да 2004 года, калі быў усѐ ж такі звольнены.

Сяргей Сіпач прадстаўляў сабой тып алкаголіка найбольш цяжкага. Такія людзі ніколі не прызнаюць сваѐй праблемы, іх сутнасьць – суцэльны гонар, тая бясконца спакусьлівая «гардыня», якая ідзе ад бязбожнага ладу жыцьця і, адпаведна, нястачы маралі, спалучанай з эгаізмам і інфантыльнасьцю.

Яму даволі лѐгка даваліся прыстойныя артыкулы ў вельмі пэрспэктыўнай галіне тэарэтычнай фізыкі, якая завецца фізыка моцных ўзаемадзеяньняў. Але з прыходам перабудовы і ўсталяваньня новых жыцьцѐвых стандартаў гэтага стала мала. На мой погляд, яго трагедыя яшчэ была ў тым, што ѐн ня здолеў сам перабудавацца і знайсьці сябе ў новай Беларусі. Ён раптам загарэўся ідэяй выйграць грынкард і зьехаць у Амэрыку, куды яшчэ раней «махнула» ягоная сястра. Таму ѐн пачаў усѐ больш і больш піць.

Калі я, другім разам, заходзіў у Інстытут фізікі, то, бывала, спатыкаў Сяргея. Майму вопытнаму воку было ясна, што ягоны алкагалізм бярэ ўсѐ большыя й большыя абароты. Тут і фінгалы пад вачамі, і падрапаная фізіяномія, і тыднѐвая адсутнасьць на працы. Бывала, што ѐн сядзеў і пісаў формулы, і рабіў выгляд, што нічога вартага каяньня й не было.

Колькі вяровачцы не віцца… Гэта заканамерна – тое, што павінна здарыцца – рана ці позна здарыцца. Сяргей у п’яным выглядзе патрапіў на вочы самому дырэктару інстытута і нават спрабаваў «качаць правы». І яго навуковая кар’ера скончылася. Але я мяркую, што яна скончылася на шмат гадоў раней. Тады, калі ѐн пачаў скідвацца на дзьве бутэлькі віна…

Звольніцца ў 52 гады зь месца, дзе працаваў усѐ жыцьцѐ – гэта поўная катастрофа. Асабліва, калі ўлічыць, што гэтыя 52 гады, за выняткам дзіцячага садка й школы, ты пісаў формулы і больш нічога вартага рабіць ня ўмееш. Зразумела, да такога ўзросту і пры такім ладзе жыцьця, які вѐў Сяргей, жонкі ў яго ўжо не было. Гэта яшчэ тае бяды. Але ж не было й кватэры. Некалькімі гадамі раней, на хвалі ідэі ад'езду ў Амэрыку, Сяргей прадаў кватэру, але новую не набыў – грошы скралі. Гэтая акцыя становіцца таксама зразумелай, бо ѐн тады быў у чарговым запоі.

Выручыла тое, што ад Акадэміі навук Сяргей атрымаў куток у інтэрнаце для навуковых супрацоўнікаў па вуліцы Шырокай. Калі яго выгналі з працы, то засталося хоць дзе прытуліцца, бо інтэрнат за ім пакінулі. Там ѐн і жыў апошнія два гады, дзе беспрабудна піў і ў перапынках зарабляў сабе на гарэлку рэпэтытарствам.

Як і ў выпадку Аляксандра Федарцова, я не пасьпеў зрабіць 12-ты крок праграмы АА ў адносінах і да Сяргея Сіпача. Неяк, у восень 2006 года да мяне дайшла сумная вестка – Сяргей памѐр. Сьмерць застала яго ў тым інтэрнаце на Шырокай проста ў фатэлі, дзе ѐн заснуў падчас начной папойкі. Ён памѐр ад асфіксіі – пад час сну ў лѐгкія трапіла рэшта варанай бульбіны, якой закусвалася гарэлка.

Сяргею Сіпачу было 54 гады.

У Ананімных Алкаголікаў існуе мудрая фраза: *«Кожны можа кінуць піць, але некаторым гэта ўдаецца зрабіць пры жыцьці»*. Сяргею не ўдалося кінуць піць пры жыцьці…

* * *

На гэтай ноце заканчваецца першая частка сіняй кнігі, бо сэнс мудрай фразы ананімных алкаголікаў – гэта тэма ўжо другой часткі…

# ЧАСТКА II
# КОЖНЫ МОЖА КІНУЦЬ ПІЦЬ, АЛЕ НЕКАТОРЫМ ГЭТА ЎДАЕЦЦА ЗРАБІЦЬ ПРЫ ЖЫЦЬЦІ

Як слушна разумее чытач, у гэтым разьдзеле пойдзе гаворка пра шлях да цьвярозасьці. Я буду гаварыць найперш пра свой досьлед, пра свой шлях да нармальнага жыцьця, а яшчэ пра тое, ці добра быць цьвярозым.

Пачну, мабыць, з адной далѐкай, але вельмі важкай для разуменьня шляху да маѐй цьвярозасьці гісторыі, што адбылася ў канцы зімы 1992 года.

## Сакартвэла

*Чемо ци, цена, тела,*
*Рад ми прен нела, нела.*
*………………………….*
*Грузінская народная песьня*
*«О, Светлана, Светлячок…»*

Сакартвэла – стражытная назва Грузіі. Падзеі, пра якія я буду гаварыць, адбываліся ў сталіцы Грузіі Тбілісі *(«Тбілісо»*) у лютым 1991 года. Тое, што адбылося тады, было такім незвычайым і нават містычным, што не дае мне спакою й цяпер. Праз многія гады. Менавіта тыя падзеі прымусілі мяне зазірнуць у сябе больш глыбока, зазірнуць збоку – так, каб выразна ўявіць: гэта – ты, а вось гэта ѐн – іншы, мажліва, запраўдны сьвет нашае рэчаіснасьці, пра які ты зусім нічога ня ведаеш, альбо саманадзейна лічыш, што ведаеш. Ня ведаю, чаму менавіта ў Грузіі я амаль упершыню адчуў веліч Створцы і асэнсаваў хутчэй ня жорсткі і няўхільны, а збавенны і ўсьцешны факт Яго быцьця, празь якога «ўсѐ сталася быць…»

І зусім ня велічныя і прыгожыя грузінскія горы, што разьлегліся вакол вузкай, як шчыліна, даліны, дзе ляжыць Тбілісо, і не імклівая плынь паўнаводнай Куры, што праразае горад Сьвятой першаапостальнай Ніны, прымушае верыць у магутнасьць і ласку Госпада, а сама *нечаканасьць* Ягонай ласкі, якую ты зусім не заслужыў, бо тымі нешматлікімі крокамі па гэтай зямлі ніяк нельга было ганарыцца, а тым больш спадзявацца на ўсѐ тое, што ты атрымаў…

На просты самалѐт да Тбілісі квіткоў ужо не было, таму я ўзяў квіток да Адлера, а адтуль, як мне казалі, цягнік давязе да Тбілісі – на пачатак нашай міжнароднай канфэрэнцыі «Паняволеных народаў Расейскай Імпэрыі» пад назвай «Дэмакратыя і незалежнасьць» я акурат пасьпяваў. Валера Сяроў і Валера Буйкоў – прадстаўнікі БНФ – вылецелі раней, якраз тым простым рэйсам «Мінск – Тбілісі», на які ня трапіў я.

Ужо пад час палѐту пачаліся нейкія незаплянаваныя і непажаданыя дзеі. Бліжэй да пасадкі самалѐт, як мне здавалася, ніяк ня мог сесьці – доўга кружыўся, роў, хаваўся ў суцэльным тумане, зноў недзе вынырваў і ўжо радаваў пасажыраў чыстым і сонечным дзяньком, то раптам выскокваў перад самым морам, і было відаць, як морскія хвалі зласьліва перавальваюцца праз камяні і зацягваюць да Няптуна ў госьці…

Аднак, нарэшце, усѐ ж селі, там рэйсавы аўтобус, і вось – Сочы. Адтуль ужо, цягнік «Сочы – Тбілісі». Гадзіны чатыры язды. Ва ўмовах нашых, беларускіх, такі пераезд нічога ня значыць. На тое будзе як да Гомля зьезьдзіць – не пасьпееш газэтку пачытаць, ці па піва зьбегаць у буфэт, ѐн жа вагон-рэстаран – і ты дома. І зусім іншая рэч – цягнік у Грузіі. Тое падарожжа было трывожнейшым і нават страшнейшым, чым нядаўны лѐт над Чорным морам. Першае: адна справа язда па раўніне, іншая рэч – падарожжа праз горы, а менавіта так можна было дабрацца да Тбілісі. Трэба было прарэзаць горны масіў, падняцца на гару, – потым спусьціцца, і так некалькі разоў. На версе адной гары аднекуль пачаў дзьмуць моцны вецер, вагоны загайдаліся, і стала зусім няўтульна, раўнавагу было цяжка трымаць, людзі пачалі хапацца за

парэнчы і іншыя наглуха прыбітыя рэчы. Цягнік сьцішыў ход, а потым і зусім стаў. Страшэнна выў ураганны вецер, праз наглуха зачыненыя вокны было відаць, як нешта цѐмнае, і невыразнае праносілася ў паветры, віхурылася, гойдалася і білася аб сьцены і дах вагонаў. Смуглявая суседка, як кажуць, «каўказскай нацыянальнасьці», пачала запэўніваць мяне, што ўсѐ нармальна, тут, маўляў, заўсѐды так у горах, яны прывыклі і ты прывыкнеш… Калі цягнік зноў рушыў, атмасфэра ў купэ трохі палепшылася, распачаліся лякальныя размовы.

Але тут прыйшла новая бяда, якая датычыла менавіта маѐй асобы. Рэч у тым, што амаль усе пасажыры ў вагоне былі каўказцы – грузіны, азербайджанцы, дагестанцы, чачэнцы, армяне й іншыя, але такія ж смуглыя, тутэйшыя і «каўкаскія», як мая суседка.

Да мяне падсеў нейкі падазроны тып і пачаў распытваць, куды я еду, да каго, дзе прыпынюся, што заўтра буду рабіць. Адным словам, пачаўся запраўдны допыт, так што стала трохі ніякавата. А пачуўшы мае словы пра тое, што еду на палітычную канфэрэнцыю пад назвай «Дэмакратыя і незалежнасьць», наагул разышоўся, так, што яго ледзь супакоілі іншыя людзі, мабыць, грузіны, бо, як мне здалося, былі больш памяркоўныя.

Усѐ скончылася добра, але ўсе гэтыя падзеі былі, на мой пагляд, прадвесьцем будучых, шмат дзіўнейшых, нават заломлівых і трагічных падзей.

Я зьявіўся на тбіліскай плошчы Руставэлі ў разгар мітынгу. Луналі грузінскія, а таксама азербайджанскія, армянскія сьцягі, расейскія трыкалѐры, сьцягі ўкраінскіх нацыяналістых і цешылі вока два нашы родныя бел-чырвона-белыя.

Выступалі праціўнікі рэжыму тагачаснага прэзыдэнта Грузіі Гвіяда Гамсахурдзіі. Ад беларусаў слова ўзяў Валера Сяроў. Ён гаварыў вельмі хораша, але я заўважыў, што ѐн ужо на добрым падпітку.

Па заканчэньні мітынгу нас запрасіў да сябе ў госьці паважаны грузінскі палітык новай хвалі, старшыня партыі «Аднаўленьня Грузіі ў гістарычыных межах» Аўтандзіл Кепчошвілі, альбо проста – Аўто. Гаспадар жыў у 12-тым

мікрараѐне, у трохпакаѐвай кватэры, і ўсім нам было дзе разьмясьціцца, бо жонкі ў хаце не было – ці то яна была з Аўто ў разводзе, ці то проста некуды зьехала, цяпер цяжка сказаць.

Узялі цалюткую скрыню віна – «Эрэці» (20 шт). Гэта, як добра было ўсім ведама, сухое віно – 9–12 градусаў, і ў савецкія часы прадавалася па ўсім Саюзе, у тым ліку, і ў нас у Беларусі па 1 руб. 02 кап. Аўто, ведаючы нашы славянскія запросы, закупіў таксама некалькі пляшак гарэлкі. У выніку выйшла так: пілі гарэлку і запівалі сухім віном.

Раніцай галовы балелі ўва ўсіх бяз вынятку. Усе – гэта два Валеры (Сяроў і Буйкоў), я і гаспадар.

Зараз буду вас лячыць, – кажа Аўто, – пойдзем у сталоўку. Сталоўка, альбо закусачная, у грузінаў – гэта ня той камбінат масавага харчаваньня, як у нас. Гэта месца, дзе можна як пад'есьці, так і выпіць, пасядзець, пагаманіць, адпачыць. На выпадак пахмельнага стану грузіны маюць вельмі цудоўны рэцэпт: яны зьядаюць гэтак званае «хачо». Хачо, або «Ачо» (?) – гэта вараныя сьвіныя ці ялавічныя галѐнкі, бадай што, разам з капытамі. Гэтыя ногі доўга і добра выварваюцца, так, што выходзіць нешта накшталт супа і гэтае, вельмі гарачае варыва падаецца разам з бакалам піва альбо віна ў тых закусачных. І пахмельны стан як рукой здымае.

Здымае, але толькі не ў беларускіх алкаголікаў. Гэта яскрава выявілася праз хвілін дваццаць «лячэньня» ў грузінскім «гаштэце» на сумных тварах тых, хто ўчора трохі перабраў. Тымі няшчаснымі былі двое – Антон Кулон і Валера Сяроў.

– Не бярэ хачо? – запытаў наш гасьцінны грузінскі сябра, і ўмомант перад намі апынуліся шклянкі з радзімым напоем – гарэлкай.

Жыцьцѐ зноў стала цудоўным.

Па праграме нашага побыту ў той дзень плянавалася галоўнае паседжаньне канфэрэнцыі «Паняволеных народаў» і выступы гасьцей, г. зн. – нас. Але, якія могуць быць выступы, пасьля п'янкі і, галоўнае, сур'ѐзнага апахмелу? Выходзіць, могуць, хоць і не ўва ўсіх. Прынамсі, мне вельмі карцела

выступіць, што я й зрабіў, добра што допінг яшчэ не прыпыніў свайго дзеяньня, алкагольныя калѐрыі яшчэ недзе блудзілі ў рэгіѐне адпітага галавянога мозгу, што было спрыяльна для маўленчага апарату і перамяшчэньня прамочанага языка па паднябеньні. Аднак мае заплянаваныя казаньні пра становішча ў Беларусі нечакана перамясьціліся ў абмеркаваньне становішча беларусаў на Беласточчыне – бо побач прысеў даўны знаѐмы паляк – Войтэк Стандо. У тыя часы – пачатак 90-х – адбываліся ведамыя падзеі з падпальваньнем праваслаўных храмаў у беластоцкіх гмінах. І каб не абвастраць і без таго вострай сытуацыі з гэтым пытаньнем, нехта – ці не Валеры Буйвал – штуршком у бок даў мне даволі выразна зразумець, што пара канчаць сваю тронную прамову. Вельмі здаволены сваім выступам, я сеў і абгледзеў сваіх беларускіх калег, чакаючы ўхвалы. Аднак мяне чакала расчараваньне – галоўны густаваньнік маіх радыкальных паглядаў Валеры Сяроў ціхамірна хроп ува ўтульным фатэлі, які гасьцінна прадаставілі яму грузіны.

Такім парадкам, праграма канфэрэнцыі падыйшла да канца, і абвесьцілі перапынак на абед. Пры слове «абед» Сяроў прачнуўся, бо апошнім часам гэтае слова ў закадаваным выглядзе значыла «пара выпіць».

У Грузіі ў савецкія часы было ўсѐ зроблена згодна зь дзяржаўнай ідэялѐгіяй, адным з прынцыпаў якой было знакамітае: «Всѐ для блага человека!» Тут слова «блага» гэта ня «кепска», як у беларускай мове, у рускай яно значыць мора ўсялякіх добрых рэчаў і ўчынкаў, якія забясьпечвае «развитой социализм» апошняга пэрыяду існаваньня савецкай дзяржавы. Для нас гэтае «блага» значыла паход у бліжэйшую піўніцу, якіх у Тбілісі было вельмі шмат.

Апахмяліліся другі раз.

І тут мне прыйшла заломлівая думка: пара адыйсьці ад кампаніі, паблукаць па гораду – і галоўнае: папіць таго смачнага віна, што запомнілася зь першага падарожжжа ў Грузію ў 1986 годзе, калі я езьдзіў сюды да Аляксандра Квініхідзэ, свайго апанэнта пры абароне дысэртацыі. Тое віно вырабляюць толькі ў Грузіі, гэта – і ня звыклае беларускім алкаголікам 18-ці градуснае

мацаванае віно накшталт розных партвэйнаў, і не сухое накшталт «Алігатэ» ціназванага «Эрэці». Грузінскае паўсалодкае віно мае недзе каля 14 градусаў і не забываецца сваім непаўторным смакам ды тым узьнёслым настроем, які надыходзіць, калі ўзяць на грудзі гэтак грамаў з трыста. Вось назвы гэтых боскіх напояў: «Ахашэні», «Ожалешы», «Кіндзмараулі», і ўрэшце, любая Сталінава «Хванчкара».

Іншым разам я думаю, ці стаў бы я алкаголікам, калі б піў толькі гэтыя віны? Пытаньне рытарычнае, бо я – алкаголікам *стаў*, хоць і піў апрача гарэлкі, піва і адэкалёну яшчэ й гэтыя напоі.

Я ўзяў бутэльку «Ахашэні», і па стромкай камяністай сьцежцы палез на гару, што пачыналася амаль адразу ад крамы. Мне карцела паспытаць каўказскай экзотыкі – паглядзець на панараму старжытнага Тбілісі зьверху, папіць гэтак жаданага віна, і, хоць быў месяц люты, атрымаць асалоду ад цёплага, паводле беларускіх мерак, веснавога дня. Пасьля ўздыму на вышыню, дастатковую, каб аглядаць пэўную частку горада зьверху, можа, мэтраў праз трыста хады, я зрабіў прывал пад утульнай, вясёлай і зычлівай хвойкай, якая пачынала горны лясны масіў.

Пілося лёгка, смачна і, я б сказаў, летуценна. Палітычныя праблемы некуды пазьнікалі, жыцьцё здавалася лёгкім, шчасьлівым, напоўненым запраўдным вышэйшым сэнсам. Хацелася ўзьнесьціся яшчэ вышэй разам з птушкамі, што вясёла сьпявалі мне ў вышыні. «Чемо цы, цэна, тэла… – успамінаў я сваё мінулуе падарожжа і гэтую песьню, калі сьпяваў яе сваім выпадковым тбіліскім сябром. – Рад мі прэн, нэла, нэла…»

На гэтым канчаецца першы, сьветлы акт грузінскай эпапеі, і пачынаюцца больш змрочныя падзеі, якія праносяцца, нібы ў імгле, імкліва, без прыпынку на перадых і бязь ценю філязофскага роздуму, як тады – у шчасьлівыя хвіліны пад хваінкай.

Я спусьціўся ўніз і ўзяў дзьве бутэлькі «Ожалешы».

Хацелася сьпяваць і яшчэ больш – выпіць. Яшчэ ў краме я запрыкмеціў двух прыемных, добразычлівых хлапцоў і запрасіў іх скласьці кампанію –

хацелася шчыльнейшага сумоўя. Прыемныя хлопцы пагадзіліся выпіць з' імной і сказалі, што побач ѐсьць цудоўнае месца, дзе можна добра пасядзець, пагаманіць… За сяброўскімі размовамі аб характве Тбілісі мы выйшлі з жылога кварталу і неспадзявана апынуліся на пустцы, якую запаўнялі лужыны з-пад талага сьнегу. Апрача нас, побач людзей не назіралася, але не назіралася й абяцанай утульнай лавачкі ці звыклага «кафэ на прыродзе» ў выглядзе імправізаванага стала і сядушак з спадручных прылад, як гэта любяць «сазідаць» камапаніі пітукоў у  розных гарадох, дзе мне даводзілася бываць.

З пытаньнем наконт такога «кафэ» я зьвярнуўся да аднаго з хлапцоў, што йшоў побач з' імной  – другі нешта адстаў. Але адказу я не пачуў. А пачуў рэзкі ўдар па патыліцы, відавочна, ад другога хлопца, што адстаў. У наступны момант я ўжо ляжаў тварам уніз, уладкаваўшыся разам зь зімовай вопраткай па цэнтру невялікай, але дастатковай для поўнага разьмяшчэньня майго цела, грузінскай лужыны, якая, як дзьве кроплі вады была падобная да родных мне беларускіх.

Празь некаторы час я ачухаўся, выпаўз з лужыны, дакладней, з гразі, якой была запаўнена лужына, і абгледзеўся. Хлапцоў не было. Побач ляжаў мой кашалѐк, які быў сумленна вычышчаны. Усе 145 савецкіх рублікаў зьніклі. Ні капейкі не пакінулі «прыемныя хлопцы». Аднак побач валяўся й мой пашпарт, зь якога тырчэў білет на самалѐт да Мінска. «Добрыя людзі трапіліся, – падумаў я – парупіліся пра мой лѐс!» Мала таго, рабаўнікі парупіліся і пра мой апахмел, бо трохі воддаль валялася цэленькая бутэлька «Ожалешы». Моўчкі пагараваўшы, я пачухаў разьбітую галаву і адкаркаваў бутэльку…

Але найжахлівейшае выявілася пазьней. Высьветлілася, што ў мяне няма адрасу Аўтандзіла, і няведама, як дабрацца да месца нашай камандзіроўкі. Нататнік некуды зьнік, у галаве – гармідар, зь якога цяжка было вылавіць нешта рацыянальнае. І ў дадатак сьцямнела, надыходзіла ноч.

Зачэпка была толькі адна – назва «Мікрараѐн». Але які мікрараѐн, яго назва, альбо нумар – поўны нуль. І ўсѐ ж я дайшоў да аўтобуснага прыпынку і пасьля доўгіх спроб нешта высьветліць у народу, даведацца куды мне ехаць,

сеў-такі ў нейкі аўтобус, які ехаў у бок тбіліскіх мікрараёнаў. Усё гэта адбывалася на фоне ведамай карцінкі, назіранай мной у Беларусі колькі разоў: п’яная, мурзатая морда беспасьпяхова спрабуе пагутарыць зь цьвярозымі грамадзянамі, тыя адсоўваюцца, стараюцца абмінуць, але п’янюга не зважаючы на свой бамжаваты выгляд зноў і зноў лезе, разносячы вакол сябе страшэнны смурод і пагрозу запэцкацца аб ягоную неахайную, брудную вопратку. Тым ня менш, у аўтобусе паступова пачалося абмеркаваньне майго становішча, якое ўжо ад пачатку было вельмі складаным – з мноства тбіліскіх мікрараёнаў, якія розьніліся толькі нумарамі, я ня мог назваць ніводнай лічбы: ні назвы, ні нумару патрэбнага мікрараёну, ані назвы вуліцы, ці нумару дому, нумару кватэры. У Мінску, ведама, такая сытуацыя была б неразьвязальнай. Ніхто б з’ імной без адрасу ня стаў бы й гаварыць.

Але Грузія – краіна прынцыпова іншая, чым Беларусь і, тым больш, Расея. У Грузіі такія заданьні не з катэгорыі векавой задачы Фэрма, якая, як ведама, да нашага часу не разьвязаная.

Нейкі малады хлопчык-грузін, амаль такога ж маладога й прыемнага выгляду як і мае нядаўныя рабаўнікі, задаў мне, мабыць, апошняе пытаньне: «Як завуць майго сябра, да якога я павінен прыехаць?» Даведаўшыся, што сябра завуць Аўто і ён займаецца палітыкай, мой новы знаёмы, якога, пэўна што, звалі Гіві, на нейкім прыпынку загадаў выходзіць, што мы й зрабілі. Далейшае мяне ўразіла так, што адбілася ў памяці на ўсё жыцьцё. І тыя наступныя крокі запомніліся, як толькі што праглежаны фільм, шчасьлівы канец якога, зусім не агадваўся напачатку. Гіві падыйшоў да групы зь некалькі чалавек і пачаў па-грузінску нешта высьвятляць. Раз-пораз суразмоўцы паглядвалі ў мой бок, потым зноў пачыналася дыскусія. Так хвілін дзесяць. Нарэшце яны скончылі і мы рушылі ў неведамым мне кірунку, але было відавочна – Гіві ведаў куды йсьці! Яшчэ некалькі разоў ён прыпыняўся, каб пагаварыць зь мясцовым насельніцтвам і…. Мы прыйшлі да самой кватэры Аўтандзіла Кепчошвілі. Праўда, гэта стала ясна толькі тады, калі мы націснулі

на кнопку званка, праз момант дзьверы расчыніліся і на парозе намалявалася родная фігура Аўто.

– Вай, вай – адно здолеў вымавіць Аўто, – заходзьце.

Мой спадарожнік пачаў нешта горача расказваць, Аўто пэрыядычна ківаў галавой, я ж быў ужо ў паўпрытомным стане і наагул мала чаго разумеў. Хлопец дакончыў сваю прамову і разьвітаўся. Ён нават адмовіўся зайсьці ў кватэру і пасядзець.

Мяне закінулі ў ванную, памылі, напаілі нечым гарачым і паклалі спаць.

На наступны дзень Аўто даў мне 25 рублёў на дробныя расходы да адʼезду з Грузіі. Па савецкіх часах гэта была немалая сума. Валеры Сяроў і Валеры Буйкоў зьехалі трохі раней за мяне – у іх былі білеты на раньні рэйс. Адно Сяроў пакінуў мне вялізную сетку з бляшаначкамі дзіцячага харчаваньня, у Мінску гэта быў дэфіцыт, у іх – бяры колькі хочаш. У Сярова нядаўна нарадзілася дачка і ён вельмі турбаваўся за яе і вёз патрэбныя рэчы адусюль, дзе ні быў. А ў той момант яго шлях ляжаў не на Менск, а некуды ў іншы бок, і я меў быць выкарыстаны за грузаперавозчыка.

Мой самалёт на Менск адлятаў у чатырнаццаць трыццаць. Зь мікрараёну 12/4 (такі быў ягоны запраўдны нумар, які я перад гэтым ніяк ня мог успомніць) я выехаў досыць рана, і па прыбыцьці ў цэнтар Тбілісі, перш-наперш *рушыў ў піўніцу*. Такое мудрае зьмеркаваньне тлумачылася трыма прычынамі: *першае*: да адлёту было больш за 4 гадзіны, *другое*: мяне мучыў абсцынэнтны сындром, ці, як людзі кажуць, пахмельле і, нарэшце, *трэцяе* – у мяне былі Аўтандзілавы 25 рублёў, зь якімі карцела тэрмінова разьвітацца. Ведама, каб не было *другой прычыны*, то можна было б патраціць грошы інакш, прыкладам, купіць жонцы і сыну падарункі. Але жыцьцёвая праўда мацней за ўсе нашы намеры і жаданьні. І калі гэтая праўда падпарадкавана зялёнаму зьмею і ён кіруе вамі, то кола жыцьцёвых варыянтаў рэзка звужаецца, жыцьцё рэзка спрашчаецца, і ўся разнастайнасьць варыянтаў зводзіцца ўсяго да некалькіх, прытым толькі аднаго кірунку – як пахмяліцца, дзе ўзяць выпіць.

Недалѐка ад аўтобуснага прыпынку, зь якога трэба ехаць у аэрапорт, я вельмі хутка знайшоў піўны бар. Піва ў Грузіі п’юць у асноўным прыезджыя і тыя, хто ўчора перабраў. Я адносіўся і да першай, і да другой групы, таму ўзяў адразу два куфлі.

Пацягваючы паціху гаючую вадкасьць, назіраў за суседзямі. У Грузіі ў кожным публічным пітным месцы рэдка п’юць на адзіноце, так бы мовіць, сам-насам. Звычайна зьбіраюцца кампаніямі ня менш за 5-6 чалавек і шумна «балююць», сьмяюцца, сьпяваюць песьні. Жанчын у гэтых кампаніях я ніколі ня бачыў. Гэта не прынята. Вось і тут – за суседнім столікам нешта сьвяткавала вялікая кампанія мужчын сярэдняга веку.

– Дарагой! – раптам пачуў я ад аднаго зь іх, – а ты почаму адын? Іды быстро к нам, у нас болшой праздник. Видишь этого джигита – у него позавчера был дэнь рождения. Выпей за его здоровье!

Яны сходу адрозьнілі мяне ад асобы «каўказскай» нацыянальнасьці і зьвярнуліся на рускай мове, зразумела, шчодра перасыпанай знакамітым грузінскім акцэнтам.

У мяне да гэтай пары ѐсьць адна вельмі адмоўная рыса. Я ня ўмею адмаўляцца, калі мяне просяць. Ня толькі «если женщина просит», але й ад розных ня менш прыемных прапаноў, перадусім, зьвязаных з працэсам расьпіцьця алкагольных напояў. Тым больш, не выпадала адмаўляцца ў тым тбіліскім бары, бо я быў у гасьцѐх у Грузіі – у гасьцѐх у яе цудоўнай сталіцы, яе шматвяковай гісторыі, яе народа.

Таму неўзабаве я ўжо трымаў шклянку з гарэлкай у адной руцэ, куфаль піва ў другой і віншаваў пажондную грузінскую кампанію з днѐм народзін іх выдатнага сябра, расказваючы пра тое, што праязджаў міма станцыі Горы, дзе нарадзіўся іх знакаміты зямляк Юзік Сталін.

На старыя дрожджы хмель не забавіўся, і скора я, успомніўшы свае сьпеўныя посьпехі ў хоры выкладнікаў БДУ і ўспомніўшы таксама свой былы посьпех салістага ў мінулы прыезд у Тбілісі, выдаў па-грузінску народную песьню Грузіі «Сьвятлана Сьветлячок» – «Чемо ці цена, тела…». Усе падхапілі,

і стала вельмі цѐпла і ўтульна, як у Васілевічах за хлевам, дзе мы дзецьмі гулялі ў хованкі, і маці доўга не магла мяне знайсьці.

…Аўтобус на аэрапорт, відавочна, зрабіў трэці круг, калі я ўрэшце апрытомнеў і быў здольны ацаніць навакольнае становішча. Бралася добра на вечар, мой самалѐт на Менск даўно паляцеў і, мабыць, ужо набліжаўся да смалявіцкага аэрапорта. Я палез у кішэні, намацаў непатрэбны ўжо білет і задумаўся пра свой незайздросны лѐс п’яніцы.

Але што цяпер рабіць? У мяне яшчэ была рэшта Аўтандзілавых грошай, і іх магло быць досыць на цягнік да Масквы, «а адтуль два крокі да роднай Беларусі», – рацыянальна падумаў я і запытаў у навакольных людзей з аўтобусу, у якім я яшчэ ўсѐ ехаў: «Ці праедзе аўтобус паўз чыгуначны вакзал, ці мне перасесьці ў іншы?» Выявілася, што ня трэба перасаджвацца, хоць па-дзеля мяне, дык было ўсѐ роўна, як да вакзала дабірацца – хутчэй ці пазьней – роспач усѐ больш завалодвала маѐй цьверазеючай душой і рабілася ўсѐ больш сорамна і крыўдна на нейкага няведамага й малапрыемнага чалавека, у якім усѐ ж адгадваўся я сам, і што найгорш, паступова на мяне насоўваўся жывѐльны ірацыянальны страх перад няведамым.

У такім панурым стане я выйшаў у патрэбным месцы з аўтобуса і рушыў, у бок яркага і ветлага вакзалу. Было вельмі цѐмна, у той досыць позны час людзей на вуліцы было няшмат.

Раптам перад мной вырасьлі постаці двух здаравенных «генацвале», якія, як выявілася, былі зусім не грузіны, і таму не валодалі нават азамі грузінскай гасьціннасьці, і бязь лішняй цырымоніі, для парадку запытаўшы, куды я еду, падхапілі мае рэчы, нахабна сказаўшы, што яны памогуць іх паднесьці, хутка абшукалі мяне, экспрапрыявалі ўсе, да капейкі, грошыкі, праверылі мае валізкі – праўда вельмі павярхоўна, бо ня ўбачылі падараваную Аўто бутэльку самаробнага грузінскага каньяку – і «зь мірам адпусьцілі».

Мне даравалі свабоду. Але якой цаной? І, галоўнае, – мэта майго «крочаньня» да вакзалу імгненна стала недасягальнай і бяссэнсавай. Бо ў мяне зьніклі ўсе грошы. А гэта значыла, што ў бліжэйшы час у цягнік на Маскву я не

патраплю. Ды што там Масква, мяне ня пусьцяць безь білета нават у гарадзкі аўтобус альбо тралейбус!

Тут мяне апанаваў ня проста страх, а нейкая, ужо на роўні падсьведамасьці, паніка, якая, пэўна што, бывае ў шаснаццацігадовай дзяўчынкі пасьля першага любоўнага спатканьня зь нешчасьлівым канцом. Безвыходнасьць і роспач. Роспач і безвыходнасьць.

І надышла ноч.

У такім прыгнечаным стане, поўным невыноснага шкадаваньня за самога сябе, за страту ўсіх жыцьцёвых імпульсаў, калі так можна выказацца – у стане поўнага нуля – я моўчкі плёўся па начным Тбілісі. Чамусьці плёўся прэч ад няветлага ўжо вакзалу, які ня спраўдзіў маіх апошніх надзей на мірны ад’езд. Я йшоў па нейкай невялікай вулачцы, а, можа, яна мне толькі здавалася невялікай, бо ўсё роўна была ноч і дакладная інфармацыя аб адлегласьцях страчвалася ў цемры.

Машынальна глянуў на яшчэ ацалелы гадзіньнік. Было роўна 12 гадзін ночы. Машынальна прысеў на нейкія прыступкі каля ўваходу ў зачыненую краму. І пачаў вяла абдумваць сваё безнадзейнае становішча. Нічога канкрэтнага і нават хоць крыху рацыянальнага ў галаву не прыходзіла. Думкі мітусьліва насіліся, зноў і зноў вяртаючыся да апошніх падзей, але не знаходзілі сабе прытулку і па чарговым замкнёным коле круціліся, круціліся ўсё больш запалохваючы маю прапітую і загнаную няшчасьцямі натуру. І толькі злосная думка: «Ну што? Дапіўся!» даволі цьвяроза і справядліва вяртала да рэальнасьці і не давала канчаткова паддацца паніцы і – чаго добрага – ня сесьці на каня.

І тут здарылася тое, што йнакш, як умяшальніцтвам вышэйшых сілаў, цяжка й назваць.

Было так. Міма праязжджала нейкая грузавая машына. Раптам яна прытармазіла каля маёй скурчанай постаці, і з кабінкі кіроўцы выйшаў чалавек.

– Почему сидишь здесь, так поздно и один? – запытаў па руску кіроўца, мужчына сярэдніх гадоў, і, прыгледзеўшыся ўважлівей, дадаў. – Можа, чым памагчы табе?

– Мне ўжо ніхто не паможа – сказаў я ў роспачы, маючы на ўвазе сваю бязглуздую і трагічна-п'яную натуру.

І тут раптам мяне ахінула хваля шкадобы да самога сябе і я – бязладна, неяк мазаічна, штуршакамі – паспрабаваў расказаць гэтаму ночнаму мінаку пра сваѐ недарэчнае жыццѐ. Сьлѐзы душылі мяне, але ніводная ня вылілася, яны былі ўсѐ ж далѐкімі ад запраўднага каяньня, якое прыйдзе пазьней, калі я ўрэшце забудуся пра д'ябальскія Бахусавы спакусы.

– Содысь ко мне в машину, – раптам сказаў ночны незнаѐмы – лезь в кабину, – дадаў ѐн бачачы маю разгубленасьць і зразумеўшы, што я не арыентуюся ў ягоным грузавым самаходзе, дзе месцаў апроч кабіны звычайна няма.

Гэтая прапанова спачатку больш напалохала мяне, чым мой тагачасны статус чалавека, які згубіў у жыцьці ўсѐ… Праўда, два папяраднія рабаваньні адбываліся зусім нечакана і ня плянава. А вынікі іх прыходзілі ў сьведамасьць ужо постфактум. Аднак у кабінку я ўсѐ ж залез. Ня ведаю чаму, але залез. І ня тое, што давер быў да таго чалавека, і не таму, што падзецца не было куды. Усѐ ж страшна. Але нейкая няведамая сіла нібы падштурхнула мяне, і я сеў у машыну.

І мы паехалі. Ніколі язда для мяне не была такой даўгой і трывожнай. Здаецца, цягнулася вечнасьць. Тут трэба й адзначыць, што мы ехалі, як кажуць цяпер маладзѐны, і ў «рэале» вельмі доўга. Бо Тбілісі горад ня меншы за наш Менск, але заціснуты гарамі і ўдаўжыню мае працягласьць больш за 50 кілямэтраў. Калі ехаць у другі канец горада, а менавіта так трэба было нам зрабіць, то шлях той быў немалы. Цяпер я дакладна ведаю, што Госпад падаў сваю невідочную руку – мне, ягонаму грэшнаму і няўдзячнаму стварэньню, вызваліў з найжахлівейшай сытуацыі, выратаваў, бо я яшчэ быў яму патрэбен, хоць бы для таго, каб напісаць гэтыя радкі…

Сярод глыбокай ночы мы нарэшце прыехалі. Машына прыпынілася каля прыватнага будынку, накшталт нашых загарадных катэджаў. Мой выратавальнік прадставіў мяне сваёй жонцы, абое павокхалі, паспачувалі і адправілі спаць на другі паверх дому.

Ноч была бяз сну. Мроіліся жудасныя цені і таемныя шоргаты нейкіх стварэньняў, што цікавалі, каб мяне зарэзаць. Я яўна адчуваў лязо нажа акрываваўленага і халоднага, сотні разоў ён працінаў мае кволыя грудзі і юнае сэрца саракагадовага мужыка…

Але раніца надышла – і прачнулася круглае, асьляпляльна прыгожае грузінскае сонейка, вельмі падобнае да беларускага, і я зразумеў: усё цяпер будзе добра. Прыйшоў мой вытравальнік і павёў у мясцовую сталоўку. Яшчэ раней я заўважыў, што грузіны амаль ніколі не ядуць дома, а ходзяць у месцы грамадзкага харчаваньня.

– Можа, сто грамаў каньяку? – запытаў Гвіяд.

– Можна, – прамармытаў я і падумаў: «Ня можна, а вельмі патрэбна...

Выпілі. Есьці я нічога ня мог.

– Табе семдзясят рублёў досыць? – пытаецца мой ночны анёл дабра.

«Білет з Тбілісі да Масквы каштуе трыццаць рублёў, з Масквы да Мінска – пятнаццаць, на дробныя страты, ну... дзесяць рублёў», – узважыў я й сказаў:

– Досыць, ведама, нават застануцца.

– Бяры ўсе, мала што… – і, памаўчаўшы, заўважыў. – Цяпер едзь, усё будзе добра.

Мы падняліся, і Гвіяд правёў мяне да прыпынку. Раптам я схамянуўся:

– Адрас запішы, – кажу. – Куды ж грошы высылаць?

Каб я тады ня ўспомніў пра адрас, то Гвіяд наўрад ці сказаў бы сам. Але цяпер я думаю, што анёлу грошы не да патрэбы. А тая сустрэча… была сустрэчай зь Ім. У тыя ўсяго некалькі дзён грузінскага быцьця было зьмешчана надта шмат незвычайнага – і горкага, і ўсьцешснага, безнадзейна-роспачнага і жызнага.

Гэта была сустрэча з Стварцам.

У Маскву я прыехаў амаль без прыгод. Адно што ўсю ноч не давала спаць шумная кампанія каўказскіх п'янюгаў, якія паілі ўвесь вагон нейкім віном зь вялізнага бутля, але я ў гэтым баляваньні ўдзелу ня браў, а ціхенькі цадзіў сваю, загадзя ўзятую каля вакзала бутэльку «Ахашэні» і безвынікова спрабаваў заснуць.

У Маскве было таксама не халодна, але мяне сустрэла натуральная зіма зь сьнегам і калючым расейскім ветрам. Узяўшы білет, я патэлефанаваў па міжгорадзе ў Менск. Там, зразумела, быў пярэпалах, бо чакалі мяне двое сутак таму. Радасьць была неймаверная.

Аднак маю радасьць сапсавала новая непрыемнасьць. У мяне пачаліся болі ў самым непажаданым месцы і стала вельмі цяжка хадзіць. У аднаго майго знаёмага паводле ўсіх прыкмет была падобная бяда і яна называлася гемарой. Пазьней, у Менску, высьветліцца, што гэта ён, гемарой, і быў. Болі пачаліся яшчэ ў Тбілісі і, відавочна, сталі вынікам надмернага ўжываньня розных вінаў. І чамусьці ў мяне зуб на сухое «Эрэці», якое пілося цэлымі літрамі. Але, хутчэй за ўсё, хвароба прыйшла ад усяго разам. А можа й проста – Госпад дадаў яе да поўнага камплекту бедаў. Бо ні раней, ні пазьней – праз усё жыцьцё гемароя ў мяне не было.

Да адыходу цягніка заставалася трохі часу, дык я, нягледзячы на хваробы, выйшаў зь Беларускага вакзалу і паехаў на мэтро ў цэнтар, да Кузьнецкага мосту. Я ведаў, што там побач – на Пушкінскай вуліцы – ёсьць цудоўны піўны бар, дзе прадаюцца вараныя крэветкі, і можна выпіць запраўднага жыгулёўскага піва, якое наліваецца праз спэцыяльныя піўныя аўтаматы. Кідаеш манэту 20 кап., і піва цурчыць у твой куфаль. Кажуць, што пры маім саромным захворваньні піва піць ні ў якім разе нельга. Я гэта ведаў, але ж дыягназ мне тады ніхто яшчэ не пасьпеў паставіць. Таму я добра папіў піва і з чыстым сумленьнем паехаў у Менск.

Так скончылася адна з самых загадкавых прыгод у маім жыцьці. Яна скончылася добра, але якраз яна прымусіла мяне па-іншаму зірнуць на свой шлях у гэтым сьвеце. Я зразумеў, што патрэбен Госпаду і як чалавек, ягонае

найлепшае стварэньне, мушу жыць інакш, жыць у згодзе зь Ім і паводле Яго запаветаў. І тое, што Госпад дараваў мне цяпер цьвярозае жыцьцѐ – гэта вялікі дар і я павінен яго скарыстаць належна.

Але да цьвярозага жыцьця трэба было прайсьці яшчэ доўгі шлях працягласьцю трынаццаць гадоў…

# PER ASPERA AD ASTRA (ПРА КАДЗАВАНЬНЕ, АЙЦА ЛЕАНІДА ПЛЯЦА, ТЭС-ТЭРАПІЮ І ІНШАЕ)

У гэтым разьдзеле я б хацеў падзяліцца сваім досьведам папраўленьня, расказаць аб мажлівых шляхох да цьвярозасьці. Але папярэдне скажу некалькі слоў пра найхарактэрнейшую зьяву пэрыяду запушчанага алкагалізму – запоі. Калі чалавек даходзіць да стадыі запояў, то ягонае «дно» ўжо блізка, і пара задумацца…

## Запой

Як чытач, відаць, мог уцяміць з папярэдняй гісторыі, да 1991 году ў мяне ўжо назіраліся ўсе прыкметы клясычнага алкагалізму: няздольнасьць спыніцца пасьля прыняцьця некалькіх чарак гарэлкі, альбо куфля піва, цяжкае, трэмарнае пахмельле раніцай, правалы памяці пасьля добрай выпіўкі. Настаў момант, калі стала ясна: трэба кідаць піць. Як заканамерны, таксама клясычны вынік – пасыпаліся непрыемнасьці з усіх бакоў: усѐ настойлівей гоняць з працы, усѐ актыўней жонка настойвае на разводзе, наагул усѐ цяжэй становіцца існаваць…



Але найсумнейшае дасягненьне гэтага новага пэрыяду ў маім жыцьці – пераход актыўнай фазы п’янства ў стадыю запояў. Запой – гэта цяжкае выпрабаваньне для ягонага носьбіта. Ён узьнікае нечакана, як першае каханьне ў сямнаццаць гадоў, як зімовы сьнег у пачатку мая, як ненавісны патруль падчас самаволкі ў арміі, як зьяўленьне звышновай зоркі ў сузор’і Казярогу. Хадзіў чалавек, хадзіў, працаваў, гадаваў дзяцей і

любіў жонку, пісаў дысэртацыю і выступаў на міжнароднай кафэрэнцыі па ядравай фізыцы і раптам – бац! Запой!

Запой не пытаецца вашай згоды на яго прыход, ѐн ніколі не плянуецца, не запрашаецца і не рыхтуецца. Але, калі ѐн прыйшоў, то ваша жыцьцѐ мяняецца з грунту, што на кон ставяцца ўсе набыткі вашага цьвярозага, разумнага і шчасьлівага жыцьця. Пад сумнеў імгненна ставіцца ўся ваша кар’ера і тая вышыня службовай лесьвіцы, на якую вы караскаліся колькі гадоў, імгненна становіцца не вышынѐй, а глыбокай ямай, зь якой вы потым доўга й марна будзеце выбірацца. Траціцца здароўе, й ранішнія прабежкі вакол школьнага стадыѐну замяняюцца няроўнай, хісткай хадой вакол «залатога колца» мікрараѐну ў складзе трох гастраномаў і дзьвюх піўніцаў у шуканьні піва ці глытка чарніла… Бурыцца сям’я і аднойчы вы прачнецеся ў пустой кватэры бяз жонкі й дзяцей і гэта яшчэ ў лепшым разе – вы можаце аднойчы прачнуцца на вуліцы, каля сьмецьцевага баку разам з барысавамі[1] сьметнікавымі катамі, якія будуць ласкава глядзець на вас сваімі блакітнымі кацінымі вачыма і пяшчотна лізаць сваімі шурпатымі язычкамі ваш апухлы, сіні твар.

І гэта ня ўсѐ. На кон ставіцца ўсѐ ваша жыцьцѐ!

Чалавек у запоі пераносіцца ў зусім іншы сьвет, які можна назваць «паралельным», «тонкім», проста «іншым». Гэты сьвет вельмі ўпадабалі прыхільнікі лятучых талерак, гэтак званыя ўфолягі – праз захапленьне гэтай таямнічай зьявай прайшоў ці ня кожны савецкі інтэлігент. «Кантакты трэцяга роду»… – яшчэ жывыя ўспаміны пра зьвесткі аб таямнічых прыхаднях, якія зь вялікай цяжкасьцю здабываліся ў савецкай таталітарнай сыстэме. Менавіта ў стане запою ў вас ѐсьць шанец сустрэць знакамітых «зялѐных чалавечкаў» прыхільнікаў НЛА і нават адкрыць новых, няведамых чалавецтву істот.

Нeяк у кнігарні «Кніжны сьвет», што на Купалаўскай вуліцы, мне трапіўся вельмі дарагі й прыгожы альбом з малюнкамі «гуманоідаў» і іншых іншаплянэтных істот. Упэўнены, што яго рабіў наш брат, алкаголік.

[1] Барыс – ананімны алкаголік, які любіў расказваць пра сваю сустрэчу ў запоі з памойнымі катамі.

Самае непрыемнае ў запоі – гэта час «Х», час, калі ў вас «раптоўна» зьнікаюць усе грошы. Зразумела, нічога раптоўнага ў гэтым факце няма. Наадварот, тое , што яны зьнікаюць – заканамерны фінал пэўнай колькасьці дзѐн, пражытых у вашым «тонкім « сьвеце. Дык вось, гэты заканамерны фінал, для вас не шараговая падзея, а катастрафічная. Бяз грошай вам няма за што ўзяць бутэльку, ды што там бутэльку, вам няма як зрабіць нават глыток чарніла!

У гэты страшны час безграшоўя чалавек здольны на ўсѐ. Запраўды, толькі ў такія моманты пачынаюць працаваць законы экзыстэнцыялізму й вашае «Я» ўступае ў сьмяротную сутычку з рэальнасьцю. Інстынкт самазахаваньня робіць усѐ мажлівае, каб выратаваць гэтае нікчэмнае, нікому не патрэбнае, брыдкае «Я».

Я помню, як бяз посьпеху спрабаваў адкаркаваць флякон зь нейкім касмэтычным рэчывам, спадзеючыся знайсьці там нешта сьпіртоўнае, накшталт адэкалѐну. Сам адэкалѐн даўно ўжо быў выпіты. Я помню, як дрыжачай, няпэўнай ступой падкрадваўся – ня йшоў, а менавіта падкрадваўся – да стойкі бара, і няўклюдным рухам зьнясіленай рукі, неяк рэзкім рухам зьнізу ўверх клаў патрэбную на сто грамаў гарэлкі суму і потым доўга прымерваўся да наступнага гераічнага кроку – узяць з стойкі шклянку, да паловы напоўненую эліксырам жыцьця, й выпіць. Гэта трэба было рабіць так, каб ніхто не заўважыў самога жудаснага працэсу выпіваньня, бо рукі калаціліся так моцна, што вадкасьць расплѐсквалася, і была імавернасьць наагул не данесьці яе да вуснаў. І нават калі гарэлка аказвалася ўнутры майго прапітанага арганізму, было яшчэ няведама ці знойдзе там яна прытулак, а не папросіцца вонкі. І тады вам давядзецца духам выскокваць на двор і ванітаваць там уткнуўшы галаву ў сьметніцу. І мажлівасьць гэтага непажаданага варыянту з «адваротным ходам» наганяла дадатковы страх, бо грошы былі апошнія і новых сто вам ніхто ўжо не нальe…

Працягласьць запою розная. У мяне запоі цягнуліся ад трох дзѐн у маладыя гады да аднаго і нават двух месяцаў у апошнія гады жыцьця з

алкаголем. Чым больш трывае запой, тым больш імавернасьць летальнага выніку. Рэкорд паставіў мой сябра Коля З., які піў чатыры месяцы, і толькі цуд ды жончыны малітвы ўратавалі яго ад пагібелі.

…Гэтак у маім жыцьці настаў момант пераходу да станавітых дзеяньняў супраць «зялёнага зьмея», настаў момант, калі я зразумеў: піць трэба кідаць і кідаць назаўсёды.

У нашай краіне практыкуюць некалькі мэтадаў пазбыцьця алкагольнай залежнасьці. Мне ведамы гэтыя мэтады ня з чутак…

## Спосаб 1. Кадаваньне – найэфэктыўнейшы сродак для тых, хто хоча кінуць піць

Праваслаўная Царква, таксама, як і каталіцкая, і ўсякая зь безлічы пратэстанцкіх, паважна ставіцца да Сьвятога Пісьма і таму змагаецца супраць астролягаў, гадалак, ведзьмакоў і іншай нячыстай на руку публікі, якая ў наш час завецца экстрасэнсамі. Гэта, зразумела, датычыць і розных там лекараў-кадаваньнікаў, што густа засялілі постсавецкую прастору, у вялікай ступені, дарэчы, гэтыя збольшага кемлівыя былыя камунякі, якія асвоілі вельмі прыбытковую новую прафэсію.

Пасьля апісваных вышэй падзей, у тым жа 1991 годзе, мне ўсё ж давялося трапіць на сэанс кадаваньня, якія доктар Круглянскі правёў над маёй зблуджанай душой, а дакладней, і геаграфічна слушней, над тым, што знаходзілася ў маёй бяспутнай галаве.

Кадаваньне зводзілася да таго, што Круглянскі хвілін 20-30 вешаў мне лапшу пра тое, як дрэнна піць, якія кепскія наступнасьці бываюць ад гарэлкі і пра тое, што пасьля гэтага сэансу я забудуся пра сьпіртавыя напоі і піць ужо ня буду. Адзін прыём, відавочна, каб выклікаць агіду да выпіўкі, мне запомніўся. Доктар сказаў, што я сваё ўлюбёнае піва ўжо піць ня буду з наступнай простай прычыне: у Менск прыехалі студэнты-нэгры з Афрыкі і яны, каб нагадзіць нам,

бяруць бакал піва й мочаць у ім свае вялізныя чорныя фаласы. І потым мы гэтае піва п’ем.

Амаль год я не ўжываў аніякіх напояў.

У 1992 годзе я быў адным з арганізатараў важнай міжнароднай канфэрэнцыі першых беларускіх дэмакратаў, якая праводзілася ў маляўнічым месцы Менскага мора, у гатэлі «Юнацтва». Як вядзецца, быў банкет, які цалком ляжаў на маіх плячох, а значыць, апрача мінусаў арганізацыйных турбот прыносіў нейкую матэрыяльную выгоду, бо ўвесь бюджэт праходзіў празь мяне. Набытак, праўда, быў невялікі і складаўся, перадусім, з розных добрых напояў і закусак, якія засталіся ад банкету.

У мяне быў асобны нумар у гасьцініцы, і ўсе прыпасы ад банкету зносіліся туды. На самым банкеце я ня выпіў ані граму сьпіртнога, хоць вельмі цяжка было ўтрымацца пасьля настойлівых тостаў армянскага сябра Аруйра Пайрыкяна. Аднак, калі ўсе разышліся, глыбокай ноччу я і мой сябра Віця Н., зь якім мы былі ў стане нейкай моцнай сваркі – надумалі памірыцца. І, каб замацаваць згоду, я ***сам*** наліў у шклянкі віна і выпіў без усякага падбухторваньня. Выпіў ***сам***! Потым, адчуўшы, што віно пайшло вельмі добра й згода ўсталёўваецца навекі, не адмовіўся й ад наступнай прапановы ўжо ад Віці…

Раніцай было вельмі млосна і… я пайшоў на піва!

Вось так я пачаў піць па новаму, і вельмі хутка ўсе прыкметы алкагалізму вярнуліся зь яшчэ большымі наступнасьцямі.

Я ўпэўнеўны: кадаваньне ня лечыць, а толькі адцягвае на пэўны тэрмін жаданьне выпіць. Адцягвае пад страхам сьмерці. А хваробу, чым і ёсьць алкагалізм, – трэба лячыць.

Ананімныя алкаголікі сьцьвярджаюць, што алкагалізм – хвароба ня толькі невылечная, але й прагрэсоўная. Мабыць, толькі што значыць прагрэсаваньне, – пераносіць выпіўкі становіцца цяжэй? Запоі робяцца больш працяглымі? Гэта ўсё так. Але ж і мы не маладзеем, пік здароўя чалавека прыпадае недзе на 30 гадоў, а потым «пачынаем спускацца». Вось і ўвесь сакрэт «прагрэсу». Наагул,

жыцьцѐ – гэта прагрэсоўная хвароба, якая перадаецца плоцевым спосабам і заўсѐды прыводзіць да сьмерці. Гэта сказаў, здаецца, Занусі. Таму спынімся толькі на тым бясспрэчным факце, што **алкагалізм – сьмяротная хвароба.**

Праўда, ня ўсе згодны з такім катэгарычным дыягназам.

І тут мы падыходзім да наступнага *тэзісу, альбо спосабу «завязаць».*

## Спосаб 2.
## Аптымалісты: «Хлусьня! Алкагалізм ніякая не хвароба, а разгільдзяйства! Дакладней – праграма на разгільдзяйства»

Аптымалісты, зь якімі мне давялося пазнаѐміцца ў 1994 годзе, г. зн. праз два гады пасьля апісванага вышэй кадаваньня, ня лічаць алкагалізм хваробай. Алкагалізм – зь іх гледзішча – гэта зусім не хвароба, а проста «няправільная праграма». Памяняць сваю праграму, памяняць «матрыцу» жыцьцѐвых установак – вось і ўвесь сакрэт пазбыцьця алкагалізму і ўсіх іншых залежнасьцяў. За аснову падыходу аптымалістых быў узяты «Мэтад гуманістычнага псыхааналізу» распрацаваны кандыдатам біялягічных навук, ленінградзкім навукоўцам Г. А. Шычко.

Аптымалістыя ў Менску зьбіраюцца на вул. Пляханава, 31. Гэта зусім недалѐка ад майго дому. І неяк у красавіцкі вечар 1994 года, надумаўшы канчаткова завязаць з выпіўкай – пасьля няўдалага кадаваньня мінула амаль што два гады – я рушыў да аптымалістых. Бралі нейкія грошы, рублѐў 300. (30 000?, 3000?) – цяжка ўпомніць цяпер, якія грошы былі ў той год, вельмі ж часта мяняліся тады курсы, наміналы… Інфляцыя рабіла няўстойлівым усѐ, апрача п’янства.

Наадварот, пасля заняпаду гарабачоўскага паўсухога закону ў Менску пачалі адчыняць піўныя бары, шапікі. Віно сталі прадаваць нават у звычайных кіѐсках. Як сѐньня помню, што купляў пляшку «Партвэйну» ў шапіку на вуліцы Кірава, каля кнігарні. Дарэчы, лѐс менскіх кнігарняў якраз адваротны. Ужо няма ні таго кніжнага магазіну, ні «Навуковай кнігі» на праспэкце, ні шмат якіх

іншых. Чытаньне – і гэта праўда – выйшла з моды. Выпіўка – не! Наадварот, да нашага брата пачалі далучацца нават дзеці і маладыя жанчыны – гэта зьвязна зь піўным бумам і поўнай падтрымкай дзяржавай усеагульнай алкагалізацыі насельніцтва.

А я надумаў сказаць «Не!» алкаголю. Чарговы раз… Але на гэты раз – назаўсѐды. Ха-ха! – «як заўсѐды – назаўсѐды»…

І вось я ў аптымалістых.

У залі аптымалістых зьберлася чалавек гэтак з трыццаць. Зь нейкага ліхаманкава-насьцярожанага выгляду людзей, я зразумеў, што ўсе прыйшлыя дасьпелі да жаданьня завязаць. Гаспадары «імпрэзы» праверылі, ці ўсе здалі грошы, і «пацыенты» ўтульна расьселіся. Сэанс паправы пачаўся. Суседзі дасталі загадзя падрыхтаваныя сшыткі і асадкі. Убачыўшы, што я новік і ня маю на чым пісаць, знайшлі і мне чысты аркуш паперы.

Наведнікам, і перадусім новым, спачатку давялі існасьць «Бахагавадгіты» аптымалістых, г. зн. мэтаду спадара Шычко:

«*Важнейший вопрос теории алкоголизма – причина употребления «спиртных напитков» населением. Мои многочисленные наблюдения показали, что имеется ОДНА универсальная причина – питейная запрограммированность».*

Вось жа, галоўная ідэя аптымалістых пазбыцца дрэннай праграмы – *піцьцѐвай запраграмаванасьці.* Аптымалістыя ўзялі сабе за зброю гэтак званую трыяду Бехцерава: перакананьні (веды), унушэньне, самаўнушэньне.

«*Следует объяснить, что это не кодирование и не гипноз, и что этот элемент необходим именно для взрослых людей, чьѐ сознание отягощено грузом их житейских проблем, и производится только с целью закрепления знаний, полученных ими на занятиях*» – вось крэда аптымалістых. Такім парадкам, трэба памяняць ранейшы – «няправільны код» на новую парадыгму, атрыманую ў час заняткаў. Вось і ўся мудрасьць. Здаецца, ну, а чаму б і не, можа й запраўды мы маем справу з геніяльным наватарскім падыходам да праблемы алкагалізму?

…Пазбывацца ранейшых «алкагольных прывязанасьцяў» мы пачалі дзіўным спосабам. Наведнікам было прапанавана шмат разоў запісаць у сваіх сшытках фразу:

«*Я жыў няправільна. Я жыў з алкаголем. Гэта вельмі няслушна і шкодна для здароўя. Цяпер я ніколі ня буду ўжываць піва, віна, гарэлкі і іншых алкагольных напояў. Ніколі ня буду піць. Ніколі».* Гэта, ведама, прыкладныя тэксты. Там былі мо' трохі іншыя. Але існасьць адна.

З аптымалістымі я прабыў нядоўга. Мусіць, тыдні два – тры. Ня легла мне мэханічнае запісваньне адной і той жа фразы па 100 ці 150 разоў. Тая частка іх праграмы, што датычыла культываваньня здаровага ладу жыцьця, ніякіх пярэчаньняў не выклікала. І ня можа выклікаць. Бо спорт, гартаваньне, парылка і купаньне зімой у пельцы – гэта выдатныя заняткі для *здаровых* людзей. Я падкрэсьліў слова «здаровых» недарма, бо пераканаsuccessfully – алкагалізм гэта хвароба, і ніякія спартовыя практыкаваньні яго ня вылечаць. Ня вылечыць ні спадар Шычко, ні старац Парфіры Іваноў.

Аднак я ведаю людзей, якія сталі цьвярозымі праз аптымалістых. Мабыць, іх п'янства яшчэ не дасягнула стадыі захворваньня. А можа, гэта была іх «шэрая мыш[1]«.

## Спосаб 3. Заснаваны на хрысьціянскім тэзісе: «Алкагалізм не хвароба – гэта грэх»

У сярэдзіне 90-х гадоў у Менску, а потым пазьней, ужо ў канцы 90-х, пад Менскам, адначасова ў Смалявічах і ў вѐсцы Загор'е, што сорак пяць хвілін язды электрычкай у бок Барысава, два праваслаўныя сьвятары апрача свайго асноўнага сьвятарскага абавязку – літургічнага служэньня ў сваіх храмах – практыкавалі незвычайную, нават як па цяперашніх часах службу. Яны праводзілі гэтак званыя «адчыттваньні». Айцец Валяр'ян у Смалявічах, а айцец Леанід – у Загор'і, ці дакладней – Забалоцьці (паводле месца прапіскі храмавага

[1] Пра аповесьць Віля Ліпатава "Шэрая мыш" глядзі ніжэй.

будынку). Ніжэй я раскажу пра свой досьвед лячэньня адчытваньнямі ў айца Леаніда Пляца.

Несумнены факт – пасьля адчытваньняў многія псыхічна хворыя людзі знаходзілі цудоўнае выратаваньне. Вылечваліся як псыхічныя хваробы, так і алкагольная залежнасьцьць. Раз на месяц а. Леанід адчытваў алкаголікаў – і алкагалізм адступаў. І для хворых людзей, што гадамі пакутавалі ад невылечных, хранічных хвароб, ад чэпкіх лапаў алкагольнай залежнасьці, вынікі падарожжаў у Забалоцьце да а. Леаніда былі запраўдным цудам. А калі недзе адбываюцца цуды, то слава пра гэтае месца і аб выратавальніку разносяцца па сьвеце імгненна. Да айца Леаніда людзі прыязджалі з усяго былога Саюзу – з Расеі, Украіны і, само сабой, з усіх куткоў Беларусі.

Як жа праходзіла адчытваньне?

Айцец Леанід чытаў малітвы – і ўсё! Усё адчытваньне было пабудавана на сэрыі кананічных праваслаўных малітваў, у склад якіх уваходзіў ужо знаёмы мне па Сьвята-Пятра-Паўлаўскаму сабору акафіст «Неўпіваная Чаша». Знаёмы вось зь якой нагоды.

*За некалькі гадоў да апісваных падзей…*



…Недзе ў 1995-1996 гадох я зрабіў спробу «завязаць» праз малітоўнага ўдзелу ў штотыднёвым акафісьце Прасьвятой Багародзіцы на чэсьць іконы «Неўпіваная Чаша». Такая служба спраўлялася тады (дый цяпер яна ёсьць) у Сьвята-Пятра-Паўлаўскім саборы кожны аўторак і зьбірала вялікую колькасьць людзей, неабыякавых да праблемы п’янства. Узмоцненае маленьне перад іконай «Неўпіваная Чаша» давала папраўнак, адлучала

ад п’янства, надпрыродным спосабам выбаўляла ад алкагалізму.

Гісторыя іконы незвычайная, і было б недаравальна, не расказаць пра яе ў кнізе аб п’янстве.

«Зьяўленьне абраза «Неўпіваная Чаша» здарылася ў 1878 годзе. Селяніну Яфрэмаўскага ўезда Тульскай губерні, які быў апантаны жарсьцю да п’янства і з гэтае прычыны ня змог хадзіць, у сьне зьявіўся старац-схімнік і сказаў: «Ідзі ў горад Серпухаў у кляштар Уладычыцы Багародзіцы. Там ёсьць ікона Божай Маці «Неўпіваная Чаша», адслужы перад ёй малебен і будзеш здаровы душой і целам». Селянін не адразу выправіўся ў кляштар, але пасьля трэцяга зьяўленьня старца наўгомыжкі рушыў у дарогу.

Калі ён прыйшоў, ці хутчэй прыпоўз, у жаночы Ўвядзенскі Ўладычны кляштар, то расказаў пра свае сны сьвятару і папрасіў адслужыць малебен. Але ніхто ў кляштары ня ведаў іконы Божай Маці з такой назвай. Пасьля доўгіх шуканьняў у праходзе з саборнага храму ў рызьніцу быў знойдзены абраз, на звароце якога знайшлі напіс: «Неўпіваная Чаша». У прышлым селяніну схімніку пазналі старца Варлаама – заснавальніка гэтага кляштара. Пасьля таго, як малебен адбыўся, былы п’яніца атрымаў ня толькі ацаленьне хворых ног, але й страціў прыхільнасьць да алкаголю».

Вось з тых часоў і пацягнуўся п’яны народ шукаць ратаваньня ад «зялёнага зьмея», чытаючы акафіст каля іконы «Неўпіваная Чаша» і, як сьведчыць гісторыя, знаходзіў гэты паратунак.

Акафіст – як акафіст, 13 кандакоў і 12 ікасаў, але незвычайная сіла стаіць за гэтымі тэкстамі.

Вось, прыкладам, так канчаецца першы кандак:

*«…Ты же, Владычице, «Неупиваемою Чашею» нами именуемая, приклонися благоутробно к нашим воздыханиям и воплем сердечным, и избавление подаждь страждущим недугом пианства, да с верою воззовем Ти: Радуйся, Владычице, Неупиваемая Чаша, духовную жажду нашу утоляющая»*.

Радок «*Радуйся, Владычице, Неупиваемая Чаша, духовную жажду нашу утоляющая*» рэфрэнам гучыць праз увесь тэкст. Адкуль аўтарам было ведама

гэта?… Я ня раз пераконваўся, што глыбіннае жаданьне выпіць схавана якраз у жаданьні нечага менавіта духоўнага, здаецца, усё ёсьць, а нішто цябе не здавальняе, сьвет ня мілы… І тут – шклянка. Ведама, ня ўсім, але пэўнаму колу людзей алкаголь прыносіць радасьць, паўнату жыцьця і здавальненьне. Аднак потым настае расплата за скрыўленьне, альбо проста няправільнае разуменьне Божага пакліканьня. Бо ўвесь сэнс нашага жыцьця, сэнс гэтай духоўнай смагі – збліжэньне з Госпадам, жыцьцё зь ім у згодзе, жыцьцё паводле ягоных запаветаў. Вось у гэтым і сіла і сэнс знакамітага акафісту.

На вялікі жаль, разуменьне акафісту і здольнасьць успрыняць яго – розныя рэчы. І мяне на гэтым шляху чакаў крах. Я ладны час наведваў па аўторках храм, слухаў айца Андрэя Лемяшонка і сьпяваў разам з народам «*Радуйся, Владычице, Неупиваемая Чаша, духовную жажду нашу утоляющая…*», але потым раптам увайшоў у запой….

*Мне забракла веры*.

…І вось – 1998 год. Я еду ў Загор’е лячыцца ад алкагольнай залежнасьці да айца Леаніда Пляца. Людзей зьехалася вельмі шмат. У натоўпе людзей, пераважная большасьць якіх жанчыны, я выбраў больш-менш добрае месца – так, каб ня моцна заціснулі суседзі, але й каб нармалёва чуць голас сьвятара. Людзі стаялі, нецярпліва чакалі пачатку і паступова трывожны настрой пачаў перадавацца па храму – нешта доўга не пачыналася адчытваньне.


А. Леанід Пляц

Але вось нарэшце зьяўляецца іерэй Леанід. Мяне ўразіў яго цёмна-бледны, смуглы да чарнаты твар, але калі ён загаварыў, настала супакаеньне і прышла прага слухаць ягоныя словы, якія рытмічна падалі ў цішыню царквы.

– Благословен Бог наш… – пачатак быў звычайны, такімі словамі пачыналіся, фактычна, ўсе набажэнствы ў Праваслаўнай Царкве. Паступова, яшчэ задоўга да цыклу спэцыяльных антыалкагольных малітваў,

атмасфэра ў храме пачала мяняцца. Дзе-нідзе чуліся нейкія выкрыкі, яны станавіліся ўсѐ гучней і гучней у адпаведнасьці з павышэньнем вышыні гуку малітвы, што незаўважна для большасьці людзей чыніў а. Леанід.

Сама цікавае пайшло тады, калі пачалася кульмінацыя адчытваньня. Па тэкстах можна было зразумець, што зь людзей выганяецца злы Дух. Гэты Дух п'янства адпраўляўся ў далѐкую краіну – бязводную пустэльню, бяз права вяртаньня назад. Раптам пры воклічы «Ізыдзі! «Ізыдзі!» некаторыя людзі пачалі падаць на падлогу, лямантаваць, некаторыя зачалі плакаць, а іншыя сьмяяцца. Адным словам, пачаўся запраўдны бэдлам і страшэнны шум.

Нейкая жанчына крычала «Адыдзі Ісус, Сын Божы ад мяне! Адыдзі!» Другая пачала брахаць, нібы сабака, іншая залівалася сьлязьмі. На мяне таксама насунулася неведамая раней хваля пачуцьця роспачы, каяньня й вызваленьня…

Трэба сказаць, што пасьля сэансу адчытваньня я выходзіў у стане нязвыклай радасьці, абноўлены духоўна і нават фізычна, не зважаючы на гадзіны, праведзеныя ў ня надта камфортных умовах.

Але дадому я адразу не накіроўваўся – трэба было зрабіць яшчэ адну справу. Трэба было ўзяць даведку ў айца Леаніда. Рэч у тым, што загаднік катэдры пасьля тыднѐвага прагулу і чарговага пападаньня начальству на вочы ў п'яным выглядзе, мне паставіў умову: ці кадуйся, ці ўшывай тарпэду, ці яшчэ што рабі, але прынясі даведку аб праходжаньні курса лячэньня ад алкагалізму, бо інакш – звальненьне.

Айцец Леанід Пляц даведку даў. Вось як яна выглядала (копія арыгіналу):

***Справка***

*Доцент Кулон Антон Владимирович проходил курс лечения (начало) от недуга пьянства в церкви сьвятого Великомученика и Победоносца Георгия с. Заболотье Смолевичского р-на 30 мая 1998 года.*

*Настоятель храма* *Леонид /Пляц/*
*священник*

І допіс: «*С благословением приезжать еще до 10 раз и выполнении всех требований и условий для избавления от недуга пьянства.*

*Иерей Леонид*».

Унізе гэтай каштоўнай паперы а. Леанід паставіў круглую афіцыйную пячатку Маскоўскай патрыярхіі.

З тым я й зьявіўся ў унівэрсытэце.

На працы мяне пакінулі, і амаль год я не ўжываў алкаголю. Цяжэй за ўсе было ня піць піва, бо піва было адным з найгалоўнейшых атрыбутаў традыцыйных паходаў у лазьню.

**Чацьвертая спроба (спосаб кінуць піць № 4)**
**ТЭС-тэрапія**

Год цьвярозага жыцьця стаў вынікам курсу адчыванньяў у а. Леаніда. Я езьдзіў да яго ў вёску яшчэ некалькі разоў, але – як потым высьветліцца – недастаткова.

У траўні 1999 году ў Міколы Захаранкі быў юбілей, і разам з нашым земляком Валодзем, а таксама з нашымі жонкамі мы выправіліся да Міколы ў Швабы віншаваць яго з днём народзін. Коля сустрэў нас ужо на добрым падпітку і ў такім стане заставаўся потым увесь час.

Я паказваў узор цьвярозасьці сваім земляком. Яны – і асабліва іх жонкі – ніколі ня бачылі мяне такім прыкладным, такім анёльчыкам, такім «лапулькам». «Што, й піва ня вып’еш?» – задаў нехта правакацыйнае пытаньне.

Што значыць брак школы Ананімных Алкаголікаў! Правіла першай чаркі сьцьвярджае: ні ў якім разе не бярыце першае чаркі (першы куфаль піва). Большая ж частка п’яніц, ня ведаючы пра сваю хваробу і не дазваляючы сабе нават думак пра марнасьць усіх валявых дзеяньняў на ўтаймаваньне алкагольнай залежнасьці, робяць заломлівы крок: бяруць першую чарку. Алкаголік, калі ён у людзях і ня хоча напіцца ці пачынае «новае жыцьцё» –

звычайна дае сабе такі плян-зарок: «Вып’ю адну – максымум дзьве чаркі, і ўсѐ». Яму гэта звычайна лѐгка даецца. Ён запраўды выпівае гэтых 100 грамаў і астатні вечар паказвае прыклад цьвярозасьці ўсѐ больш п’янай кампаніі, сам пад тое перапаўняючыся пачуцьцѐм сваѐ значнасьці, гонару за сваю «сілу волі». Ён не ўжывае алкаголю і на наступны дзень і яшчэ некалькі дзѐн. *Але праз тыдзень уваходзіць у страшэнны запой.* Без усялякай прычыны. Без нагоды. Без усякай лѐгікі. Без усяго…

Прыкладна тое было і на юбілеі сябра. Я падумаў: «А чаму б мне ня выпіць бутэлечку піва? Адну. Нічога ж ня здарыцца. Яны нап’юцца гарэлкі, віна, будуць весьці п’яныя гутаркі, а я буду цьвярозы і найразумнейшы…»

Я так і зрабіў.

Але на адваротным шляху, у Лагойску, я чамусьці выпіў яшчэ адну бутэлечку піва.

Так скончыўся год цьвярозасьці, які Госпад даў мне праз малітвы айца Леаніда Пляца.

Год цьвярозасьці даў шмат станоўчых вынікаў. У мяне падняўся аўтарытэт на працы. Я атрымаў навуковае званьне дацэнта. Гэтак я «ўзаконіў» мянушку «дацэнт», што трывала ўмацавалася за мной у асяродзьдзі п’янюгаў Серабранкі. І ў той год я напісаў сваю першую кніжку.

Але ўсе гэтыя набыткі былі перакрэсьленыя пасьля падарожжа ў вѐску да сябра.

Зноў пачаліся «працоўныя будні» алкаголіка, які вымушаны свой асноўны занятак – ужываньне алкаголю ў самых розных існых у Менску формах – спалучаць зь імітацыяй працы, г. зн. прыходзіць на заняткі, мучыць студэнтаў і сябе і зноў напівацца, зноў шукаць піва, зноў супыняць калатун стопкай гарэлкі ў кавярні на вуліцы Маскоўская…

Неяк праз тэлевізар мне трапілася рэкляма новага мэтаду лячэньня алькагалізму – мэтад ТЭС-тэрапіі. Гэта не кадаваньне паводле мэтаду Даўжэнкі і не падшыўка тарпэды, альбо эспэралі, якія ведамыя ў Беларусі як

традыцыйныя мэтады лячэньня алкагольнай залежнасьці. Яны, і не без падстаў, не вітаюцца ні каталіцкай, ні праваслаўнай цэрквамі.

ТЭС-тэрапія была нечым новым, шматабяцальным, яна ня мела нічога супольнага з гіпнозам і кадаваньнем, а гэта значыць, для верніка была цалкам дапушчальнай.

Што гэта за мэтад? У брашурцы-праспэкце Менскага аддзяленьня напісана: «Мэтад ТЭС-терапіі (транскраніяльнай электрастымуляцыі абаронных мэханізмаў мозгу) распрацаваны каля 20 гадоў таму назад у Інстытуце фізіялѐгіі імя П. Паўлава Расейскай Акадэміі Навук (Санкт-Пецярбург) групай навукоўцаў пад кіраўніцтвам доктара мэдычных навук, прафэсара, акадэміка Расейскіх Акадэміі Натуральных Навук і Акадэміі мэдычна-технічных навук В. П. Лебедзева з ужываньнем прынцыпаў даказальнай мэдыцыны».

Эфэкт лячэньня алкагольнай залежнасьці мэтадам «транскраніяльнай электрастымуляцыі» прыводзіць да наступнага: «*Через 10-15 минут после начала стимуляции происходит усиленное выделение опиоидных пептидов (бэта-эндорфинов) и повышение их концентрации в несколько раз в мозге, спинномозговой жидкости и крови. Установлено также, что в развитии эффектов ТЭС, помимо опиоидного, взаимосвязано участвуют также серотониноэргический и холиэргический биохимические нейротрансмиттерные механизмы».*

Вось так! Усѐ проста й ясна!

Ну, а калі сур'ѐзна, то мэтад запраўды просты: на галаву надзяваюць адметны шалом, ад якога цягнецца куча правадоў да нейкіх апаратаў у невялічкіх скрынях, і прыкладна 30 хвілін па вашай галаве прапускаюць небалючае электрамагнітнае выпраменьваньне, якое, на думку вынаходцаў мэтаду, павінна фармаваць у вашым мозгу антыалкагольныя мэханізмы. У выніку ў чалавека зьнікае цяга да алкаголю.

І запраўды, пасьля таго сэансу я не ўжываў алкаголю восем месяцаў...

…Улетку я зьезьдзіў у Жыровіцкі манастыр, дзе пражыў цэлы тыдзень, узяўшы паслушаньне і ведучы запраўдны манаскі лад жыцьця – з ранішнімі і вячорнымі малітвамі, з штодзѐннай ранішняй і вячорнай службамі ва Ўсьпенскім храме, з трапезай у сталоўцы для труднікаў. Паслушаньне было ў тым, што трэба было выконваць пэўную працу, якую кожны дзень разьмяркоўвалі на планѐрцы манах-гаспадарнік і ягоны намесьнік з дазнаных труднікаў.

Падарожжы ў Жыровіцы для духоўнага мацаваньня я практыкаваў даўно. І кожны раз пасьля вяртаньня з Жыровіцаў я адчуваў сябе новым чалавекам, ачышчаным маральна й падрыхтаваным да новага жыцьця ў нашым мітусьлівым, поўным заган і няладу сьвеце. Вяртаўся запраўды, як мне здавалася, моцным чалавекам і, зразумела, няпітушчым.

Вось і на гэты раз, я пад'зджаў да Менску прыкладна ў такім настроі. Менавіта прасьветленым, адухоўленым, узорным сем'янінам, прафэсыйным выкладнікам і, галоўнае, чалавекам цьвярозым.

Электрычка прыбыла на станцыю «Інстытут Культуры», і неўзабаве плынь людзей вынесла мяне на Маскоўскую вуліцу. Нечакана з сустрэчнае патокі людзей вылучыўся чалавек у расе зь вялікім крыжом на грудзях – відавочна сьвятар – і паклікаў мяне. Надзвычай уражаны, я стаў, як слуп. Гэта быў мой даўны знаѐмы Іван Крупко, якога я ведаў як паэта, сябра Сяргея Аладзьева. Зь ім я куляў некалі не адну чарку. Але ўбачыць такою мэтамарфозу!..

Выявілася, што ўжо некалькі гадоў, як паэт Іван рукапалажыўся і стаў айцом Іаанам. Але нічога надзвычайнага, як высьветлілася, у гэтым не было – гэта ў яго радавое: і бацька, і брат яго таксама былі сьвятарамі.

Мы пагаманілі, паўспаміналі супольных знаѐмых – журналістага Сяргея Аладзьева, паэта Сьцяпана Гаўрусѐва, мастака Дона Антоніѐ, і калі дайшлі да нашага генія прозы Міхася Стральцова, айцец Іаан зусім расчуліўся і… прапанаваў выпіць за сустрэчу і памянуць памерлых.

Я таксама расчуліўся, і дарма, што быў духоўна замацаваны Жыровічамі і псыхафізычна зарыентаваны на антыалкагольныя каштоўнасьці мэтадам ТЭС тэрапіі, на дзіва лѐгка пагадзіўся на прапанову. Да сустрэчы з Іванам я і ў думках ня мог дапусьціць, што нехта здолее мяне спакусіць на шклянку. І калі б я сустрэўся з тым ранейшым Іванам – паэтам і выпівохам, то ўстаноўка на цьвярозасьць спрацавала б. Але я сустрэўся з айцом Іаанам, а не Іванам, і гэты новы статус майго сябра даваў падсьведама мне нейкую індульгенцыю на п’янства. Спрацавала яшчэ й тое, што я ехаў з духоўнага цэнтру, з Жыровіцаў, і гэты факт ставіў маю сьведамасьць на пэўную роўнасьць з духоўнай асобай – а. Іаанам.

І мы выпілі. Можа, па шклянцы ці дзьве віна – ня больш. І разышліся.

Але разышліся па-featureознаму. Айцец Іаан паехаў у свае Дубравы служыць акафіст Міколу Цудатворцу, а я… А я пайшоў дабаўляць!

Так скончылася яшчэ адна спроба жыць цьвяроза.

## ЯК КІНУЦЬ ПІЦЬ?

І ўсѐ ж мне ўдалося кінуць піць. Прынамсі, на момант напісаньня гэтых радкоў у мяне стаж цьвярозасьці больш за сем гадоў. Аднак адразу скажу – унівэрсальнага рэцэпту цьвярозасьці ад мяне не чакайце. І ўсѐ ж, думаю, паслухаць мае развагі будзе карысна…

Пачну з наступнага ўрыўку з аповесьці ведамага рускага пісьменьніка.

*…А он опять: «Не буду я больше!» — «Почему мы вам должны верить?» — «Из-за мышки…» — «Что?.. Из-за какой мышки?..» — «Серенькая мышь, она сегодня под утро в камере из норки вылезла…» — «Слушайте, Зеленин, не морочьте нам голову! Какая мышь? Откуда вылезла? При чем тут мышь?» — «Серенькая… — говорит, — маленькая, видно, как под кожей сердце бьется…» — «Вы что, убили эту мышь?» — «Нет, — отвечает, — убежала в нору, а хвост тонкий, членистый, как у ящерицы… И сквозь кожу видно, как сердце бьется…»*

*Липатов В. В. «Серая мышь»*

У гэтым урыўку з аповесьці В. Ліпатава «Серая мышь» п’яніца і хуліган Зяленін кідае піць і становіцца на добры шлях толькі таму, што ў камэры, куды яго зьмясьцілі пасьля чарговай п’янай бойкі, ѐн убачыў шэранькую мышку, і было яшчэ «відаць, як пад тоненькай скуркай б’ецца яе сэрца». І ѐн кідае піць.

Другі выпадак. Мой найлепшы сябра перастаў ужываць сьпіртавыя напоі пасьля таго, як перад ім паўстаў выбар: сям’я ці гарэлка. Ён вельмі любіў сваю маленькую дачушку і абраў першы варыянт. Ужо 18 гадоў, як ѐн не ўжывае нічога сьпіртнога. Дарэчы, для алкаголіка вельмі важна зразумець цэнтральнае правіла: для чалавека з дыягназам «алкагольная залежнасьць» алкаголь павінен

быць цалкам выкрэслены з жыцьця. Ні граму. Нават піва. Я ведаю дакладна: усе іншыя варыянты неадменна вядуць да новых запояў і ўрэшце да сьмерці.

А адзін мой сусед ужо сем гадоў не ўжывае алкаголю пасьля таго, як, фактычна, вярнуўся з таго сьвету. У п’яным стане ѐн зваліўся з паўтарамэтровага парапэту і ляснуўся галавой аб асфальт. Яму зрабілі тры трэпанацыі чэрапу, і праз паўгода выпісалі з бальніцы ўжо назаўжды цьвярозым.

Праваслаўная Царква прапануе просты, але разам з тым і цяжкі шлях. Гэта – шлях веры. Выратаваньне ад п’янства, як і ад усіх найцяжэйшых грахоў – можна знайсьці ў Старым і Новым Запаветах. Яскрава выказана моц Сьвятога Пісьма ў клясычным творы праваслаўнай літаратуры «Откровенные рассказы странника духовному своему отцу». Вось як галоўны герой пазбываецца алкагольнай залежнасьці:

«*Вставши поутру, и расположившись идти за вином, подумал: прочту главу из Евангелия, – что будет? Прочел и не пошел. Опять захотелось вина; я еще стал читать, и сделалось легче. Это меня ободрило; и при каждом побуждении к вину я стал читать по главе из Евангелия. Что дальше, то все было легче, наконец, как только окончил всех четырех Евангелистов, то и страсть к питию совершенно прошла, и сделалось к ней омерзение. И вот, ровно двадцать лет я совершенно не употребляю никакого хмельного напитка*».

Здаецца, што можа быць прасьцей: бярэш кніжку пад назовам «Новы Запавет», адкрываеш тэкст хоць якога з чатырох Дабравесьцяў, чытаеш разьдзел, што зойме максымум хвілін дваццаць – трыццаць, і ты пазбыўся сваѐй страшнай жарсьці. Аднак далѐка не для кожнага чалавека сьвет Хрыста адкрываецца так, як гэта адбылося ў даным урыўку «Откровенных рассказов странника…»

Аднойчы мне давялося чуць споведзь маладога чалавека, які, фактычна, вырваўся з дна жыцьця і стаў на шлях праведнасьці, толькі мімаходзь убачыўшы з аўтобуса напіс на будынку «Господь – ждѐт тебя». Нешта нібы замкнула ў галаве ў таго хлопца, ѐе выйшаў, зайшоў у той будынак з напісам – гэта была пратэстанцкая царква – і стаў цьвярозым!

*Так. Розныя дарогі да Бога. Розныя дарогі да цьвярозасьці.*

Аўтар гэтых радкоў стаў шчыра цьвярозым пасьля таго як далучыўся да сусьветнага Руху Ананімных Алкаголікаў і лічыць гэты спосаб папраўнунку найбольш рэалістычным і на сѐняшні момант найпэрспэктыўнейшым. Аднак многія людзі не ўспрымаюць Праграму 12 крокаў АА і ня здольныя ўспрыняць ідэі Ананімных Алкаголікаў. І тут нічога ня паробіш. Таму пры першым знаѐмстве з АА вам ніхто адразу не паабяцае сьветлае будучыні, вам скажуць: «Можа, мы вам дапаможам…»

Як бачым, у кожнага пры папраўленьні ад алкаголю свая дарога, свой лѐс. У кожнага ѐсьць свой асабісты спосаб, часта таямнічы і незразумелы, як у выпадку «шэрай мышы», спосаб, які прывѐў яго да цьвярозасьці.

Аднак можна падкрэсьліць адну праўду, якая ўсѐ ж бясспрэчная:

*«Няма такой мэтодыкі, правіла, сыстэмы фізычных альбо псыхатэрапэўтычных практыкаваньняў, нейкага мэдычнага курсу альбо хрысьціянскай ці мусульманскай малітвы, якія б навучылі, як кінуць піць».*

Больш за тое, я думаю, такой навукі ніколі й ня будзе. Бо такія веды – эквівалент сакральных ведаў і ѐсьць таксама адказам на пытаньне аб сэнсе жыцьця. Таму ўсякае вынаходніцтва ўнівэрсальнага сродку ад алкагольнай залежнасьці – гэта варыянт шарлатанства. Трэба забараніць разгляд праектаў такога кшталту, як некалі Французская Акадэмія навук пастанавіла не прымаць да разгляду ніякіх праектаў вечнага рухавіка. Бо існаваньне вечнага рухавіка супярэчыла б законам прыроды.

Мне хацелась б дакончыць гэты ў нечым пэсымістычны разьдзел ўсѐ ж сьцьвярджальным тэкстам. І гэтым тэкстам ѐсьць малітва Ананімных Алкаголікаў, якая чытаецца на кожным сходзе і ў кожную цяжкую хвіліну.

Мне даводзілася чытаць яе на розных мовах і таму хочацца падаць яе тэкст таксама на некалькіх мовах, бо кожная ўносіць сваѐ разуменьне і паўнату, якую цалкам ня выкладзеш на адной мове.

На мове арыгіналу:

*God grant me serenity*
*To accept the things I cannot change*
*Courage to change the things I can*
*And wisdom to know the difference.*

Так гэтая малітва чытаеца на рускамоўных групах:

*Господи! Дай мне разум и душевный покой*
*Принять то, что я не в силах изменить,*
*Мужество изменить то, что могу,*
*И мудрость отличить одно от другого!*

Менавіта ад Польшчы прыйшоў да нас рух АА, і там гучыць:

*Boże, użycz mi pogody ducha,*
*Abym godił się z tym czego nie mogę zmienić,*
*Odwagi, abym zmieniał to, co mogę zmienić*
*I mądrości abym odróżniał jedno od drugiego.*

**І нарэшце на роднай мове:**

***Госпадзе! Дай мне розуму і спакою душы***

***Прыняць тое, чаго я не магу зьмяніць,***

***Мужнасьці зьмяніць тое, што змагу,***

***І мудрасьці адрозьніць адно ад другога.***

**Няхай споўніцца Твая воля, а не мая.**

## НЯХАЙ СПОЎНІЦЦА ТВАЯ ВОЛЯ, А НЕ МАЯ

Вось і кульмінацыйны момант маѐй споведзі: я запраўды кінуў піць.

*Пры жыцьці…*

А пачынаўся мой шлях да цьвярозасьці празь вялікія пакуты і праз найпрацяглейшы запой у жыцьці даўжынѐю два месяцы, зь якога мяне вывелі ў алкагольным аддзяленьні знакамітых Навінак – галоўнай псыханэўралягічнай бальніцы Беларусі.

### Навінкі

Аўтобус чарговы раз павярнуў, і раптам перада мною адкрылася незвачайная карціна. Паміж шэрых пяціпавярховых будынкаў і іншых збрыдлых сваѐй прымітыўнасьцю забудоў мікрараѐну, нібы ўсѐ адкідваючы і



*Сьвята-Елізавецінскі манастыр*

сьцьвярджаючы сябе, зьявілася грандыѐзная і асьляпляльная выява купалу царквы. Купал быў сіняга колеру, і па ўсѐй яго паверхні былі раскіданыя

залатыя зоркі. Ён імгненна запалоніў усю прастору мікрараёну, і да яго дадалася астатняя частка прыгожага храму, які, відавочна, быў пабудаваны ня так даўно, бо побач зь ім яшчэ ляжалі рэшткі будаўнічых матэрыялаў. Дакладней, храмаў было два – адзін, як потым высьветлілася быў манастырскі, а другі – галоўны, недабудаваны, але ня менш уражвальны сваім надзвычайным харастовм, якое была адзначана – і пазьней я ня раз у гэтым пераконваўся ў іншых сытуацыях, асаблівым статусам – знакам Бога.

Так адбылося маё першае спатканьне з Навінкамі – я ехаў у знакамітую псыхіятрычную бальніцу, ці, як яна больш дакладна называецца – Рэспубліканскі псыханэўралягічны дыспансэр. Ехаў здавацца, ехаў туды па паратунак, бо ня мог выйсьці з запою, што доўжыўся ўжо добрых два месяцы і зь якога я аніяк ня мог выйсьці. Той, хто не пабыў у гэтай скуры, не зразумее мяне, а той, хто пабыў, ведае гэты жудасны стан, калі здань сьмерці побач з табою, а жаданьне жыць вымушае шукаць хоць якога паратунку ад гэтай здані, якая кожнае хвіліны можа зрэалізавацца і настане час, калі «душа разлучаецца зь целам», як гэта я цяпер іншым разам пяю на паханідах з сваім прыходзкім царкоўным хорам.

Я часта думаю, што тым момантам незваротнага пераходу да чыста цьвярозага жыцьця быў не двухтыднёвы час ляжаньня ў Навінках і чышчаньня арганізму ад атруты шматдзённага ўжываньня алкагольных напояў. Гэта быў той момант, калі перада мной *зьявіўся купал храму* і, відавочна, тады Госпад зьявіў сваю ласку, бо з таго моманту я ня выпіў ні кроплі сьпіртнога. І ад таго часу мінула больш за сем гадоў.

Праўда, тады, калі я пераступаў парог прыёмнага пакою бальніцы, з' імной яшчэ была недапітая бутэлька – фаўст чарніла. Дакладней, не з' імной, а ў торбачцы ў жонкі, якая прыехала разам, бо адзін я ўжо ня мог дабрацца сюды.

Яшчэ Біл у сваёй кнізе «Ананімныя Алкаголікі», якая стала сваеасаблівай Бібліяй папраўляньня алкаголікаў, пісаў, што нам, п’яніцам, Бог даў добрых жонак, і гэта праўда. Жонка даставала той фаўст, калі мне станівалася зусім дрэнна, і такім спосабам на гэтым допінгу, які, да слова, ужо амаль ня дзеіў, я

ўсѐ ж прайшоў усе этапы афармленьня ў 34 аддзяленьне бальніцы, дзе лячыліся алкаголікі.

Загаднік алкагольнага аддзяленьня дацэнт Юры Ўладзіслававіч быў знаѐмым майго сябра Колі В., і таму маѐ паступленьне было арганізавана ў нейкай ступені па блату. Гэта спрашчала задачу, але ўсѐ ж на адным з этапаў абыходу ѐн, не папярэдзіўшы, запхнуў мяне ў пакой, поўны людзей у белых халатах, дзе мяне чакала ганьба на «ўсю Эўропу». Людзі ў белых халатах былі студэнтамі мэдінстытута, і *на мне* (!!!) вывучалі прыкметы хранічнага алкагалізму. «Вось, паглядзеце на пальцы алкаголіка – яны трасуцца. Гэта называецца трэмар, – гнусавым голасам гаварыў дацэнт, – а паглядзеце на вочы алкаголіка – яны мутныя і невыразныя, так бывае пасьля шматдзѐннага ўжываньня алкаголю. Зьвярнеце ўвагу і на хаду алкаголіка… – тут ѐн мне загадаў прайсьці некалькі крокаў. – Хада няроўная, фігура ссутуленая й згорбленая…»

Я ня ведаў, куды дзецца ад сораму, нягледзячы на свой хворы і напаўпрытомны стан. Маладыя дзяўчаты бессаромна ўглядаліся мне ў твар, пасьмейваліся міжсобку й нешта запісвалі ў сшыткі.

Так пачынаўся мой двухтыднѐвы курс лячэньня ад алкагалізму ў знакамітых Навінках.

* * *

Сястра Юля – была сястрой ня ў сэнсе медсястры, а сястрой у складзе Сястрыцтва, што існуе пры Сьвята-Елізавецінскім манастыры ў Навінках. Юля працавала ў «міру» звычайнай школьнай настаўніцай, але, як толькі быў вольны момант, ехала ў Навінкі, у манастыр, і выконвала там сваѐ паслушаньне. Паслушаньне ў сястры Юлі было нялѐгкае – яна працавала з алкаголікамі ў псыхбальніцы, што была побач з манастыром. Юля вяла зь імі гутаркі, апекавалася над няшчаснымі, давала парады й дапамогу самага рознага кшталту, прыносіла брашуры й кнігі хрысьціянскага зьместу. А галоўнае – рыхтавала хворых да наведваньня храму, дзе кожны чацьвер а пятай гадзіне

чытаўся акафіст «Неўпіваная чаша» для хворых на залежнасьць ад алкаголю. Менавіта той храм і ўбачыў я, пад’язджаючы да бальніцы.

Юля была шчырай верніцай і дала мне шмат на дарозе да паправунку. Яна казала, што Бог можа ўсѐ і паможа кожнаму п’яніцу, калі, ведама, той захоча. А як мала хто шчыра хацеў, то сястра Юля хадзіла й хадзіла сярод алкаголікаў, несучы сваю вялікую Веру і перадаючы яе нам.

* * *

Два месяцы запою – цяжкая нагрузка на арганізм, фактычна, гэта сьмяротная доза. Я ведаў людзей, якія не выходзілі з такога працяглага выпрабаваньня, паміралі. За гэты час усе жыцьцѐвыя арыенціры паступова зьнікаюць, замяняюцца толькі адной думкай: «Як выжыць?». Для вас ужо не існуе сям’і, працы, іншых цікавых дый наагул хоць якіх заняткаў. Цалкам няма апэтыту, нават ад выгляду ежы цягне на выніты. Ня ведаю, можа, хто й лепш пераносіць, толькі ня я. Вельмі добра помню, зь якімі пакутамі, на мяжы з геройствам, суправаджаўся працэс пераходу вуліцы Пляханава да шапіка, дзе з самай раніцы давалі бутэлечнае піва. Калі запальвалася зялѐнае сьвятло сьвятлафору, наступаў найадказьнейшы момант пераходу вуліцы безь якой-кольвек дапамогі – ні выратавальных электрычных слупоў, ні муроў будынкаў –праезджая частка ўжо не магла вам даць, і вы чапляецеся практычна за паветра, пераносіцеся, не – выпіхваецеся апошнімі намаганьнямі сваѐй кволай волі на гэтую праежджую частку і крок за крокам – галоўнае ня згубіць прытомнасьці – прасоўваецеся ў бок шапіку, пакуль не дасягняце аконца, праз якое кідаеце загадзя адлічаныя грошы і, не чакаючы здачы, хутчэй хапаеце запаветную бутэльку ды адразу ж за крок ад шапіка пачынаеце яе адкаркоўваць… Нарэшце, першы глыткок зроблены, але выніку ніякага – калатун становіцца яшчэ большым – у вачох не сьвятлее, а наадварот – пачынецца мільгаценьне балючых ад яркасьці зорак, сьведамасьць трымаецца на валаску, яшчэ сэкунда і можна бразнуцца аб асфальт. Аднак, ты ведаеш, што

трэба яшчэ й яшчэ глытаць, пакуль не настане той чаканы час збаўленьня, час вяртаньня да жыцьця.

Першыя два дні ў Навінках найцяжэйшыя і я правѐў іх у рэанімацыі. Ставілі кропельніцы, калолі ўколы і больш ніхто мяне не чапаў. На трэці дзень адправілі ў агульную палату.

* * *

Алкаголікі, гэта значыць тыя людзі, што, як я, трапілі на лячэньне ў алкагольнае аддзяленьне ў Навінках, найбяспраўнейшая катэгорыя беларускіх грамадзян. Да вас там ставяцца, як да быдла. Гэта не перабольшаньне. Ні санітары, ні мэдсѐстры, ні нават дактары ня бачаць у вас чалавека. Вы – алкаголік. І хоць з гледзішча мэдыцыны алкагалізм – хвароба, што й я сьцьвярджаю ў гэтай кнізе, у Навінках вы ня проста чалавек хворы, а выгнанец, бомж, падонак, погань, засранец, дэбіл, адным словам – быдла. Калі вы зь інтэлігентнага асяроддзя, то вам давядзецца цяжкавата, а можа, нават і зусім дрэнна. Аднак гледзячы для каго. Я, прыкладам, пачуўшы многія зь пералічаных вышэй слоў на свой адрас перажываў ня доўга, я падумаў: «А хто ж ты, калі не падонак і…– увесь той набор, – ды пра цябе яшчэ мала сказалі, калі давѐў арганізм да такога стану! Так што, прымай усѐ спаўна, бо заслужыў».

А адзін кандыдат гістарычных навук, зь вялікай цяжкасьцю ўладкаваны па блату ў гэтыя Навінкі, быў вельмі пакрыўджаны «недастатковай увагай» да яго пэрсоны і замiж пакоры – так патрэбнай для пасьпяховага лячэньня алкагалізму – усюды выказваў незадаволенасьць, пісаў нават лісты начальству бальніцы і грамадзкасьці з скаргамі на грубыя і хамскія паводзіны пэрсаналу. Ён закадаваўся, атрымаў поўную інфармацыю і каардынаты груп Ананімных Алкаголікаў, але нічога не памагло. Праз паўгода ѐн зноў запіў. Ганарыстасьць – першы вораг цьвярозасьці.

Умацоўваць сваю пакору, пакаяцца ў сваѐй грэшнасьці, ды мала сказана грэшнасьці – для п’яніцы пакаяцца ў бездані заган! Вось галоўная ўмова выратаваньня ад алкагалізму.

Аднак пра патрэбу каяты і грэх ганарыстасьці мы ведаем і без алкагольнай праблемы. Гэта цэнтральная тэма, цэнтральная ідэя хрысьціянства, і яна галоўная для ўсіх канфэсіяў. І яшчэ больш канкрэтна – ідэя поўнага духоўнага ачышчэньня ўвасабляецца ў Запаведзях Шчасьлівасьці, пачынаючы зь першай: «Шчасьлівыя ўбогія духам, бо іх ёсьць Царства Нябеснае».

Я прыняў гэтую гульню. Я засунуў сваё «Я» ў найдалейшы кут сваёй душы і зруйнаваў яго ўшчэнт. Усе грубыя дзеяньні бальнічнага пэрсаналу і навакольных людзей што да мяне я стаў успрымаць як дабро, як знак увагі Бога. Чым больш мяне ганьбілі і зьнеслаўлялі, тым больш у мяне мацавалася ўпэўненасьць, што я не забыты Богам і ён мяне любіць.

Амаль кожны дзень я йшоў у храм. Той самы храм, які так моцна мяне ўразіў у першы прыезд у Навінкі. Па чацьвяргох там служылі акафіст перад іконай «Неўпіваная чаша», Юля прыводзіла сваіх алкаголікаў і дапамагала сьпяваць харыстам, якія суправаджалі гэтую службу. Прыпеў пялі ўсе, хто быў: «Радуйся Владычыце неупиваемая чаша, духовную жажду нашу утоляющая…»

А ў нядзелю быў на літургіі, спавядаўся і прычашчаўся.

* * *

Я выйшаў з Навінак іншым чалавекам. Жаданьне кінуць піць было такім моцным, што я так урэшце й зрабіў. Зразумела, ня проста я, а з Божай помаччу, як бы гэта ні здавалася надуманым ці штучным. Аднак для замацаваньня гэтага жаданьня я хацеў зрабіць гэтак званую ўнытрывенную падшыўку, якую рэкамэндавалі ў Навінках. Трэба было толькі «пракапацца» – паляжаць пад кропельніцай – каб вам у кроў увялі спэцыяльны раствор – «тарпэду». Аднак ня выйшла – пасьля двухмесяцовага запою былі дрэнныя аналізы, што й не дазволіла адразу «падшыцца». Аляксандар Сяргеевіч, празываны пацыентамі «Пушкіным» – доктар лекаваньня – выпісаў мяне й сказаў, што можна й пазьней зрабіць гэтую справу, калі толькі палепшыцца фізычны стан і аналізы стануць дадатнымі.

І пацягнуліся справавітыя, цьвярозыя дні, за плывам якіх паступова прытупілася ранейшае жаданьне кардынальных мер накшталт «тарпэды». Я знайшоў працу па спэцыяльнасьці – уладкаваўся дацэнтам у адзін менскі інстытут. Пачаліся гэтак званыя працоўныя будні. Сьвежыя мазгі і нейкая здаровая, амаль спартыўная, злосьць дазволілі мне ўзяцца за выкладаньне цалком новых курсаў – прадметаў, якіх я ніколі раней не выкладаў. Асабліва цікавай была таямнічая навука «Агульная тэорыя сыстэм», настальгічна знаѐмая яшчэ ад Кіма, які вельмі паважаў яе і пісаў пад акампанэмэнт «калѐсаў» і гарэлкі нейкія «сыстэмныя» трактаты. Але пра гэта было вышэй – у артыкуле «На крылах эфэдрыну».

І аднойчы я заўважыў, што мінула дзевяць месяцаў цьвярозага жыцьця й набліжаецца «крытычны час» тэрмінам год цьвярозасьці, бар’ер, які мне яшчэ не здаралася пераадолець. І мяне агарнула неймаверная роспач і адчуваньне безабароннасьці ад гэтага пачварнага вынаходніцтва – алкаголю. «Мы прызналі сваю немач перад алкаголем», – так гучыць першая частка першага кроку праграмы АА і такім быў мой стан у тыя восенныя дні 2004 году.

Я, аднак, рэгулярна наведваў царкоўныя набажэнствы і паступова аднавіў свой статус харыстага царкоўнага хору, зь якога раней аўтаматычна выйшаў па зразумелай прычыне. Неяк у царкоўнай лаўцы епархіі мне трапілася кніга «Выход есть». Яна была напісаная алкаголікам, чалавекам, як і я, веруючым і ўцаркоўленым. Ён стаў на шлях паправунку дзякуючы таямнічаму руху Ананімныя Алкаголікі і пра гэты шлях у новае, цьвярозае жыцьце напісаў у кнізе.

«Дзе іх знайсьці? Ці ѐсьць АА ў Менску?» – сьвідравалі маю галаву ліхаманкавыя думкі.

Я засеў у сусьветнае павуціньне, набраў у Гугле «Анонимные Алкоголики в Минске» і даволі хутка знайшоў: «Город Минск, Красный костел – группа АА «Эффата», собирается каждый день кроме среды, начало собрания 18.00».

Я пайшоў да Ананімных Алакаголікаў, на сход групы «Эффата». Выявілася, што праграма – для мяне, я прыняў яе адразу і ня мог зразумець – дзе быў раней, такімі празрыстымі і лягічнымі былі тыя дванаццаць крокаў праграмы.

Госпад нарэшце аказаў сваю ласку – я стаў цьвярозы. На днях споўнілася сем гадоў з таго часу, калі я трымаў шклянку.

## ХТО ТАКІЯ АНАНІМНЫЯ АЛКАГОЛІКІ?




*Эмблема Ананімных Алкаголікаў*

Настаў момант больш падрабязнай размовы пра Рух Ананімных Алкаголікаў, альбо АА. Гэтае заданьне я надумаў разьвязаць такім парадкам.

Пачну гэты сур’ёзны разьдзел з двух маіх артыкулаў, надрукаваных у газеце «Народная воля» ў канцы 2009 году – пачатку 2010 пад псеўданімам «Дацэнт». Абодва артыкулы былі адрэдагаваныя так, што месцамі зьмяніўся іх сэнс. Тут варта падаць тэксты без «цэнзуры», каб паўней перадаць існасьць руху АА і Праграмы дванаццаць крокаў.

### *Артыкул першы*

### ***«Кожны можа кінуць піць, а некаторым гэта ўдаецца зрабіць пры жыцьці»***

У чалавека яшчэ з райскіх часоў асаблівае стаўленьне да зьмеяў. Менавіта зьмей спакусіў Еву да жахлівага ўчынку – паспытаць яблычка ад адзінага забароненага дрэва ў Эдэме. І пайшло. Найперш зьявілася каралева граху –

ганарыстасьць. За ѐй – ілжывасьць, злосьць, пагарда, помсьлівасьць, здрада і… урэшце сьмерць.

Сучасны «зялѐны зьмей» – гарэлка, віно, піва, самагонка, сьпірт, піва, партвэйн, глінтвэйн, вэрмут, піва, «чарніла», «барматуха», «пойла» і зноў – піва… куфаль, шклянка, чарка, «грамулька»… «Зялѐны зьмей» нічым ня горшы за свайго райскага папярэдніка. Ён бліскуча робіць сваю д’ябальскую справу зь адпачатных часоў і да нашых дзѐн, ѐн робіць яе ў Амэрэцы і Эўропе, на востраве Таіці і ў туманным Альбіѐне, у Расеі, Польшчы і ў Беларусі…. Як і яго райскі спаўбрат, ѐн ператварае ў быдла прыстойнага чалавека, рабіць зь нявіннага немаўля злодзея і забойцу, з добрага сем’яніна злосную пачвару і поскудзь.

Але ня буду пералічаць усіх бедаў, тое бясконцае гора і безвыходнасьць, што нясе за сабой самы знакаміты напой, вынайдзены чалавекам (а мо’ й не чалавекам?), які ў розных мадыфікацыях і прапорцыях утрымвае адно рэчыва – алкаголь, што мае хімічную формулу няведамую хіба толькі немаўлятам: $C_2H_5OH$.

У наш час алкаголь косіць сотні, тысячы, мільѐны людзей незалежна ад веравызнаньня, нацыянальнасьці, адукацыі, полу і веку. І апошняя прыкмета – век – для алкаголіка мае вельмі абмежаваную планку: яго працягласьць жыцьця – 50 гадоў, і рэдкія алкаголікі дажываюць да 60-ці...

Найцікавей тое, што ні адзін алкаголік ня лічыць сябе такім, не прызнае, што ѐн алкаголік. «Гэта – нехта іншы. Я проста аматар выпіць», – кажа ѐн. Ці адмахваецца: «учора проста перабраў», «не разлічыў сілаў», «сябра сустрэў і выпілі...», «быў на вясельлі», «быў на пахаваньні» і г. д. Усюды адно – спроба растлумачыць свой загул, сваю жахлівую выпіўку і яе сумныя наступнасьці вонкавымі прычынамі, а не сваѐй, ужо незваротна, пашкоджанай прыродай.

А тым часам людзей, якіх сьмела можна залічыць да алкаголікаў нашмат больш, чым гэта прынята лічыць. Слова «прынята» тут выкарыстана дарэчы, бо яно «прынята» самымі выпівакамі, альбо «аматарамі». Праўда ж для шмат і шмат каго з «аматараў выпіць» – вельмі несуцяшальная. Але, каб не адразу

жахаць тысячы простых «аматараў», адзначу, што ў мэдыцыне побач з паняткам «алкагалізм» ѐсьць ягоны сынонім – «алкагольная залежнасьць». Можа, так Вам будзе лягчэй.

Падам невялікі тэст для вызначэньня Вашай ступені залежнасьці ад алкаголю.

Калі

– вы дрэнна пачуваецеся пасьля ўчарашняй выпіўкі,

– вам хочацца выпіць яшчэ чарку пасьля першага ці другога тосту ў застольлі,

– зусім або фрагмэнтарна помніце апошнія падзеі ўчарашняй гулянкі,

то Вы – АЛКАГОЛІК! Альбо, калі хочаце, у Вас – алкагольная залежнасьць. А адзін мой знаѐмы эйэевец (ад ангельскай транскрыпцыі абрэвіятуры ананімных алкаголікаў – АА) сьціпла знаѐміцца вось так: «У мяне праблема з алкаголем». Існасьць тут не мяняецца.

Калі прыняць вышэй прыведзенае азначэньне алкагалізму, то лѐгка ўбачыць, што вельмі шмат людзей вакол нас падпадаюць пад гэтую катэгорыю людзей. На жаль, большасьць з нас пасьля шчырага перажываньня роспачных і нават адчайных хвілін у першы пэрыяд свайго алкагольнага шляху – звычайна ў маладосьці, потым паступова прывыкаюць да свайго новага статусу ў жыцьці, прыстасоўваюцца жыць з гэтай хібай і могуць упарта не заўважаць яе, «пакуль певень ня клюне».

Аднак, калі Вас пасьля шматлікіх вымоў усѐ ж звальняюць з працы, ці ставяць пытаньне «рубам», калі жонка, забраўшы рэчы, ідзе ад Вас да маці ці сваякоў, а любае дзіцятка шэптам просіць «тата, ня пі», то Вы пачынаеце прымаць меры. Вы йдзяце да лекара-нарколяга і ўпершыню прымаеце сур’ѐзную пастанову: «вылечуся і больш піць ня буду».

Вы яшчэ ня ведаеце, што ***алкагалізм хвароба невылечная***. І Вам прапануюць шэраг мэтодык лячэньня, прапануюць спосабы ня піць год, два, тры... ці «ўсѐ жыцьцѐ». Тут і кадаваньне: «у Данской», «у Сайкова» «у Шушкевіч»... Тут падшываньні: унутрывенная, эспэраль і г. д. За ўсе гэтыя

паслугі, ведама, трэба плаціць «пенязі». Як кадаваньні, так і падшываньні, зробленыя ўпершыню, пэўны эфэкт маюць – на некаторы час (год, а то й два) чалавек становіцца цьвярозым. Спрацоўвае найперш пачуцьцѐ страху, бо Вы ведаеце, калі пасьля «падшываньня» «прыняць на грудзі», то можа разьбіць паралюш, можа спыніцца сэрца і можна нават памерці.

Пры кадаваньні ж Вашы мазгі становяцца не зусім Вашымі, «код» кіруе Вашымі паводзінамі, паводзіны кадаванага чалавека нагадваюць паводзіны зомбі. І настае гэтак званая «сухая цьвярозасьць», калі чалавек ня п’е, але й ня можа па-ранейшаму поўна й шчасьліва адчуваць жыцьцѐ. Часта бывае, што ѐн кожны дзень толькі й адлічвае, колькі ж яшчэ засталося часу да канца тэрміну кадаваньня. І як толькі мінае гэты абрыдлы цьвярозы год, ці нават два, літаральна зрываецца з ланцуга – уваходзіць у страшэнны запой.

Наступныя кадаваньне, альбо падшыўка часта канчаюцца нашмат хутчэй заплянаванага тэрміну. Рызыка ѐсьць, але напляваць… І ўжо праз месяц – другі, а то і праз тыдзень ахвяра алкаголю зноў каля піўніцы… Ёсьць людзі, у якіх гэтых кадаваньняў і падшываньняў у жыцьці дзясяткі.

Некаторыя ахвяры «Зьмея» зьвяртаюцца да Царквы ці Касьцѐлу. І часта там знаходзяць дапамогу. Аднак гэты шлях не для ўсіх. Першае: трэба мець дастаткова моцную веру. А ў наш постсавецкі атэістычны час такая якасьць досыць рэдкая. Апрача таго, у многіх п’яніц працэс часта даходзіць да такой мяжы, калі ѐн ня можа дабрацца да піўніцы, ня тое што да храму. І сама страшнае тое, што ѐн перастае верыць у мажлівасьць перамяніць сваѐ абрыдлае існаваньне, у мажлівасьць стаць такім, як усе. У выніку, толькі адзіны рэальны працэс, дакладней, бізнэс квітнее на няшчасьці мільѐнаў алкаголікаў – гэтак званая дапамога, якую Вам прапануюць шматлікія мэдычныя «Парацэльсы» ў форме кадзіровак, падшывак і іншай лухты.

Аўтар гэтага артыкула таксама гадкоў так зь дзясятак спрабаваў пазбыцца алкагольнай залежнасьці, але вынік быў нулявы. Наадварот, з кожным пражытым годам ужываць алкагольныя напоі станавілася ўсе цяжэй, пачаліся вельмі цяжкія запоі, а іх працягласьць стала расьці з ростам тэрміну папярэдняй

цьвярозасьці. Алкагалізм ня толькі невылечная хвароба, алкагалізм – хвароба, якая прагрэсуе. І вынік заўсёды адзін... Чалавек гіне. А звонку выглядае, быццам той памёр ад раптоўнай, ці наадварот, хранічнай хваробы, прыкладам, ад інфаркту, інсульту, проста спынілася сэрца, ад раку страўніка, печані, ці ацёку лёгкага... Другая група памірае ад няшчасных выпадкаў: трапіў пад аўтобус, трапіў пад аўтамашыну, неўдала ўпаў, парэзалі нажом ці пабілі, замерз ці ўтапіўся і г. д. На кожную ўспомненую пазыцыю і шмат ня ўспомненых у мяне ёсьць канкрэтныя імёны, паверце. Гэтыя імёны многіх звычайных людзей, якіх нямала вакол нас. Шмат сярод іх і імёнаў знакамітых людзей – пісьменьнікаў, паэтаў, мастакаў, актораў, навукоўцаў, музыкаў...

Дык вось, запраўдная прычына іх заўчасных сьмерцяў на сто адсоткаў адна: алкаголь, ці дакладней, алкагалізм.

Дык што рабіць? Калі мэдыцына ня дае рады, калі не стае той самай веры, й малітва каля іконы «Неўпіваная чаша» не прыносяць паправунку, што ж рабіць?

Для мяне найнечаканейшым і нават крыўдным было тое, што выратаваньне ляжала побач. Але я праходзіў паўз яго гадамі. І было яно дармовым. А прыйшло – імгненна і нават незразумела як. Не спатрэбілася ані лекараў, ані экстрасэнсаў, ані знакамітых «бабак».

Гэтае выратаваньне прыйшло ў 2004 годзе, калі я трапіў на сход групы Ананімных Алкаголікаў, якая дзеіць і цяпер пры менскім Чырвоным Касьцёле. Для большасьці гэтыя два словы – «Ананімныя Алкаголікі» – пусты гук альбо напамін пра слаўныя савецкія часы, калі дзеіла Таварыства цьвярозасьці. Насамрэч, сусьветны рух Ананімных Алкаголікаў (АА) быў забаронены ў савецкія часы, бо грунтаваўся на духоўнай праграме, а не на марксісцка-ленінскай ідэалёгіі.

Тое, што адбываецца зь людзьмі, якія пачынаюць працаваць паводле праграмы АА 12 крокаў, інакш як цудам назваць нельга. Яны ня проста перастаюць ужываць алкагольныя напоі. Яны пачынаюць жыць іншым жыцьцём, жыцьцём поўным, шчырым і шчасьлівым. У іх жыцьці ёсьць ня

толькі ўсѐ тое, што ў іншых, незалежных ад алкаголю, людзей, іх жыцьцѐ часта набывае зусім новыя колеры, напаўняецца новымі якасьцямі, якіх не было ў ранейшым жыцьці «ў імгле». Я, прыкладам, ведаю чалавека, які пачаў пісаць вершы і нават стаў выдатным бардам. Цяпер ѐн выступае на ўсіх фэстывалях бардаўскай песьні. Другі, навуковец гуманітарнага профілю, напісаў і выдаў ужо некалькі цікавых кніг пра культуру Беларусі. Іншыя знаходзяць у АА спадарожніка жыцьця і ствараюць моцную сям’ю. Але перадусім усе яны выкрэсьліваюць алкаголь з свайго жыцьця. Выкрэсьліваюць не празь нейкія намаганьні волі, ці прыѐм нейкіх супэрлекаў, а таму, што гэта ім становіцца непатрэбным.

Ні навука, ні рэлігія, ні мэдыцына не далі адказу, чаму людзі, што пачынаюць хадзіць на сходы АА і працаваць паводле праграмы 12 крокаў, пачынаюць жыць іншым, цьвярозым жыцьцѐм. Гэта запраўдны цуд, які адбываецца ў кожны момант сярод нас, і ня трэба, прыкладам, езьдзіць па цуд у далѐкі храм, дзе заміраточыла ікона Божай Маці, ці купацца ў вадзе з гаючай крыніцы. Дастаткова толькі прыйсьці да АА.

Што ж гэта за такія Ананімныя Алкаголікі, запытаеце Вы, і чаму грамадзкасьць амаль нічога ня ведае пра іх? У гэтак званай Прэамбуле Руху АА гаворыцца:

*«Ананімныя Алкаголікі – гэта супольнасьць мужчын і жанчын, якая аб'ядноўвае людзей, што дзеляцца паміж сабою досьведам, сіламі, надзеямі для таго, каб дапамагчы адзін аднаму пазбыцца алкагалізму.*

*Адзіная ўмова для сяброўства ў АА – гэта жаданьне **кінуць** піць».*

Мабыць доля сакрэту сілы АА ў гэтай фармулѐўцы: алкаголікі самыя сабе даюць раду. Ніхто так не зразумее алкаголіка, як другі такі самы алкаголік. Ні святар на споведзі, ні спрактыкаваны псыхіятар, ні лекар-нарколяг не дадуць апушчанаму, змучанаму, цяжка хвораму алкашу-п’яніцу тое, што дае яму звычайная група Ананімных Алкаголікаў, дзе зьбіраюцца такія самыя былыя п’яніцы, але якія ўжо ведаюць сакральную тайну цьвярозага жыцьця.

Ня кожны чалавек здольны прыняць праграму АА і жыць паводле яе. Сярод сяброў АА існуе нават думка, што яны нейкія вылучныя, абраныя. Некаторыя на эйфарыі першых месяцаў цьвярозасьці могуць сказаць нават такое: «Я шчасьлівы ў тым, што стаў алкаголікам». Тут адлюстравана адчуваньне нэафітам радасьці ягонага новага жыцьця, яго багацьця і паўнаты. На адказ, чаму сябры АА маюць гэтую таямнічую сілу дапамагаць іншым, у нейкай ступені дае ўрывак зь вялікай кнігі АА:

*«Бог у сваёй мудрасьці вылучыў нас, таварыства мужчын і жанчын, каб мы шырылі Яго навуку. У выбары сваім ён не зьвяртаўся да знакамітых і магутных сьвету гэтага, ён зьвярнуўся да забытых і няшчасных. Ён нібы сказаў нам, п'яніцам, адрынутым гэтым сьветам:*

*"У Вашы слабыя і кволыя рукі я ўкладваю неабмежаваную ўладу, вам я даю тое, чаго няма ні ў найадукаванейшых спаўбратоў, ні ў мудрацоў, ні ў вашых жонак, ні нават у служак рэлігіі. Я вам даю здольнасьць лячыць іншых алкаголікаў, я яе давяраю вам».*

Аднак ня думайце, што аднойчы прышоўшы на групу АА, вы адразу сталі іншым чалавекам і перасталі ўжываць алкаголь. На вялікі жаль, ня кожны здольны адразу прыняць праграму дванаццаці крокаў і жыць паводле яе. У прэамбуле кожнага сходу зачытваюць наступныя радкі: "...*Мы рэдка сустракалі чалавека, які б строга пільнаваўся нашага шляху і пацярпеў няўдачу. Не вылечваюцца тыя людзі, якія ня могуць або не жадаюць цалкам падпарадкаваць сваё жыцьцё гэтай простай праграме; звычайна гэта мужчыны і жанчыны, якія ня могуць быць арганічна сумленнымі самы з сабою».* Сумленнасьць, шчырасьць, адкрытасьць сэрца і спагадлівасьць для Ананімных Алкаголікаў не пустыя гукі. Толькі праз ачышчэньне ад грудаў бруднага сьмецьця, што награмадзілася ў душы ў алкаголіка за гады беспрабуднага піцьця, можна стаць на шлях паправунку.

Большасьць з тых людзей, што ўпершыню трапляюць на групу АА, спачатку мала што разумеюць і могуць нават з пагардай кінуць нешта накшталт «Куды ты мяне прывёў!» Тут спрацоўвае галоўная чалавечая загана

**ганарыстасьць**. Ня трэба адразу выносіць нейкага прысуду, трэба прыйсьці зноў, і яшчэ прыйсьці – і плѐн будзе. «*Ня ўсе мы адразу зразумелі існасьць таго, што тут адбываецца, шмат хто спачатку быў у разгубленасьці. Але мы прыходзілі сюды штораз і, ўрэшце, кожны з нас знайшоў тут дапамогу, якую не знайшоў больш нідзе».* – такія словы вы пачуеце ў канцы сходу ад вядучага.

Сярод ананімных алкаголікаў папулярная фраза, што вынесена ў загаловак артыкулу: «**Кожны можа кінуць піць, але некаторым гэта ўдаецца зрабіць пры жыцці**». І гэта запраўды так, калі прыняць нашу праграму.

На ўсю Беларусь існуе толькі шэсьцьдзясят шэсьць груп Ананімных Алкаголікаў, зь іх у Мінску – 15. Найбольш разьвіты рух АА ў Гарадзенскай вобласьці, а вось у Гомельскай працуе толькі адна група. Гэта вельмі малая колькасьць. Затое ня сьпіць у шапку сам «зьмей»! У апошні час пастаянна адзначаецца страшэнны рост ужываньня алкаголю беларусамі, што вядзе ў сваю чаргу да непазьбежнага алкагалізму, пра што гучна пісала і «Народная Воля» у нумары за 20-23 лістапада гэтага года. Нацыя ня проста сьпіваецца, нацыя дэградуе!

Мне давялося летась пабываць у Польшчы. Дык вось, толькі ў Варшаве налічваецца *больш за 200 груп* Ананімных Алкаголікаў. Як толькі ў чалавека зьяўляецца праблема з алкаголем, ѐн зьвяртаецца да бліжэйшай групы АА, адрас якой лѐгка знайсьці ў любым даведніку. Тое самае назіраецца і ў Нямеччыне, і ў Францыі – па ўсѐй Эўропе, не гаворачы пра Амэрыку – радзіму руху Ананімных Алкаголікаў. Што, беларусы менш ужываюць алкаголю, чым іх заходнія спаўбраты? Зразумела, не. Хутчэй наадварот – п’юць у нас вельмі і вельмі шмат. Алкагалізм дабраўся нават да дзяцей і моладзі. Але на Захадзе і дзяржава і грамадзкасьць праблеме алкагалізму, гэтай запраўднай чуме XX – XXI стагоддзяў надаюць належную ўвагу.

Чаму ж мы, беларусы, так абыякава ставімся да здароўя сваѐй нацыі? Чаму пра самую прагрэсыўную і прызнаную ўва ўсім сьвеце мэтодыку лячэньня алкагалізму ў Беларусі амаль нічога ня ведаюць? Мне здаецца, што прычын тут некалькі. Гэта і цяжкая спадчына савецкага мінулага, дзе ўсе

набыткі заходняй цывілізацыі ўсяляк замоўчваліся. Гэта і постсавецкая рэчаіснасьць зь яе перавѐрнутай шкалой каштоўнасьцяў, дзе ў няроўнай барацьбе спагадлівасьць і любоў да бліжняга саступіла месца культу залатога цяльца. Але я веру ў лепшыя перамены.

Настаў момант заканчэньня майго аповеду. У АА прынята на пачатку сходу групы прадстаўляцца, я зраблю гэта ў канцы. З прэамбулы: «Кожная суполка АА павінна захоўваць сваю ананімнасьць, таму просьба назваць толькі імя або псэўданім. Галоўнае – ведаць як адзін да аднаго зьвяртацца».

Такім чынам, маѐ імя:

Дацэнт, алкаголік.

*«Народная воля», № 191–192 , 2009 г.*

*Артыкул другі*

***«Ідзеце да нас, і вы будзеце такімі, як мы, – вольнымі, поўнымі аптымізму і жыцьцѐвай энэргіі людзьмі!»***

Ёсьць дзьве старажытныя прафэсіі, да якіх у мяне, мякка кажучы, асаблівае стаўленьне. Калі зь людзьмі гэтай прафэсіі я маю нейкую справу, то мяне не пакідае насьцярожанасьць, а мазгі пачынаюць функцыянаваць у рэжыме «баявой гатоўнасьці». Першая прафэсія... Не! Зусім ня тая, пра якую звычайна думаюць. Гэта не прастытуцыя. Я, хоць можа й ня прыкладны, але ўсѐ ж сем’янін і таму ня маю патрэбы карыстацца паслугамі прадстаўніц гэтага старажытнага рамяства, а таму ня маю да іх і прэтэнзіяў. А пасьля знакамітай песьні знакамітага расейскага сьпевака Газманава пра ночнага матылька, слова «путана» набыло яшчэ й нейкую рамантычную, загадкавую адметнасьць. У Японіі ж гейшы, як і ў старажытнай Грэцыі гетэры, наагул лічацца паважанай катэгорыяй жанчын. Так што да прастытуцыі ў мяне прэтэнзіяў няма. Прынамсі, асабістых.

А тыя дзьве прафэсіі, – на якія ў мяне ѐсьць «зуб» – гэта гісторыкі й журналістыя. Гісторыкі мне нечым нагадваюць вышэй успомненых путан і

розьняцца тым, што прадаюцца не юрліваму мужыку з грашыма, а «патрэбнаму» палітыку альбо ўладнаму палітычнаму рэжыму.

Але пра гісторыкаў я напішу іншым разам і зь іншае нагоды.

Цяпер жа гаворка пойдзе пра мой артыкул **«**Кожны можа кінуць піць, а некаторым гэта ўдаецца зрабіць яшчэ пры жыцьці**»**, надрукаваны ў газеце «Народная воля» № 191-192 за 8-10 сьнежня 2009 г., над якім не найлепшым парадкам «папрацавалі» журналістыя «НВ». У гэтым артыкуле я ўзьняў важную праблему алкагалізму і даў некаторыя зьвесткі пра сама передавую ў сьвеце мэтодыку лячэньня гэтай страшнай хваробы – праграму 12 крокаў сусьветнага Руху Ананімных Алкаголікаў. Водгукі былі добрыя, тэлефанавалі, вялікую цікавасьць выказалі калегі – таксама «дацэнты з кандыдатамі» – навукоўцы з Акадэміі Навук і выкладнікі ВНУ.

Аднак вынікі артыкулу маглі б быць і лепшымі, калі б не журналістыя, што рыхтавалі яго да друку. Месцамі тэкст станавіўся амаль непазнавальным.

«Праўкі» папарацы пачаліся яшчэ з загалоўку – «паднавілі» назву: у арыгінале было **«**Кожны можа кінуць піць, *але* некаторым гэта ўдаецца зрабіць пры жыцьці**».** Зьместу ў такім варыянце больш і сама фраза становіцца больш моцнай менавіта ад выкарыстанага ў ѐй прыѐму альтэрнатывы праз часьцінку «але», а не пераліку («а»), як у друкаваным тэксьце.

Я ня буду пералічваць усе, з дазволу сказаць, «праўкі» рэдакцыі. Але некаторыя такія істотныя, што не ўспамянуць пра іх было б няслушна.

Прыкладам, я даводжу вельмі важную думку і яе падкрэсьліваю: «*алкагалізм хвароба невылечная***».** Невядомы рэдактар папраўляе: *алкагалізм хвароба* ***амаль*** *невылечная».* Ня думайце, што розьніца ў гэтых сказах неістотная, ці «амаль» неістотная. Сэнс мяняецца з грунту. Папраўлены варыянт значыць, што існуе невялікі шанец вылечыць алкаголіка. І кожны пачынае думаць, што менавіта ѐн і ѐсьць той шчасьлівы выняятковец. А для пачатку, каб спраўдзіць свае новыя якасьці культурна пітука, здаровага чалавека, ѐн спрабуе выпіць адну – толькі адну! – чарачку гарэлкі, альбо

паўкуфля «Рэчыцкага» піва. І... пачынае піць па-новаму... І можа, запраўды апошні раз у земным жыцьці...

Ананімныя Алкаголікі лічаць, што алкагалізм хвароба невылечная, як цукровы дыябет, як алергія, як мноства іншых ведамых мэдыцыне невылечных хвароб, зь якімі шмат людзей жывуць праз усе свае гады, адведзеныя Госпадам.

Адно з важкіх дасягненьняў Праграмы АА ў тым, што яна не дае сваім сябрам «расслабіцца», калі можна так сказаць. Яна заўсѐды нагадвае вам, што вы алкаголік і алкаголік пажыцьцѐва. Тыповы прыклад: чалавек мае, скажам, дзесяць гадоў цьвярозасьці, але прыйшоўшы на групу АА ѐн прадстаўляецца: «Добры дзень! Мяне завуць Іван (Сьцяпан, Зоя, Валя.. Палкоўнік, Паручык, Дацэнт...). Я – алкаголік».

Спробы парушыць гэтае правіла засѐды несуцяшальныя. Яшчэ заснавальнік Руху АА У. Біл у Вялікай кнізе АА падае паказальную гісторыю жыцьця аднаго бізнэсоўца, у якога была праблема з алкаголем. У 30 гадоў яму ўдалося кінуць піць і ѐн 25 гадоў не ўжываў сьпіртнога. Ён стаў багатым чалавекам і ў 55 гадоў выйшаў на пенсію. І тут ѐн надумаў «расслабіцца» – разважыў, што цяпер ужо келіх можна кульнуць. Гэта быў заломлівы крок. Усе праблемы маладосьці вярнуліся, і неўзабаве наш бізнэсовец трапіў у лякарню. Але цяпер так проста, як у маладосьці, яму не ўдалася зьняць пытаньня.

Праз чатыры гады ѐн памѐр.

Біл піша: «Чарговы раз мы пераконваемся ў існасьці сьцьверджаньня: «Калі ты – алкаголік, то гэта ўжо назаўсѐды». Калі пасьля працяглага ўстрыманьня мы пачынаем піць, то вельмі хутка апынаемся ў такім самым жалю вартым становішчы, як і ў найгоршыя часы. Калі вы надумаліся кінуць піць, то гэтая пастанова павінна быць безумоўнай, без усялякай задняй думкі калі-колечы вярнуцца да нармальнага ўжываньня алкаголю».

Значыцца, першая ўмова для чалавека, які стаў на шлях небясьпечнага ўжываньня алкагольных напояў, ці па-просту – п’янства, гэта яснае вызначэньне свайго статусу: прызнаньне алкагольнай праблемы, прызнаньне сваѐй паразы перад алкаголем, урэшце, прызнаньне свайго алкагалізму.

Зараз, зусім нечакана, я сфармуляваў першы крок Праграмы АА.

У Праграме першы крок гучыць так: «*Мы прызналі сваю немач перад алкаголем. Прызналі, што згубілі кантроль над сабой».* Усякае знаѐмства з Ананімнымі Алкаголікамі, сход групы, дзе ўпершыню ѐсьць ахвяра п'янства, пачынаецца з абмеркаваньня першага кроку. Гэта дзьверы ў Праграму. Толькі прыняўшы першы крок, упусьціўшы яго існасьць і паўнату яго глыбіннага сэнсу ў сваю сьведамасьць, можна пачынаць рух далей і цьверазець...

Але, дапусьцім, вы прызналі сваю алкагольную залежнасьць і ўпусьцілі слова «алкаголік» у сваю сьведамасьць як нешта беспасярэдне ваша, як новую якасьць вашага «Я». Што рабіць далей? Можна, прыкладам, кінуцца ў роспач: «Усе п'юць, усе весяляцца, а мне піць ні гарэлкі, ні віна, ні нават піва – нельга, бо я алкаголік!» А бяз гэтага што за жыцьцѐ!

І многія, ня бачачы выхаду, працягваюць піць, каб заглушыць сваю новую бяду, заліваюць сваѐ цьвярозае быцьцѐ тонамі піва альбо батарэямі гарэлачных бутэлек. Такія людзі ѐсьць, звычайна яны не дажываюць да 50 гадоў. Прыкладам, адзін мой сусед пасьля добрай апахмелкі загінуў у 47 гадоў пад коламі першага рэйсавага аўтобусу ў шэсьць гадзін раніцы, а другі памѐр у саракадвухгадовым веку ад алкагольнай інтаксікацыі – таксама раніцай. Гэтыя хлопцы былі маімі сябрамі і жылі з' імной у адным пад'езьдзе.

Бяда й няшчасьце гэтых, і многіх іншых, людзей у тым, што яны ня бачаць сэнсу жыцьця без алкаголю. За гады свайго себраваньня з бутэлькай яны так прывыкаюць да яе, што й запраўды жыцьцѐ без алкаголю – асабліва ў першыя дні, месяцы... – становіцца пустым, непаўнавартым, зразумела, з гледзішча самаго пітука. І, пахадзіўшы цьвярозым колькі часу, можа, нават год, два, асабліва пасьля кадаваньня ці падшываньня – 99 % няшчасных вяртаюцца да ранейшага стану і пачынаюць піць яшчэ больш, чым да «завязкі».

Ананімныя Алкаголікі яднаюць людзей другой катэгорыі – тых, хто здольныя ўбачыць сэнс, радасьць жыцьця без алкаголю. Запраўды, ці так ужо патрэбна гэтае рэчыва чалавеку, каб вакол яго выбудоўваць сваѐ жыцьцѐ? Ці запраўды так ужо патрэбен алкагольны допінг, каб зьняць стрэс, пацешыцца, ці

адзначыць сустрэчу з сябрам? У большасьці выпадкаў гэтая патрэба ілюзорная. Не ілюзія яна толькі для тых, хто ўжо за крок ад алкагольнай залежнасьці, альбо нясьведамы ці пераканаты алкаголік.

Свой артыкул, надрукаваны ў газеце «Народная воля» я даў пачытаць аднаму знаёмаму, які ўваходзіць у тусоўку адной мінскай літаратурна-мастацкай багемы. Празь некаторы час ён мне расказаў, што згодна з маім азначэньнем алкагалізму (тры першасныя прыкметы залежнасьці), большасьць яго знаёмых літаратараў – алкаголікі. Ён, ведама, мне не паверыў, і гэта зразумела. Так бы адрэагаваў і я – гадоў 20–30 таму, у часы бестурботнага і п’янага юнацтва.

Трэба ведаць яшчэ адну невытлумачальную рэч: алкагалізм залучае ня ўсіх – і ў гэтым яго галоўная небясьпечнасьць, бо нікому ня хочацца трапіць у шэрагі гэтых асобных, алкаголезалежных людзей. Звычайна людзі пачынаюць усяляк хаваць сваю залежнасьць, працягваюць ужываньне алкаголю, і тут іх яшчэ больш зацягваюць шчупальцы алкагольнага спрута. Мала каму ўдаецца адважна глянуць праўдзе ў вочы і пачаць запраўдныя дзеяньні для свайго ратаваньня.

І толькі тады, калі заслона з вачэй спадзе, і брыдкая праўда паўстане перад вамі, толькі тады вы можаце па-запраўднаму ацаніць сваё жыцьцё і прыняць захады да папраўленьня. У АА ёсьць такі выраз: «*Трэба дасягнуць свайго дна*». Да такіх людзей Праграма 12 Крокаў АА звычайна даходзіць, яны пачынаюць жыць паводле гэтай Праграмы і перад імі адкрываеца новае шчасьлівае жыцьцё.

Я зараз агучу думку, можа, цэнтральную для ўсьведамленьня ўсяго, што адбываецца ў жыцьці чалавека паводле Праграмы АА. Ён ня проста пачынае жыць цьвяроза. Ён робіцца іншым. У ім памірае чалавек, у якога ёсьць месца алкаголю. Для гэтага, новага чалавека алкаголь – варыянт атруты. Затое ўвесь навакольны сьвет, усё жыцьцё ў ім, набывае нязнаны раней смак вольнасьці. Адзін чалавек з АА мне расказваў, што ад нясьцерпнага адчуваньня свабоды яму хацелася сьпяваць – і ён так і рабіў, голасна, – на ўсю хату, на ўсю вуліцу,

на ўвесь сьвет. Гэтую асаблівасьць перараджэньня чалавека пасьля прыняцьця Праграмы АА душой і целам, больш за тое – сэрцам, заўважылі яшчэ заснавальнікі АА ў Амэрыцы Біл і Боб. У іх Вялікай кнізе, якая для сябраў Руху АА служыць нечым накшталт Бібліі, з гэтай нагоды напісана: «Запраўды, выдатна належаць брацтву, створанаму намі. Радасьць жыцьця адчуваецца нават у цяжкасьцях і горы. Я бачыў сотні сем'яў, якія выйшлі з стану бязвыходнасьці, бачыў, як уладкоўваліся найскладанейшыя сямейныя сытуацыі, як зьнікала варожасьць і зласьлівасьць... Бізнэсоўцы і людзі розных прафэсіяў вярнулі сабе рэпутацыю. Няма такіх няшчасьцяў, такога гора, якое б мы не пераадолелі...»

У сваім папярэднім артыкуле «Кожны можа кінуць піць...» я, між іншага, даў інфармацыю і пра тэрмін сваёй цьвярозасьці. Але рэдактар чамусьці гэты факт апусьціў. Аднак для разуменьня моцы і трываласьці дзеяньня Праграмы АА такія зьвесткі немалаважныя. Дык вось, я не ўжываю алкагольных напояў амаль 7 гадоў (бяз двух месяцаў). Калі ўлічыць, што за ўсё сваё жыцьцё мне не ўдавалася трымацца цьвярозым больш за год, то становіцца ясным: гэта ўжо сур'ёзна. Зьмены ў жыцьці адбыліся вялізныя: і якасныя, і колькасныя. Прыкладам, ніколі не трымаўшы ў руках руля аўтамабілю, я пайшоў вучыцца ў Школу кіроўцаў, атрымаў правы. Цяпер езджу на сваёй машыне і знаёмлюся з новымі, раней невядомымі адчуваньнямі ў новым статусе чалавека за рулём.

І зноў вярнуся да свайго папярэдняга артыкулу, які я канчаў прыкладна так, як і гэты – на ноце аптымізму і надзеі на лепшае. Але «журналіст-шкоднік» і тут устаўляе свае «тры грошы». У мяне напісана: «Настаў момант сканчэньня майго аповеду». Папарацы рэдагуе так: «Канчаю свой сумны, але не безнадзейны аповед». Я тут на чатырох старонках высільваюся і даводжу, што ў АА алкагольная праблема разьвязана найлепшым парадкам і, далібог, артыкул дастаткова напоўнены аптымізмам, а ён устаўляе «сумны»! А каб ты так жыў, чалавеча! Няхай табе ўсё ж Госпад даруе грэх сябелюбства. Аднак артыкул такі-ўбачыў сьвет і, можа, дзякуючы табе й гэты новы напісаны.

Дык падсумую.

Вось жа, галоўная ідэя Ананімных Алкаголікаў можа быць выказана адной кароткай фразай: «*Выйсьце ѐсьць*!». Некалі будзе напісаны *Маніфэст Ананімных Алкаголікаў*. Я думаю, што ѐн павінен пачынацца так:.

***Адгэтуль мы, сябры сусьветнага Руху АА, заяўляем: алкагольнай праблемы няма! Мы адкрываем людзтву новы пагляд на жыцьцѐ, мы падаем руку мільѐнам змучаных алкаголем людзей і кажам вам: «Ідзеце да нас, і вы будзеце такімі, як мы – вольнымі, поўнымі аптымізму і жыцьцѐвай энэргіі людзьмі. Перад вамі будзе ўвесь Сусьвет, і з вамі будзе Бог!***».

Дацэнт, алкаголік

*«Народная воля», № 20-21, 2010 г.*

## AA – PRO ET CONTRA

Некалькі зьвестак.

*У 1990 годзе былі надрукаваны вынікі 353 навуковых працаў, якія былі праведзеныя Сусьветнай Арганізацыяй Аховы здароўя ў сусьветным маштабе, у якіх вынікі ўжываньня алкаголю былі пазделеныя на тры групы:*

*1. Сямейныя наступнасьці – вельмі цяжкія і шматлікія, пералічаныя ў гэтых працах, яны пачыналіся ад сямейных разводаў да агрэсіі і ненармальнасьці ўлучна.*

*2. Псыхалягічныя наступнасьці таксама шматлікія і згубныя для чалавека. Яны пачыналіся ад дэпрэсіі і самагубстваў (у 80 разоў часьцей, чым у непітушчых) да прыдуркаватасьці і злоўжываньня іншымі наркотыкамі.*

*3. Фізычныя наступнасьці. Яны таксама шматлікія і цяжкія.*

*Ні ў воднай з гэтых 353 прац не было паказана ніводнага прыкладу дадатнага ўплыву алкаголю на человека і людзкае грамадзтва. Такая праўда пра алкаголь, якую сродкі масавай інфармацыі дбайна замоўчваюць альбо кажуць няпраўду, асабліва па тых пунктах, дзе сусьветны досьвед даводзіць адваротнае.*

*** * ***

### Сусьветны рух Ананімных Алкаголікаў

…. ***Калі ў вас ѐсьць праблема з алкаголем, магчыма, мы вам дапаможам***.

*(З рапсаўсюджанага тэксту абвесткі Ананімных Алкаголікаў).*

***«Мы прызналі сваю немач перад алкаголем. Прызналі, што страцілі кантроль над сваім жыцьцѐм».***

*(Першы крок Праграмы АА)*

Што такое Брацтва Ананімных Алкаголікаў, ці, як яшчэ кажуць, Таварыства АА? Гэта супольнасьць цьвярозых людзей. Можна зразумець спалучэньне слоў «ананімныя алкаголікі» зусім неадпаведна, прыкладам, так: ананімныя алкаголікі – гэта людзі, якія злоўжываюць сьпіртным, але хаваюць гэта і п’юць, каб ніхто пра тое ня ўведаў, інакш кажучы, ананімна. Аднак у пастаўленым намі пытаньні ўсѐ наадварот, у АА – не ўжываюць сьпіртавых напояў наагул! Зьвярну ўвагу: у кожным аб’яднаньні, згуртаваньні, сходзе і іншых людзкіх калектывах заўсѐды можна знайсьці людзей, што з той ці іншай нагоды могуць выпіць, хоць нязначную колькасьць сьпіртнога. У АА такіх людзей ня знойдзеш! На форумы АА зьбіраюцца па тысячы чалавек – і ніводнага п’янага ці нападпітку праз усе дні, на ўсіх сустрэчах! Але за гэтыя дні можна пабачыць масу абсалютна цьвярозага люду. А такое ў нашым сьпітым грамадзтве, самыя разумееце, практычна, не бывае.

Жыцьцѐ ананімных алкаголікаў – працоўнае, сямейнае, культурнае і г. д. – адрозьніваецца ад жыцьця рэтыш людзей толькі адной рысай – поўнай нябытнасьцю ў іх жыцьці алкаголю. Многія з гэтай дзіўнай супольнасьці ці структуры – гэта людзі, якія ў мінулым былі апошнімі п’яніцамі, многія цудам выратаваліся ад немінучай турмы, заўчаснай сьмерці, зразумела, ад алкаголю.

Добра ведама, што амаль кожная сямейная сварка й разбураная сям’я, працоўныя парушэньні й прагулы, нарэшце, многія злачынствы – здараюцца ад п’янства. Здаецца, дайце гэтым няшчасным ахвярам «зялѐнага зьмея» цьвярозасьць – і на зямлі настане калі ня Рай, то роўнае, стабільнае жыцьцѐ

шчасьлівых людзей, упэўненых у будучыні і правільнасьці свайго жыцьцёвага шляху.

Ня многія здольныя прыняць праграму Ананімных Алкаголікаў і жыць згодна зь ёй. Прычын тут шмат. Ацэны, дадзеныя ў самым руху АА, такія: тры, максымум – пяць чалавек з ста, што азнаёміліся з праграмай, прымаюць праграму 12 крокаў, жывуць паводле яе і, адпаведна, становяцца на шлях папраўнку. Гэта – Абраныя. І на іх кладзецца вялікая місія стаць носьбітам новай «цьярозай» філязофіі, двукосьсі тут стаяць, каб падкрэсліць сэнс філязофіі АА. Ён зводзіцца да таго, што ў гэтым сьвеце суіснаваньне алкаголю і мяне – немажліва.

У чым жа рэч, чаму толькі некаторыя, «абраныя» прымаюць цьвярозы лад жыцьця згодна зь ідэямі АА? Мне здаецца, галоўныя прычына адна. Гэта прышчэпленая яшчэ ў эпоху гуманізму вера ў бясконцую сілу самога чалавека. Яшчэ ў тыя часы такія людзі, як Жан Жак Русо, Вальтер, іншыя «вальнадумцы», узьвялі гуманізм да рангу найвышэйшай філязофіі, арыентыру для людзей наступных пакаленьняў, вызнаўцаў рацыяналізму і адмаўленцаў Бога. Спадзявацца толькі на сябе, на сваю волю, вера толькі ў свае сілы – вось крыніца паразы ўсіх людзей, што спрабавалі кінуць піць толькі сваімі сіламі. Калі цяпер я часам чую фразу: «Я жалезна кідаю піць (заўтра, з панядзелка, праз тыдзень, з Новага году…) – то толькі ціха – сам сабе – усьміхаюся: «Ну, ну...»

Першы крок праграмы АА – уваход у твой новы сьветагляд, старт:

***Мы прызналі сваю немач перад алкаголем. Прызналі, што страцілі кантроль над сваім жыцьцём.***

Канец вольнадумству! Але прызнаць сваю слабасьць – гэта толькі старт праграмы. Таму адразу другі крок праграмы АА гучыць так:

***Прыйшлі да перакананьня, што толькі Сіла, больш моцная за нас, здолее вярнуць нам разважнасьць.***

Што ж гэта за сіла, больш моцная за мяне? Раней, у часы СССР такой сілай была Камуністычная партыя… Калі ж гаварыць бяз жартаў, то я ведаю дакладна – гэта Той, хто ў свой час стварыў нас, пусьціў у гэты сьвет, дазволіў спакусіцца на д’ябальскую прапанову лѐгкага жыцьця, гэта – Бог**.** Таму трэці крок:

***Прынялі пастанову перадаручыць нашу волю і наша жыцьцѐ Богу, як мы яго разумелі.***

Дарэчы, заўзятыя атэістыя здольныя прыняць праграму і гэты крок нягледзячы на свое пагляды. Для іх напісана апошняя частка трэцяга кроку – «*як мы яго разумелі»*. Некаторыя пад паняткам Бог разумеюць проста групу, на сходы якой яны ходзяць і зь якой яны атрымваюць цьвярозасьць. Лѐгіка тут неверагодна простая. Можна сказаць, што перад намі прыклад мысленьня атэістага. На групе навік даведваеца, што яму дапаможа пазбыцца п’янста нейкая «Найвышэйшая сіла». Што гэта за сіла ѐн ня ведае, але прыходзячы раз за разам на паседжаньні групы, пачынае напраўздзе бачыць эфэкт ад такіх паседжаньняў – і ѐн перастае піць. Таму яго прымітыўнае ці, можа, практычнае – мысьленьне, пачынае прыпісваць усе заслугі вылучна ўзьдзеяньню групы.

Такое аднабаковае бачаньне Бога не спрыяе духоўнаму росту алкаголіка на паправунку. Мала таго, некаторыя сябры АА, што гадамі не п’юць, усѐ ж маюць шмат іншых праблем. Тут і сталае непаразуменьне з жонкай і нястача працы, якую група чамусьці не забясьпечвае, тут і проста дрэнны настрой. Не малую ролю адыгрывае прынцып, што асабліва важны на першым этапе папраўлення: «цьвярозасьць перадусім!» Ну, не ўжывае чалавек аніякіх «смачных» напояў, забыўся пра сьпіртное, чаго ж яму яшчэ трэба?

А трэба шмат чаго. І гэта раскрываецца чалавеку ў хрысьціянстве, у запаведзях Божых, у запаведзях Шчасьлівых, проста, у Хрысьце. Могуць сказаць мне: «А атэістым, што рабіць, тым, хто ня верыць, як жыць?» Такім людзям, на мой пагляд цяжэй знайсьці сябе, але можна – ѐсьць шмат прыкладаў выдатных, высокамаральных людзей, якія жывуць і безь веры, але ніколі ня возьмуць чужога, ня скажуць грубага слова бліжнаму, паважаюць сваіх блізкіх і сябе. Гэта сьведчыць толькі пра тое, што хрысьціянская маральнасьць ужо генэтычна ўласьцівая чалавеку і даецца яму ад нараджэньня. Вера толькі дапамагае яе не забывацца, стала ўдасканальваць, урэшце, абараняе яе.

І вось выходзіць такі алкаголік на паправунку ў жыцьцѐ, а жыць інакш, як у тым жыцьці – алкагольным – ня ўмее. І тут, асабліва на першым этапе, вялікую ролю адыгрывае група, дзе навік пазнае цьвярозасьць. Група рэкамэндуе, вучыць, дае адказы на ўсе набалелыя пытаньні. Шмат якія алкаголікі ўсѐ сваѐ далейшае жыцьцѐ абмяжоўваюць адно праграмай 12 крокаў і 12 традыцыяў Ананімных Алкаголікаў. І нават малітва – адна, тая самая – «Госпадзе! Дай мне розум…».

Я мушу сказаць, што для многіх людзей дванаццацікрокавая праграма АА запраўды панацэя. Але не для ўсіх. Шмат каму будзе мала гэтага, для іх цьвярозасьць – толькі ўмова далейшага паўнавартага жыцьця. Таму ім вельмі важна знайсьці тых людзей і тыя жыцьцѐвыя арыенціры, якія павядуць іх далей, дапамогуць разьвіць свае здольнасьці, урэшце, знайсьці ўласны сэнс існаваньня.

Мяне, прыкладам, заўсѐды засмучалі ня надта прыгожыя рэчы, якія можна ўбачыць у асяродзьдзі АА: на сходах, на форумах, іншых мерапрыемствах. Вы, скажам, можаце пачуць прамову, калі не перасыпаную матамі, то ў вялікай ступені «аздобленую» імі. Пасьля форуму «Майскія сустрэчы», што праходзіць штогод у Менску, прыбіралкі скардзіліся: усѐ было б добра, каб не вялізная колькасьць недакуркаў, што засталіся пасьля саймаваньня ананімных алкаголікаў. А сэксуальныя дачыненьні? У горадзе Лідзе на форуме АА пад назвай «Навагодні Карнавал Алкаголікаў» пасьля

дыскатэкі я бачыў парачку, што займалася сэксам проста ў мужчынскай прыбіральні на падаконьніку, побач зь пісуарамі. Тут, ведама, не да запаведзей кшталту «Не блудзі». Некаторыя «прасунутыя» сябры АА зь вялікімі тэрмінамі цьвярозасьці разглядаюць асяроддзе АА як добрае месца для наладжваньня лёгкіх любоўных сувязяў, бо прадстаўніц жаночага полу ў АА стае.

Праграма АА дзеіць эфэктыўна, яна карысная для самых розных людзей. Вось у чым рэч – **розных!** А людзі дзеляцца на добрых і злых, маральных і дрэнных, адукаваных і з сямю клясамі, вернікаў і бязьверцаў, рамантыкаў і прагматыкаў, на злодзеяў і сумленных людзей, урэшце – на мужчын і жанчын… І ў кожнай з гэтых груп ёсьць алкаголікі. Ясна, што сходы груп АА ня могуць здаволіць кожнага. І часта бывае, што прыходзіць на групу разумны, інтэлігентны чалавек, але залежны ад алкаголю, расчароўваецца ў абранай ім групе АА, не знаходзіць сябе ў гэтай групе, людзі, выяўляецца, чужыя яму, і ён працягвае піць. І гіне! А іншы, дурань дурнем, падонак падонкам, ці жанчына – шчырая прасталытка, а прымаюць праграму, становяцца цьвярозымі і працягваюць жыць, як раней, у тым жа кірунку, у той жа бездані грахоў, амаральнасьці, але – цьвярозымі.

Яскравы прыклад аднабаковасьці 12-ці крокавай праграмы і Руху АА наагул – амэрыканскі фільм пра кілера, які страчвае свой «прафэсіяналізм» ад алкагольнай залежнасьці і пачынае наведваць групу АА, каб вярнуць страчаны «талент». Ён прыходзіць на групу, займаецца разам з усімі. І група прымае яго, бы нічога асаблівага ня здарылася. Ніхто не задаецца пытаньнем: «Ці можна сядзець у адной кампаніі з забойцам?»

Я лічу, што нельга замыкацца вылучна праграмай АА, проста, патрэбен асабісты духоўны рух алкаголіка на папраўку, і 12-ці крокаў усё ж мала. І для гэтага ў нас ёсьць мажлівасьці, ёсьць Царква, ёсьць мастацтва, літаратура, духоўныя кнігі, шмат чаго іншага.

Для сябе я абраў далейшы шлях у земным жыцьці толькі з Хрыстом. Хрысьціянства прынесла нам Сьвет і паказала дарогу да жыцьця вечнага. «Ён прыйшоў для сьведчаньня, каб сьведчыць пра Сьвятло, каб усе паверылі ў яго».

(Ян, 1, 7). І мая цьвярозасьць – гэта пропуск у Храм. Толькі адтуль пачынаецца духоўнасьць, пра якую так любяць гаварыць Ананімныя Алкаголікі, не знаходзячы яе вакол сябе. І пакуль яны будуць таптацца вакол міфічнай «алкагольнай духоўнасьці» і раз за разам скардзіцца на сходах групп на свае неразьвязальныя праблемы – датуль ня будзе ім спакою і здавальненьня.

«Я есмь дверь: кто войдет Мною, тот спасется, и войдет, и выйдет, и пажить найдет» (Ян, 10, 9).

* * *

Адным з мажлівых шляхоў духоўнага ўдасканаленьня людзей, што абралі цьвярозасьць, галоўным крытэрам у жыцьці, на маю думку, ёсьць іх уцаркоўленьне. І тут існуюць розныя спосабы – у залежнасьці ад канфэсійнай прыналежнасьці чалавека. Як праваслаўны чалавек я, зразумела, заклікаю йсьці ў праваслаўны Храм. Але кожнаму сваё…

Прытачу на заканчэньне ўрывак з канцэптульнага артыкулу «Праваслаўная Царква і сусьветны Рух АА ў Беларусі», які я чытаў у Менску на міжканфэсійным Круглым стале, прысьвечаным праблемам алкагалізму і наркаманіі, дзе былі агучаныя выказаныя вышэй думкі.

## Праваслаўная Царква і сусьветны Рух АА ў Беларусі

Сусьветны эканамічны крызыс яшчэ больш завастрыў праблему, якая й раней стаяла як першасная сацыяльная бяда ў большасьці краін сьвету. Гэтая праблема датычыць здароўя нацыі і, больш таго, – выжываньня нацыі. Гэтай праблемай, праблемай нумар адзін, што паўстала перад сусьветным грамадзтвам у першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя, ёсьць алкагалізм, ці інакш – алкагольная залежнасьць.

Ален Кар у кнізе «Лѐгкі спосаб кінуць піць», прыточвае прыклад: у Вялікабрытаніі ад гераіну штогод гіне каля 300 чалавек, ад алкаголю – 40 000. І гэта ў краіне, дзе адзін з найвышэйшых роўняў жыцьця. У постсавецкіх

дзяржавах гэтыя лічбы шмат жудасьнейшыя. Іх нават нельга здабыць, бо ў нас апрача афіцыйных алкагольных напояў, ужываюць любыя сьпіртаваныя рэчывы, якія не падпадаюць пад статыстычны ўлік. Але й афіцыйныя лічбы больш чым красамоўныя. За дзесяць месяцаў 2009 году лікёра-гарэлачных вырабаў у Беларусі прададзена на 1.009 млн. даляраў, што на 14,6 % больш, чым за той жа пэрыяд мінулага году. Усяго на алкаголь беларусы выдаткавалі паўтара мільярда даляраў (амаль 4 трыльёны рублёў) (Народная воля. №№ 161 – 162. 2009).

Відавочна, такая палітыка дзяржавы вядзецца, каб пакрыць эканамічны абвал у многіх галінах народнай гаспадаркі. І выраб атрутнага зельля займае ўсё большае месца ў нашай эканоміцы. Мала каго зь дзяржаўных асоб хвалюе, што гэты танны шлях разьвіцьця эканомікі мае адваротны бок – нацыя сьпіваецца й дэградуе. Заўважана, што калі ўжываньне алкаголю перавышае 8 літраў у год на душу насельніцтва, то пачынаюцца незваротныя адмоўныя працэсы ў фізычным і псыхічным здароўі людзей, г. зн. дэградацыя нацыі. У нас гэтая лічба даўно перасягнутая – у Беларусі – больш за 13, а ў Расеі больш за 18 літраў алкаголю на душу, улучаючы немаўлят.

У такіх трагічных абставінах, ува ўмовах неадкладнай патрэбы ратаваць нашых грамадзян ад алкагольнай чумы, усё большую ролю адыгрываюць хрысьціянскія інстытуты самых розных канфэсіяў. Перадусім гэта датычыць самых масавых у Беларусі канфэсіяў – каталіцкай і праваслаўнай. Трэба сказаць, што такая праца вядзецца ў абедзьвюх. Касьцёл даўно і пасьпяхова ўжыцьцяўляе шматлікія акцыі, казаньні, іншую працу зь людзьмі за цьвярозы лад жыцьця. Даволі ўспомніць пасьпяховую дзейнасьць нябожчыка ксянза Булькі ў вёсцы Мосар, дзе цьвярозасьць існуе зусім не на паперы.

На роўні кіраўніцтва РПЦ праблема алкагалізму таксама ня раз уздымалася. Так, Патрыярх Кірыл вызначыў пераадоленьне алкагольнай залежнасьці ў расейскім грамадзтве як адзін зь прыярытэтаў Рускай Праваслаўнай Царквы. На сустрэчы з губэрнатарам Варонежскай вобласьці ён сказаў: «Мы цяпер як краіна зацікаўленыя ў мадэрнізацыі эканомікі,

удасканаленьні сацыяльных адносінаў. Але з кім і для каго працаваць, калі наш народ будзе выміраць ад алкагалізму?»

Трэба адзначыць, што Руская Праваслаўная Царква мае даўную традыцыю і досьвед змаганьня за цьвярозасьць. Яшчэ да рэвалюцыі ў Расейскай Імпэрыі ў 1895 годзе былі створаныя спэцыяльныя «Апякунствы народнай цьвярозасьці». Гэтыя апякунствы вялі вялікую працу прапаганды здаровага ладу жыцьця, арганізоўвалі народныя сталоўкі, гарбатні, тэатры, грамадзкія чытаньні, гуляньні і народныя хоры. Такія комплексныя меры неўзабаве далі плённыя вынікі. «Цяпер ужо непараўнальна менш сустракаецца на вуліцах п’янага натоўпу, народ па нядзелях цягнецца ў Апякунскую гарбатню», – паведамлялася ў справаздачах. Наладжваліся народныя чытаньні, дзе чыталіі пра розныя спакмяні рэлігійна-маральнага зьместу. Адкрываліся сьпеўныя і рэгенцкія курсы пры сельскіх храмах. Ува ўсіх гэтых мерапрыемствах вялікую ролю адыгрывалі настаўнікі і асабліва духоўныя асобы – сьвятары, служкі Царквы.

У Беларусі найактыўнейшай была Гарадзенская губерня, дзе вельмі актыўную працу (перадусім у Сьвіслачы і Ваўкавыску) вёў праваслаўны сьвятар, пісьменьнік і фальклярысты Дзімітры Булгакаўскі. Дзякуючы ягоным намаганьням і намаганьням іншых стараньнікаў антыалкагольнай кампаніі, сяляне Гарадзенскай губэрні самыя ня раз выступалі за закрыцьцё вінных крамаў у іх вёсках.

Вынікам гэтага шырокага руху за цьвярозасьць было ўвядзеньне ў 1914 г. «сухога» закону ў Расеі. Толькі за год дзеяньня гэтага закону, на 1915 г., вытворчасьць працы ўзьнялася на 30-50%, колькасьць пажараў у сельскай мясцовасьці зьменшылася ў два разы, колькасьць прагулаў зьменшылася на 27%. На жаль, з прыходам НЭПу, у 1925 годзе «сухі» закон быў скасаваны.

А што ж робіцца цяпер?

У сацыяльнай канцэпцыі Рускае Праваслаўнае Царквы існуе колькі кірункаў, мэтадаў змаганьня з п’янствам і лячэньнем алкагалізму. Існуюць спэцыяльныя малітвы, акафісты і гэтак званыя адчытваньні. Найбольш

ведамым і традыцыйна прызнаным мэтадам лічыцца малебен з акафістам «Неўпіваная чаша», які чытаецца амаль ува ўсіх храмах Беларусі.

Я ня буду аналізаваць як эфэктыўная дзейнасьць успомненых і іншых мерапрыемстваў, што праводзяцца Праваслаўнай Царквой дзеля прафіляктыкі алкагалізму і збаўленьня людзей ад гэтай страшнай хваробы. У кожным разе, рэчаіснасьць выдае нам несуцяшальныя лічбы. Больш за тое, алкагалізм набывае ўсё большую моц у асяродзьдзі самых царкоўнаслужыцеляў і нават манахаў. І таму ня бачыць, што людзі ўсё больш і больш п’юць, гінуць ад алкаголю – значыць крывіць душой і заплюшчваць вочы на праблему.

Разам з тым, яшчэ ў 1990 годзе ў Беларусі была заснаваная першая група міжнароднага Руху Ананімных Алкаголікаў (АА), хоць за мяжой Рух АА існаваў нашмат раней. Міжнародны Рух АА, альбо Садружнасьць Ананімных Алкаголікаў, быў створаны ў 1935 годзе ў горадзе Акрон (штат Агаѐ, ЗША). З таго часу Таварыства АА стала вялізнай арганізацыяй. Больш за 110 000 груп Ананімных Алкаголікаў пасьпяхова працуюць у 180 краінах сьвету. Паводле прыблізных ацэнаў Таварыства АА налічвае каля чатырох з паловай мільѐнаў чалавек. Гэта людзі, якім было накавана – як вынік хваробы – жабрацкае існаваньне і сьмерць. Але яны выжылі і, больш таго, знайшлі радасьць цьвярозага, паўнавартаснага жыцьця.

Посьпехі працы паводле праграмы 12 крокаў, якія ляжаць у аснове ідэалёгіі Ананімных Алкаголікаў, уражваюць бязьмежна. Тое, што адбываецца з людзьмі, якія пачынаюць працаваць паводле праграмы АА 12 крокаў, інакш як цудам назваць нельга. Яны ня проста перастаюць ужываць алкагольныя напоі. Яны пачынаюць жыць іншым жыцьцѐм, жыцьцѐм поўным, шчырым і шчасьлівым. У іх жыцьці ѐсьць ня толькі ўсѐ тое, што і ў іншых незалежных ад алкаголю людзей, іх жыцьцѐ часта набывае зусім новыя колеры, напаўняецца новымі якасьцямі.

На мой пагляд, посьпехі АА абумоўлены істотным адрозьненьнем мэтаду лячэньня алкагалізму ў АА ад іншых мэтодык мэдычнага, псыхатэрапеўтычнага і іншых кірункаў, і замыкаецца ён у духоўных прынцыпах, сфармуляваных у

дванаццаці кроках АА. Але зварот да Бога ў Ананімных Алкаголікаў гучыць не як звыклая малітва тысячаў рэлігійных канфэсіяў,існых сёньня ў сьвеце. Упершыню апэляцыя да Бога зводзіцца да такой ступені канкрэтнасьці і практычнасьці, што чалавеку становіцца ўсё роўна, ці гэта трансцэндэнтная істота монатэістычных рэлігіяў, ці гэта Абсалют індуізму, ці гэта жывы Бог хрысьціянства Ісус Хрыстос. І таму ня дзіва, што ў АА Бог мае і эквівалентную назву – Вышэйшая Сіла. Галоўнае – аддаць сваю волю, сваё жыцьцё цалком Богу – «як мы яго разумеем», дадаецца ў праграме АА.

У некаторых праваслаўных ідэолягаў існуе думка, што АА – вынаходніцтва пратэстантаў, і таму для праваслаўных краін гэты шлях не падыходзіць ці дзеіць недастаткова эфэктыўна. У прыватнасьці, блізкія думкі выказваў настаяцель прыходу «Неўпіваная чаша» а. Дыянісі ў інтэрвію часопісу «Ступені» (Ступені, № 4. 2009. С. 9 – 14): «Учитывая, что Программа 12-ти шагов создана в протестантской среде, для людей с православным мэнталитетом она не всегда работает эффективно…» Я ня буду аналізаваць ступень узьдзеяньня «пратэстанцкага асяродзьдзя» на Праграму АА, але адзначу, што ў нас гэтае асяродзьдзе збольшага зусім не праваслаўнае. Яно й не пратэстанцкае. Наша жыцьцё цалком улучанае ў зусім іншае асяродзьдзе – атэістычнае, і пасьля заняпаду камуністычнай сыстэмы – прагматычна-атэістычнае, цынічнае – безь якіх-колечы высокіх ідэалаў і мэтаў, чаго не было за ўвесь пэрыяд існаваньня «разьвітога сацыялізму».

І менавіта простыя, не заснаваныя на ніякім рэлігійным вучэнстве прынцыпы, ці «крокі», як завуцца гэтыя прынцыпы ў Праграме АА, здольныя даць змучанаму алкаголем чалавеку шмат больш, чым якая хрысьціянская, мусульманская ці юдэйская казань. Якраз такія прынцыпы як, прыкладам, другі крок: «Прыйшлі да перакананьня, што толькі Сіла больш моцная за нас, здолее вярнуць нам розум» здольныя павярнуць змучаную душу алкаголіка да гэтай «Сілы» і выратаваць ад пагібелі. А потым, пасьля неверагодна цудоўнага ацаленьня, абноўлены, здаровы чалавек ужо можа сябе ўсьведаміць і з пазыцыяў хрысьціянства. Ён ужо бачыць сябе як Божае стварэньне і ягоны

шлях да хрысьціянства становіцца рэальным. Вось тут ужо й можа даць плѐн генэтычная праваслаўнасьць беларускага грамадзяніна. Ён раптоўна сябе адчувае праваслаўным (ці каталікам), пачынае наведваць праваслаўны храм, касьцѐл.

Цікава адзначыць адну важную акалічнасьць: ні адзін з алкаголікаў на паправунку па прыняцьці Праграмы АА і звароту да цьвярозага жыцьця ня стаў адчуваць сябе вернікам-баптыстым ці пяцідзесятнікам. Выбіраюць традыцыйныя хрысьціянскія канфэсіі, і большасьць зь іх схіляецца да праваслаўя. Апошняе назіраньне наводзіць на думку, што Праграма 12-ці крокаў Руху АА вельмі блізкая менавіта да праваслаўнага мэнталітэту. Аднак брак ведаў, традыцыяў дый простага разуменьня царкоўнах набажэнстваў чыняць вялікую заміну да запраўднага ўцаркоўленьня чалавека. І большасьць цьвярозых алкаголікаў застаюцца ў рамах Праграмы і наагул жыцьця ў АА так і ня стаўшы шчыра на шлях Збавеньня, так і спыняюцца на паўкроку да Хрыста.

Адчуваючы такую патрэбу духоўнага сталеньня алкаголікаў на паправунку, навяртаньня іх да паўнавартага жыцьця ў Хрысьце зусім нядаўна ў Беларусі пачаліся новыя працэсы, як у асяродзьдзі Праваслаўнай Царквы, так і ў Таварыстве АА. Усьлед за Касьцѐлам, які ўжо колькі гадоў праводзіць рэкалекцыі на змаганьне з алкагалізмам разам з Рухам АА, у лютым і ліпені 2009 году адбыліся дзьве аналягічныя рэкалекцыі ці двухдзѐнныя сустрэчы Ананімных Алкаголікаў Беларусі з Праваслаўнай Царквой на базе Жыровіцкага манастыру.

Наступным крокам на шляху далейшага збліжэньня Беларускай Праваслаўнай Царквы і Беларускага Таварыства АА стала стварэньне праваслаўнай групы алкаголікаў на паправунку. Гэтая падзея адбылася ў восень 2009 году пасьля перамоў а. Дыянісія – настаяцеля прыхода «Неўпіваная чаша» г. Мінску і прадстаўнікоў некаторых мінскіх груп АА. Новая група атрымала назву «Лесьвіца». У гэтай назве адлюстраваны цярністы шлях – лесьвіца Яна Сінайскага, па якой людзі караскаюца да пазнаньня Бога.

Пільная патрэба стварэньня групы вернікаў праваслаўных хрысьціян з асяродзьдзя ананімных алкаголікаў высьпявала даўно. Рэч у тым, што Праграма 12-ці крокаў вядзе да цьвярозасьці і вядзе пры беспасярэдняй дапамозе Бога, але ўсѐ ж яна не прыводзіць да Хрыста, не яе гэта заданьне. Адбываецца дзіўная рэч – людзі з дня ў дзень, зь месяца ў месяц і нават гадамі наведваюць групы АА, але па-ранейшаму далѐкія ад Бога. Тут спрацоўвае йі атэістычнае камуністычнае выхаваньне, што некалі фармавала савецкага чалавека, а цяпер фармуе яшчэ больш далѐкага ад Госпада прагматыка і цыніка. Людзі, знаходзячы цьвярозасьць у АА, не імкнуцца да набыцьця духоўных і маральных каштоўнасьцяў. І часта сярод крыштальна цьвярозых людзей, якія гадамі наведваюць групы АА, можна сустрэць людзей зусім невысокай маралі, людзей з даволі грэшным жыцьцѐм, непітушчых абывацеляў і нават злачынцаў. Проста ня піць – гэтага мала. Чалавек можа і ў цьвярозым стане рабіць непрыстойныя ўчынкі. Вось гэтыя акалічнасьці і сталі прычынай шуканьня іншых мажлівасьцяў да пазнаньня Створцы, да Збаўленьня – праз стварэньне праваслаўна-арыентаваных груп узаемапомачы, якія грунтуюцца на Праграме 12-ці крокаў АА, але маюць духоўную аснову. На групе «Лесьвіца» разам з традыцыйнымі 12-ці крокамі ідзе працэс уцаркоўленьня людзей, вывучаюцца Божыя Запаведзі і Запаведзі Шчасьлівых. Чытаецца ўрывак зь нядзельнага Эвангелля. Для тых, хто прыйшоў на групу «Лесьвіца» ўжо не існуе адцягненага Бога як нейкай найвышэйшай Сілы, ѐн набывае сваѐ хрысьціянскае аблічча, Ён ѐсьць Сьвятая Тройца – Бог Айцец, Сын і Сьвяты Дух. У праваслаўнай групе АА людзі атрымваюць паўнату свайго паправунку, атрымваюць ня толькі цьвярозасьць, але і духоўнае падтрыманьне і становяцца на існы шлях да Бога.

Пасьля першаснай працы ў Таварыстве АА, дзейнасьць праваслаўных груп алкаголікаў на паправунку, як мне здаецца, – гэта другая і, з грунту, больш важкая ступень на шляху лячэньня хворых на алкагалізм людзей, дзе наўзбоч папраўляньня ідзе ўцаркоўленьне і духоўнае ўзрастаньне, урэшце, прыходзіць Збавеньне чалавека.

*Даклад, зроблены аўтарам на межканфэсійным Круглым стале, прысьвечаным праблемам наркаманіі і алкагалізму 17 студзеня 2009 г.*

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ НА РАЗЬВІТАНЬНЕ

У першай частцы гэтай кнігі я расказаў пра першую і большую палову свайго жыцьця, што прайшла пад беспапасярэднім уплывам, пад зьверхнасьцю Алкаголю. Апошняе слова напісана зь вялікай літары, і нездарама. Яно значыць ня толькі добра ведамае хімічнае рэчыва. У мяне гэтае найменьне ўвасабляе і злога дэмана, духа п’янства, і вясёлага бога, ведамага ў старажытных грэкаў як Бахус, урэшце, гэта асобная, чароўная краіна для людзей абраных. Таму, я думаю, зразумела, што напісаньне зь вялікай літары такога ўнівэрсальнага панятку цалкам апраўдана.

Алкаголь быў галоўным партнэрам у жыцьці кожнага з герояў першай часткі кнігі. Кожны зь пісьменьнікаў, мастакоў, музыкантаў і фізыкаў, зь якімі перасякаліся мае жыцьцёвыя шляхі, меў ад алкаголю, калі не залежнасьць, то найсур’ёзьнейшыя праблемы. Я не пісаў пра іх творы, гэта рабілі й робяць безь мяне, як, скажам, успомнены вышэй Юрась Пацюпа прааналізаваў творчасьць Міколы Федзюковіча. Але ніхто зь літаратараў альбо проста блізкіх, ня здолелі (ці, можа, пасаромеліся?) паглядзець на гэтых людзей праз прызму Алкаголю. Яшчэ з савецкіх часоў алкагольная тэматыка лічылася непрыстойнай, і чуткі пра прыхільнасьць якога ведамага чалавека да алкагольных напояў старанна замоўчваліся. Гэта ішло ад славутага савецкага міта пра беззаганнасьць сацыялістычнага грамадзтва. Спасылаліся на нейкія этычныя нормы, каб п’яныя выхадкі і несамавітыя ўчынкі выставіць у як мага лепшым сьвятле.

Але што там савецкія часы! Вось сьвежы прыклад: зусім нядаўна выйшаў фільм пра паэта Анатоля Сыса. І аўтар фільму ўсяляк стараецца паказаць, што паэт быў не такі ўжо й п’яніца, дый наагул, ён амаль ня піў… Мне ж ня раз прыходзілася выпіваць з Анатолем, а нeяк давялося нават «п’янстваваць водку»

цэлы дзень. Дык магу засьведчыць – наш ѐн! Грамадзянін ня ўсім дасягальнай краіны Алкаголія. І жыцьцѐ Сыса ў гэтай краіне было выдатным, годным і сумленным. І, хто ведае, можа, ягоныя нестандартныя ўчынкі ў тым, паралельным сьвеце, былі геніяльнейшымі за ягоныя вершы!

Затое тая перакручаная савецкая мараль давала Саюзу беларускіх пісьменьнікаў «згоду» на прымусовае «лячэньне» Міхася Стральцова, Міколы Капыловіча, іншых таленавітых пісьменьнікаў у Лячэбна-працоўным прафілякторыі (ЛПП), ці, у больш звыклай расейскай абрэвіятуры, – ЛТП. А гэтая сумна вядомая ўстанова, якая захавалася й да нашых часоў, мела рэпутацыю далѐка не лекавальнай установы. У ЛПП запраўдны турэмны рэжым і парадак, там людзей ня лечаць, а зьдзекуюцца зь іх і калечаць.

Дык гэта вы называеце этычным, панове?

Жыцьцѐ з Алкаголем – асаблівы шлях. Алкаголь дорыць збавеньне і радасьць, ѐн прыносіць пакуты і гора і, урэшце, прыводзіць сьмерць. Я спрабую глянуць па-новаму на гэты асаблівы шлях і на людзей, якія йдуць тою цяжкой, як я ўжо зазначаў, запраўды ваеннай дарогай. Глянуць адкрыта і сьмела, без спасылак на фарысейскую этыку. Пара адкінуць замшэлыя, стэрэатыпныя, яшчэ савецкія пагляды на алкагольную праблему ды зразумець: алкагольная залежнасьць – гэта сур'ѐзнае захворваньне, алкаголік – гэта ня нейкі там чужы, сьметнікавы бомж, а ваш блізкі сябра, ваш знаѐмы пісьменьнік, мастак, славуты рок-музыка і опэрны сьпявак.

*А мажліва – гэта вы.*

І вельмі важна ведаць сваѐ месца ў той таямнічай краіне Алкаголія, зьменлівай, прывабнай і адначасна заломлівой і безвыходнай. І можа, гэтая кніга дапаможа хоць нечым, дасьць які кірунак у вашым далейшым жыцьці. Я ня маю адказу на пытаньне, чаму людзі пачынаюць ужываць алкагольныя напоі, а шмат хто вельмі далѐка заходзіць у гэтай пагібельнай жарсьці. Колькі існуе людзтва, столькі сама існуюць розныя гатункі хмельных напояў, як бы іх ні называлі: піва, віно, медавуха, брага, гарэлка, тэкіла, чача, віскі, абсэнт, сікер

ці «агністая вада»… І зь векапомных часоў нам ведамыя ня толькі вясельныя эфэкты піцьця, але й ягоныя адмоўныя наступнасьці.

І ўсё ж, ніколі, за ўсю гісторыю людзтва, праблема п'янства і алкагалізму не стаяла так сур'ёзна, як кагадзе было ў Савецкім Саюзе і трывае дагэтуль у постсавецкіх краінах. Вельмі крытычны стан, што да алкаголю, перажывае наша родная Беларусь. І найжахлівей, што ў нас амаль нічога ня робіцца дзеля ўратаваньня нацыі ад яе паступовага зьнішчэньня. Нацыя вымірае і гіне не празь нейкія войны ці прыродныя катаклізмы, яна гіне дабравольна. Бо ўжываньне алкагоголю – гэта дабравольнае самагубства. Ахвотных «прыняць на грудзі» ў нас ня менее, калі толькі более. А колькасьць гатункаў піва, гарэлкі і вінаў цяпер на парадак (!) большая чым у савецкія часы. Сьпіртавыя напоі прадаюцца дзе заўгодна і ўва ўсякі час. Для п’янства створаныя лепшыя ўмовы, чым гэта было калі раней. Чаму б ня піць!..

Дык усё-такі: піць ці ня піць?

Трэба адразу сказаць, для значнай часткі людзей, якая ня ведае панятку «алкагольная залежнасьць», такой праблемы не існуе. Гэтыя людзі пілі і будуць піць. Але традыцыі калектыўнага п’янства – вясельлі, дні народзін, хаўтуры, хрэсьбіны, дажынкі, што на маю думку склаліся збольшага за савецкім часам, уцягваюць у сфэру алкагалізму ўсё новых і новых асобаў, уцягваюць цэлыя слаі насельніцтва: жанчын, моладзь, нават дзяцей. І вось мы стаім перад нацыянальнай катастрофай, мы становімся сьведкамі і ўдзельнікамі небывалага этапу гісторыі – дэградацыі цэлай нацыі. Спрут алкагалізму сьціскае сваімі мацупамі ўсё грамадзтва, яно слабее, народныя традыцыі, мова, нацыянальная сьведамасьць і рэлігія ўжо ня здольныя злучыць усіх, гэтыя каштоўнасьці становяцца непатрэбныя сьпітаму люду.

Піць ці ня піць?..

Для многіх з маіх сяброў, што даўно зьявіліся перад вачыма ў Госпада, такое пытаньне нават і не стаяла. Яны сьведама абіралі першы шлях і ня мучыліся над праблемай «як кінуць піць». Мажліва, яны памерлі шчасьлівымі

людзьмі. Але ж ведама й іншае: «п'яніцы ня ўспадкуюць Уладарства Нябеснага». Таму, як кажуць, Бог ім судзьдзя.

Другая група маіх знаѐмых яднае тых людзей, што пасьпелі зразумець згубнасьць алкаголю і паспрабавалі вырвацца з алкагольнай пасткі, але пры жыцьці ім не ўдалося гэтага зрабіць. І я адчуваю пільную патрэбу данесьці ад іх гэты мэсыдж, данесьці яго да жывых, да тых, хто яшчэ мае надзею на Збавеньне і хоча пазбыцца пекла алкагалізму. Можа, мой досьлед п'янства і тое, як пасьля ўчыненага жыць цьвярозым, для людзей такой катэгорыі людзей можа быць карысным.

…Піць ці ня піць?..

Ёсьць некалькі высноў:

1. Піць Добра! І тады працуе Шостая Запаведзь Улана::

*«Трэба піць многа, але часта».*

Альбо: «Питие есть веселие на Руси». Праўда, ад гэтага «веселия» адзін крок да другога этапу, альбо выніку п’янства, які называцца грэх…

2. Піць – значыць рабіць грэх. Большасьць людзкіх заганаў, маюць сваѐй прычынай – п’янства. Большасьць злачынстваў выклікана ўжываньнем алкаголю. Большасьць сем’яў распадаюцца ад п’янства.

Ужо на гэтым этапе «веселие» мяжуе з шматлікімі хваробамі і часта вядзе да пагібелі чалавека.

3. Піць – для значнай часткі людзей значыць стоадсоткавы шанец набыць невылечную сьмяротную хваробу – алкагалізм. Сярэдні век алкаголіка – 50 гадоў. Алкаголіка вылечыць нельга, але можна навучыць жыць цьвяроза. І тады яго тэрмін жыцьця павялічыцца да звычайнага. Спадзяюся, што ў гэтай кнізе змучаная душа алкаголіка знойдзе для сябе патрэбныя словы, а то й парады. А неалкаголікі атрымаюць перасьцярогу: піць ці ня піць.

Адно можна сказаць з пэўнасьцю: шлях да цьвярозасьці ляжыць праз Бога. А Бог – гэта Любоў. Толькі зь любоўю мажліва ўсѐ! Бо сказана:

*Калі я гавару мовамі чалавечымі і анѐльскімі, а любові ня маю, дык я – медзь звонкая альбо кімвал гулкі. Калі маю дар прароцтва і ведаю ўсе*

*таямніцы, і маю ўсякія веды і ўсю веру, так што магу і горы перастаўляць, а ня маю любові, – дык я нішто. І калі я раздам усю маѐмасьць маю і аддам цела маѐ на спаленьне, а любові ня маю – няма мне ў тым ніякай карысьці. Любоў церпіць доўга, умілажальваецца, любоў не зайздросьціць, любоў не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не здумве ліха, ня радуецца зь няпраўды, а разам цешыцца з праўды; усѐ пакрывае, усяму верыць, на ўсѐ спадзяецца, усѐ трывае.*

І-ы Ліст да Карынфянаў, XIII, 1-7

Усѐ? І ўсѐ ж трэба яшчэ нешта сказаць.

Ня дам рады канцу кнігі. Можа таму, што ўва ўсім «недаканчаным і незавершаным, ѐсьць нешта недагаворанае». Я пісаў для пітушчых і непітушчых, да залежных і незалежных, да цьвярозых і п'яных. Ці могуць быць якія канкрэтныя вынікі з распачатай тут гутаркі і вечнай праблемы п'янства ды алкагалізму? І хто тыя людзі, каму неабыякавыя ўзьнятыя мною пытаньні?

Я бачу тых, хто, заўчасна зышоў з дыстанцыі пад назвай «жыцьцѐ», тых, што зрабілі свой унѐсак у вечнасьць, можа, нават, дзякуючы алкаголю. І тых, што не пасьпелі нічога зрабіць для людзтва, ізноў жа, дзякуючы алкаголю.

Я бачу таксама новае пакаленьне, якое павінна выбраць «колу», але яно гэтага ніколі ня зробіць…

Я бачу маладога інтэлектуала пачатку XXI стагодзьдзя, які прачытае гэтую кніжку, гэтыя замыкальныя радкі і, трохі пачухаўшы патыліцу, накіне куртку і запаліўшы «Мальбара»… пойдзе піць ніколі ня пітае мною піва «Пільзенскае»…

І будзе менавіта так, як любіў паўтараць за Блокам мудры п'яніца Лѐнька Шугалей:

*Умрешь – начнешь опять сначала*
*И повторится все, как встарь:*
*Ночь, ледяная рябь канала,*
*Аптека, улица, фонарь.*

# ЗЬМЕСТ

Уводзіны ………………………………………………………………….. 2

**ЧАСТКА I**

In vino veritas. Прэлюдыя да падарожжа ў сямідзясятыя…………………………………………………………………..…7

Месцы й людзі. Месцы……….. ………………………………………15

Людзі……………………………………………………………………31

Дырэктар «Тэлевізара» (*паэт Сьцяпан Гаўрусёў*)…………………… ….41

Ціхі амэрыканец *(журналіст Сяргей Аладзьеў)*……………………………....46

Міхась Стральцоў ………………………………………………………58

Мікола Федзюковіч……………………………………………………70

...І трошкі пра сябе……………………………………………………..74

Мікола Капыловіч……………………………………………… …81

Іншыя паважаныя людзі………………………………………..87

Кінарэжысэр Галя Мацьвеева……………………………………...93

Людзі «Бэрмудаў»………………………………………………….103

Віктар Стрыжак, паэт……………………………………………103

Вяча………………………………………………………………..113

Кім Хадзіеў. Дысыдэнт і легенда Менску……………………………..122

Асобныя людзі……………………………………………...………148

Праташчык………………………………………………………159

Адамчык………………………………………………………..167

Музыканты……………………………………………………172

Фізыкі і матэматыкі (нялірыкі, адным словам)………………………186

**ЧАСТКА II**

Кожны можа кінуць піць, але некаторым гэта ўдаецца зрабіць пры жыцці ……………………………………………………...196

Per aspera ad astra (пра кадаваньне, айца Леаніда Пляца, ТЭС-тэрапію і іншае) ………………………………………………………………….211

Як кінуць піць?..........................................................................228

